

# 4

**КРАСАВІК**

МІНСК, 1971

*ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС*

**Заснаваны ў 1953 годзе**

# МАЛАДОСЦЬ

**ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР**

Выдавецтва ЦК КП Беларусі

## У НУМАРЫ:

Вокладка **В. Шрамякова.**

Шмуцтытулы **М.** і **У. Басалыгаў** (стар. 3) і фота **Г. Усламава «У дружбе з маланкамі»** (стар. 83).



# ПАЭЗІЯ ❖ ПРОЗА

- Іван **ЛАСКОЎ**
- Алесь **АСІПЕНКА**
- Анатоль **ГРАЧАНІКАЎ**
- Мікола **ЧАРНЯЎСКІ**
- Сяргей **ГРАХОЎСКІ**
- Юрка **ГОЛУБ**
- Мікола **МІНЧАНКА**
- Вольфганг **ЛАНГЕ**



## Іван ЛАСКОЎ





●

За Об'ю, у далі далёкай,
Найлепшай з пагодных прыкмет
З густых вынырае аблокаў
У промнях Уральскі хрыбет.

Харошай пагоды прыкмета —
Як людзям пакажацца ён
За ўсё запалярнае лета
На нейкую тузіну дзён.

Нічым ён у вочы някідкі,
Ды цягне ўвесь час паглядзець
На лёгкія ў снезе накідкі,
На контураў цьмяную медзь.

Працуеш кайлом ці дамкратам,
Ці рыбу ад рэчкі нясеш,
Ці проста сумуеш —
і раптам
На захад з трывогай зірнеш,

Туды, дзе ў заобскай прасторы,
Прыносячы ў сэрца спакой,
Свіцяцца ранейшыя горы
З ранейшай бязважкасцю той.

Як мала усё ж такі трэба,
Каб жыць чалавеку усмак:
Кус хлеба, ды чыстае неба,
Ды нечага добрага знак...

●

Яшчэ вядуцца спрэчкі па праекце,
І каштарыс яшчэ у стане мар,
А Саляхард ужо на белым свеце,
Як у народзе кажуць, не жыхар.
Паўстане ГЭС, унізе ГЭС паўстане,
І разальецца Об —
ды так, што аж
На поўдні, у сасмяглым Казахстане,
Зазелянее ярасна пейзаж.
А тут знянацку вал ударыць брудны
Па шэрай нітцы кінутых дамоў,
І знікне горад,
доўгі і няўклюдны,
Зусім не лепшы з нашых гарадоў.
Здаўна ён мае старажылаў мала,
І пакрысе, здабыўшы лепшы кут,
Забудзецца на Саляхард трывала
Часовы люд, што сёння церпіць тут.
Ды будзе так:
перад патопам самым
У нейкім доме з'явіцца хлапчук
І заадно з апошнім стогнам мамы
Учуе ён паводкі першы гук.
Яго ўратуюць з зоны затаплення,
Ды не звязуць ад іншае бяды,
Бо занясецца месца нараджэння
У дакументы хлопца назаўжды.
І будзе ён нудзіцца па радзіме,
Па той зямлі, якой даўно няма,
Па гарадку, што па сабе адзіна
Пакінуў сыну срэбнае імя...
І прыйдзе ён да мора маладога,
І сядзе ён на камені ў журбе,
І слабым зрокам з-пад вады нічога
За цэлы дзень не вывудзіць сабе.
І ён мяне успомніць з крыўдай злою
І прыме для душы сваёй за здзек —
Чаму ніяк яму не ўгледзець тое,
Што бачыў я — староннi чалавек...

●

Па пустэчы, па гліне, па смецці
Кожны дзень я прыходжу туды,
Дзе эфіру забытыя дзеці
Касцянеюць ад ёлкай нуды.
О планёры, фанерныя птушкі,
Сіні колер, стракаты ад плям!
Колькі тыдняў вас вецер не гушкаў
На ухабах паветраных ям.
Лёс планёра, да скону нямілы —
За чужымі хвастамі ўзлятаць,
Без чужое спагадлівай сілы
На абрыдлай зямлі векаваць.
Ім бы толькі са жвіру —
штуршкамі,
Ім бы толькі... А там, нацянькі,
Над марамі і мацерыкамі
Дыхаць небам, шукаць маякі.
Ды даўно іх ніхто не трывожыць,
Іх вартуюць з зары да зары
Ад дарослых — у рост агароджа,
Ад малых — з дубальтоўкай стары.
Ні матора, ні гнуткага троса,
На хрыбтах не варушыцца пыл,
І сінеюць насмешкаю лёсу
Абцякальныя лініі крыл.

●

Дзіцячы дом — адзенне па стандарту,
Сто пар абутку на адзін капыл.
Адны для ўсіх дырэктарскія жарты,
Адзін для ўсіх на спортпляцоўцы пыл.
Адно для ўсіх сняданне і вячэра,
Адна для ўсіх шкляная шафа кніг.
Штомесячна рабы цырульнік Гера
Усіх пад грабянец адзіны стрыг.
Чаму ж тады стандарт не атрымаўся
З сяброў маіх, далёкіх малышоў?
Адзін, глядзіш, у грузчыкі падаўся,
Другі, глядзіш, — у махляры пайшоў...

●

І мы з табой хадзілі
Да камароў у госці
Па купінах кашлатых,
Па травах і вадзе
У тундру векавую,
Дзе мамантавы косці
Сурова ледзянеюць
У вечнай мерзлаце.

Палярныя бярозкі
Усім самлелым целам
Нам слаліся пад ногі
На парнае зямлі.
Быў ліпеня пачатак,
І ў тундры адпацелай
Шыпшына і марошка
Захлiпіста цвілі.

Нявінная ахвяра
Злачыннага падману,
Да гэтай белай ночы —
Які наплёў язык? —
Ты так саманадзейна
Была пераканана,
Што камары калеюць
Ад водару гваздзік.

Я за табой па тундры
Ішоў, не мовіў слова,
І казыталі ноздры
Да болю у вачах
Шыпшынавы — салодкі,
Разбойны — багуновы
І пах духоў любімых,
Твой гваздзіковы пах.

А камары дурману
Як быццам і не чулі,
На нас ішлі, як хмары,
Ахутвалі, як змрок,
І джгалі без падману,
І абляплялі твары,
І біліся, як кулі,
Аб твой дажджавічок...



● Алесь АСІПЕНКА

● Мал. В. ШРАМЯКОВА



# ПАРОГІ

З КНІГІ АПАВЯДАННЯЎ

## СВАТ



Толькі цяпер, калі аўтобус выбраўся за горад, Апанас Перасада падумаў, што дарэмна пагадзіўся ехаць у Межава. Які з яго сват? І наогул, што гэта за сватанне ў нашы дні?

Толя — той самы жаніх, дзеля якога Апанас Перасада ехаў у Межава,— стаяў, сціснуты з усіх бакоў пасажырамі, трымаўся рукой за нікеляваны поручань. Аўтобус трэсла, кідала на выбоінах. У ім было душна, пахла бензінам і гарам, асабліва на заднім сядзенні, дзе сяк-так прымасціўся Перасада.

«Жаніх! Дзеўкі сам угаварыць не можа,— думаў Перасада пра Толю.— Ды і мяне чорт пацягнуў за язык: «Бяры, Толя, за свата. Я па ўгаворах — мастак». Сват!.. Вось укляпаўся дык укляпаўся».

Перасада злаваў, але ўжо было і смешна, калі ўяўляў сябе сватам, з ручніком цераз плячо. Што трэба яму рабіць, што гаварыць? «Нешта скажу, нешта выйдзе»,— супакоіў ён сябе.

Тая ўзбуджанасць, што напачатку панавала ў аўтобусе, паступова аціхала, людзі пакрысе заводзілі размовы. Поруч з Перасадам сядзелі дзве немаладога ўжо веку цёткі, распытвалі адна адну, дзе і ў каго былі, а, распытаўшы, пачалі хваліцца ўнукамі і зяцямі. Перасада, не хочучы таго, прыслухоўваўся да жанчын — іх шчырая гамонка ўлагоджвала яго, выцясняла думкі пра паспешлівую сваю згоду быць сватам.

Нагаварыўшыся, цёткі ўзяліся за Перасаду, выпытвалі, хто ён, куды едзе, чаму едзе? Перасада адказваў неахвотна: хлусіць не хацелася, а прызнацца, што вязе хлопца ў сваты, было няёмка.

Да Межава, як казаў Толя, язды той і гадзіны не набярэцца. Але аўтобус ішоў ужо больш як паўтары гадзіны, а Межава не было. Праўда, у аўтобусе пасвабаднела. Недзе на самым перадзе сеў Толя. На нейкім прыпынку ў лесе вылезла спачатку адна Перасадава суседка, потым, ужо за лесам,— другая. Апанас застаўся адзін на ўсё сядзенне — хоць лажыся. Затое аўтобус пачаў лягчэй падскакваць, нібы адчуў палёгку, як той брыклівы жарэбчык, які скінуў з сябе конніка. Апанас падняўся, пайшоў наперад, дзе таксама паявіліся вольныя месцы.

— Зараз будзем дома,— сказаў Толя.— Гэта ж у аб'езд паехалі, цераз Сялец.

— Ды ўжо ж назад паварочваць позна,— адгукнуўся Перасада.

Аўтобус бег па грэбні ўзвышша. З акна быў відаць буравaты схіл і далёкая нізіна з поплавам, яшчэ не прасохлым і аж белым ад ранніх пралесак. За поплавам відаць была вёска і прысадзістыя будынкі фермы на грудку. Дарога, агінаючы нізіну, скіроўвала ў вёску. Перасада зразумеў, што гэта і ёсць Межава.

На пляцы перад каменным будынкам сельпоўскай крамы аўтобус спыніўся. Перасада першы выскачыў з яго і раптам адчуў вялікую перамену, што адбылася з ім за дзве гадзіны дарогі.

Апанас Перасада нарадзіўся і вырас у горадзе. У вёсцы ніколі не бываў, а калі часам і выязджаў, як ён казаў, на ўлонне прыроды, дык нібы вывозіў з сабою часцінку гарадского жыцця, якое не выпускала яго са сваіх абдымкаў. Ён купаўся, загараў, гуляў у мяч, ляжаў на траве, але рабіў усё так, нібы добрасумленна выконваў абавязкі, якія на яго ўсклаў заўком. І ўсе, хто прыязджаў у лес, былі захоплены гэтым клопатам—як найбольш загарэць, пасвяжэць, набегацца з мячом.

Тут, у Межаве, быў нейкі свой рытм жыцця, які з першай хвіліны ўразіў Перасаду. Людзі выходзілі з аўтобуса не спяшаючыся, быццам было шкада расставацца з ім, і Апанасу стала няёмка, што ён выскачыў, як апантаны. Ля крамы стаялі жанчыны, і ніхто з іх не бег да прылаўкаў, нібы яны і прыйшлі сюды, каб пастаяць ля ганка, а ўжо затым купіць, што трэба. Ля агароджы запрэжаны ў калёсы конь ленавата падымаў з зямлі касмыль сена і гэтак жа ленавата пазіраў на пеўня, які пад самым носам разграбаў цыбатымі нагамі сена.

Нарэшце з аўтобуса вылез Толя, павітаўся з маладзіцамі, што стаялі ля крамы.

— Нам сюдой,— сказаў ён і павёў Апанаса паўз платы, выбіраючы сушэйшыя мясціны. Вуліца яшчэ была гразкая, з вялізнымі лужынамі — мабыць, зімой тут ляжала процьма снегу і ён толькі нядаўна растаў.

Вялізная пад шыферным дахам пяцісценка, дзе жылі Толевы бацькі, стаяла ў вузенькай вулачцы. Ад вуліцы да самага ганка ляжалі бетонныя пліты, мусіць, самаробныя, чыста падмеценыя. Апанас убачыў у акне жаночы твар — ён мільгануў і знік. Адразу ж расчыніліся дзверы — на парозе стаяла немаладая ўжо жанчына.

— Авой, ці ж ты з бацькам не сустрэўся? — спытала яна, пазіраючы на Толю з любасцю.— Пайшоў жа цябе сустракаць і во недзе ж, стары корч, загаварыўся,— яна, мабыць, пабачыла, што Апанас стаіць крыху збянтэжаны, загаварыла да яго:— Праходзьце, калі ласка. Вы, пэўна, і ёсць Толеў начальнік? Дзякуй, што прыехалі.



Хоць ці добра ж ішоў аўтобус? Сюды новыя не пушчаюць, бо дарога дрэнная.

Неўзабаве паявіўся Толеў бацька — высокі, брытагаловы чалавек, марудлівы, з маленькімі і, як падалося Апанасу, хітрымі вачамі. Ён падаў Апанасу шырокую руку з вузлаватымі пальцамі, спытаў:

— Ну, як мой у вас?..

— Нічога... добра,— пахваліў Перасада.

— Павінен. Я, прымерна, да працы прывучаў яго змалку.

Ён сеў на крэсла, шырока расставіўшы ногі, абапёрся на калені локцямі, закурыў. Перасада чакаў, што вось зараз і пачнецца тая гаворка, да якой ён рыхтаваўся, ідучы сюды з аўтобуса,— пра сынава сватаўство. Але Толеў бацька загаварыў пра іншае:

— Як у вас там цяпер, прымерна, з тэхнікай? З Толем не пагаворыш.

Перасада, засцігнуты знянацку, не ведаў, што сказаць; выручыла Толева маці, якая зайшла ў пакой, склала на грудзях рукі.

— Расселся во,— з усмешкай, як бы нават адабраючы, што бацька так добра ўсеўся на крэсле, сказала яна.— Госці ў хаце, з дарогі прагаладаліся, а ён разгаворамі корміць. Нагаворышся яшчэ. Ідзі трэсак нашчапай.

Бацька неахвотна падняўся, пайшоў за ёю. Следам выйшаў і Толя. Перасада ад няма чаго рабіць пачаў разглядаць фатаграфіі, што віселі ў рамках на сцяне. Іх было шмат. Перасада спачатку разглядаў фатаграфіі з насмешкай. Было смешнавата бачыць ненатуральна прыхіленыя адна да адной галовы з прылізанымі валасамі, з вырачанымі вачыма, але непрыкметна фатаграфіі пачалі навяваць нейкія іншыя пачуцці. Ён ужо разглядаў іх без ценю той іроніі, што паявілася напачатку, а сур'ёзна, як бывала, калі працаваў яшчэ ў аддзеле тэхнічнай інфармацыі, разглядаў чарцяжы.

Толеў бацька, яшчэ малады, са збітай набакір шапкай, з-пад якой тырчыць чуб. Маці з букетам робленых руж ля штучнага вадаспаду. Яшчэ бацька — у папасе з лентай і аўтаматам на шыі, ён жа ў групе партызан. Маці — на цьмянай фатаграфіі, худая, знямоглая. Толя зазняты з усім класам — вушаты, стрыжаны хлапчук. Нейкія вайскоўцы, хлопцы, дзяўчаты, старыя, дзеці, салдаты царскай арміі ў палапленых штанах — лапікі асабліва выразна відаць на каленях,— але з ланцужкамі для гадзінніка, што звісаюць з кішэні. Як бы ўся гісторыя раптам прадстала перад Перасадам.

Ён і не пачуў, як у пакой зайшла маці.

— Гэта ж во ўсё мае дзеці. Шасцёра. А гэта во сястра і яе муж — яна паказала на таўставатага, з выпешчаным тварам чалавека, апранутага ў гарнітур з накладнымі кішэнямі.— Бывала, калі яшчэ калгас наш ледзьве ліпеў, паеду ў горад, зайду да іх. Сядзіць мой швагер на канапе, фрэнч расшпілены, іграе на гітары і пяе. Укормлены, гладкі, аж шчокі льсняцца. Пачну яму пра непарадкі ў калгасе гаварыць, а ён мне: працаваць лянуецеся, «а хто не працуе, той і не есць». Аж горла сцісне ад крыўды. Прыеду дамоў, накінуся на свайго старога. «Кідайма, Сцяпан, усё, ды ў горад, хіба мы зломкі, хіба працаваць не ўмеем?» А Сцяпан мне: «Не можа быць, каб не дачакаўся, што і нам, калгаснікам, будуць зайздросціць. Нікуды не паеду. Навошта ж я гэтыя калгасы ў маладосці ствараў, калі пад старасць уцякаць з іх буду». І дачакаліся. Жывём цяпер, няма на што наракаць. І зайздросцяць. Той жа швагер... Ды што ж я разгаварылася, хадземце за стол, а то астыне ўсё.

Перасада чакаў, што вось нарэшце цяпер, за сталом, і пачнецца

гаворка пра Толеву жаніцьбу. Але Толеў бацька Сцяпан Захараві' пачаў расказваць пра тое, як перад новым годам яшчэ яны пайшлі н паляванне, забілі дзіка пудоў аж на семнаццаць, а ім за гэта выдал ліцэнзію яшчэ на аднаго дзіка, і як той, другі дзік, ледзьве не забіў і суседа, таксама Сцяпана, па-вясковаму Клычку. Апанас еў вяндліну але і не падазраваў, што гэта дзічына, а цяпер і яшчэ паклаў сабе н талерку, каб пасмакаваць, а потым на рабоце пахваліцца, што яму давялося есці дзічыну.

— Дык я пра тэхніку, прымерна, пачаў быў гаварыць,— як бы ўспомніўшы, што яму перашкодзіла маці, сказаў Сцяпан Захаравіч.— Ездзіў я неяк да свайго старэйшага сына ў Сібір. Завёў ён мяне на сваю электрастанцыю. Ні смуроду табе, ні пылу. Сядзіць адзін чалавек у пакоі, націскае кнопкі розныя і ўсё бачыць.

— Мы таксама стараемся ўсе працэсы перавесці на аўтаматызацыю,— пахваліўся Апанас.— Механізацыя і аўтаматызацыя цяпер— галоўны клопат.

Ад выпітай гарэлкі Апанас адчуваў жаданне пагаварыць і якраз пра тое, што найбольш хвалявала яго. Гадоў пяць назад, калі ўсур'ёз пачалі думаць пра гэтую самую аўтаматызацыю і механізацыю Перасаду паставілі начальнікам новага аддзела, які і павінен быў ажыццяўляць рэканструкцыю ў цэхах. Народ у аддзеле сабраўся апантаны, у кожнага было безліч ідэй, і ўжо шмат было зроблена а яшчэ больш трэба было зрабіць. Цяжкую бязрадасную ручную працу людзей у многіх цэхах замянілі машыны, але Перасада разумеў, што гэта толькі пачатак. Наперадзе поўная аўтаматызацыя завода, дзе ўсё павінна быць так, як на той электрастанцыі, пра якую расказваў Сцяпан Захаравіч. І Перасада расказваў, усё больш і больш захапляючыся, пра работу свайго аддзела. Яго слухалі ўважліва асабліва гаспадар, які і распачаў гэтую гаворку.

— Выпіце вы ўжо ды закусіце,— асцярожна нагадала Толева маці.— А то як на якім сходзе. Майго дык хлебам не кармі, а дай пра гэтую цехніку пагаварыць.

— Сядзі во ды слухай разумнага чалавека,— сказаў Сцяпан Захаравіч. — А мне, прымерна, такая гаворка па душы, чымся абы-што слухаць.

Але ўжо нешта было страчана, і гаворка перапынілася.

Толя, крыху пасядзеўшы, сказаў, што хоча схадзіць да хлопцаў Перасада зразумеў, што ён пойдзе да сваёй дзяўчыны, таму, калі бацька запярэчыў, падтрымаў Толю.

— Няхай пойдзе, а мы пагаворым, бо маладыя не дужа любяць сур'ёзныя размовы.

— Ды ўжо ж,— падхапіла маці.

Толя пайшоў. Маці таксама выйшла на кухню. Тады Сцяпан Захаравіч, чамусьці азірнуўшыся, дастаў з шуфляды старой камоды з самага падыспаду нейкі скрутак папер.

— Я, прымерна, таксама тэхнікай захапляюся,— пачаў ён, разгортваючы скрутак.

Ссунуўшы рукой талеркі з краю стала, ён высвабадзіў месца, разгарнуў паперы.

Перасада ўбачыў нейкія чарцяжы, але такія прымітыўныя, што іх і назваць нельга было чарцяжамі.

Людзей, якія чамусьці ўявілі сябе вынаходцамі, тэхнічна непісьменных, але надакучлівых і ўпартых у сваіх дамаганнях, Перасада бачыў не раз. З уласнага вопыту ведаў, што гаварыць з імі цяжка, даказаць што-небудзь немагчыма, бо яны настроены ваяўніча. Ка





гэта было на заводзе, Перасада ведаў, як трэба весці гаворку. Але гэта быў Толеў бацька, і хочаш не хочаш даводзілася слухаць яго.

Сцяпан Захаравіч, нейкі збянтэжаны, расказваў пра сваю задуму механізаваць працу на ферме. Перасада слухаў яго няўважліва, дзеля прыліку часам паглядаў на чарцяжы. Чаго дамагаўся стары, ён не разумеў, бо не ўяўляў сабе тую ферму, хоць некалькі разоў і бачыў яе ў кіно, калі перад пачаткам паказвалі кіначасопіс. Ферма і ўяўлялася яму такой, якой ён бачыў яе, з роўнымі радамі стойлаў, з падвеснай дарогай, з кармушкамі, з якіх каровы дастаюць сена.

Але нечакана Перасада пачаў заўважаць, што слухае Сцяпана Захаравіча з ахвотай, бо той, хоць і не карыстаецца прывычнай тэрміналогіяй, але гаворыць пра вельмі простыя, а галоўнае, блізкія яму рэчы. Тое, што нельга было зразумець у чарцяжах, уставала перад Перасадам са слоў Сцяпана Захаравіча, нібы які малюнак. А з яго ўжо можна было скласці чарцёж аўтаматычнай лініі з усімі вузламі, пра якую расказваў Толеў бацька.

— Чакайце,— пачаў ён, ужо захоплены нейкімі пакуль яшчэ невыразнымі думкамі,— навошта вам гэтыя груваскія прыстасаванні?

— А як жа інакш,— здзівіўся Сцяпан Захаравіч,— прымерна, не кожнай карове трэба даваць аднолькава есці. Адной больш, другой — менш.

— Ну то і пастаўце дазатары.

— Толя мне, прымерна, і гаварыў пра іх, але ж ведаеце яго... Пачнём і паспрачаемся. А ці можна, прымерна, іх устанавіць?

— У прынцыпе — так. Але я ніколі не бачыў фермы. Гэта ўсё трэба прыкінуць на месцы.

Сцяпан Захаравіч так паглядзеў на Перасаду, што той зразумеў: трэба схадзіць. «Усё адно няма чаго рабіць», — падумаў ён.

Да фермы было недалёка. Сцяпан Захаравіч прыадчыніў цяжкія дзверы, прапусціў Перасаду. Ніякіх станкоў у хляве не было. Каровы стаялі або ляжалі паўз сцены, да якіх нізка ад насцілу былі прыбіты скрыні.

— Вось так, прымерна, і жывём,— сказаў Сцяпан Захаравіч.

Перасада маўчаў. Яго ўразіла тое, што кожнае слова, сказанае Сцяпанам Захаравічам там, у хаце, урэзалася ў памяць, і ён, Перасада, цяпер добра ўяўляў, што і як можна зрабіць, якія вузлы можна выкарыстаць з тых, што прымяняліся ў іх на заводзе, якія трэба спрасціць, прыстасаваць да патрэб фермы.

Яны хадзілі па ферме, забыўшыся на ўсё, абодва захопленыя сваёй ідэяй.

— А што, Сцяпан Захаравіч,— сказаў Перасада,— бадай я вам дапамагу. Возьмем над калгасам шэфства. Партком нас падтрымае — упэўнены. А потым некалькі выхадных, і вы сваёй фермы не пазнаеце.

— Ды ўжо ж,— азваўся Сцяпан Захаравіч.— Сёння да мяне старшыня прыедзе. Вось і пагаворым.

Увечары прыехаў старшыня. Сабраліся госці. Прыйшла і Толева нявеста з бацькамі. Перасаду павязалі ручнік, але ён так і не ведаў, што яму трэба рабіць, што гаварыць. Таму больш расказваў пра любімую яму механізацыю і аўтаматызацыю. А Сцяпан Захаравіч, падвыпіўшы, хваліўся гасцям:

— Во ў нас сват дык сват...

# СЦЕЖКА ДА ХАТЫ

Наташа прахапілася ад сну: гадзінніка не чутно. Запаліўшы святло, паглядзела на размаляваны васількамі цыферблат. Стрэлкі, як склееныя, спыніліся на трох. Няўжо заспала?

З печы пачуўся прастуджаны матчын голас:

— Чаго ўсхапілася? Яшчэ толькі першыя пеўні спявалі...

— Гіру забыла падцягнуць. Цяпер спадзявайся на тваіх пеўняў...

Наташа прыпала тварам да шкла. За акном цёмна, глуха.

— Я ўжо даўно не сплю,— сказала маці.

— Не магла разбудзіць,— пакрыўдзілася Наташа.— Чуеш жа, што гадзіннік не чэкае...

— А ён яшчэ нядаўна чэкаў... Сон такі бачыла. Здаецца, бацька твой прыйшоў з вайны. Стаіць у парозе, нешта просіць, а я не магу з месца крануцца: адняло ногі. Прачнулася і ўжо не магла заснуць...

Наташа ведала, пра што будзе гаварыць маці. Пра іх нешчаслівы лёс, пра тое, што быў бы бацька, дык і жыццё пайшло б інакш, а ёй, Наташы, не трэба было б мясіць нагамі гразь на ферме.

Пра ўсё гэта не раз гаворана. Наташа знарок грукала кірзачамі, каб заглушыць самотны матчын голас.

— Ну, я пайшла,— сказала яна і патушыла святло.

— Грудзі ж захутвай, а то прастудзішся,— наўздагон сказала маці.

Наташа выйшла на двор. З-за Чорнага балота дзьмуў нямоцны калючы вецер. Рэдкія мігатлівыя сняжынкі кружыліся ў паветры. Пад кірзачамі то глуха шамацела каляная ад марозу трава, то звонка патрэскваў лядок на лужынах.

Хутка зіма!.. Сцюжы, марозы, завірухі... Замяце сцежку, і тады кожную раніцу давядзецца хадзіць па цаліку. Цяпер сцежка гладкая, хоць бокам каціся.

Сцежку гэтую пратаптала Наташа, калі пачала працаваць на ферме. Дзень за днём, дзень за днём... Колькі кіламетраў пройдзена за гэтыя гады...

Вёска яшчэ спала — нідзе ні агеньчыка. Наташа зразумела, што ідзе дужа рана. Але ж не вяртацца назад. Дзед Сівак, вартаўнік, будзе бурчэць, што прыпёрлася ні свет ні зара. Ну і няхай. Работы шмат, ды і які яму клопат, старому.

Электрычнасць на ноч выключалі — эканомілі грошы. Гарэла толькі маленькая лямпачка пры ўваходзе. Наташа пацягнула дзверы — яны лёгка адчыніліся. Значыць, Сівак пайшоў дамоў — вось табе і рана! Наташа намацала выключальнік. Роўны ланцужок лямпачак успыхнуў пад столлю. Адна за адной у стойлах пачалі падымацца каровы, пацягваліся, ленавата мычэлі спрасонку.

Наташа ішла па шырокім праходзе ў бакоўку, дзе месцілася сепаратарная і чырвоны куток даярак. Насупраць яе, справа, была фуражная, якую нядаўна прыбудавалі да хлява. Ад фуражнай цераз увесь хлеў былі пракладзены рэйкі. Па іх у ваганетцы даяркі развозілі корм. Ваганетка стаяла ля самых дзвярэй фуражнай у густым цені ад загарадкі.

Наташа зірнула на ваганетку, здрыганулася: у ёй нехта ляжаў, але не Сівак. Яна закрычала, пабегла назад, задыхаючыся ад страху.

— Эй, ты!.. Чаго крычыш!? Стой!..

Яна спынілася, баязліва азірнулася. На праходзе ў доўгім кажусе стаяў Сівакоў сын, Віктар.

— Напалохаў ты мяне, ну цябе,— стараючыся не паказаць, што дрыжыць, сказала Наташа.

Віктар зарагатаў.

— Цяпер табе дактары не памогуць. Хіба якая шаптуха.

— Рагоча яшчэ!.. Разлёгся!.. Усіх кароў можна пакрасці, а то і самога...

— Гы-гы! Каму яны трэба? Ды і з мяне навар малы,— ён ішоў да яе, падмятаючы крысссямі праход.— Бацька во захварэў, дык я вартую. А ты чыя будзеш? Ці не Грайкава?

— Угадаў...

— Вырасла... Я цябе во якой помню, па пояс,— сказаў ён.

Абодвум стала ніякавата. Наташа ўпершыню вось так зблізку глядзела на Сівакова сына... Быў ён круталобы, шыракаплечы, прысадзісты. На Наташу глядзеў з усмешкай. «Выскаляецца яшчэ, лабаціна»,— падумала Наташа.

— Ну, мне трэба пачынаць работу,— сказала яна і пайшла ў фуражную.

Віктар быў прыёмны сын старога Сівака. У вайну прыбілася ў вёску бежанка з хлапчуком. Месяцы тры пажыла і прапала, мусіць, трапіла ў аблаву, а сын застаўся. Сівакі прытулілі хлапчанё, выгадавалі. Гадоў восем назад Віктар кінуў прыёмных бацькоў, кудысьці з'ехаў. З таго часу і не было яго тут. Людзі казалі, што ён нават пісем не пісаў, але Сівачыха бажылася, што Віктар і пісьмы піша, і грошы прысылае.

— Рана яшчэ, наробішся,— паспачуваў Віктар, стоячы на парозе фуражнай.

— Раней зробіш — раней дамоў пойдзеш,— адказала Наташа, беручыся за вілы.

— Давай хіба памагу,— Віктар адабраў вілы...

Удваіх яны ўправіліся хутка. Віктар выцер узмакрэлы лоб, сеў на рэйкі.

— Хапае табе работы,— сказаў ён, дастаючы з кішэні папяросы.

— Глядзі, яшчэ пажару наробіш,— папярэдзіла Наташа.— Ідзі вунь у сепаратарную.

Ён адразу ж паслухаўся, а Наташа раззлавалася на сябе. Хай бы курыў тут. Яшчэ падумае, што вельмі мне патрэбны. Ды і даяркі хутка прыйдуць. Чорт ведае што падумаюць.

У сепаратарнай пахла малаком і цынкавай пасудай. Наташа ўзялася збіраць сепаратар, а Віктар сеў на ўслон, закурыў. Яна старалася не глядзець на яго, але адчувала, што ён сочыць за кожным яе рухам. «Прычапіўся, лабаціна няшчасная,— злавалася Наташа.— Хоць бы ўжо дамоў пайшоў». Абое маўчалі.

— Так і змагаешся? — парушыў ён маўчанне.

— Так і змагаюся...

— Не агоркла яшчэ?..

— Працаваць недзе трэба. Ды і заробак у нас дай божа. Па сто рублёў выходзіць.

— Не багата. У нас дзяўчаты па паўтараста гуляючы зарабляюць.

— Дзе гэта ў вас?

— На Поўначы...

— А-а-а...

У хляве загаманілі жанчыны. З крыклівых, уразлад, галасоў вылучаўся Насцін.



— Бабы, а гэтая начніца ўжо тут. Во каму не спіцца, не ляжыцца.

— А што ёй, халастой ды незамужняй,— выгукнула Дар'я.— За маім вунь не паспіш. Хоць развод бяры.

— Нам, удовам, пазыч,— зарагатала Насця.

Наташа прывыкла да грубых жаночых размоў, але пры хлопцу слухаць іх было сорамна. «Каб яшчэ чаго не ляпнулі»,— падумала яна і выбегла з сепаратарнай.

Жанчыны ішлі, прымінаючы кірзачамі салому, махалі рукамі і рагаталі.

— А сягоння Віктар вартуе,— сказала Наташа і ўбачыла, што жанчыны збянтэжана спыніліся.

— Які Віктар?..— прыцішана спытала Насця.

— Сівакоў...

Але жанчыны і самі ўбачылі Віктара, бо ён выйшаў ужо з сепаратарнай, стаяў на парозе, вітаючыся з імі.

— А мы тут языкамі менцім,— апраўдвалася Дар'я.— Папрывыкалі, што мужчын няма. Дык вы, значыць, вартуеце?..

Віктар і ім памог нацягаць сена, раскласці па кармушках. Цяпер Наташа смялей глядзела на яго і шчыра дзівілася, які ён дужы. Было люба глядзець, як ён катае ваганетку, паднімае на вілы абярэмак сена і нясе да кармушкі. І нечага было маркотна, аж балюча, і сорамна.

Вымыўшы даёнку, Наташа не развіталася з даяркамі, як заўсёды, а ціхенька вышмыгнула з сепаратарнай.

Надвор'е тым часам змянілася. Неба зацягнулася бурымі хмарамі — іх гнаў з-за лесу вецер. У паветры весела кружыліся пухнатыя сняжынкі, плаўна асядалі на траву, на рэдзенькія кусты, што раслі пры ферме. Усё навокал пасвятлела, папрыгажэла, і ўжо відаць былі на снезе першыя сляды, мабыць, брыгадзіравы.

Наташа пайшла дамоў не спяшаючыся (хоць спяшацца было чаго: дома непачаты край работы). «Трэба было пачакаць жанчын,— разважала яна.— Яшчэ падумаюць, што я знарок уцякла».

Ля лесу яе нагнаў Віктар. «Чаго гэта ён сюды ідзе?» — падумала Наташа, здагадваючыся, чаму ён пайшоў яе сцежкай, і саромеючыся сваіх думак.

— А я цябе во якую помню,— сказаў ён, прыстроіўшыся леваруч,— аж не верыцца, што гэта ты.

Наташа змоўчала. «Заладзіў адно і тое ж, як сарока на плоце»,— падумала яна. І ўсё ж ёй было прыемна ісці поруч з ім.

— А ў нас даўно снег ляжыць,— пачаў ён і выставіў руку. На далонь падалі сняжынкі і тут жа раставалі.— Штой та за снег! От у нас як пойдзе, дык за ноч хату пад самы вільчык занясе...

— Летась і тут снегу намяло шмат.

— Які там снег! От у нас снег, дык гэта снег. Неяк пайшоў я ў тайгу на мядзведзя, а нага вазьмі ды і сарвіся з лыжыны. Думаў, не выберуся...

— А тайга дужа вялікая?..

— Вя-ліка-а-а-я! Ды ёй канца-краю няма. Я неяк заблудзіўся. Дванаццаць дзён хадзіў, а так да жытла і не прыбіўся. Верталёт падабраў.

— А што ж вы елі?..

— Харчу трохі было. Пасля на падножным корме жыў. У тайзе не прападзеш...

— Вы адтуль і прыехалі?..

— Не, цяпер я ў тундры. Прывык па свеце ездзіць. Сядзець на адным месцы — крышка.



— Вандравацъ па свеце таксама невялікая выгода,— запярэчыла Наташа.— Калі-небудзь паняволі асядзеш, бо як жа ўсю жызню без сваёй хаты, без рэчаў пражыць?

Віктар зарагатаў, і яна спалохалася, ці не ляпнула чаго-небудзь.

— Ты гэта, як адсталы элемент, сказала. Навошта табе хата? Пакуль ногі ходзяць, а вочы бачаць, не ў хаце жыць нада, а на волі, пад небам. Да пенсіі ўга колькі! А тады хату дадуць...

— Дадуць, што кабыле кладуць,— усміхнулася Наташа, думаючы, што выпрасіць лесу ў калгасе і то нялёгка. А то хату!..

Яны не заўважылі, як дайшлі да Наташынай хаты. Пачуўшы Наташыны крокі, з двара выбег Рудзік. Качаўся ў снезе, паціху павіскваючы ад радасці.

— А ў нас на сабаках ездзяць,— сказаў Віктар.

— Я пра гэта чытала...

— Табе калі на ферму?

— Падвечар.

— А-а-а...

Ён падаў руку і пайшоў, пакідаючы на снезе сляды.

Наташа паснедала, лягла адпачыць. Але не магла заснуць.

Крыху паляжаўшы, Наташа пайшла з маці нарэзаць дроў. Работа гэта абедзвюм абрыдла, але спадзявацца не было на каго.

З месяц назад калгасны трактарыст Якаў Бобрык прывёз ім з лесу дроў — сук на суку, быццам назнарок для жаночых рук.

— Як ты іх расколеш? — паспачувала маці.— Тут і мужчыну не лёгка ўправіцца. Ты ўжо, дачушка, не шчыруй дужа, можа ноймем каго. А я да Піліпіхі збегаю.

Патупаўшы па двары, маці пайшла, а Наташа ўзяла сякеру, выбрала кругляк без сукоў, каб лягчэй было раскалоць. Сякера з першага маху засела ў пакручастай, пераплеценай драўніне — хоць плач. Давялося браць доўбню. Але і яна не памагла. Сякера залезла ў дрэва па самы абух, а кругляк так і не раскалоўся.

— Чакай... Хіба ж так трэба? — пачула Наташа Віктараў голас.

Віктар не спяшаючыся зайшоў на двор, спрытна, адным махам, падняў кругляк на тапарышчы і з усяе сілы ўдарыў абухом аб калоду. Кругляк крактануў, раскалоўшыся надвае.

Пакуль Віктар калоў дровы, Наташа стаяла, пазіраючы на яго работу. Стаяць вось так, нічога не робячы, было няёмка, і Наташа ўзялася складаць плашкі пад страху, думаючы, што трэба было б пачаставаць чалавека, каб маці была дома. Дык вось жа сышла з хаты...

Віктар управіўся хутка, вымыў рукі снегам, выцер аб падкладку паліто. І зноў Наташа сарамліва падумала, што трэба было б запрасіць Віктара ў хату, каб памыў рукі, але цяпер ужо было позна. Яна адчувала нейкую сваю віну і таму засмучона маўчала.

А Віктар, як знарок, тупаў па двары, нечага пачаў збіраць трэскі і ўсё маўчаў.

— А я цябе вось такую помню,— сказаў ён і, мабыць, прыгадаўшы, што гаворыць гэта не першы раз, збянтэжыўся, чамусьці зняў шапку і пачаў ёю абіваць з крыса прыліплыя трэскі.

Цяпер Віктаравы словы не абразілі Наташу: было смешна бачыць, як бянтэжыцца Віктар. Яны зноў памаўчалі.

— А я сёння зноў вартаваць буду,— сказаў Віктар, закурваючы папяросу.— Заўтра хіба бацька падменіць.

— Заўтра ж вечарынка...

— Ага, вечарынка... Чуў ужо. Дзеўкі казалі.
— Дзеўкам што,— чамусьці злуючы, адказала Наташа.— А мне кароў трэба даіць.
— Можа папросіш каго?..
— Не дужа хочуць падмяняць.
— А можа хто падменіць? — нясмела спытаў Віктар.
— Хіба Насця...
— Ну, то я пайшоў... Заўтра мне трэба на станцыю схадзіць...
Ён пайшоў і нават ні разу не азірнуўся.

Вечарынка не прынесла радасці. Дзеўкі, як згаварыўшыся, запрашалі Віктара на танцы, а Наташа стаяла ў парозе, злавала на сябе, на Віктара, на дзяўчат. Асабліва старалася Дар'іна Валька: нешта ўсё гаварыла Віктару, смяялася, як дурная, нават разы два папраўляла яму гальштук і ні на крок не адпускала ад сябе. Гэта было вельмі крыўдна. Няхай бы хто заўгодна, толькі не Валька, якая да дваццаці трох год двойчы пабыла замужам, а цяпер во зноў запісалася ў дзеўкі. Было брыдка глядзець, як Валька пры ўсім народзе выцягнула з валасоў грэбень і пачала прычэсваць Віктара. А ён хоць бы што... «Няўжо ў яго вочы павылазілі? Не бачыць, чаго стараецца Валька?»
Яна ўсё памыкалася пайсці дамоў, ды нешта трымала яе — здаецца, прыраслі да падлогі боцікі. «Вось падыду зараз і запрашу яго,— смела думала яна.— А тады ўжо скажу: «Бывайце, Віктар»,— і пайду дамоў». Але адважнасці хапала толькі ў думках. Калі зайгралі польку і Валька зноў падбегла да Віктара, яшчэ здаля працягваючы яму рукі, Наташа не сцярпела, пачала апранацца.
У сенцах, прапахлых квашанай капустай і салам, пры святле газнічкі хлопцы пілі гарэлку. Наташа хацела прашмыгнуць ля іх, але крывы Лемехаў Толік нядужымі рукамі схапіў яе, закрычаў п'яным асіплым голасам:

Харашо таму смяяцца,
Хто з даярачкай жыве...

Наташа з усяе сілы штурханула яго, і Толік, адляцеўшы ў кут, паваліўся на нейкую скрыню, задраўшы ўгору сваю знявечаную нагу, як качарэжку.
— Ты што, здурэла?..— плаксіва пачаў ён і раптам зарагатаў без дай прычыны.
Наташа прыгадала, як нядаўна стары Лемех, сустрэўшы яе на вуліцы, пачаў гаварыць, што ў мясаед прывязе Толіка да яе ў сваты. «Нізавошта не пайду,— падумала яна.— Лепей у дзеўках застануся, а не пайду»,— і выбегла на вуліцу.
Шчарбаты месяц ужо скочваўся краем небасхілу за лес, і яго святло амаль не разганяла цемры. Віднага была больш ад снегу, няроўная, прывідная, але годная на тое, каб бачыць дарогу. Дзе-ніздзе ўжо крычалі пеўні. І Наташа раптам адчула страшную адзіноту на гэтай шырокай, без прысадаў, вуліцы, па якой ёй давядзецца ісці аж у самы канец вёскі.
На паўдарозе да хаты яна пачула нечыя крокі, уся сцялася, баючыся азірнуцца і чамусьці думаючы, што гэта Віктар. Ён нагнаў яе, паспрабаваў узяць пад локаць, але яна рашуча адштурхнула яго руку. «Чаго ж з Валькай не пайшоў?» — хацела спытаць яна, але змоўчала.
Віктар ішоў, засунуўшы рукі ў кішэні. Маўчаў. Так яны і дайшлі моўчкі да хаты. Наташа падала руку.
— Ну, я пайшла.



— Пачакай...
— Чакаць няма калі. Хутка і ранак.
— А ў нас цяпер усё ноч і ноч...
Наташа не адказала.
— Можа пасядзім дзе?
— Не, мне трэба ісці,— сказала Наташа, злуючы на сябе за нясмеласць.
— Як хочаш,— панура вымавіў ён.
Наташа раптам зразумела, што цяпер ён пойдзе, можа яшчэ сустрэне Вальку, і яны будуць сядзець дзе-небудзь у зацішку, пад хлеўчуком, у бульбоўніку. Ёй стала шкада сябе і крыўдна. На ліха ўвесь гэты гонар, нясмеласць?
— Холадна ж цяпер,— перамагаючы сорам, прашаптала яна.
— Які гэта холад!..— здзівіўся Віктар.— У нас холад, дык гэта холад.
— Хіба ў лазенцы. Яе сёння палілі,— сказала яна, палохаючыся сваёй смеласці.
— Можна і ў лазенцы,— згадзіўся ён і пайшоў праз двор.
Наташа плялася за ім, адчуваючы, як падгінаюцца ногі, а ў грудзях млосна замірае сэрца. «Што я нарабіла?» — падумала яна і спынілася, але не павярнула да хаты, а стаяла, як прымерзлая, нібы ў сне назіраючы, як Віктар адкінуў кол, адчыніў дзверы і знік у прылазніку. Потым ён выйшаў адтуль.
— Ты чаго стаіш? — спытаў Віктар. Падышоўшы, ён узяў яе за руку.
— Не, я не пайду. Мне дамоў трэба,— казала яна, ідучы за ім.
— Во дурная, там і праўда цёпла, як у хаце. І лапкі яловыя ў прылазніку ляжаць.
Віктар падштурхнуў яе, і яна, прыгнуўшыся, зайшла ў прылазнік, спынілася, чакаючы нечага страшнага, што павінна здарыцца з ёю, гатовая бараніцца. Віктар адчыніў дзверы ў лазню і зноў падштурхнуў Наташу, трымаючы яе за плечы.
У лазні было цёмна, хоць выкалі вока. Віктар запаліў запалку, прыкрываючы яе даланёй, пайшоў у куток, засвяціў газнічку.
«Навошта ён?» — спалохалася Наташа, пазіраючы на маленькае акенца, заткнутае рыззём. Яна кінулася ў прылазнік, але Віктар апярэдзіў яе.
— Я сам лапак прынясу,— сказаў ён і выйшаў у прылазнік.
Наташа засаромелася, што ён не зразумеў яе. Віктар прынёс абярэмак яловых лапак, кінуў іх ля печы, сеў, выцягнуўшы ногі.
— Аднаго разу,— пачаў ён, і Наташа, здзіўленая яго спакойным голасам, апусціла рукі,— мне ў такой вось хібарцы давялося жыць цэлы тыдзень. На сто вёрст ні душы — адзін. Чаго толькі ні перадумаў.
Наташа здзіўлена, нічога не разумеючы, пазірала на яго, адчуваючы, як улягаецца ліхаманка, што біла яе дасюль.
— А ты чаго стаіш? — спытаў ён.— Садзіся, месца хопіць.
Цяпер Наташа не баялася яго. Ёй нават стала смешна тых сваіх страхаў. Яна села, нацягнуўшы спадніцу на калені і абхапіўшы іх рукамі. Віктар дастаў папяросы, закурыў. Ён як бы забыўся, што побач сядзіць Наташа, не спяшаючыся зацягваўся дымам, потым гэтак жа марудна выпускаў яго.
— От як яно бывае, Наташа,— Віктар раптам шпурнуў недакураную папяросу ў кут.— Каб не пайшоў тады вартаваць хлеў, дык можа так і не сустрэліся б.

Ён палажыў руку на яе плячо. Наташа хацела адхінуцца і не змагла, толькі апусціла галаву.

— А чаго ты ўсё маўчыш? — спытаў ён, стараючыся заглянуць ёй у вочы і далікатна прытуляючы да сябе.

— Так... Не ведаю.

— Я сам не вялікі гаварун...

— Як наробішся, дык і гаварыць неахвота.

— Гэта праўда.

— Думаеш, лёгка падаіць пятнаццаць кароў? Скура на руках трэскаецца.

— Цяжка табе...

— Табе там таксама не дужа лёгка... Сам казаў.

— Гэта праўда...

— Выходзіць, усё роўна, дзе працаваць?

— Яно так. Толькі я не магу доўга быць на адным месцы.

Віктар быў палез у кішэню, але, нічога не дастаўшы адтуль, выцягнуў рукі, пачаў абіраць ігліцу з галінкі. Пальцы яго ледзь прыкметна дрыжалі. А сам ён раптам прыгорбіўся і як бы пастарэў. «Што з ім?» — падумала Наташа.

— У цябе хоць адпачынак ёсць, а тут дзень пры дні на працы, без выхадных,— сказала Наташа.

— Гэта што!.. Гэта — глупства. У мяне, Наташа, другое. Я чалавека забіў...

Наташа адхіснулася, няўцямна пазіраючы на яго. Ёй раптам здалося, што Віктар можа звар'яцеў і таму брусіць, як у гарачцы. Прыгадалася, як некалі гаварылі пра яго на вёсцы: «А Сівакоў прыёмыш — таго...» Ёй стала страшна.

— Можа мы дамоў пойдзем? — нясмела спытала яна.

— Пасядзі яшчэ, Наташа,— папрасіў ён.— Я табе першай сказаў... каб ты ведала. Я жонку застрэліў. Адседзеў сваё, а спакою няма. Забыць не магу. Таму і кідаюся па свеце.

Віктар глядзеў на кволы агеньчык газнічкі. Вочы яго нібы ашкляпелі — у іх смутак. Нешта было ў яго постаці такое вартае жалю і шкадавання, што Наташа аж захліпнулася ад спачування яму.

— Ну, от цяпер ты ўсё ведаеш,— сказаў ён.— Я, Наташа, сам сябе ненавіджу.

— Яна дрэнная была? — спытала Наташа.

— Што ты!.. Мы з ёй знаеш як жылі. Я стрэльбу чысціў. Ну і сам не разумею, як...

— Дык ты ж не вінаваты! — абрадавалася Наташа.

Ён паглядзеў на яе з дакорам:

— Нічога ты не разумееш!.. От заплюшчу вочы і бачу, як яна падае, глядзіць на мяне здзіўлена і падае, раскінуўшы рукі.— Ён здрыгануўся, потым ашчаперыў галаву рукамі.— Ніхто не разумее. Нават мой начальнік, Дзмітры Мікалаевіч, кажа: кінь, забудзь. А такое не забываецца.

— Я таксама памятаю, як бацька паміраў,— пасля доўгага маўчання сказала Наташа.— Я тады ў хаце адна была. Чую, кліча ён мяне: «Дачушка, дачушка». Падбегла я да ложка. Ён хацеў нешта сказаць і задыхнуўся. А вочы так жаласліва на мяне глядзяць і тухнуць, тухнуць. Я тады як закрычу!..

— Ось бачыш!..

— Я гэта яшчэ доўга ў сне бачыла. А цяпер не бачу. Забылася,— прызналася яна.

— Нічога, Наташа, не забываецца...



— Яно так.

Абое доўга маўчалі. На вёсцы крычалі ўжо другія пеўні, а яны ўсё сядзелі адно пры адным, не знаходзячы слоў. Потым Віктар спытаўся:

— А што, калі я, Наташа, забяру цябе адсюль?

— Не ведаю,— спалохалася яна.

— Ну, то забяру...

Праз тыдзень іх запісалі ў сельсавеце. А яшчэ праз тры дні яны выправіліся ў дарогу пад лямант Наташынай маці і ціхія слёзы Сівачыхі.

Наташа жыла ў гэтыя дні як у сне. Здавалася, прачнешся, а нічога не было: ні Віктара, ні вяселля, ні матчыных слёз і стрыманай няпэўнай сваёй радасці. У самалёце яна час ад часу працягвала руку, каб упэўніцца, што Віктар сядзіць поруч і дрэмле. Ён прахопліваўся, пытаўся:

— Ты што?

— Нічога,— адказвала Наташа і ціха ўсміхалася.

Прыляцелі яны на сёмыя суткі. За акном самалёта, як праз густую плёнку смугі, невыразна бялеў снег, а па ім рухаліся чорныя цені.

Ля будыніны аэрапорта стаялі алені, запрэжаныя ў лёгкія сані. Віктар пасадзіў Наташу ў сані, захутаў нечым цёплым — і яны паехалі. Сані то лёгка пагойдваліся, то раптам хіліліся на бок, і тады вазак крычаў нечага на аленяў.

Ехалі доўга, а калі спыніліся, Наташа ўбачыла электрычны ліхтар, што вісеў высока над зямлёй у мглістай вясёлкавай смузе. З будыніны, што тулілася праваруч, выскачыў на двор чалавек у калматай шапцы, у кароткім кажусе і нейкіх смешных ботах з высокімі, па пояс, халявамі. Ён падбег да Віктара і нечага закрычаў, і невядома за што выцяў яго кулаком у плячо. Віктар таксама ўдарыў чалавека ў грудзі. Потым незнаёмы абняў Віктара, і Віктар абхапіў яго, і яны пачалі цалавацца.

— Ах ты, сіняя барада! — выгукнуў чалавек, адштурхнуўшы Віктара.— Жонку замарозіць хочаш? Не дам!..

Ён спрытна падбег да Наташы, падхапіў яе на рукі і панёс.

— Клара, Клара,— закрычаў ён, адчыняючы нагой дзверы,— глядзі, каго я злавіў!..

Ён паставіў збянтэжаную Наташу перад жанчынай немаладых гадоў у штанах і нейкай рудой безрукаўцы. Жанчына сярдзіта замахала рукамі:

— Здурэў ты, ці што? Зусім дзяўчынку напалохаў,— і, абняўшы яе, прытуліла да сябе.

Толькі цяпер Наташа ўбачыла таго, хто нёс яе ў хату, і засаромелася — стары чалавек, сівы ўвесь, а такое вырабляе. А стары, як хлапчук, замітусіўся па хаце.

— Мы вас, чарцей, трэція суткі чакаем,— крычаў ён.— Клара, давай на стол. Людзі з дарогі.

— Чакай, Міця,— лагодна супакойвала яго жанчына,— дай Наташы агледзецца ў гэтай бярлозе. Ну што ты сапраўды, як маленькі...

Потым Наташа з Віктарам сядзелі за сталом на самым пачэсным месцы. У маленькі пакойчык нашылася шмат народу. Усе ціснуліся да стала, ад мноства незнаёмых людзей у Наташы кружылася галава. Усе людзі здаваліся ёй на адзін твар. Але яна ведала ўжо, што чалавек, які нёс яе, і ёсць Дзмітры Мікалаевіч, начальнік яе Віктара і ўсіх

тых, хто тут жыве. Ёй было дзіўна, што начальнік паводзіць сябе неяк непрывычна па-свойску, быццам ён і не начальнік, а звычайны чалавек.

«Каб расказала дома, з якімі я людзьмі сяджу, дык не паверылі б»,— падумала яна.

З дарогі Наташа заснула моцна. Прысніўся ёй калгасны двор, а на ім, ля фермы, вялізны гадзіннік. І хоць у гадзінніка няма стрэлак, Наташа ведае, што зараз восем гадзін раніцы, што яна спазнілася на працу, што каровы нядоеныя і някормленыя. Ля гадзінніка чамусьці на мыліцах стаіць калгасны старшыня Цімох Авяр'янавіч і злуецца. Наташа спыняецца, ногі дзервянеюць, і раптам бачыць, што старшыня абапіраецца не на мыліцы, а на гадзіннікавыя стрэлкі. Ёй стала страшна. Яна хацела бегчы, але ногі адняліся, сэрца пачало біцца так моцна, што вось-вось, здаецца, выскачыць з грудзей.

Яна прахапілася і па прывычцы, як бывала дома, саскочыла на падлогу.

— Ты куды? — спытаў спрасонку Віктар.

— Ой, думала на працу спазнілася,— прызналася Наташа.— Сон бачыла...

— Цяпер працу забудзь. Адпачывай, колькі захочацца.

Наташа лягла, але сон не браў. Будзільнік з цыферблатам, які свяціўся ўночы зеленаватым святлом, паказваў дваццаць хвілін на сёмую. У гэтую пару даяркі звычайна канчалі даіць кароў, збіраліся ў сепаратарнай. Наташа прыгадала іх, халодную пустату хлява і ўзрадавалася: ёй не трэба рана ўставаць, цягаць сена, даіць кароў — усё кончылася. Сапраўды — адпачывай, колькі захочацца.

Яна прыціснулася шчакой да Віктаравага пляча, заплюшчыла вочы, пастаралася ўявіць, як далёка збегла ад той надакучлівай работы, што трымала яе, нібы ў абцугах, але не магла.

— Ты чаго не спіш? — абняў яе Віктар.

— Думаю, а што нашы жанкі цяпер робяць. Мусіць, малако пераганяюць.

Віктар усміхнуўся.

— У вас яшчэ і чатырох гадзін няма.

Цяпер яна адчула, як далёка забралася ад дому, і ёй стала сумна.

— Не, ужо не засну,— сказала яна і паднялася з ложка, думаючы, што можа ў рабоце знікне гэты сум...

Хатняй работы той аказалася — кот наплакаў. Дома, каб выпаліць печ, згатаваць есці, спатрэбілася б гадзіны паўтары. А тут сняданне было гатова хвілін праз дваццаць.

Хутка Віктар пайшоў на працу. Наташа засталася адна, прылегла і раптам заплакала.

На дварэ па-ранейшаму панавала ноч, і ад таго, што раніцы трэба было чакаць два месяцы, Наташы зрабілася няўтульна.

Было ўсё: каханне, муж, дастатак у хаце, добрыя людзі навокал, але чагосьці не хапала. Пэўна таму, што было шмат вольнага часу, ды яшчэ таму, што стаяла ноч. Праз усе суткі гарэла ў хаце святло, а на вуліцы — ліхтары. Па гадзінніку Наташа навучылася вызначаць, калі там, у далёкай палескай вёсачцы, пачынаўся дзень, а калі наставала ноч. Хацелася хоць раз паглядзець, як узыходзіць сонца. Жаданне было такое моцнае, што Наташа апраналася, выбягала на



двор. Над гарадком пакалыхвалася прывіднае марыва, а ліхтары цьмяна асвятлялі вялізныя гурбы снегу.

«Прападу я тут. Хоць бы працу якую знайсці»,— думала яна.

Працы зімой не было. Віктар казаў, што як толькі пачнецца вясна, яе запішуць у экспедыцыю, а пакуль хай адпачывае.

Суткі беглі аднастайна і нудна. І ўсё часцей Наташа ўспамінала маці, сваю вёску, ферму, даярак. Яна ўсё збіралася напісаць пісьмо даяркам, але нечага адкладвала.

Аднаго разу Віктар, прыйшоўшы з работы, сказаў, што заўтра адправіцца ў экспедыцыю.

— Дык жа ноч, куды вы? — спытала Наташа.

— Недалёка тут,— адказаў ён,— праз сутак сем вернемся.

Яны паехалі. У доме, што належаў экспедыцыі, засталася Наташа, Леаніда Маркаўна і радыст Лёшка. Цяпер ужо зусім не было чаго рабіць. Наташа разагравала на агні кансервы, гатавала чай, потым не спяшаючыся снедала і з нецярпеннем чакала абеду.

У гарадку быў кінатэатр. Леаніда Маркаўна павяла туды Наташу. Дома Наташы рэдка калі ўдавалася збегаць у кіно. Цяпер яна магла глядзець яго колькі захочаш. Але пасля трэцяга прагляду адной і той жа карціны кіно надакучыла.

Наташа сядзела дома, адчуваючы, як агортвае яе дрымота і неадольнае жаданне вярнуцца дамоў, да маці. Усё часцей у дрымоце яна ўяўляла, як прыедзе дамоў з Віктарам і перш за ўсё пабяжыць на ферму, возьме даёнку, сядзе пад карову, і струмені малака будуць звонка біць у бляшанае дно. Яна нават чула, як пахне сырадой. Гэты пах непакоіў яе. Яна падымалася з ложка, брала сухое малако, пачынала гатаваць яго. Але сухое малако пахла вадою.

«Прыедзе Віктар — скажу, што не магу я тут жыць. Што́ грошы, калі радасці няма».

Віктар прыехаў праз два тыдні. Ён аброс чорнай барадою, але быў вясёлы, гаваркі.

— Не сумавала? — спытаў ён.

Наташа заплакала. Плакала доўга. Віктар хадзіў па пакоі, маўчаў.

— Не магу я тут, не магу! — праз слёзы сказала Наташа.

— Мы цяпер заўсёды разам будзем,— абняў яе Віктар.— Хутка ўжо і сонца пакажацца.

Геолагі рыхтаваліся да экспедыцыі, хоць да яе яшчэ заставалася шмат часу. Усе чакалі першага сонца, быццам яно павінна нешта перамяніць у жыцці.

Апошнім часам Наташа адчувала сябе кепска, але Віктару не прызнавалася. Чамусьці сталі цяжкія і непаслухмяныя ногі, не хацелася ўставаць з ложка, і ўсё больш і больш ахінала яе маркота і неадольнае жаданне кудысьці ісці, нешта рабіць. Было гэта толькі ў думках, падняцца з ложка рабілася ўсё цяжэй, і ад гэтага найбольш за ўсё даводзілася пакутаваць.

«Паляжу яшчэ,— падумала яна,— ды падымуся. Хутка Віця прыйдзе». Але яна прадаўжала ляжаць.

Віктар забег у пакой чымсьці ўзрушаны, вясёлы.

— Падымайся,— закрычаў ён з парога,— сонца ўзыходзіць!

Ён схапіў яе, падняў, потым паставіў на ногі. Наташа ўстрапянулася. Дрымота і немагата зніклі. Яна апранулася і следам за Віктарам выбегла з хаты.

На поўдні ружавела, разгаралася неба. Як кінуць вокам, ляжала

белая роўнядзь. Толькі ўдалечыні, дзе пылаў усход, відаць былі ці то горы, ці, можа, белыя хмары.

Як на нейкае дзіва, паглядзець на сонца сабралася шмат народу. Усе маўчалі, прыцішаныя, урачыстыя. Так можа стаялі хвілін дваццаць. Потым на снегавыя ўзгоркі выкацілася яркае чырвонае сонца. Людзі закрычалі, замахалі рукамі, вітаючы яго. Адразу стала светла, аж балюча ў вачах.

Наташа заплюшчыла вочы, а калі адкрыла іх, падалося, што сонца ўжо скочваецца за другі ўзгорак. Яно і сапраўды зайшло, і зноў настала прыцемкі.

«Да нас пайшло»,— падумала Наташа, і ёй зрабілася раптам млосна.

Віктар падтрымаў яе. Прывёў дамоў.

Наташа ляжала на ложку, абыякавая да ўсяго. Маўчала. Толькі па шчоках каціліся слёзы.

З гарадка выклікалі ўрача. Ён паявіўся ў футры і вялізнай шапцы, з сакваяжам у руцэ. Доўга распранаўся, хукаў на рукі, потым грэў пры агні стэтаскоп. Нарэшце ён падышоў да ложка, памацаў пульс, паставіў градуснік і, як бы забыўшыся на Наташу, загаварыў з Віктарам пра нейкага Галайду, які адмарозіў ногі. Наташа ляжала і думала, што ніякі ўрач ёй не паможа. Вось бы пабыць дома, тады і палягчэла б.

Урач узяў градуснік, доўга глядзеў на яго, быццам не верыў сваім вачам.

— Дык на што вы скардзіцеся? — спытаўся ён, прысеўшы на крэсла ля ложка.

Наташа прамаўчала. Адчула, як зноў пабеглі слёзы.

— Зразумела,— сказаў урач.— Але давайце паслухаю.

Ён чымсьці нагадваў калгаснага заатэхніка Верабейчыка. Такі ж марудлівы, спакойны, нейкі па-хатняму просты. У Наташы паяўляўся да яго давер, і яна з надзеяй паглядзела яму ў вочы.

— А што вам ноччу сніцца? — раптам спытаў урач.

Наташа разгубілася. Але ўрач глядзеў на яе так шчыра, што яна прызналася:

— Найчасцей тая сцежка, што ад фермы да дома пракладзена. Усё па ёй бягу.

— Ну што ж,— паківаў галавой урач,— сцежкі ўсім сняцца. Ляжыце, а я з вашым мужам пагутару. Зойдзем да Дзмітрыя Мікалаевіча.

Урач апрануўся, узяў у рукі сакваяж.

— Я зараз,— сказаў Віктар Наташы і пайшоў за ўрачом.

Наташа засталася адна, глядзела ў столь на светлы круг ад лямпачкі з-пад абажура. На шафе паціху іграла радыё. А за акном пачыналася завіруха. Злосна, перагонамі падвываў вецер.

Хвілін праз дзесяць вярнуўся Віктар, а з ім Дзмітры Мікалаевіч і Клара Паўлаўна. Яны зайшлі, як бы баючыся нечага. Клара Паўлаўна прысела на ложак, узяла Наташыну руку.

— Усё будзе добра,— сказала яна.— Я спачатку таксама маркоцілася, а пасля прывыкла. Хутка вясна пачнецца, дзень.

— А потым зноў ноч?..— ледзь вымавіла Наташа, бо слёзы не давалі ёй гаварыць.

— Нічога не зробіш, Віктар, давядзецца паслухаць урача,— сказаў Дзмітры Мікалаевіч.

Праз тыдзень Наташы стала горш. Віктар з'ездзіў, купіў два білеты на самалёт.



— Паляцім, адпачнём там,— сказаў ён, паказваючы ёй білеты. Наташа прамаўчала.

Праводзіць іх паехалі Клара Паўлаўна і Леаніда Маркаўна. Наташа, захутаная ў кажух, не сказала ніводнага слова. Жанчыны завялі яе ў самалёт, пасадзілі ля самай кабіны, выйшлі. Хутка ў самалёт набілася поўна народу. Прыйшоў Віктар, сеў поруч.

— Прывяжыся,— сказаў ён Наташы.

Толькі цяпер Наташа пачула, як гудуць маторы. Самалёт паволі вырульваў на ўзлётную паласу.

— А мы назусім? — спытала Наташа.

— Ды ўжо ж,— панура адказаў Віктар.

І Наташа раптам адчула, як нейкі цяжар зваліўся з плячэй, стала лёгка-лёгка, а перад вачыма яскрава паўстала пратоптаная ёю паўз лес сцежка.

# ДЗЕД КУЗЬМА, АНТОН ПАКОША І ЛЮБКА ВАДЗЯНЕЦ

## 1

Вёска Альхаватка — чатырнаццаць абы-як раскіданых па ўзгорку хат — прачыналася спакваля, неахвотна. Ішоў дождж, а ў такое надвор'е і рабіць асабліва няма чаго, і някепска спіцца. Сям-там, праўда, ужо курыліся коміны, і рэдзенькі шызы дым слаўся над стрэхамі.

Крайняя з поўначы хата — Кацярыны Пакошы. Хата стаіць на водшыбе і не ў адзін шар з усімі, а ўпоперак вузенькай вулкі, што ўкосікі пралегла праз усю вёску. Два акны глядзяць на поўдзень, трэцяе ўзіраецца ў вялікае Пітамскае балота на ўсходзе. З поўдня ў балота ўпадае рэчка Пітамка. На поўначы гэтая ж рэчка выцякае з балота, але ўжо з другой назвай — Карчэга. Вусце Пітамкі і вытоку Карчэгі злучае канава, пракладзеная, кажуць, гадоў семдзесят назад, калі мужыкі выкупілі ў пана балота і лес на рацэ Карчэзе. У сухое лета трыццаць шостага года балота гарэла. Пажар нарабіў шмат выгарак, у якіх водзяцца карасі, печкуры, а з таго часу як на Пітамцы зрабілі штучнае возера і пачалі разводзіць рыбу, у выгарках паявіліся плоткі, карпы, ліні, шчупакі. Гадоў пяць назад частку балота і ўсё абалонне асушылі. А каб новыя канавы не заплывалі, калгас прызначыў даглядчыка — дзеда Кузьму.

Дзед Кузьма жыве тут жа, у Альхаватцы, ля Крывіцкага кургана. Жыве ён адзін, можа таму больш прападае на балоце, дзе ў яго ёсць будан.

Апрача таго, што дзед Кузьма даглядае канавы, ён яшчэ вартуе штучнае возера, бо малыя, ды каб жа толькі яны, закідваюць вуды, а прывучаныя да падкормкі карпы гатовы хапаць нават голы кручок. Лавіць рыбу — і нават не на кручок — дазваляецца толькі ў канаве і выгарках.

Антон Пакоша прахапіўся ад сну і адразу ўспомніў, што абяцаў Васілю Вадзянцу пайсці на балота лавіць рыбу. Спалохаўся, што праспаў, хуценька саскочыў з ложка, падбег да акна; за густой сеткай

дажджу і ранішняга туману балота было відаць, нібы праз сіта. Антон адчыніў акно — у хату хлынуў валкаваты пах зямлі, кропу, яблыкаў, бульбоўніку і руты, што самасейкай расла ля прызбы.

— Разагрэўся,— забурчала маці.— Зачыняй акно, бо скразняк цягне.

Маці сядзела на парозе, шкрабла бульбу. Праз адчыненыя дзверы відаць былі сенцы: сцяна з негабляваных палавінак, складзеныя адна на адну дзежкі і кадушкі, карыта на падлозе, ля якога таўкліся двое парасят і чорны падгалёністы певень. Усё гэта надакучыла Антону.

— Васіль не заходзіў? — спытаўся ён, думаючы, што маці знарок не разбудзіла яго.

— Насця заходзіла,— маці нацягнула на плечы шарсцяную кофту.

— А ёй што трэба?

— Прасіла, каб ты памог Якаву адрамантаваць масток праз Карчэгу. Лён трэба на сцелішча вазіць.

— Я з Васілём на рыбалку іду. Хай сама той масток рамантуе.

Маці назірала за Антонам спадылба — не ўхваляла.

— Во ўжо не сядзіцца табе,— сказала яна.— Каб трэба было па дровы схадзіць ці па ваду, дык цябе не дабудзіўся б. Спрогся з гэтым вісусам. Давядзе ён цябе, пабачыш, як іхні бацька давёў твайго. Тожа, бывала, вось так спрогшыся хадзілі.

Піліп Вадзянец, Васілёў бацька, жыў бесклапотна і весела, нібы і не жыў, а гуляў у хованкі. Пасля вайны, калі людзі як рыба аб лёд біліся, каб падняць калгас, Піліп Вадзянец дома не сядзеў, знікаў на месяц-два, а часам і больш, потым прыязджаў, па-гарадскому апрануты, чысты, адкормлены, прывозіў падарункі сям'і і зноў знікаў. Дружбы ён ні з кім не вадзіў, апрача Макара Пакошы. Аднаго дня звёў і таго з сабою. Звесці звёў, а дамоў не прывёз. Напісаў, што Макар загінуў, а як і што — здагадвайцеся самі. Яшчэ гады праз тры не вярнуўся і Піліп Вадзянец. Прапаў, як у ваду кануў.

Калі Антон узышоў на прасторны Вадзянцоўскі двор, Васілёва маці Марта, седзячы на ўслончыку, даіла карову.

— Ці дома Васіль? — спытаўся Антон.

— Заходзь, дома...

Васіль сядзеў на канапе, разглядаў параненую нагу. Нага распухла. Ступня была падобна на падушку, з якой тырчалі кароткія пальцы.

— Палез учора на хлеў па снасці, а там дошка з цвікам, наскрозь прабіў...— гаварыў Васіль, прыкладваючы да раны намылены трыпутнік.

Антон памог забінтаваць нагу, сказаў, адчуваючы крыўду, быццам Васіль быў вінаваты, што не можа лавіць рыбу:

— То я пайду.

— Чакай,— затрымаў яго Васіль і моцна грукнуў кулаком у перагародку.— Любка! Хопіць дрыхнуць! Антон чакае.

## 2

Закончыўшы васьмігадовую школу, Любка Вадзянец пайшла на курсы рахункаводаў. Гады два працавала ў сельпо недзе пад Рудняй. Сёлета на прадвесні яна вярнулася ў Альхаватку, спадзеючыся знайсці працу бліжэй да хаты. Працы такой не было. Любка сядзела дома.

З Рудні Любка прывезла ў Альхаватку пласцінкі з самымі моднымі танцамі. Пакуль асаблівай работы ў брыгадзе не было, альхавацкая моладзь сабіралася ў Вадзянцоў, танцавала да раніцы «шэйкі» і «рытмы».

Можа зборышчы доўжыліся б і надалей, каб раптам не паявіўся Васіль. Ён адразу ж забараніў вечарынкі, сказаўшы, што бацькава хата не якая там небудзь карчма.

Пасябраваў Васіль толькі з Антонам. З таго часу Антон і зачасціў у госці да Вадзянцоў.

Па шчырасці, дык Антон ніколі не звяртаў асаблівай увагі на Любку. Яна яму і не падабалася і была сястрой сябра. А сястра таварыша як бы і не дзяўчына, з якой можна разводзіць любошчы. Ды адзін выпадак змяніў ягоныя адносіны да Любкі.

Кіламетраў за пятнаццаць ад Альхаваткі, ужо на Панізоўшчыне, жыла Любіна цётка Домна з дарослаю, але з маленства хвораю дачкою. На ўсю восень і зіму дачку гэтую забіралі ў санаторый, на лета ж прывозілі дамоў. Домніна дачка — Палінка — напісала Марце пісьмо, каб абавязкова прыехала Любка, а калі дома Васіль, дык каб і з Васілём. Унізе маці дапісала некалькі слоў. Ужо ад сябе прасіла Любу прыехаць, пабачыць стрыечную сястру, можа ў астатні развочак.

Васіль ехаць адмовіўся. Угаварыў Антона, і той, не маючы сіл адмовіць яму, згадзіўся суправаджаць Любку.

Там, у гэтай лясной панізоўскай вёсачцы, дзе людзі смешна цокалі, не вымаўляючы літары «ч», дзе ў хаце з падлогай, нахіленай да парога, ляжала празрыста-васковая Палінка, яны раптам заўважылі адно аднаго, быццам не бачыліся дасюль ніколі.

Месячнай ноччу Любка прыйшла пад паветку, дзе спаў на сене Антон.

— Ты што?..— здзівіўся ён.

— Боязна ў хаце. Месяц свеціць, а яна ляжыць, як нежывая.

Ён зразумеў, што «яна» — гэта Палінка і паверыў Любцы.

Любка сядзела на градзе дроў. Высокі ў небе месяц асвятляў яе кароткія валасы і ногі. Пры гэтым сіняватым месячным святле Любка здалася Антону такой прыгожай, што аж зайшлося сэрца.

— Табе не холадна? — спытаў ён.

— Ногі трохі азяблі, — адказала яна. — Можна, я іх пад коўдрай пагрэю?

Яна перасела з дроў на сена, схавала ногі пад коўдрай.

— Адвярніся,— загадала яна Антону.

Ён, не разумеючы, чаму трэба адвярнуцца, перакуліўся са спіны на бок. Калі ён павярнуўся тварам да Любкі, яна ляжала побач, неяк задыхана смеючыся. Антон парыўна абняў яе.

Але як толькі яны вярнуліся ў Альхаватку, Антон адчуў нейкую віну перад Васілём, аддаліўся ад Любкі. І хоць ён па-ранейшаму па тры разы на дзень бываў у Вадзянцоў, стараўся трымацца з Любкай строга, быццам між імі нічога не было. Яна ж кожны раз таямніча ўсміхалася, а калі яны выпадкам заставаліся сам-насам, глядзела на яго спадылба, як бы чакаючы нечага ад Антона. Ён бянтэжыўся. Калі здаралася быць разам,— або маўчаў, або кпіў з яе.

Любка несла вядро і два падсачыкі на ракаў. Ішла яна лёгка, пругка ступала босымі, зграбнымі нагамі, быццам плыла па мокрай траве. Старыя туфлі са стаптанымі абцасамі ляжалі ў вядры. Любцы падабалася хадзіць басанож.

— Прамокнем, як сабачыя дзеці,— сказаў Антон, падумаўшы, што ўсё ж не варта было ісці на рыбалку з дзяўчынай.

— А я люблю дождж,— узрадаваная, што Антон перастаў маў-

чаць, весела сказала Любка.— У навальніцу падставіш твар, дождж сячэ — хораша так.

Любка спынілася, заплюшчыла вочы, моцна закінула назад галаву, падстаўляючы пад дождж твар. На грудзях нацягнулася сукенка, адкрыўшы вачам белую палоску і неглыбокую баразёнку, што хавалася за вузкаю аблямоўкай кашулі. Антон адвёў вочы, прыгадаўшы тыя дзве ночы пад паветкай.

— Нечага табе рабіць,— сыкнуў ён на Любку і пайшоў.

Па канаве з таптухай поўзаў ужо дзед Кузьма. Здалёк ён быў падобны на рака. Трымаючыся за бераг рукамі, Кузьма адпаўзаў задам у раку, заганяў рыбу ў таптуху. Антон, як пабачыў дзеда, павесялеў.

— Здароў, дзед! — крыкнуў ён.— Лавіся, рыбка, вялікая ды маленькая.

Дзед падняў таптуху. На ёй белым жыватом дагары ляжала жаба, дрыгала лапкамі. Дзед выкінуў яе на бераг.

— Здароў быў, агалец,— нарэшце павітаўся ён.— Не ловіцца нешта... А ты з барышняй...

— Васька нагу пакалечыў,— сказаў Антон.— Ты тут усю рыбу напалохаў. Навошта табе боўтацца ў балоце? Злавіў бы пару карпаў у возеры. Табе можна.

Дзед задраў бараду ўгору. З яе на брызентавы плашч сцякала вада.

— Зроду не краў, малец. Пад старасць не хачу паганіцца.

— Глядзі, ордэн дадуць,— зласнавата сказаў Антон.— Старшыніхе лавіў карпаў?

— Лавіў,— згадзіўся дзед.— Трох злавіў. Яна думала — задарам, аж не, старшыня заплаціў. Дабро народнае...

— Ну-ну, давай,— зарагатаў Антон,—кіруй намі, несазнацельнымі.

— Дурань ты,— абурыўся дзед.

Антон хацеў аблаяць дзеда, але Любка штурханула пад бок — не чапляйся.

Дзеда Кузьму альхаватцы лічылі не тое што прыдуркаватым, але чалавекам дзівакаватым, які з самай маладосці рабіў нешта недаступнае чалавечаму разуменню.

Кажуць, што да вайны дзед меў сям'ю: жонку, двух сыноў і дачку, але пра іх ён, лічы, не клапаціўся. Да позняй ночы чытаў нейкія кнігі, выпісваў нешта з іх у тоўсты з калянкоравымі вокладкамі сшытак. Удзень ён або майстраваў у кузні нейкія дзівосныя прылады, або корпаўся на агародзе. Там у яго былі нябачаныя нідзе яблыні, на якіх раслі яблыкі аж дзесяці гатункаў, а на звычайнай бульбе зелянелі памідоры. Хадзілі пра Кузьму і другія неверагодныя чуткі, нібы ён спаў на голых дошках, зімой купаўся ў палонцы, а кожную раніцу, як на малітву, выстройваў усю сям'ю, прымушаў займацца фізкультурай.

Вядома ж, яблыка ад яблыні далёка не ўпадзе. Кузьмовых дзяцей таксама лічылі смешнымі дзівакамі. Старэйшы, Толя, кожную вясну кідаў школу, ішоў пасвіць калгасны статак. Але экзамены здаваў добра. Яшчэ ён любіў майстраваць скрыпкі і выразаць дудачкі, якія дарыў альхавацкім дзецям.

Дачка Валя здзіўляла людзей тым, што хадзіла, як хлопец, у штанах і стрыглася пад польку. У семнаццаць год яна раптам знікла. Казалі, паехала вучыцца на тэлефаністку.

Самы малодшы быў Валодзя. Гэты ўмеў перамнажаць і дзяліць любыя лічбы без паперы і алоўка. Хадзіў ён, смешна закідваючы нага за нагу, нібы пісаў васьмёркі. Пры гэтым Валодзя быў жаласлівы да слёз. Дома ў яго лячыўся цэлы звярынец.

Калі пачалася вайна, мужчын мабілізавалі. Усе яны хутка вярнуліся дамоў. Не прыйшоў толькі Кузьма Гарошка ды яшчэ Баніфацы Калюга, бацька адзінаццаці дзяцей, нехлямяжы, ціхманы чалавек, якіх рэдка дзе сустрэнеш.

Альхаватка — у баку ад дарог, таму немцаў тут не бачылі да самай вясны сорак другога года.

Аднае раніцы альхаватцы пачулі на выселках, там, дзе жыла Кузьмова сям'я, страляніну. Дробненька і злосна чыркаў аўтамат, бахалі вінтоўкі, глуха, амаль беспарапынна, татахкаў кулямёт. Потым пачалі рвацца гранаты, і ўсё сціхла. Тады альхаватцы ўбачылі, як над выселкамі паднімаецца ў неба дым. Гарэла Кузьмова хата.

Неўзабаве ў вёсцы паявілася страшная працэсія. На пярэднім возе ляжала ўверх тварам Кузьмова Валя ў кірзавых ботах, у ватніх штанах і ватоўцы. У галавах валялася шапка-аблавушка з чырвонай зоркай. За возам ішлі прывязаныя да біла вяроўкай Кузьміха і яе сыны Толя і Валодзя. Хлопцы падтрымлівалі маці. На другім возе, запрэжаным паркай, везлі параненых і пабітых немцаў, на трэцім — хатні набытак, а за ім гналі авечак і карову.

Пагаворвалі, што Валя была скінута на парашуце яшчэ зімою разам з групай разведчыкаў. Але хто падгледзеў, што яна прыйшла дамоў, так ніхто і не даведаўся.

Кузьміху з сынамі расстралялі ў Ілаўскім рове. А потым прынёс нехта вестку, што ў палоне загінуў Кузьма. Нібы ўцякаў з лагера, яго злавілі і зацкавалі сабакамі.

Але Кузьма не загінуў. Прыйшоў ён у вёску пад восень сорак пятага года. У Альхаватцы тады мужчын амаль не было. Многія з тых, што пайшлі раней у партызаны, і тыя, што пасля вызвалення былі мабілізаваны ў армію, загінулі. Удоў хапала. І хоць Кузьма быў не маладзён, кожная ўдава рада была ўзяць яго за прымака. А Кузьма і тут здзівіў усіх — прыстаў у прымы да Баніфацыхі на адзінаццаць дзяцей.

За дваццаць гадоў Баніфацішыны дзеці павырасталі, раз'ехаліся па свеце. Баніфаціха памёрла. Кузьма застаўся адзін.

Пра ўсё гэта Антон чуў не раз. У адно вуха ўлятала, праз другое вылятала. Дзед Кузьма іcнаваў для яго сам па сабе, быццам і не меў дачынення да ўсяго, пра што расказвалі людзі. Яно, тое былое, як бы і не існавала для Антона, нібы казка, якую пакуль слухаеш — цікава, а перастаў слухаць — забыўся. Казка — выдумка. Такой казкай здавалася ўсё, што расказвалі пра Кузьму.

Дзед Кузьма існаваў як бы па-за часам, забраўшыся на гэтае балота, і невядома чаму жыў. Хіба для таго, каб дакладваць старшыні, хто спрабуе лавіць рыбу ў возеры. Зрэшты, ён быў бяскрыўдны. З яго можна было кпіць, яго можна было не заўважаць, як той кол на выпасе. Тырчыць — хай сабе тырчыць.

Сам Антон ведаў, чаму ён жыве на свеце. Сказаць, праўда, пра гэта не ўмеў, але адчуваў. Таму ён і падумваў над тым, каб кінуць хату, паехаць з Васілём Вадзянцом у свет. Вёска — нудота, круцішся ў ёй, як каза на прывязі. Пражывеш тут век, і ніхто цябе не будзе ведаць. І ты — нікога. Жыццё, як у Кузьмы — пекайся на балоце.

— Ты пойдзеш адсюль, а я — вунь адтуль на затоку,— сказаў Антон, падышоўшы да Тачылішынай выгаркі і адразу забыўшыся на Кузьму. Любка, прыгнуўшыся, пачала зашпільваць шпількаю падол сукенкі, каб яна ў вадзе не задзіралася ўверх.

## 3

Вада ў выгарцы рабаватая ад дажджу, як пасечаны воспай твар. Антон, трымаючы арэхавую жардзіну, да якой прывязана сетка, споўз з берага. Любка таксама злезла ў ваду.

Было глыбакавата. Любка намацала нагамі калоду, стала на яе, пачала разматваць сетку. Антон памалу пасунуўся наўскасяк. З дна падымаліся на паверхню мутныя бурбалкі. Яны ды берасцяныя паплаўкі на вадзе азначалі Антонаў шлях. Перабраўшыся на другі бераг, Антон азірнуўся — Любка ўсё яшчэ стаяла на калодзе, трымаючы ў руцэ арэхавую жардзіну.

— Чаго стаіш? — крыкнуў Антон.— Ідзі паўз бераг ды прыціскай сетку да дна.

Любка саскочыла з калоды.

— Глыбока тут,— задыхана выгукнула яна.

Антон зрабіў выгляд, што не пачуў. Ён ішоў уздоўж берага, вада тут дасягала яму пад пахі, па нагах поўз холад: мабыць, білі з зямлі крыніцы.

Люба памалу, бокам таксама сунулася паўз бераг. З вады відаць была галава і левае плячо. Правае плячо — бо на гэты бок даводзілася нахіляцца, каб лягчэй прыціскаць жардзіну да дна — хавалася пад вадой. Антон час ад часу пазіраў у бок Любкі з-пад насунутага на вочы брыля кепкі. Яму здавалася, што Любчыну галаву гоніць па вадзе вецер.

Любка цягнула сетку не горш за Васіля. Антон бачыў гэтае Любчына старанне і таму не крычаў, каб яна ішла жвавей.

Раптам Антону здалося, што нехта крыкнуў. Калі ён азірнуўся, на тым месцы, дзе плыла Любчына галава, нікога не было. Потым над вадою старчма вынырнуў арэхавы дзяржак, за ім усплыў падол сукенкі і толькі затым паявілася Любка, апантана б'ючы па вадзе нагамі і рукамі. На шчасце, бераг з лазовым кустом аказаўся недалёка, Любка ўхапілася за куст, пакараскалася ўверх.

Спачатку Антон быў спалохаўся, потым, калі пабачыў, як выпаўзае Любка з вады, пабліскваючы голымі сцёгнамі, зарагатаў.

— Эх ты, рыбачка! — крыкнуў ён. — Рыба вунь паасляпла.

Любка паказала Антону язык.

— Яшчэ рагоча... Ледзь не ўтапілася...

Антон пачаў выцягваць сетку. Аднекуль з-за хмызняку паявіўся Кузьма, спытаў:

— Ну як, ловіцца?

— Трасцу,— адгукнуўся Антон.

Кузьма падышоў, памог разблытаць сетку.

— Пахавалася рыба, ды і павылавілі яе,— сказаў ён.

— Давай, дзед, з табой пройдземся,— папрасіў Антон.

— Давай.

Але колькі яны ні цягалі сетку — нічога не злавілі. Антон паставіў кашы́ на ракаў, пайшоў з Любкай у дзедаў будан.

Дождж не сціхаў, а ўсё мацнеў. Любка азябла, старалася стрымаць ліхаманку. Кузьма расклаў вогнішча, павесіў над ім кацялок.

— Гэта што, па сваёй ахвоце мокнем,— пачаў ён.— А то во на Сандамірскім плацдарме па міласці немцаў у вадзе ляжалі. Бывала, зверху — лье, знізу — хлешча, а тут яшчэ снарады ды міны.

— Дзе гэты Сандамірскі плацдарм? — пацікавіўся Антон.

— На Вісле.

— А-а-а.





Кузьма дастаў з торбачкі акунёў, плотак, яршоў, пачаў чысціць. Любка, стоячы на каленях, сушылася, падстаўляючы полымю то адзін, то другі бок.

А дождж усё ліў і ліў. Нізка над балотам плылі бурыя хмары. «Трэба ісці дамоў,— неахвотна падумаў Антон.— А дома што рабіць? Прыйдзе Насця, загадае рамантаваць мост. Хутчэй бы Васька паправіўся. Можа ўзяў бы з сабою».

— Я гасцям во як рады,— сказаў Кузьма.— Да мяне ніхто не заходзіць, забыліся. Толькі я не сумую. Аднаму думаецца хораша.

«Паедзем з Васькам далёка-далёка,— думаў Антон, назіраючы, як чырвоныя языкі полымя ліжуць карчы.— Тут і пагаварыць няма з кім».

— А чаго б вам, дзед, не паехаць да Нюркі ці да Сцяпана? Яны ж, кажуць, добра жывуць,— спыталася Любка, маючы на ўвазе двух з адзінаццаці Баніфацішыных дзяцей, якіх памог гадаваць Кузьма.

— Клікалі,— весела азваўся Кузьма.— А толькі што мне там дзелаць? Я без работы дня пражыць не магу. Тут у мяне гаспадарка: канавы, рыба ў возеры. Са мной сам старшыня за руку здароўкаецца. А там хто я? Пясчынка ў людскім моры.

— Сам жа казаў — забыліся пра цябе,— напомніў Антон.

— Ты, малец, не збівай мяне. Што я, нявеста на выданні, каб кожны раз успаміналі? Трэба, дык успомняць. Старшыня неяк, залетась ці што, казаў: «Я, кажа, калі прыгадаю, што ты, дзед Кузьма, канавы даглядаеш і рыбу вартуеш, дык адразу спакойны станаўлюся».

— Ну, давай-давай, брашы. Старшыня цябе і не ведае. Насця паставіла і ўкалваеш.

— Дурань ты,— раззлаваўся дзед.— Я можа сам да яго хадзіў, каб мяне на гэту работу паслалі. Як памёрла Ганна, а дзеці яе раз'ехаліся, дужа мне мутарна стала. Усё часцей стаў сваіх дзяцей і першую жонку ўспамінаць.

З чыгунка па будане разносіўся пах рыбнай юшкі. Дзед памешваў юшку доўгай драўлянай лыжкай, гаварыў, нібы думаў уголас:

— За вайну я, лічы, паўсвету аб'ехаў. Дзе толькі ні быў: і ў Польшчы, і ў Германіі, і ў Аўстрыі, потым у Венгрыі, у Чэхаславакіі. Нашых, рускіх, земляў паглядзеў шмат.

Антон зарагатаў, перапыняючы дзеда нечаканым смехам.

— А лепей нашага балота не знайшоў,— сказаў ён праз смех.

— Дурань ты,— зноў раззлаваўся Кузьма.— Чалавека, як птушку, на гняздо сваё цягне. Вось яе і твой бацька пасля вайны ўсё нечага шукалі па свеце. А людзі тут зямельку гэтую на сабе аралі, з беднасці і галечы вылазілі. Таму і дарагі ім куток гэты. Сваімі рукамі зробленае не выкінеш на сметнік.

Кузьма пакаштаваў юшку, сказаў «гатова» — і зняў чыгунок з агню, падаў Антону і Любцы лыжкі. Потым дзед дастаў з-пад яловых лапак, што навалам ляжалі ў кутку, бутэльку, заткнутую ядлоўцавым сучком.

— Тут у мяне крыху настойкі ёсць,— сказаў ён.— На непагоду ногі ныюць, дык часам возьмеш кроплю якую, нібы і палягчэе.

Гарэлка, настоеная на травах, пахла вясновым лесам. Дзед наліў Антону на донца карца, сказаў з ноткай павучання ў голасе:

— Болей сабе не дазваляю і табе не налью, а крыху для апетыту ды як госцю можна.

Елі моўчкі, апякаючы язык юшкай, які аж шчыпала ад вострых прыпраў.



— А я вось не хачу тут жыць,— сказаў Антон, паклаўшы лыжку.— Кожны дзень адно і тое ж.

Любка паднялася, выглянула з будана.

— Нехта ля возера ходзіць,— сказала яна.

Дзед, не спяшаючыся, вылез услед за ёю, пачаў углядацца ў затуманеныя дажджом берагі.

— Ах ты, нягоднік. Ну, пачакай жа...

Ён узяў стрэльбу, не па гадах лёгка пабег да возера, хаваючыся за кустамі, каб браканьер часам не ўбачыў яго.

**4**

Дождж ужо не ліў, як раней, а церусіў дробным пылам. Рэдкі туман павалі клубіўся над балотам і ракою. Любка бачыла, як дзед Кузьма то знікае ў туманнай імгле, то вынырвае з яе. А той, што цягае рыбу з возера, стаіць сабе амаль не бачны ў хмызняках і нават не здагадваецца, што за ім сочаць.

Антон ляжаў у будане на яловых лапках, крыху разамлелы ад гарачай юшкі. Перад яго вачыма была мокрая, аброшаная дажджом ніцая трава і босыя Любчыны ногі. Антону хацелася працягнуць руку, пакратаць Любку за нагу.

— Чаго ты стаіш там? — сказаў ён.— Хадзі сюды, тут добра.

— Расхрабрыўся,— азвалася Любка, нібы падбадзёрвала Антона.— Але хто там ловіць? Нехта з Альхаваткі. Дажджу не пабаяўся.

— А ён і разлічваў, што дзед будзе ў будане хавацца,— сказаў Антон.— Трэба было табе казаць, што нехта рыбу ловіць. Шкада калгасных карпаў, ці што?

— І шкада. Нават цябе шкада. А вось ты мяне не шкадуеш.

Антон працягнуў рукі насустрач ёй. Як бы клікаў у абдымкі. Любка пацягнулася да яго, але, мабыць, цікаўнасць прымусіла яе азірнуцца, паглядзець, што робіць той, на возеры.

— Ой,— крыкнула яна.— Гэта ж Васіль!

Не паспеў Антон дацяміць, што і да чаго, як Любка ўжо бегла напрасткі па балоце, каб апярэдзіць Кузьму.

«У яго ж нага хворая»,— падумаў Антон пра Васіля і таксама пабег за Любкай.

Калі Любка выбегла да ракі ніжэй плаціны, дзед Кузьма ўжо мінуў мост. Любка зразумела, што ўжо не паспее папярэдзіць брата, і ўсё ж крыкнула на Антона, які таксама стаяў у нерашучасці:

— Чаго ты спыніўся? Бяжы!

Антон перасігнуў раку ўброд, вылез на крутаваты тут бераг і адразу ж убачыў Кузьму, які, прыгнуўшыся, краўся да куста, за якім Васіль лавіў карпаў. Сунуцца туды не было сэнсу: яшчэ трапіш у сведкі. Антон здаля назіраў, што будзе.

Задраўшы падол, перабралася цераз раку Любка і таксама спынілася побач з Антонам.

Яны бачылі, як дзед Кузьма падышоў да Васіля, пачулі, як ён сказаў: «Ты што, агалец, робіш? Хто табе дазволіў калгасную рыбу лавіць?» Далей усё адбылося неверагодна хутка. Васіль згроб дзеда, падняў перад сабой, кінуў у ваду.

Антон, калі пабачыў, як дзед Кузьма трапеча ў паветры рукамі і нагамі, зарагатаў. Не мог стрымацца, аж прысядаў ад смеху. А Любка пабегла да ракі. «Чаго яна? — падумаў Антон.— Выплыве».

Але нешта ўжо ўстрывожыла і яго. Ён перабег насып, а там пайшоў цішэй.

Любка трэсла Васіля за грудзі, крычала:

— Сволач, сволач!..

Васіль штурхнуў Любку, яна ўпала на траву і заплакала.

Толькі цяпер Антон паглядзеў на раку, шырокую тут, перад плацінай. Дзеда нідзе не было відаць. Антон спалохаўся. У яго раптам адняло ногі, а ў скроні ўдарыла пругкая гарачынь.

— Бяжым,— крыкнуў Васіль і, схапіўшы Антона, пацягнуў яго за сабой.

Ад гэтага крыку Антон нібы ачнуўся, і ўжо адна думка падганяла цяпер яго — уцякаць. І ён уцякаў не азіраючыся, бачачы перад сабой спіну Васіля. Той бег, кульгаючы на хворую нагу, абутую ў галёш, падскакваў, як паранены звер.

Толькі ў рове, які падыходзіў да самай хаты Вадзянцоў, яны спыніліся і заўважылі, што няма Любкі. Стаялі адзін перад адным, цяжка дыхалі, шырока раскрыўшы рот. Антон пазіраў на Васіля са страхам, як бы чакаў адказу, што цяпер будзе.

— Прыйдзе, нідзе не дзенецца,— нарэшце сказаў Васіль.

І тое, што Васіль сказаў пра Любку, а не пра дзеда, скаланула Антона.

— Трэба людзей гукнуць,— няўпэўнена сказаў ён.

— Хто бачыў? Дурань...

— Можа ён утоп... Знаеш, што будзе?..

— А я скажу, што гэта ты...

Антон падумаў, што Васіль жартуе. Ён хацеў нават сказаць гэта Васілю, але той, жорстка пазіраючы на яго, адрэзаў:

— І скажу, калі станеш рыпацца. Любка за мяне пасведчыць. Маўчаць трэба.

Цяпер Антон зразумеў, што Васіль не жартуе, што так яно і будзе.

— Я ж нічога,— зашаптаў ён.— Я, як і ты...

— Ну і маўчы.

Васіль абняў Антона, павёў, як малога, дахаты.

— А прычындалы нашы ў будане засталіся,— думаючы толькі пра адно, сказаў Антон.

— Забярэш ноччу,— адказаў Васіль.— Яго не хопяцца...

У Антонавых грудзях усё знібела, а ліхаманка пакрысе ахоплівала ўсё цела. Васіль прывёў Антона ў хату, наліў шклянку гарэлкі.

— Пі, а то калоцішся, як заяц.

Антон узяў шклянку, рукой, якая дрыжала, паднёс да рота. Ад гарэлкі пахла ядлоўцам. Пах гэты скалануў яго. Ён паставіў шклянку на стол.

— Не магу...

— А яшчэ хацеў цябе з сабою ўзяць,— сказаў Васіль.

Яны сядзелі моўчкі, як бы чаго чакалі, прыслухоўваючыся да цішыні. «Мне трэба дамоў ісці», — падумалася Антону, але не ставала сілы, каб падняцца.

На дварэ зноў паліў дождж, спорны, аж звінела ў градах націна. Любкі ўсё не было, і нават Васіль пачаў хвалявацца.

— Дзе яе чэрці носяць? — сказаў ён.

Антон прамоўчаў, думаючы над тым, што можа Любка пабегла за людзьмі і тады яму ўжо не выкруціцца. Прыгадаліся матчыны словы, сказаныя сёння раніцай: «Давядзе ён цябе». Словы здаваліся цяпер прарочымі, і Антон шчыра раскайваўся, што пайшоў на рыбалку, ды яшчэ з Любкай. З самага пачатку склалася ўсё як найгорш. Лепей бы ўжо рамантаваў той мост цераз Карчэгу. Дык не. А ўсё Васіль. «Пашлі ты яе»,— сказаў ён Антону пра Насцю.



Нечакана над самай хатай загрымеў гром. Антон уздрыгнуў, перасеў ад акна на кут. Здалося, што гром цэліць па ім.

— На мяне ніякага падазрэння,— сказаў Васіль.— У мяне во нага хворая. Так што табе самы раз маўчаць.

«Я ж маўчу і так»,— падумаў Антон, адчуваючы непераГодны цяжар на плячах.

Прайшло яшчэ з гадзіну. У сенцах пачуліся чыесьці крокі. Абодва насцярожана ўтаропіліся ў дзверы.

У хату мокрая з галавы да ног зайшла Любка. Яна прайшла паўз іх, нібы нікога не заўважаючы, схавалася ў сваім пакоі.

— Ты дзе была? — крыкнуў Васіль і ўжо цішэй спытаў: — Цябе ніхто не бачыў?

Ён адчыніў дзверы — Любка сядзела на ложку. З плацця сцякала на фарбаваную падлогу вада.

— Вось што, Любка,— пачаў Васіль,— трымацца будзем аднаго — мы нічога не бачылі.

Любка ўзняла галаву. Антон убачыў яе жорсткія, поўныя слёз вочы.

— Зараз жа, каб сёння ж паехаў, каб твайго духу тут не было! А не дык сама заяўлю, калі дзед не заявіць.

— Любка, дык ён жыў? — Антону здалося, што ён крыкнуў, хоць сказаў гэта напаўшэпт.

Яна паглядзела на яго тым жа жорсткім позіркам, але нічога не адказала.

— Ты што, выцягнула яго? — спалохана крыкнуў Васіль.

Ён раптам асунуўся на крэсла, потым ускочыў, зняў з шафы чамадан, зачыкільгаў па хаце, шоргаючы па падлозе галёшам. Антон не разумеў, радавацца яму ці не, але адчуў раптам, што небяспека мінула.

— Люба, як жа ты?..— пачаў ён.

— Ідзі, Антон, ідзі. І не падыходзь больш,— сказала Любка і раптам загаласіла, нібы па нябожчыку.

**Чытайце ў бліжэйшых нумарах**

**дакументальную аповесць Уладзіміра ЯКУТАВА**

**«АГОНІЯ»,**

**апавяданні Алеся ЖУКА,**

**Міхася ПАРАХНЕВІЧА, Генрыха ДАЛІДОВІЧА**

● Анатоль ГРАЧАНІКАЎ





●

Знячэўку наляцяць зарніцы
Зноў парнай ноччу на лугі,—
Запахнуць росы, як брусніцы.

І будуць прывідна шляхі
Як бліскаўкі, ляцець у змроку,
Над намі робячы кругі.

Яснець аслепленаму зроку
На раздарожжы і ў цішы.
А думкам — узлятаць высока.

І сонца свеціць, і крыжы,
І ўсё далёкае — няблізка,
Што рана выспела ў душы.

Ляціць трывог-надзей калыска
На захад дзён маіх з усходу.
Дзе вечнага супынку рыска?

Аскомістая асалода:
Хварэць, ачуньваць,— зноўку жыць!
Мінуўшчыне — няма звароту.
А сэрцу ўсё — баліць, баліць...

## Чырвоныя коні

Чырвоныя коні блукаюць у цемры начной.
Прывабна гараць яны цёплымі ліхтарамі.
Туман асядае на грывы ім золкаю сівізной,
Над імі — неба дугою, а зоры — званкамі.
Не зацугляць іх нікому. Ласункаў не возьмуць яны.
Як ластаўкі, вушы шчабечуць, а вочы — ў самоце.
Чырвоныя коні. І чорныя курганы.



І птушкі начныя у зорна-трывожным палёце.
У кожнага конь свой: чырвоны, ці чорны, ці белы.
Хто ведае, дзе ён? Хто скажа, якой жа ён масці?
Рана ці позна, ён прыйдзе, твой конь уцалелы,
Толькі табе ўжо да грывы яго не прыпасці.
Будзе іржаць ён і біць капытамі здзічэла,
Нават калі ты цураўся яго, не карміў.
Ноч і чырвоныя коні. А можа то неба асела,
Хмары на выпас пусціўшы,
Прыпаўшы у стоме да ніў...

●

На досвітку паперай жоўта-сіняй
Кастрычніцкі згарае першы іней
І дыміцца над полем халадок,
Карункамі іскрацца пералескі,
І хмаркі, нібы ў храме вечным фрэскі,
З-пад купала плывуць кудысьці ўбок.

Пратарабаніў з горкі недзе воз,
Шаша за Сожам стомлена вуркоча,
Скрыпіць санліва каля студні вочап,
І цётка Маша выганяе коз.
І над усім вісіць, як недарэчнасць,
Тваё пытанне: «Што такое вечнасць?»

## Адкаласіўся дзень...

Адкаласіўся дзень. Апаў
З расою ў чэрвеньскія травы...
А так хацеў дабра і славы,
Але без вестак ён прапаў.

Наўкол усё было чужым,
Незразумелым і далёкім.
Стаялі стылыя аблокі
Апошнім выдыхам над ім.

Яшчэ ружовіў небасхіл
Лясоў бязважкія кароны,
Ды ўжо хаваліся ў бутоны
Лілеі...
Плакаў дзівасіл...

## Асенні вецер

Закляклы вільготны вецер
Прытулку нідзе не мае.
Вачыма ваўчынымі свеціць
Асенняя ноч нямая.

Спяваць ён і плакаць мусіць.
Надзеі — з сабою дзеліць.
Ніхто яго ў пушчы не ўкусіць,
Ніхто і не абнадзеіць.

І вецер
Рагоча, свішча,
Падае ва ўтрапенні...
Асенняе такавішча
Ці самасуд асенні?

Без бліскавіц і грому
Ка́ра зямлі і неба,—
Калі ты нікому-нікому,
Нікому ў жыцці не трэба.

## Тая ноч...

Тая ноч карацела на нашых вачах.
Свет да раніцы зорамі пах.

Калі бляск іх на плыні згасаў залаты,—
Ты — як промень — ляцела да зорнай вады.

І не скажа нікому ні Сож, ні лаза,
Чаму стала пякучай навокал раса,

Чаму гэткі гарачы на кручы пясок,
Чаму ў небе разліўся малінавы сок.

## Як і тады...

Рамонкі, светлазвонкія, як ноты,
Акорды вецер ціха падбірае.
Чырваналозу рыжыя сумёты
Спаўзаюць у лагчыну. Памірае
Вясновы дзень. У прыцемках прастор
Увесь абсыпан мошкамі, як перцам.
Сутоньваецца ў небе і пад сэрцам,
Але ярчэй святло далёкіх зор.

А ты, Іванаўна, была ці не была?
Па рэчышчы надзеі адплыла
У мора суму. Ты жывеш у ім.
Ні месяца, ні сонца, ні хмурынкі...
Прайшлі кахання раннія зажынкі,—
Крушыны горкай над лагчынай дым.
Маўчы-крычы — ніхто не адгукнецца.
Паводка змыла грэшныя сляды.
У Чорным яры чорны змрок пасецца,
Як і тады... як і тады...





● Мікола ЧАРНЯЎСКІ



## Памылка

Памылка дорага каштуе,
Яна, як цяжкі груз, вісіць.
Яна гадамі мозг свідруе
І ў памяць б'е,
Ажно баліць.

Няма ніякага адхлання
(Калі сумленны чалавек),
Ноч — не заснеш,
А прыйдзе ранне —
Зноў тое ж,
Тое ў галаве.

Хтось часам можа ўгледзець
                                        слабасць,
Неўранаўважанасць тваю,
Бо не сваю —
Памылку сябра
Успрымаеш блізка,
                    як сваю.

●

Буслы пакінулі буслянку —
Часовы свой аэрадром.
Ім, як сігнальшчык, на світанку
Махнула ластаўка крылом.

«Пара збірацца...
Шлях далёкі...»
Узняты дзюбы угару.
Над вёскаю —
                    тужлівы клёкат,
Над ліпай —
                    развітальны круг.

У грудзі вецер пругка ўдарыў,
І ў крылах шаснуў, засвістаў.
Разбегліся чародкі хмарак
Ад крылаў іх,
Як ад вінта.

А ліпа доўга ўслед глядзела
Маўклівым позіркам сваім —
Старая,
        высахла,
                змарнела:
Чакаць,
Праводзіць
Цяжка ўсім...

## *Балада пра зямлю*

Сушыў траншэю бацька шынялём,
Хоць высушыць не меў надзеі,
Размоклая папаха-шлём
На неба ўсімі дзіркамі глядзела.
«Ці хутка сонца выгляне з-за хмар?..»
«Ці ў лазню павядуць,
Дадуць табакі? —
Салдат на пальцы хукаў: — Вошай цьма,
Хоць са штыком на іх ідзі ў атаку».
У чаравікі сочыцца вада,
Даўно сапрэлі мокрыя анучкі.
І немчуры нясоладка, відаць,
Бач, «Рус, выходзь!» гукаюць з-за калючкі.
Знайшлі дурных...
Вылазь...
Глядзіш, «максім»
Ужо наведзены, запраўлен стужкай.
Хаця няўтульна корпацца ў гразі,
Але жывы,
Сам ловіш цэль на мушку.
Ды раптам, нібы гром:
— Таварышы!
Яны такія ж, як і мы... Галота...
І ім вайна абрыдла ўсім...
Пайшлі,
Пагутарым крыху без кулямётаў.
Зірнуў Мікола:
Клікаў іх салдат,
Што ўчора «Праўду» ім прыносіў,
                                        Кменаў...
— Вярнуўся Ленін наш
                        у Петраград,
Чакаюцца на фронце перамены...
Зямля вясною ад дажджоў
Распухла —
Была, як цеста.
Салдат знаёмы ўперадзе ішоў,
Выкрыкваў па-нямецку нешта.
І немцы павылазілі з траншэй
І з гергетаннем па гразі, як гусі,
Да рускіх тупалі...
Бліжэй, бліжэй...
А бацька ўсё яшчэ не верыў, мусіць,
Што праз хвіліну
                    сыдуцца яны,
Падзеляцца махоркаю гаркавай
Салдаты двух франтоў,
Адной вайны,
Крыві адной,
Ды не адной дзяржавы.
...Мікола зноў капшук свой развязаў,
А Курт нагнуўся долу —
І халодны
Камяк суглінку у далоню ўзяў:
— Зямля,— па-руску вымавіў
                                журботна.
І ў сэрца штось кальнула ў той жа міг,
Балюча стала,
Памакрэлі вочы...
Зямля чакае
            сейбітаў сваіх,
Яны ж ваююць,
Хоць вайны не хочуць.
І неяк запрыціхлі ўсе,
Апалыя ўздыхнулі грудзі.
— Дык што ж, браточкі,
Мусіць, пакрысе
Зноў па траншэях разбрыдацца будзем...
Ішоў Мікола,
Крыссе шыняля
Мятлялася анучай рыжаватай.
...І адтавала
            ўсё глыбей
                    зямля,
І адтавалі
            сэрцы у салдатаў.
. . . . . . . . . . .
А дзесь у Піцеры
Парою гэтай
Чырвона спелі
Леніна дэкрэты.

●

Ёсць край...
Ён не за сінім акіянам,
Туды дарогі
Светлыя бягуць.
Яму душой на ўсё жыццё адданы,
Жыць без яго
Ніколі не змагу.
Вачмі азёр,
        крыніцаў
                і рачулак
Ён на мяне і ўдзень і ўноч глядзіць.
Бары яго плячыстыя
                    прачула
Са мной гатовы карагод вадзіць.
Ён верасам сінее на узлессях,
Ён — край блакіту,
                сонца,
                    чысціні.
Ён напрадвесні
Жаўруковай песняй
У сэрцы маім радасным звініць.
Улетку — коласам,
А ўзімку — завірухай
Ён у бяскрайнім полі шалясціць.
І люба мне
Яго гамонку слухаць,
І люба мне
Яго шляхамі жыць.
Хай іншым сняцца
Пальмы і ліяны,
Хай іншых моры
                у палон бяруць,
Я ж краю аднаму
                навек
                    адданы,
Той край —
Мая радзіма,
            Беларусь!

● Сяргей ГРАХОЎСКІ

● Мал. У. ПАШЧАСЦЕВА



# СУВЕНІРЫ

НЯВЫДУМАНЫЯ НАВЕЛЫ

а ад’езду аставалася тры дні. Афармлены дакументы, зроблены прышчэпкі, куплены паста, мыла і сігарэты.

Што яшчэ трэба? Самае галоўнае — сувеніры. Але дзе знайсці такія, каб узрадавалі будучага знаёмага, што сустрэнецца недзе на далёкіх дарогах? Арыгінальныя, прыгожыя і танныя сувеніры адразу не знойдзеш. Але трэба шукаць. Размаляваных бярозавых лыжак і матрошак за апошнія гады турысты вывезлі за мяжу, напэўна, некалькі вагонаў. І ўсё мала.

Што б падараваць такое, каб будучаму добраму другу было прыемна ўспомніць не толькі цябе, колькі тваю краіну, умельства і талент тваіх землякоў, дабрату і шчырасць народа, што паслаў цябе ў адведзіны да блізкіх і далёкіх суседзяў?

От і бегаў, шукаў, выбіраў, купляў. Потым шчодра раздорваў цікавым людзям, з якімі выпадкова зводзіў лёс, каб пасля ўжо, мабыць, ніколі больш не стрэцца. Як прыемна дарыць, як добра прыносіць людзям радасць!

Ці берагуць яны сувеніры? Ці помняць тую сустрэчу? Не ведаю. А мне многія яны запомніліся і не забываюцца з гадамі. Успамінаецца рэч і чалавек, якому яе падарыў. І ў кожнага сувеніра свая маленькая гісторыя. Можа некаторыя варта расказаць?

Прыгадалася першае знаёмства ў Капенгагене, каля славутага фантана.



## ГЕФІОН

Данія сустрэла нас імжою і туманам. Адзінокая Русалачка з абымшэлага каменя глядзела журботна і задуменна. Яна прыйшла сюды з Андэрсэнаўскай казкі, і капенгагенцы ўжо не ўяўляюць прычал, свой горад і сябе без пазелянелай ад салёных пырскаў бронзавай дзяўчынкі, што сустракае і праводзіць караблі, аднолькава зажураная і самотная. Калі нейкія злачынцы адпілавалі і ўкралі русалчыну галоўку, капенгагенцы адзелі жалобу. Аднавілі скульптуру — у горад прыйшла найвялікшая радасць. Нібы адбыўся найвялікшы цуд: Русалачка ўваскрэсла. Мірны і таленавіты народ часцей за ўсё стаўляе помнікі любімым казачным героям. На спатканне да іх ходзяць з маленства да старасці. Мяняюцца каралі, а помнікі астаюцца. Русалачка дорыць кожнаму радасць найчысцейшай прыгажосці і трошачкі шчымлівай тугі па некім дарагім і далёкім, каго чакаеш і не можаш дачакацца.

Не бачыць у Капенгагене Русалачку тое самае, што не ўбачыць у Рыме Калізей, у Ленінградзе — Ісакій, у Маскве — Васілія Блажэннага. Таму на Лангелініі зранку да ночы гудуць і пстрыкаюць фотакамеры, і па свеце разыходзяцца мільёны здымкаў безнадзейнай у сваім вечным чаканні бронзавай дзяўчынкі.

Да порта падыходзяць шырокія вуліцы ў таполевых прысадах. Але на вуліцах няма ніводнага чалавека. Куды ж дзеліся людзі? Дзе сталічная мітусня, шастанне колаў і гул машын? Капенгаген як вымер. На пустой плошчы нас чакаюць турысцкія аўтобусы, каля іх шпацыруюць адпрасаваныя і начышчаныя шафёры. Вось і наш гід — сухарлявая, у вялікіх рагавых акулярах і чырвоным берэце — мадам Эма Фок. Яна заўважыла наша здзіўленне.

— Не дзівіцеся. Так, горад пусты. Ён апусцеў у пятніцу з вечара: усе капенгагенцы за горадам, на дачах, на рэчках, у лясах і ў вёсках. І так кожны выхадны. Сёння к вечару зноў закіпіць жыццё. Пабачыце самі. А цяпер прашу прайсці крокаў дзвесце. Наш аўтобус падыдзе туды.

Мы ледзьве паспявалі за даўно немаладой, падобнай на колішнюю класную даму, мадам Фок. Звярнулі направа і выйшлі на невялікую плошчу, акружаную старымі разгалістымі таполямі, усыпанымі грачынымі гнёздамі. Несціханы грай і лапатанне крылаў неспакойных птушак нагадвалі нашу, але блакітнейшую і ласкавейшую вясну. Тут пахла тапалёваю смолкаю і свежым марскім ветрам. Пасярод плошчы аж страляў, шумеў і клекатаў агромністы фантан, хвалі білі і заварочваліся, як барозны свежай раллі. Над імі згіналіся дужыя шыі чатырох напружаных у апошнім рыўку буйвалаў. Здавалася, трымціць кожная жылка, падломліваюцца ногі, з ноздраў, як пара, б’юць тонкія струмені вады. Адзін лабатую галаву ўвагнуў да самых капытоў, другі да хрусту напяў пастронкі і завярнуў крутую шыю, сярэдні, трэці, ад напружання аж вырачыў вочы. Здаецца, яшчэ рывок — і яны паляцяць у кіпень вады. За плугам — статная, як антычная багіня, маладая жанчына. Уся яна — напружанне і рух. Высока ўзняты тонкі бізун захліснуўся на спіну магутнай аратай. Здаецца, зараз засвішча і перацягне па чатырох крутых буйвалавых спінах. Вадзяныя скібы баразён з шумам выкочваюцца з-пад сахі і знікаюць у вялікім басейне.

— Гэта Гефіон — багіня ўрадлівасці, — тлумачыць наш гід. — Данія размясцілася на чатырохстах камяністых астравах, адваяваных у мора. Спрадвеку існуе легенда: Гефіон пачала прасіць бога, каб даў

ёй хоць трохі зямлі. «Усё, што ты заарэш за адну ноч, будзе тваё», — адказаў Саваоф. Тады Гефіон ператварыла сваіх сыноў у буйвалаў, запрэгла іх у саху і арала да самага світання. Што яна паспела ўзараць, стала Даніяй. Таму многія датчане казачную жанчыну шануюць болей за самога бога.

Непадалёк нехта гучна запляскаў у далоні. Мы ўбачылі нізенькага дзядка ў доўгім белым халаце, у шапцы з белым верхам і з чорным бліскучым казырком. Ён стаяў каля трыногі са старым пашарпаным дагератыпам, глядзеў угару і камусьці гучна апладзіраваў. Паглядзелі і мы ў той бок. На стромкай вежы гарадской ратушы з адчыненага акенца павольна выязджала на веласіпедзе маленькая пазалочаная жанчына. Ёй і апладзіраваў стары фатограф.

— Пазалочаная веласіпедыстка абяцае сёння ясную пагоду, вось і радуецца стары Б'ерне, што будзе сонца і будзе ў яго работа, — тлумачыла мадам Фок. — А з'явіцца жанчына з парасонам, чакай туману і дажджу. Пазалочаная веласіпедыстка радуе нас не вельмі часта, таму і шчаслівы сягоння стары фатограф: будзе свежая капейка. Ён тут заўсёды сустракае і праводзіць турыстаў. Зрабіце і вы яму ласку.

У кожнага з нас напагатове свой фотаапарат, але ўсё ж трэба ўважыць гэтаму мядзведзяватаму старому. Ён бачыць, што ідзём да яго, мітусіцца каля сваёй дапатопнай «гарматы», закладвае касету, ідзе насустрач, здымае шапку і пачціва кланяецца нам. Адны гавораць яму «бон жур», другія «гутэн таг». На гэтым вычэрпваецца наша веданне еўрапейскіх моў.

— О-о, Москва! Страстуйте! — засвяціўся ўсмешкаю стары, забегаў, як самы ўвішны рэжысёр, ставячы нас перад сваім дагератыпам. Зірне ў апарат і зноў бяжыць — некага просіць пасунуцца, некага — прысесці. Потым падняў руку — сапраўды, як перад стрэлам з гарматы.



Пакуль Б'ерне праяўляў здымкі, я да яго халата прышпіліў маленькі значок Леніна, жанчыны дарылі нейкія дробязі, мой сусед па каюце даў пачак цыгарэт «Беларусь». Б'ерне вельмі шчыра дзякаваў нам і нешта казаў перакладчыцы.

— Хвіліначку, панове, — затрымала нас мадам Фок, — маэстра мае нешта вам сказаць.

Б'ерне падышоў бліжэй. На яго прыпухлых шчоках выступілі дробненькія сінявятыя жылкі, ён набраў паветра і бязгучна заварушыў вуснамі, потым загаварыў ціха, нават трошкі таямніча:

— Калі мне было чатырнаццаць гадоў, я разносіў ранішнія газеты. Кожны дзень на вуліцы Вестэбро мне сустракаўся невысокі мужчына ў чорным кацялку, з парасонам у руках. Ён заўсёды весела мне махаў парасонам і купляў цэлы пачак ранішніх газет. Калі ён тут пасяліўся, я пачынаў свой абход з Вестэрбро: пачак адразу меншаў, лягчэй было яго насіць. Але аднойчы мужчыну ў кацялку я не сустрэў. Думаў, можа захварэў ці дзе затрымаўся. Не было яго на другі і на трэці дзень. Здавалася, я нешта вельмі важнае страціў, але абход пачынаў усё з тае вуліцы. Так больш ніколі і не сустрэў яго на Вестэрбро.

Праз сем гадоў увесь свет загаварыў пра вашу Расію. Я ўжо не насіў газеты — рабіў сямейныя фатаграфіі, віньеткі, кабінетныя партрэты. І купляў тую ранішнюю газету. Разгарнуў аднойчы — і вачам не паверыў: з першай старонкі глядзеў мой былы пакупнік, трошкі пастарэлы і стомлены. Гэта быў ваш прэм'ер. Ё-о-н... — Б'ерне адхінуў шліфт халата і паказаў значок. — Каб я тады ведаў, хто ў мяне купляў газеты... — ён цмокнуў і прыклаў руку да шапкі. Мы заапладзіравалі, а стары пакланіўся, як артыст, сыходзячы са сцэны. Усе доўга і горача развітваліся з ім.

— Няўжо гэтая сустрэча была запланавана для нас? — спыталі мы ў мадам Фок.

— Я хацела вам толькі паказаць Гефіон, а што Б'ерне сустракаўся з Леніным, сама пачула ўпершыню.

На змярканні мы пакідалі Капенгаген. Наш цеплаход, расквечаны ўсімі агнямі і сцягамі, праводзіў вялізны натоўп датчан: гаманілі, нешта вясёлае крычалі, махалі капелюшамі і хустачкамі. У святле пражэктараў, здавалася, Русалачка сышла ў ваду і журботна глядзіць нам услед.

Калі пачаў аддаляцца прычал, нехта зайграў на трубе «Інтэрнацыянал». Гэтае сола ў паўночным каралеўстве гучала мацней за самы магутны аркестр.

Над намі было зорнае неба, пад намі — зорнае мора, наперадзе чакалі новыя краіны і сустрэчы.

Праз два гады пасля падарожжа я разгарнуў свежы нумар «Недели» і на здымку адразу пазнаў аднапавярховы дом каля фантана Гефіон. Пазнаў і фатографа, у халаце і ў шапцы з белым верхам. Карэспандэнт расказваў пра дацкую сталіцу і, зразумела, не мог абмінуць старога Б'ерне.

Апошнія радкі нарыса балюча ўразілі нечаканай навіною: «У той апошні дзень, калі з вежы ні разу не паказалася пазалочаная дзяўчынка, калі над горадам імжыў дождж, фатограф прастудзіўся і злёг. Ён так болей і не падняўся».

Я ўявіў апусцелую плошчу Гефіон. Ніхто цяпер не сустрэне воплескамі залатую веласіпедыстку на вежы гарадской ратушы, ніхто каля фантана не прывітае турыстаў.

Я адшукаў картку, на якой быў зняты стары Б'ерне.

Яна доўга стаяла на маім стале.

# ЛОРДУ НА ЎСПАМІН

Лонданскае Сіці пусцее, як толькі зачыняюцца канторы і банкі. Банкаўскія будынкі без вокан, і лонданцы жартуюць: «Бачыце, нам усім не давяраюць». Толькі ў самым пачатку змрочнага Сіці стаіць прысадзісты дом з вясёлаю неонаваю рэкламаю. Над уваходам пагойдваюцца кантовыя ліхтары часоў Дзікенса, за дзвярыма стаяць жалезныя рыцары з апушчанымі забраламі і жывы лёкай у стракатай ліўрэі. Ён з прафесійнай ветлівасцю запрашае заходзіць, а рыцар, здаецца, зараз сцісне за плячо цяжкаю металічнаю далонню і спытае: «А табе чаго тут трэба?»

Шмыгаем каля рыцараў і ў люстранай сцяне пазнаём сябе ў пярэстым натоўпе, падвоеным і патроеным суцэльнымі люстрамі.

Карпарацыя «Мекка» трымае дзесяткі такіх залаў і па заказах забяспечвае прыёмы, банкеты і вечары любога маштабу, кошту і на любым узроўні. Сёння таварыства «Вялікабрытанія — СССР» прымае восемсот савецкіх турыстаў. Зала, велічынёю з добры ангар, застаўлена сталамі з віном і закускамі.

Да пачатку прыёму застаецца хвілін дзесяць. Блукаем па фае, калідорах і пераходах. Гучаць розныя мовы, але скрозь — зразумелыя ўсмешкі, а часам і змрочныя закамянелыя пагляды. Каля люстра спыняецца тоненькая чарнявая дзяўчынка і папраўляе пышныя валасы. Я прыглядаюся да яе і, каб згладзіць сваю не зусім далікатную цікаўнасць, падаю некалькі каляровых паштовак. Не ведаючы ні слова паанглійску, мармычу нешта накшталт «Біттэ, мадмуазэль» і чырванею да вушэй.

Яна ўважліва разглядае паштоўкі, ветліва ўсміхаецца і гаворыць вельмі зразумелае:

— Балшой спасып. Какой замэчательны илюстрацый к сказкам Пафел Бажоф. Это «Хосяйка метная гора». Я ошэнь рат такой... как это по-руски... прэзэнт.

— О, дык вы добра гаворыце, — здзіўлена лыпаю вачыма. Хвіліну назад я быў упэўнены, што яна нічога не разумее і ледзь нешта не ляпнуў пра яе.

— Нэт, я ошэнь плёхо снаю руский. Основной у менья французский и немецкий, руский исучаю факультатыфно только третий гот. Ошень люблю читать Тольстой, Шолёхов, Достоевский, Паустовский, Твартовский.

— У арыгінале? — здзіўляюся я.

— Конешно. Только оригиналь, — і зноў залюбавалася ілюстрацыямі да казак Бажова. Да нас падышлі мае знаёмыя і папрасілі тоненькую студэнтку сесці за наш стол. Яна згадзілася быць нашай перакладчыцай з умовай, што мы будзем папраўляць яе вымаўленне.

Сталы застаўлены пірожнымі, жэле, нейкімі салодкімі прысмакамі. Не ведаем, чакаць ці можна есці. Мы ж прывыклі пачынаць з селядца або салёнага агурочка.

Малады барадаты журналіст у выцертай аксамітнай куртцы апаражняе талерачку за талерачкай. Добраахвотная перакладчыца місіс Сэсілія заўважыла нашу нерашучасць і пачала нас частаваць фруктовым джэмам. Я гляджу ў агромністую залу: сотні і сотні мужчын і жанчын шчыльна сядзяць за сталамі, гамоняць, смяюцца, ядуць, патанаюць у воблаках цыгарэтнага дыму і здалёк здаюцца маленькімі-маленькімі. Міжвольна падумалася: «Калі ж тут накормяць такую сілу народу?»






Да нашага стала падбег чарнявы і гнуткі, як лазіна, афіцыянт. Над галавою, як у цыркавога жанглёра, на трох пальцах круціўся вялізны паднос. Двума відэльцамі, як абцугамі, ён хапаў кавалачкі мяса і раскладаў на талеркі. На кофтачцы аднае нашай турысткі ён убачыў маленькі брэлок з дзвюма матрошкамі, падбег да яе, пачаў выгінацца і прасіць «Сувенір! Матрушка! Матрушка!» Праз хвіліну «Матрушка» ўжо целяпалася на пінжаку ўвішнага афіцыянта. Ён назваў сябе: «Анджэло. Італьяно».

Мы пацікавіліся, як ён сюды трапіў і колькі гаспадар яму плаціць за такую віртуозную работу.

— Вы, мабыць, хочаце спытаць, колькі я плачу гаспадарам, — здзівіўся Анджэла.

Тады мы нічога не зразумелі: як гэта — працаваць і яшчэ плаціць за сваю работу? Анджэла пачаў тлумачыць:

— Я прыехаў з Неапаля вучыцца ў інстытут. Але трэба плаціць за навучанне і асобна — за здачу кожнага экзамена. Праваліўся — плаці зноў. Плаці за кніжкі ў бібліятэку, наймай прытулак. Вось і пайшоў у афіцыянты. Жыву з «чаявых». Пятнаццаць працэнтаў з іх трэба аддаваць гаспадару, што дазволіў працаваць у яго рэстаране.

Анджэла сабраў стос талерак і знік, а калі вярнуўся з чарговым падносам, мы пачалі расказваць, што ў нас студэнты вучацца за дзяржаўны кошт, атрымліваюць стыпендыю, бясплатна карыстаюцца ўсімі бібліятэкамі горада, жывуць у інтэрнатах і... правальваюцца бясплатна. Анджэла замахаў рукамі:

Едучы ў Бюхельбург, мы моўчкі цешыліся сонечным жнівеньскім днём. Тры гады назад інспектар пахаваў жонку, і цяпер яго хатняй гаспадаркай займалася далёкая сваячка. Жыццё яго апошні час, відаць, было даволі бязрадаснае. Лепш за ўсё ён, памойму, адчуваў сябе на рабоце.

Машына наша апынулася ззаду вялізнага грузавіка. Фаўльхубер пераключыў счапленне на трэцюю хуткасць і запаліў цыгару.

— Калі Клейдэрэр сапраўды ў ад'ездзе,— разважаў ён сам з сабой,— значыць, гэта не ён зрабіў. Але, магчыма, спачатку ён наехаў на помнік, потым даў цягу.

— Напрыклад, баяўся, што ў яго адбяруць вадзіцельскія правы,— уставіў я.

— Альбо таму, што алкаголю ў яго крыві было на некалькі тысячных больш, чым дазваляецца.

— Але гараж узламаны, значыць — крадзеж.

— А можа гэта для таго, каб увесці нас у зман.

— Надта ўжо вытанчана,— я пакруціў галавой.— Вясковы чалавек да такога не дадумаецца.

Фаўльхубер выпусціў струмень дыму на ветравое шкло — убачыў, што можа перагнаць грузавік. І, удала яго аб'ехаўшы, сказаў:

— Вы дрэнна ведаеце баўэраў. Што можа прыйсці ім на розум, ні ў якія вароты не лезе.

Пасля вайны, у час якой, аж да апошняга дня, Фаўльхубер служыў обер-яфрэйтарам, ён цэлы год працаваў на зямлі. У Штутгарце, адкуль, між іншым, ён паходзіў, і каменя на камені не засталося ад яго двухпакаёвай кватэры: авіяцыйная бомба з Мінесоты ці з Арканзаса разбурыла будынак, як картачны домік, і Фаўльхуберу давялося шукаць прытулку ў аднаго баўэра, які наняў яго за трыццаць марак у месяц і даў начлег на вышках у стайні. Тады ён і набраўся такіх-сякіх ведаў у галіне паляводства і жывёлагадоўлі. Цяпер яны, вядома, безнадзейна ўстарэлі. Але ў сялянскай хітрасці і прыроднай кемлівасці інспектар, здаецца, добра разбіраўся. Калі мы праехалі міма жоўтага шчытка з надпісам «Бюхельбург», ён пачаў расказваць мне пра чалавека, які кожны раз, як прыходзіў тэрмін запаўняць падатковую дэкларацыю, спускаў паветра з колаў трактара і праводзіў сваю транспартную адзінку па рубрыцы «У цяперашні час непрыдатнае да эксплуатацыі».

Я слухаў яго адным вухам, таму што мы ўжо ехалі па галоўнай вуліцы, якая вяла да рыначнай плошчы. Гарадок спадабаўся мне з першага позірку. Хоць я жыў у Ландау чатыры ўжо гады, мне ні разу не даводзілася быць у Бухельбурзе.

Фаўльхубер зрабіў апошні паварот, і мы выехалі на плошчу. Вось разбіты помнік і паламаны «мерседэс». Месца здарэння яшчэ абступалі дзеці. На цокалі помніка сядзеў чалавек у чыгуначнай форме, а да агароджы была прывязана каза. Усё выглядала неяк нерэальна, гратэскава, быццам у старым кінафільме.

Фаўльхубер падруліў да канцылярыі бургамістра. Мы выйшлі з машыны і падняліся на ганак. У пачатку цёмнага калідора вісела эмаляваная таблічка: «Гарадская паліцыя».

Обер-вахмістр Бесельман не пачуў, як мы пад'ехалі,— відаць, задрамаў. Убачыўшы нас, ён страпянуўся, выцягнуўся перад намі і, у знак прывітання, прыклаў руку да галавы, што было вельмі камічна, бо з неспадзеўкі ён забыўся надзець шапку.

Фаўльхубер махнуў рукой:

— Не трэба,— і падаў Бесельману руку.— Як маецеся? Даўно не бачыліся, так? Апошні раз сустракаліся на спартыўным свяце паліцыі. Вы былі ў камандзе, што выступала супраць нас, калі мераліся сілай — хто перацягне канат.

— ...і, натуральна, прайграла,— закончыў я.

Інспектар пакасіўся на мяне. Ён не любіў, калі адразу паказваюць сваю перавагу.

— Раскажыце нам, што тут у вас, уласна кажучы, адбылося,— папрасіў ён Бесельмана.— Па тэлефоне ніколі ўсяго добра не зразумееш.—Інспектар падсунуў да сябе крэсла і сеў за стол, на якім кучай ляжалі нумары «Ландаускага весніка» і некалькі афіцыйных бланкаў.

Мы з обер-вахмістрам таксама селі.

Бесельман расказваў крыху занадта падрабязна і даволі суб'ектыўна. Здавалася, што здарылася нешта вельмі незвычайнае і толькі дзякуючы доблесным дзеянням бюхельбургскага вахмістра ў горадзе цяпер пануе парадак.

Я занатоўваў яго словы ў блакнот. Фаўльхубер раз-пораз нецярпліва ўздыхаў і нарэшце прапанаваў пайсці агледзець месца здарэння. Бесельман падняўся з крэсла і начапіў на партупею нейкую бясформенную кабуру.

Утрох мы пайшлі ў цэнтр рынку. Бесельман некалькі разоў спрабаваў прагнаць адтуль дзяцей, але як толькі ён паварочваўся да іх спіной, яны зноў акружалі нас. Усунуўшы галаву ў адчыненыя дзверцы, інспектар уважліва агледзеў машыну. Але нічога важнага не заўважыў. На прыборнай панелі ціхенька цікаў гадзіннік, які вытрываў гэтую аварыю.

Я ўзяў з нашай службовай машыны рулетку, крэйду, кардон і ўзяўся за справу. Перш-наперш змераў след тармажэння і вугал наезду, пасля праверыў ціск у шынах і агледзеў пашкоджанні, якія атрымала машына. Звычайная працэдура. Бесельман памагаў мне, як мог. Час ад часу адганяў цікаўных дзяцей.

Інспектар Фаўльхубер тым часам гутарыў з чалавекам у чыгуначнай форме. Сеў на цокаль помніка побач са старым і прапанаваў яму цыгару. Абодва выпускалі ў блакітнае неба белыя кольцы тытунёвага дыму.

— Вы, значыць, і ёсць Мойзле Альфрэд,— гаварыў Фаўльхубер,— які першы, так сказаць, выявіў няшчасце. Да таго ж вы ахвяравалі сваім каштоўнейшым часам на ахову гэтай чортавай калясніцы. Вельмі ласкава з вашага боку, вельмі, вельмі ласкава. Казе ж вашай даўно ўжо час пасвіцца на лузе, так? Колькі ж яна літраў дае?

Былы чыгуначны вартаўнік пачухаў патыліцу: казу доіць яго жонка, і ён мала што ведае пра казінае малако.

— Дробязь,—суцешыў яго інспектар.— А калі вы летам выводзіце яе на пашу?

— Роўна а шостай. Трэба ж яшчэ і гарод палівадь.

— І сёння таксама?

— А як жа! Яшчэ жонцы сказаў, што дзень пагодлівы і казу можна цэлы дзень патрымаць на выгане.

— А потым, калі ішлі па плошчы, вы і ўбачылі разбітую машыну і павалены помнік. А ці заўважылі вы яшчэ што-небудзь такое? Ну чалавека, напрыклад, які ўцякаў?

— Не, не бачыў.— Мойзле зноў пачухаў за вухам.— Толькі вадзіцель аўтобуса ішоў цераз рынак, але і ён нікога не бачыў.

Інспектар перамяніў тэму:

— Значыцца, гэта — машына пана Клейдэрэра? Вы яго ведаеце?

Стары кіўнуў галавой:

— Як жа ж не ведаць! У школу разам хадзілі, Клейдэрэр гэты і я. Цяпер ён не пазнае мяне, калі раз'язджае па наваколлі на сваёй машыне. Але зараз яму прыйдзецца нямала пахадзіць пешa. Тугавата давядзецца гэтаму Готхальду з яго тоўстым пузам.

— Вы яго недалюбліваеце?

— Што вы! — стары загаварыў хутчэй:— Яшчэ чаго! Ён жа самы багаты чалавек у мястэчку, кіраўнік нашых баўэраў.— Ён на імгненне запнуўся, потым сказаў: — Пры Гітлеры ён жыў прыпяваючы і цяпер зноў у абшчыннай радзе. Хвалько, якіх мала, і на людзей лаецца, калі пад мухай, вось што мне не падабаецца. А так што!

Нейкі момант Фаўльхубер маўчаў, мусіць, абмазгоўваючы гэты дыпламатычны адказ, потым запытаў:

— Значыць, ён прыкладаецца да бутэлькі?

— Не прыкладаецца, а жлукціць — не адарваць. Усе вам гэта скажуць.

— І п'яны раз'язджае на машыне?

На твары ў Альфрэда Мойзле адбілася нейкая вясёлая міна. Ён пачаў расказваць гісторыю пра ўдаву Пікалейт і яе вазок. Обер-вахмістр перабіў старога.

— А хто, пан Мойзле, на вашу думку, наехаў машынай на помнік?

— Готхальд гэты, хто ж яшчэ?

— Але пана Клейдэрэра, здаецца, два ўжо дні няма ў Бюхельбурзе. Нехта ўзламаў яго гараж, як паведаміў мне пан Бесельман.

— Можа і так. Готхальда цяпер няма ў Бюхельбурзе.

— Значыць, вы ведаеце, што ён паехаў?

— Я нічога не ведаю! Адкуль? Ён жа мне не дакладвае,— Альфрэд Мойзле паціснуў плячамі.

Фаўльхубер сцёр насоўкай пот з ілба.

— Каб так было, усё было б ясна,— прамармытаў ён і, крэкнуўшы, устаў.

Тым часам я начарціў план месца аварыі, адзначыўшы на ім усё галоўнае.

— Абследуйце машыну наконт адбіткаў пальцаў,— загадаў мне Фаўльхубер.— А мы з Бесельманам пойдзем да пані Клейдэрэр. Як толькі вы тут скончыце, можаце пад'ехаць туды на машыне.

— На гэтай? — здзівіўся я.

— Што вы! Вядома, на нашай.

— Слухаюся, шэф! — сказаў я, бо ведаў, што інспектар не любіць гэтага слова. Але і мне было мала радасці шукаць адбіткі пальцаў у машыне, якую няшчадна паліла жнівеньскае сонца.

Інспектар і обер-вахмістр пайшлі праз рыначную плошчу. За імі пацягнуўся Альфрэд Мойзле. Каза ўпіралася і так жаласна меркятала, што сэрца заходзілася. Відаць, здорава прагаладалася.

Між іншым, я таксама.

Але пра яду не было часу думаць. Я агледзеў унутранасць машыны — усё было сцёрта, альбо так залапана рукамі, што нічога нельга было разабраць. Аднак некалькі адбіткаў я ўсё ж знайшоў — загад Фаўльхубера быў выкананы. Скончыўшы, я спытаў у дзяўчыны з бялявым конскім хвастом на галаве, дзе жывуць Клейдэрэры, і яна ахвот-

на паказала мне дарогу і нават узялася суправаджаць мяне, але я палічыў за лепшае ехаць адзін, бо, між намі, яна ўжо вырасла ў паненку, і мне не хацелася трапіць на язык бюхельбуржцаў.

Сядзіба Готхальда Клейдэрэра стаяла на водшыбе ад гарадка, каля падножжа гары, на якой доўгімі радамі рос вінаграднік. Высокая каменная агарожа, што акружала дом, хлеў, павець і гараж былі нядаўна пафарбаваны. У акуратным чысценькім кветніку цвілі размарыны, альпійскія ружы і цюльпаны. Шырокая, з габляваных дошак брама была зачынена. Я тройчы націснуў на кнопку, і мне адчыніў сам інспектар. Прасторны двор быў выбрукаваны цёмна-чырвоным клінкерам, і толькі ў левым далёкім кутку, дзе два нізкія будынкі ўтваралі нешта накшталт тупіка, расла трава. Там я ўбачыў жанчыну гадоў пяцідзесяці ў доўгім рабочым халаце і хустцы.

— Гэта пані Клейдэрэр,— сказаў мне Фаўльхубер.— Муж яе, відаць, сапраўды ў ад'ездзе. Як справы з адбіткамі пальцаў? Што-небудзь ёсць?

Я паціснуў плячамі і коратка расказаў, што мне ўдалося знайсці. Інспектар нешта сярдзіта прабурчаў сабе пад нос, быццам гэта няўдача парушыла ўсе яго планы.

Мы ўсё яшчэ стаялі ля варот, і Фаўльхубер ціха расказваў мне, што ён тым часам даведаўся:

— Пані Клейдэрэр сцвярджае, што сёння раніцой гаварыла па тэлефоне з мужам. Нібыта ён начаваў у свайго знаёмага ў Нюрэнбергу, а прыехаў туды ўчора пасля поўдня. Вунь тыя дзверы ўзламаны,— інспектар паказаў рукой у другі канец двара, і я ўбачыў, што каля гаража стаіць Бесельман.— Зрэшты, зроблена даволі па-дылетанцку, так сказаць, больш сілай, чым умельствам. Машыну вывелі з гаража і ўгналі.

— Вароты ж цэлыя,— здзівіўся я.— Як жа выехалі з двара?

— Знаёмая музыка! Людзі ўсё старанна замыкаюць, часта на два ці тры замкі, толькі вароты зачыняюць простай засаўкай. Варта толькі пералезці цераз агарожу і адсунуць засаўку.

— І ніхто нічога не чуе? Такая брама, як гэта, каб яна не зарыпела, ужо не кажу пра грукат, калі выломлівалі гаражныя дзверы.

— Пані Клейдэрэр спіць у пакоі, вокны якога выходзяць на дарогу, а абодва работнікі жывуць у мястэчку і там начуюць.

— Я не зусім разумею,— сказаў я,— з замкнёнага гаража крадуць машыну дзеля таго толькі, каб крыху праехацца... Такое вядома, бывае. Часцей за ўсё так робяць хуліганы, якім карціць пакруціць баранку. Але яны крадуць машыны, што стаяць на дарозе без шафёраў. Гэта прасцей. Ці не сам усё ж такі Клейдэрэр... Ён аматар выпіць. Вы ж самі казалі, што крадзеж з узломам можна інсцэніраваць, каб не адабралі вадзіцельскія правы.

— Не,— запярэчыў інспектар.— Здагадка мая была недарэчная. Цяпер я амаль перакананы, што машыну ўкралі.

— Ці пакінуў злачынец сваю візітную картачку?

— Пойдзем! — Фаўльхубер узяў мяне за локаць і павёў праз двор.— Вы ж крыміналіст, так? Тады агледзьце месца злачынства. Перш чым пазваніць нам, Бесельман загадаў пані Клейдэрэр нікога на двор не пускаць, каб не сцерці слядоў, і яна паслухалася яго.

Я павітаўся з жанчынай у сялянскай хустцы. Перш чым адказаць на маё прывітанне, яна збянтэжана правяла рукой па сваёй рабочай робе. Відаць, пан Клейдэрэр не вельмі траціўся на сваю лепшую палавіну.

Я ўсё грунтоўна агледзеў. Краем вока Фаўльхубер сачыў за маімі дзеяннямі. У шырыню гараж быў каля трох метраў, у даўжыню — каля пяці. На палічках уздоўж пярэдняй сцяны стаялі толькі два пустыя бачкі для масла і ляжалі брудныя анучы. Да левай сцяны, амаль пасярэдзіне яе, была прыстаўлена старая пакрышка. Драўляныя дзверы гаража былі добротныя, моцныя. Нехта ўзламаў замок. На рэйцы, што пры зачыненых створках прыкрывае стык, віднелася ўмяціна ў дзесяць міліметраў шырыні — у гэтым месцы ўзломшчык, пэўна, усунуў нейкую жалязяку.

Інспектару здалося, што я вельмі маруджу.

— Агледзьце ж след ад скатаў!—гукнуў ён нецярпліва.

Як я ўжо сказаў, у тупіку, які з аднаго боку быў абмежаваны гаражом, з другога — нейкім гаспадарчым будынкам, а ззаду — каменнай агарожай, расла трава — свежая, зялёная, не вельмі высокая. На ёй добра відаць былі адбіткі пратэктараў. Адзін след вёў з гаража наўскасяк управа і канчаўся амаль ля самай сцяны гаспадарчага будынка, другі ішоў улева ад дзвярэй гаража, губляючыся на клінкерным бруку двара.

— Ясна,— сказаў я,— спярша машыну вывелі з гаража ў адзін бок, але сцяна перашкодзіла. Тады падаліся назад і развярнулі машыну.

Інспектар і брывом не павёў, і я не ведаў, ці задаволены ён маім заключэннем.

— А ці ведаеце вы, што гэта значыць? — нарэшце спытаў ён.

Я здагадваўся, што ён мае на ўвазе, але лічыў, што лепей маўчаць: Фаўльхубер не любіць, калі яму псуюць урачыстыя выхады на сцэну. Ён адразу ж выпусціў ката з мяха:

— Злачынец не ведаў, альбо не вельмі добра ведаў, гэтае месца. У дадатак было цёмна, а машына, як заўсёды, стаяла заднімі коламі да дзвярэй гаража — пра гэта гаворыць пакрышка, якая спецыяльна прыстаўлена да сцяны, каб левыя дзверцы не стукалі па ёй. Выязджаючы з гаража, злачынец не ведаў, што тупік не такі шырокі, каб у ім развярнуцца. Калі ж убачыў, што гэтага зрабіць нельга, ён зноў уехаў у гараж і выруліў з яго ў другі бок. Той, хто ведае, як уязджаць у гараж, ніколі так выязджаць з яго не будзе.

Я нічым не мог запярэчыць. Хочаш не хочаш, давялося адмовіцца ад падазрэння супраць Клейдэрэра. Смешна сказаць, але мяне гэта крыху злавала — я недалюбліваў гэтага чалавека, хоць ніколі і ў вочы яго не бачыў: расказ чыгуначніка настроіў мяне супраць яго. Але, вядома, нельга паддавацца настрою. За гэта інспектар кішкі з мяне выпусціў бы.

У густой крапіве каля гаражных дзвярэй нешта блішчала. Выцягнуўшы з кішэні насоўку, я падняў з зямлі плоскі металічны брусок каля дваццаці сантыметраў у даўжыню і паднёс яго пад самы нос інспектару.

— Ведаеце, што гэта? — запытаў я.— Цяпер нашы ролі перамяніліся. Я ледзьве не дадаў: «Вы ж крыміналіст, так?» Але стрымаўся і прыклаў брусок да ўмяціны ў рэйцы на адной палавіне дзвярэй.— Гэтай штукай ламалі гараж!

Обер-вахмістр Бесельман з усіх бакоў разглядаў металічны брусок.

— Гэта манціровачны ломік з інструментальнага набору матацыкла,— нарэшце прамовіў ён.— Гэтым ломікам знімаюць з вобадаў шыны.

Бесельман ведаў, што гаворыць. Прылада была мне знаёмая яшчэ з тых часоў, калі я працаваў у транспартнай паліцыі. Фаўльхубер рукой падазваў да сябе пані Клейдэрэр. Яна са страхам пазірала на ломік, быццам кожнае імгненне ён мог разляцецца на кавалкі.

— Вы калі-небудзь бачылі гэтую рэч? — запытаў яе інспектар.

Жанчына адмоўна трасянула галавой.

*Склаўшы ў трубку губы, інспектар засоп.*

— Пашукайце, ці ёсць на гэтай манціроўцы і на варотах гаража адбіткі пальцаў,— загадаў ён мне.— Тым часам я займуся абодвума работнікамі. Гэта лепш зрабіць у памяшканні, калі, вядома, пані Клейдэрэр нічога не мае супраць.

Жанчына ў рабочай робе кіўнула галавой.

Я зноў застаўся адзін. Дзякуй богу, што гараж стаяў у цяню — усё-такі не так горача, як у цёмна-сінім «мерседэсе» на рынкачнай плошчы.

Калі на царкоўнай вежы гадзіннік прабіў адзін раз, я сярдзіта кінуў назад у партфель пэндзлік, пульверызатар і фальгу для зняцця адбіткаў. Зноў нічога! На жалезным ломіку праявіліся толькі некалькі расплывістых ліній, а на дзвярах — з паўтузіна няясных плямачак — сведчанне таго, што зламыснік працаваў у пальчатках.

Я быў галодны, як воўк. Ідучы праз двор, я ўяўляў, як дарвуся да вэнджанай карэйкі, квашанай капусты і піва. Яшчэ на рынку мне трапіла на вочы шыльда заезнага дома. Можа, там знойдзецца што перакусіць. Не паспеў я падняцца на ганак, як з дома выйшлі *Фаўльхубер і Бесельман. За імі, як цень, ішла пані Клейдэрэр усё ў той жа стракатай* хустцы на галаве.

— Ну, нам вядома ўжо, хто зрабіў злачынства? — запытаў я ў інспектара. Той выняў з рота недакурак цыгары і з найвялікшай меланхоліяй утаропіўся на мяне. Я зразумеў, што і ён пацярпеў няўдачу.

— Вы, можа, думаеце, што калі тут крадуць, дык чуваць на другім канцы мястэчка, дзе жывуць работнікі, з якімі я толькі што гаварыў?

— Не, але, магчыма, у іх ёсць падазрэнне на каго-небудзь. Часам на якога-небудзь валацугу.

— Хто-небудзь падобны на гароднае пудзіла з матацыклам, так? Здаецца, вы знайшлі манціроўку. Як з адбіткамі пальцаў?

— Пальчаткі,— панура адказаў я.

— Яшчэ лепш! Матацыкл і пальчаткі! Цяпер засталося толькі знайсці чалавека, які адпавядае гэтаму апісанню. Вы прадумалі ўжо, з чаго пачаць пошукі?

— З гасцініцы,— паспешліва адказаў я.— Гаспадары гасцініц лепш за каго іншага ведаюць, хто нетутэйшы прыехаў у горад.

*Фаўльхубер зірнуў на свой гадзіннік і шпурнуў недакурак на клінкерны брук:*

— Зрэшты, павінны ж мы з чаго-небудзь пачынаць. Чаму б, сапраўды, не з гасцініцы? — Ён павярнуўся да Бесельмана.— Ці можна там, прынамсі, знайсці што-небудзь паесці?

Нейкі момант обер-вахмістр маўчаў — відаць, не адважваўся сказаць, што думаў. Нарэшце, запінаючыся, загаварыў:

— Якраз уранні я кажу сваёй жонцы: «Прыязджае пан інспектар і, натуральна, захоча паабедаць. Згатуй штo-колечы адпаведнае — без добрага абеду злачынца не схопіш».

— Залатыя словы! — усклікнуў я і пачаў развітвацца з гаспадыняй: — Мы, пані Клейдэрэр, яшчэ сустрэнемся. А вы пакуль што пазваніце ў рамонтную майстэрню, каб яны забралі з рынкачнай плошчы машыну, і не забудзьцеся паведаміць свайму страхавому агенту.

Фаўльхубер таксама падаў ёй руку, тым часам гаворачы да Бесельмана:

— Не, на жаль, нічога не выйдзе — лішні вам будзе клопат. Калі нас чакае ваша жонка?

— А першай гадзіне, пан інспектар.

— Вось бачыце, а зараз дзесяць мінут другой.

— У нас ёсць машына,— напомніў я шэфу.

— І ўсё ж мы не можам прыняць запрашэння. А што ў вас сёння?

— Маладыя пеўнікі з чырвонакачаннай капустай!

— Ого! Тады не будзем вымушаць вашу жонку чакаць. Мой асістэнт тым часам разведае ў заезным доме наконт свайго валацугі.

Я занадта добра ведаў свайго начальніка, каб прыняць яго словы за чыстую манету. Усе трое мы ўлезлі ў машыну. Мне давялося нават сесці за руль — прыкмета, што інспектар страшэнна спяшаецца.

Калі мы ўвайшлі ў невялічкую кватэру над аптэкай, стол быў ужо накрыты. Пеўнікі былі румяныя, як шчокі ў маладых паненак, а чырвоная капуста духмяна пахла мускатам. Гаспадыня пазірала на нас з радасным тварам. Інспектар засунуў сурвэтку за каўнерык і з амаль рэлігійным захапленнем пачаў есці.

— А з валацугам вашым,— нарэшце загаварыў ён і нацэліўся ў мяне пеўнікавай ножкай,— глупства ўсё. Але, можа, вы,— тут ножка скіравалася ў бок Бесельмана,— сапраўды заўважылі якую-небудзь падазроную асобу?

Обер-вахмістр нешта невыразна прамармытаў, бо сунуў у рот ладны кавалак кураціны і ўслед — абсыпаную кропам бульбіну.

— Ці бачыце,— гаварыў далей інспектар,— тое, як быў зроблены ўзлом, арыентуе нас зусім у іншы кірунак. Грабежнік добра ведаў, што Клёйдэрэра няма дома. Ён удала выбраў момант. Гэта, паверце мне, не выпадковасць. Я ўпэўнены, што злачынец у курсе ўсяго, што робіцца ў Бюхельбурзе.

— Чаму вы, прашу прабачэння, увесь час гаворыце пра аднаго злачынца? — запытаў я.

— А вы думаеце, іх было больш? Што дзейнічала цэлая банда, як, напрыклад, пры абрабаванні пошты ў Англіі?

Бесельман раптам састроіў такую міну, быццам хацеў сказаць нешта вельмі важнае, і нам давялося пачакаць хвіліны са дзве, пакуль ён дажуе сваю бульбіну. Нарэшце, ён вымавіў:

— Што датычыцца банды, то ў нас у Бюхельбурзе якраз такая ёсць!

— Ого! — Фаўльхубер адсунуў убок пустую талерку.— І вы выдалі нам гэта толькі цяпер, так сказаць, на салодкае! Пеўнікі вашы, пані Бесельман, былі цудоўныя. Вялікае дзякуй. А калі вы яшчэ скажаце, дзе ў вас кава, я звару паўнюткі кафейнік.

Пані Бесельман зачырванелася і сказала, што каву згатуе сама. Фаўльхубер крыху засмуціўся, бо ён з вялікай радасцю ўтапіў бы добра падсмажанага пеўніка ў сапраўдным «мока».

Тым часам обер-вахмістр пачаў апавядаць нам пра бясчынствы бюхельбургскай банды:

— Калі мы надоечы знайшлі манціровачны ломік, мне адразу нешта цюкнула ў галаву. Але не хацелася абражаць людзей падазрэннем. Мы жывём у маленькім гарадку, і трэба быць вельмі асцярожным у такіх справах. Безумоўна, вы разумееце гэта. Але цяпер, калі мы, здаецца, сыходзімся ў тым, што тут арудавала цэлая банда, я не буду хаваць свае падазрэнні.

Інспектар запаліў цыгару і сказаў:

— Дагэтуль, дарагі Бесельман, вы цудоўна з намі супрацоўнічалі. Магу вам гэта афіцыйна засведчыць. І я маю на ўвазе не толькі пеўнікаў і каву, якую, спадзяюся, жонка ваша нам неўзабаве прынясе. Але вось наконт пытання, ці хаваецца за гэтай гісторыяй банда, мы, на жаль, яшчэ не атрымалі, як вы мяркуеце, яснага ўяўлення. З тым жа поспехам машыну мог украсці і адзін чалавек. Толькі далейшае расследаванне пакажа. А цяпер, калі ласка, раскажыце нам, чаму манціроўка навяла вас на думку аб бандзе.

— Ці бачыце, справа вось у чым: амаль паўгода ўжо наш гарадок тэрарызуюць некалькі юнцоў. Як толькі апусціцца змрок, яны ўзнімаюць на вуліцах гвалт, свішчуць пад вокнамі ў сваіх дзяўчат, а нядаўна адной з іх ноччу спявалі нават сэрэнаду. Пан аптэкар двойчы ўжо скардзіўся мне, што яны перашкаджаюць яму, калі ён пасля вячэры садзіцца за рэцэпты, каб разабрацца, што там, уласна кажучы, напісана.

Але тут якраз пані Бесельман паставіла на стол кубкі, сподкі, смятаннічак і кафейнік. Наліўшы ў кубкі каву, яна ветліва ўсміхнулася нам і пайшла. Фаўльхубер кінуў у чорную жыжу чатыры кавалкі цукру і даў знак обер-вахмістру расказваць далей.

Той адразу ж пачаў з таго месца, на якім яго перабіла жонка:

— І пастар наш рашуча пратэстуе супраць таго, што юнцы гэтыя купаюцца ў Муры,— можа, ведаеце: рачулка такая за Каленбергам. Ад нас да яе і чвэрці гадзіны ходу не будзе.

— Чуў пра яе,— сказаў інспектар.— Але ж вось толькі розуму не дабяру, чаму пастар ваш супраць купання ў ёй. Можа, ён вораг чысціні?

— Што вы! Але яны, як назнарок, купаліся якраз у свята цела Хрыстова, ля самай дарогі, па якой ішла святая працэсія. Ніхто і слова не сказаў бы, каб хлопцы хаця плаўкі нацягнулі. Духавы аркестр пажарнікаў, які ішоў наперадзе шэсця, адразу ж збочыў на прасёлак, і працэсіі прыйшлося дабірацца да горада кружным шляхам. Урачыстасць свята, натуральна, згасла — стомленыя ўдзельнікі хрэснага ходу падаліся ў гасцініцу, і пастар чытаў сваё казанне перад пустымі лаўкамі.

— Шкада, што і гаварыць! — паспачуваў інспектар, а я запытаў у обер-вахмістра, чаму, убачыўшы манціроўку, ён адразу падумаў пра гэтых хлопцаў.

— Таму што ў іх матацыклы. Паўгоначныя, без глушыцеляў — знялі іх. Вушы глухнуць ад д'ябальскага трэскату, калі яны імчаць па вуліцах.

Цяпер я зразумеў, чаму обер-вахмістр злуе на гэтых юнакоў: яны парушаюць цішыню і правакуюць паліцыю.

— Паслухайце, пан Бесельман,— сказаў Фаўльхубер.— Паводле правілаў вулічнага руху, той, хто сваім матацыклам ці машынай узнімае больш, чым гэта непазбежна, шум, падлягае штрафу. Вам гэта вядома, ці ж не так? Вы маглі б спакойна прыняць законныя меры — спачатку папярэдзіць, а потым паслаць афіцыйную павестку аб грашовым спагнанні. На вашым месцы я не цацкаўся б.

Твар у Бесельмана зрабіўся, як у ката, які не ведае, што перш з'есці — мыш ці рыбу:

— Не так ужо ўсё і проста, як вы думаеце,— запярэчыў ён.— Блазнюкі ўсе гэтыя з паважаных сем'яў. Сярод іх сын нашага бургаміcтра, сын фельчара і, вядома, гаспадара гасцініцы. Калі я звяжуся з імі, бацькі іхнія заявяць, што я не разумею сучасную моладзь. На апошнім паседжанні гарадской рады бургамістр ужо і так падпускаў пад мяне шпількі. Я, ці бачыце, занадта строгі. Абазваў мяне дапатопнай істотай. Што з імі зробіш. Добра было б, каб гэтыя малойчыкі сапраўды аказаліся рабаўнікамі. За гэта належыць турма. Мне б тады хоць на нейкі час стала лягчэй.

Фаўльхубер ні слова не запярэчыў Бесельману.

— Правільна, даражэнькі,— сказаў ён.— Вам сапраўды цяжкавата прыходзіцца. Але калі юнакі гэтыя раз'язджаюць на ўласных матацыклах, калі да гэтай — не хачу катэгарычна гаварыць — банды належаць і сынкі фельчара і бургаміcтра, тады я ніяк не магу ўцяміць, чаму ім так ужо закарцела пакатацца на чужой машыне. Такую прыемнасць ім кожны дзень могуць дазволіць іхнія бацькі. Колькі, між іншым, ім год?

— Пад дваццаць. Сын фельчара ўжо студэнт універсітэта, а сын гаспадара гасцініцы вучыцца ў гандлёвым вучылішчы. Але зараз канікулы, і, натуральна, усе яны тут.

Зусім верагодна, што Бесельман беспадстаўна западозрыў юнакоў, бо яны яму, як бяльмо на воку. Але, магчыма, яны і на самай справе маюць якое дачыненне да гісторыі з гаражом. Таму я сказаў:

— Пасля ўсяго, што вы расказалі, у мяне склалася ўражанне, што мы маем справу хутчэй з хлапечай забаўкай, чым з крымінальным правапарушэннем. Занадта ўжо часта, на жаль, мы забываем, што вырасла новае пакаленне людзей з іншымі, чым у нас, поглядамі і прынцыпамі. Магчыма, свет, у якім мы жывём, сапраўды крышчаку запылеў. Маладзі хочацца падурэць — на спартыўнай пляцоўцы ці ў плавальным басейне. Але куды ёй падацца, калі ўсяго гэтага ў вёсцы няма? І што, уласна кажучы, горш — тое, што пан Клёйдэрэр ледзь не наехаў на старую кабету, сапсаваў помнік, ці тое, што некалькі недавяркаў знялі з матацыклаў глушыцелі, каб выціснуць з машын яшчэ большую хуткасць?

— Але ж надта ўжо далёка вы зайшлі! — перабіў мяне інспектар.— Даволі недвухсэнсава даказана, што Клёйдэрэр не мае ніякага дачынення да гісторыі з помнікам. Ён у Нюрэнбергу. Калі вы настойваеце на сваім, можна яшчэ дадаткова праверыць. Але злачынства не робіцца меншым ад таго, што ёсць яшчэ горшыя, так? У адным пункце вы, бясспрэчна, маеце рацыю. Старэйшыя не заўсёды з'яўляюцца прыкладам для моладзі. Як вы мяркуеце, Бесельман, ці можна дапусціць, што хлопцы гэтыя не любяць Клёйдэрэра і хацелі яму насаліць?

Обер-вахмістр разглядаў карціну, што вісела над буфетам — селянін у тырольскім капелюшы і высокіх ботах моцна трымае плуг, які цягнуць двое валоў; на заднім плане ўзыходзіць сонца.

— Пан Клёйдэрэр належыць да паважаных грамадзян горада,— нарэшце сказаў Бесельман.— Ён член мясцовай рады і шмат чаго зрабіў ужо для Бюхельбурга. Па яго ініцыятыве ўпрыгожана рынечная плошча. Помнік вы ўжо самі бачылі, хаця ў яго зараз не вельмі прывабны выгляд. Готхальд даволі папулярны сярод сваіх сяброў па партыі ў Ландау і Штутгарце. У Бюхельбурзе, вядома, у яго ёсць праціўнікі, але, скажыце на ласку, у каго з камунальных дзеячаў іх няма? Калі сёння раніцой Альфрэд Мойзле і сказаў што благое пра яго, то гэта яго поўнае права. Але ён забыўся, што Клёйдэрэр клапоціцца пра бедных. На наступным тыдні ён нават склікае сход, і, на маю думку, дзеля гэтага і паехаў у Нюрэнберг. Хлопцы, напэўна, ведалі, што ён збіраецца туды. Ад хлапечых забавак да злачынства — адзін крок. Магчыма, гэтай бандзе спатрэбіліся грошы, і яны ўздумалі прадаць дзе-небудзь «мерседэс». Ці можа наважылі абрабаваць ювелірны магазін — а ў такой справе без машыны не абыдзешся — альбо схапіць і завезці за горад дзяўчыну. Проста нам трэба ўсю шайку арыштаваць і даведацца, дзеля чаго ім спатрэбілася машына. Трэба дзейнічаць рашуча, пакуль не здарылася якога забойства, а то нам прыдзецца горш.

Бесельман моцна сціснуў кулакі, і твар яго зрабіўся такі ж зацяты, як і ў селяніна, што быў намаляваны на карціне.

— Давайце лепш крышачку пачакаем,— сказаў Фаўльхубер, падняўшы руку.— Баюся, пракурор прагоніць мяне, калі я ўвалюся да яго адразу з цэлай шайкай хуліганаў. А колькі іх?

— Восем, калі не лічыць дзяўчат. Дэтлеф Уленхорст, Венцэль Нэгерле, Фолькер Пфаншміт...

— Пачакай, не спяшайся,— перабіў яго інспектар.— Трэба запісаць.

Я разгарнуў сваю кніжачку і запісаў восем прозвішчаў — адно пад адным, каб потым лягчэй было іх выкрэсліць, бо не верыў яшчэ ў легенду пра бюхельбургскую банду.

Фаўльхубер склаў план баявых дзеянняў на другую палову дня. Штаб-кватэрай ён прызначыў службовы кабінет Бесельмана ў канцылярыі бургамістра, дзе будзе, вядома, ён сам! Гэтак зручней. Мы з Бесельманам павінны былі знайсці сведак: калі на помнік налятае аўтамашына, ўяўляеце, які ўзнімаецца грукат! Летам людзі спяць, расчыніўшы вокны, і толькі д'ябал можа так падстроіць, што ніхто не пачуе.

Обер-вахмістр адразу ж падахвоціўся выконваць заданне. Распытваць людзей было, відаць, яму да спадобы: можна пакрасавацца, паказаць сябе з самага эфектнага боку. А я цяжка ўздыхнуў. З блакітнага неба неміласэрна смаліла жнівеньскае сонца. Будынкі вакол рынку былі ўсе двухпавярховыя, і, калі фартуна павернецца да мяне патыліцай, прыйдзецца палазіць яшчэ і па мансардах.

— Дык за справу! — сказаў я і павольна падняўся з крэсла якраз тады, калі Бесельман прышпільваў да рэменя свой пісталет.— Адзін з нас пойдзе вакол плошчы направа, другі — налева. Які бок выбіраеце?

Бесельман прыкінуўся, што яму ўсё роўна.

— Якая розніца. Калі вы пойдзеце направа, то я наадварот — налева. А вунь там, дзе стаіць будынак з дзвюма вітрынамі,— ён падышоў да акна,— мы сыдземся.— Потым даў мне некалькі парад: дзе шукаць дзвярныя званкі, дзе жыве старая бабуля, ад якой усё роўна мала карысці, бо яна глухая.

Мы высунуліся з дома. Гарачыня стаяла, што не дыхнуць. Я прыплюшчыў вочы і зірнуў на царкоўную вежу: была палова трэцяй.

На рынку — нікога. У такую гарачыню нават сабака не вытыкаецца з будкі. Пасярэдзіне плошчы сіратліва сінеў «мерседэс». Над яго дахам мігцела распаленае паветра.

Обер-вахмістр дакрануўся да брыля сваёй шапкі і зухавата павярнуўся налева. Я пачаў з бліжэйшага дома. Званіў, стукаў, распытваў:

— Гэтай ноччу на помнік наехала машына, ці чулі вы што-небудзь? Калі вы ўчора ляглі спаць?

І ўсё так: з кватэры ў кватэру, то паднімаюся па прыступках, то спускаюся ўніз... «Добры дзень», «Вялікае дзякуй», «Да пабачэння»... У людзей, што жылі вакол плошчы, быў на дзіва кепскі слых:

— Нічагуткі не чуў — начамі я сплю...

— Бяда якая! Убачыў раніцой, як выпускаў сабаку...

— Лепш запытайце ў Клёйдэрэра: каму, як не яму, ведаць...

Я пачаў кіпець ад злосці. Бесельман, ліха на яго, падаткнуў мяне да самых нязручных сведак. Пастар прычапіўся, каб я зірнуў на яго сад, а гаспадар тэкстыльнай крамы пачаў угаворваць мяне, каб купіў антырэўматычныя споднікі. І гэта ў трыццацігградусную спякоту! Праз гадзіну я быў сухі, як выпітае яйка. Толькі сарочка пад пахамі была мокрая. Нарэшце, а чацвёртай гадзіне, я скончыў абход. Так нічога і не дазнаўшыся. Бюхельбуржцы спалі ў тую ноч як забітыя!

Я апынуўся ля дома з дзвюма вітрынамі, але Бесельмана нідзе не было відаць. Хоць гарачыня крыху спала, але чакаць яго мне не хацелася. Я папраўвіў пад пахай пакунак са споднікамі, якія мне ўпёр па сходнай цане крамнік, і ў трэці раз у той дзень перасек рыначную плошчу. Разбітая машына ўсё яшчэ стаяла на санцапёку. Я здзівіўся, бо звычайна рамонтныя майстэрні адразу ж бяруцца за справу, як д'ябал за грэшную душу. Можа, пані Клёйдэрэр забылася пазваніць? Прыйдзецца сказаць інспектару, што нам самім трэба паведаміць. А Бесельман паклапоціцца пра помнік; мяхі са два цэменту і жалезны прэнт — і ён зноў будзе стаяць. Раптам мне закарцела ведаць, у чый гонар, уласна кажучы, яго ўзвялі — абеліск упаў надпісам на брук. Трэба абавязкова даведацца, каб у пратаколе было ўсё ў парадку. Можа, гэта помнік славутаму паэту-суайчынніку Вільбальду Грыфелю альбо курфюрцкаму камер-егеру Алаізу Какерлаке ад удзячных вінаробаў Бюхельбурга?

Яшчэ ў цёмным калідоры канцылярыі бургамістра я пачуў голас Фаўльхубера:

— На такія выпадкі ў нас ёсць службовая зброя. Прызнацца, я не вельмі люблю яе ўжываць, аднак, калі да гэтага дойдзе, далікатнічаць нельга. Вядома, паліцыя страляе толькі ў выпадках крайняй неабходнасці і спачатку па нагах. Між іншым, асістэнт мой — выдатнейшы стралок.

Ён трохі перабольшваў. За ўсё жыццё я ні ў кога яшчэ не страляў, а ў ціры, калі і пападаў у мішэнь, то самае большае ў васьмёрку. Акрамя таго, пісталеты нашы ляжалі ў сталёвым сейфу ў Ландау.



Я адчыніў дзверы. Наша «штаб-кватэра» духмяна пахла кавай, карыцай і каньяком. Чорт ведае, як усё гэта раздабыў Фаўльхубер! Пэўна, зачараваў пані Бесельман, калі я пёкся на жарышчы і займаўся роспытамі.

— Гляньце,— інспектар вяла прывітаў мяне рукой,— пра воўка памоўка, а воўк і сам тут! Я гавару вось з хлопцам пра дэтэктыўныя тэлефільмы. Ён, ведаеце, першы ўбачыў аварыю на рыначнай плошчы.

Я зірнуў на маладога хлапца, што сядзеў на самым краёчку крэсла і абмахваўся белай пекарскай шапачкай.

— Я адразу здагадаўся,— сказаў ён,— што адбылося злачынства. Усё мела вельмі крымінальны выгляд, а цела яны, напэўна, забралі з сабой, бо не маглі ўжо далей ехаць на аўта.

— Безумоўна,— зусім сур'ёзна кіўнуў галавой інспектар.— У кардонцы ад чаравікаў — калі яна ў іх была. Але, на жаль, ніводнай не знайшлося.— Апошнія словы прагучалі неяк журботна. Магчыма, у глыбіні душы Фаўльхубер не менш за некаторых злачынцаў тужыў па «сапраўднай справе». Потым ён запытаўся ў мяне: — Знайшлі што-небудзь? Хаця б малюсенькую зачэпку?

Я пакруціў галавой і расказаў пра моцны сон бюхельбуржцаў.

Фаўльхубер буркнуў:

— У гэтым закутку ніхто, здаецца, нічога не бачыць, не чуе і не гаворыць. Як тыя тры славутыя дурні. Баюся, што прыйдзецца яшчэ пазнаёміцца з бюхельбургскімі вадзянікамі.

Я запытаў у юнага пекара, ці ведае ён тых хлопцаў, якія наганяюць жах на гарадок, і што ён пра іх думае.

— Ведама ж, Венцэль гэты з Фолькерам і іншыя хлопцы — ого! Як сядуць на свае матацыклы, толькі і глядзі, каб не падбілі. Я ім не раўня, бо ў іх ёсць новенькія джынсы і грошы, якія яны трацяць на піва ў «Залатым анёле». Кожны дзень пасля полудня яны сядзяць там, пакуль дзяўчаты іхнія не зачыняюць крамы. Яны амаль усе прадаўшчыцы, а адна дык нават працуе ў салоне «Фігаро». Хлопцы правільныя. Голымі рукамі іх не возьмеш. Што ім Бесельман!..

— А пан Клёйдэрэр?..— запытаў Фаўльхубер.

— А-а... ён...— хлапец канфідэнцыяльна падміргнуў.— Гэты з амбіцыяй. Клёйдэрэру абы прабрацца ў бургамістры, і што зробіш, прабярэцца. Гэтага п'яніцу ў нас ніхто не любіць!

Інспектар падняўся з крэсла і паклаў руку на плячо юнага бюхельбуржца:

— А ты нам памог. Калі што-небудзь яшчэ ўспомніш, прыязджай у Ландау, добра? Там я пакажу табе цікавыя рэчы — картатэку злачынцаў, якіх мы шукаем і адбіткі іхніх пальцаў. Але зараз ідзі, а то мы забавіліся.

— Ці нельга крышачку пабыць тут? Можа, вы знойдзеце цела, і тады я скажу бы вам, хто гэта.

Мы не ведалі, як адвязацца ад хлапца, які, відаць, мог бы рабіць нешта больш карыснае, чым толькі булкі пячы. Шчыра кажучы, было шкада, што такія кемлівыя хлапчукі ўталяюць сваю прагу да прыгод толькі дэтэктыўнымі тэлефільмамі.

Неўзабаве вярнуўся з абходу Бесельман. Ён спацеў яшчэ больш, чым я, але таксама нічога не даведаўся. Я зразумеў, што мы селі ў лужыну. У нас не было ніводнага канкрэтнага доказу, ніводнага адбітку пальцаў, нікога, хто ўночы хоць што-небудзь чуў бы. Але інспектара гэта, здаецца, мала абыходзіла. Зрэшты, страты будзе мець страхавое агенцтва, а ў Ландау ніхто і брывом не павядзе. Каб мы надавалі значэнне кожнаму выпадку з крадзяжом машын, то давялося б падвоіць колькасць работнікаў вышуку. Але што ні кажы, гісторыя гэта казытала маю цікаўнасць. Мне чамусьці здавалася, што тут тоіцца нешта большае. Я нават пачаў баяцца, што Фаўльхубер абвесціць шабаш, і пішы прапала! Аднак ён прапанаваў уважліва прыгледзецца да васьмі паршывых авечак Бесельмана. Ён спытаў у обер-вахмістра, ці праўда, што пасля абеду можна заспець гэтых буянаў у «Залатым анёле».

Бесельман пацвердзіў:

— Зрабіце ласку, пан інспектар, зірніце ў акно: перад гасцініцай стаяць усе матацыклы. Цяпер без чвэрці пяць. Звычайна засядаюць яны там да шасці — у карты рэжуцца. Можна выклікаць іх на допыт па адным, аднак лепш узяць усіх разам, каб яны не змовіліся. Замкнем іх у зале сходаў, і хто-небудзь з нас папільнуе, каб яны ратоў не разяўлялі,— тут Бесельман пакасіўся ў мой бок: пэўна, думаў, што я гаджуся за няньку.

Фаўльхубер глянуў у акно.

— Сем,— сказаў ён.— Можа, я лічыць не ўмею?

— Сапраўды, здаецца, сем!— Бесельман пачаў стукаць пальцам па шыбе: — Адзін, два, тры...

Восьмага не было — перад «Залатым анёлам», выстраіўшыся па-вайсковаму ў рад, стаяла толькі сем матацыклаў.

— Дайце мне сюды вашу манціроўку,— загадаў мне Фаўльхубер і раптам састроіў такі твар, быццам пачуў, як спяваюць прывіды.

Я пакорпаўся ў сваім партфелі і, нарэшце, знайшоў манціровачны ломік.

Інспектар паважыў яго спачатку ў правай, а потым у левай руцэ.

— Колькі такіх штук у наборы інструментаў?—запытаў ён.

— Дзве! — адказалі мы з Бесельманам у адзін голас.

— Віншую вас, панове! Мы, так сказаць, маем справу з двайным лато. Інакш кажучы: дзе нітка, там і іголка. Калі знойдзем другую манціроўку, мы знойдзем і злачынца. Вы можаце разабраць, што тут напісана?

Я ледзь не скруціў сабе шыю, бо Фаўльхубер трымаў манціроўку так, што літары перавярнуліся дагары нагамі.

— «Жа-лез-ныя та-ва-ры Маг-ну-са, Дуйс-бург»,— прачытаў я па складах. Побач на шэрым метале было выбіта чырвонае кляймо з эмблемай фірмы пасярэдзіне.

— Ну вось,— прамовіў інспектар,— нарэшце нешта ёсць. Калі сапраўды нехта з тых малойчыкаў узламаў гараж, значыць, у яго не хапае адной такой штукі. У інструментальнай скрынцы матацыкла ляжыць толькі адна манціроўка, і яна падобна на нашу, як дзве кроплі вады. На ёй таксама выбіта: «Жа-лез-ныя та-ва-ры Маг-ну-са, Дуйс-бург».

Колькі разоў у мяне ўжо свярбелі рукі смальнуць інспектару ў храпу! Чаму ён кпіць з мяне, чытаючы назву фірмы па складах? Літары ж для яго не стаяць галавой уніз.

— Цяпер яны ў нашых руках! — усклікнуў Бесельман.— Засталося толькі зачыніць пастку. Ці павінен я прывесці іх сюды і адразу ж пайсці па інструментальныя сумкі?

— Ці варта гэта рабіць,— сказаў Фаўльхубер.— Узнімецца шум і гвалт. І што будзе, калі яны, урэшце-рэшт, акажуцца невінаватымі? Тады нам ганьба, і хлопцы пасмяюцца з нас. А вам, дарагі мой Бесельман, будзе яшчэ горш, чым цяпер. Мы проста пойдзем і пагаворым з імі. Так лепш. І, між іншым, папросім, каб паказалі інструмент.

— Слухаюся, шэф! — сказаў я бадзёра. Гэта была контрмера супраць яго нядаўняй насмешкі. Але Фаўльхубер выйшаў ужо ў калідор, і атручаная страла трапіла яму толькі ў спіну, а яна ў яго была не больш адчувальная, чым у бегемота.

На рынку зноў палюднела. Якраз, калі мы выходзілі з рэзідэнцыі бургамістра, на плошчу прыехала шэрая развозачная аўтамашына з вялікімі літарамі на кузаве: «Аўтарамонтная служба». З яе выйшлі двое мужчын у сініх камбінезонах і ўважліва агледзелі «мерседэс». Потым закурылі цыгарэты. Некалькі жанчын з туга напакаванымі гаспадарчымі сумкамі спыніліся і з цікавасцю пазіралі на іх. Але мы накіраваліся да сямі матацыклаў, што стаялі перад «Залатым анёлам».

— Вы можаце вызначыць, чыёй машыны няма? — запытаў у Бесельмана Фаўльхубер.

Обер-вахмістр двойчы прайшоўся каля матацыклаў, як генерал перад фронтам ганаровай варты.

— Калі не памыляюся,— нарэшце сказаў ён,— няма машыны Венцэля Нэгерле. Да задняга сядзення ён чапляе лісіны хвост, якога я зараз нешта не бачу.

— Хто гэта — Венцэль Нэгерле?

— Сын фельчара.

Фаўльхубер зноў, мусіць, пачуў, як музіцыруюць прывіды; задумаўшыся, ён правёў пальцам па нікеліраваным рулі матацыкла. Нарэшце сказаў:

— Калі мы сваю аперацыю раздробім, грош ёй цана. Праверыць іх трэба ўсіх адначасова альбо ніколі. Пан Бесельман, даведайцеся, калі ласка, ці дома гэты Венцэль. Папрасіце, каб паказаў сваю інструментальную сумку і гляньце, колькі там манціровак — дзве ці адна. Тым часам мы зоймемся астатнімі.

Обер-вахмістр скрывіўся: цяпер прыйшла яго чарга пабегаць. Магчыма, ён яшчэ пабойваўся, што мы не вельмі строга абыдземся з яго «прыяцелямі». Аднак ён слухмяна прыклаў руку да брыля і рэцціраваўся.

Мы з інспектарам падняліся на ганак «Залатога анёла». Заезнаму дому было, пэўна, не менш як год сто. Знадворку ён вабіў сваёй утульнасцю — зялёныя аканіцы, вінаград, што віўся над ганкам, прыгожая шыльда з каванага жалеза.

На дзвярах вісеў плакат — на чырвоным фоне белы круг з трыма чорнымі літарамі. Фаўльхубер злосна пакасіўся на іх.

— «Н» — нацысты, «Д» — дэгенераты, «П» — падонкі. Цьфу ты згінь-прападзі! — Ён азірнуўся.— Спадзяюся, вы з майго жарту не разадзьмеце палітычных пухіроў?

— Я, напрыклад, галасую за ХДС,— сказаў я.

— Вельмі вялікая розніца, павінен заўважыць.— Тыльным бокам далоні інспектар выцер верхнюю губу.— Дарэчы, ці ведаеце вы, што няроўнае ў чыжыка?

— Не,— адказаў я для прыліку, хоць досціп гэты быў стары, як свет.— А што?

— А нічога. Абедзве нагі роўныя. Асабліва правая.

Я засмяяўся па абавязку службы і падумаў: «Куды гэта ён гне?»

Шынок сустрэў нас прыемнай прахалодай. Гаспадар стаяў за стойкай буфета і паласкаў пузатыя куфлі. За столікамі нікога не было. На дзвярах у глыбіні памяшкання віднеўся надпіс гатычнымі літарамі: «Зала нарад». Адтуль даносіўся смех і нейкі стук.

Мы пачакалі, пакуль вочы прызвычаяцца да паўзмроку, потым інспектар падышоў да буфета.

— Дзве шклянкі чырвонага, калі ласка, і шэсць цыгар.





Шынкар разглядаў нас, як забойную жывёлу на аўкцыёне. Ён паволі павярнуўся да паліц, узяў бутэльку і з шумам выцягнуў корак.
— Няшмат работы сёння? — запытаў Фаўльхубер.
Шынкар з булькатам наліваў віно ў шклянкі.
— Справы ідуць. Заўтра ў рабочых «Опеля» дзень выплаты. У канцы дня ўсе сюды заваляцца. А тады — падавай толькі. А вы як маецеся?
— Няма чым хваліцца.
Тоўсты шынкар, безумоўна, ведаў ужо, хто мы, і адразу ж закінуў вуду:
— Знайшлі ўжо яго? Увесь гарадок пра гэта толькі і гаворыць. Кажуць, пан Клёйдэрэр у ад'ездзе.
— Правільна,— адказаў я, смакуючы цудоўнае, халаднаватае віно.— Дзе, дарэчы, сынок ваш, пан Пфаншміт?
Таўсцяк крыху нахіліўся наперад:
— Навошта ён вам?
— Ды так — службовая руціна.— Інспектар барабаніў пальцамі па бляшаным шчытку вакол піўнога крана.— Мы апытваем усіх, хто жыве каля рынку. Калі ж я атрымаю свае цыгары?
Гаспадар пакорпаўся ў скрынцы з цыгарамі.
— Сорак пфенігаў за штуку,— сказаў ён.— Пан Бесельман, між іншым, наведваўся ўжо. Мы нічога не чулі.
Інспектар паклаў на прылавак пяць марак.
— Няўжо? Але мы хочам пагаварыць з вашым сынам.
Пфаншміт даў інспектару рэшту і вялікім пальцам паказаў на дзверы «Залы нарад». Відаць, ён страціў усякі інтарэс да нас.
Мы пакінулі шклянкі на стойцы буфета, але, перш чым адчыніць дзверы, прыслухаліся да смеху і шуму ў зале. Потым увайшлі. Пад столлю плавалі густыя хмары тытунёвага дыму. За круглым сталом перад куфлямі піва сядзелі сем юнакоў. Трое гулялі у скат, астатнія назіралі.
Калі юнакі ўбачылі нас, у памяшканні ўсталявалася мёртвая цішыня. Інспектар сунуў рукі ў кішэні і сказаў:
— Вітанне!
Я таксама паклаў рукі ў кішэні, але маўчаў.
Фаўльхубер падцягнуў да сябе крэсла і сеў за стол. Я застаўся стаяць ля расчыненых дзвярэй.
— Мне вельмі шкада,— пачаў інспектар,— што даводзіцца турбаваць вас, панове, але вам, мабыць, вядома, што сёння ноччу ў Бюхельбургу ўкралі машыну. Яе вывелі з гаража ў пана Клёйдэрэра і разбілі, наехаўшы на помнік. Мы хацелі б высветліць, хто гэта зрабіў. Магчыма, вы дасцё нам які намёк?
Хлопцы ўхмыляліся. Адзін з ігракоў кінуў на стол карту і сказаў:
— Козыр!
Яго партнёры пайшлі ў масць.
Фаўльхубер назіраў за гульнёй. Юнак, што сядзеў каля яго, вялікадушна дазваляў яму заглядаць у карты. Інспектар матнуў галавой, калі хлопец хацеў скінуць туз. Абстаноўка была дружалюбная. Але неўзабаве Фаўльхубер закрыў сваёй шырокай далонню апошнюю бітку і згроб да сябе ўсе тры карты. Хочаш не хочаш, юнакам давялося слухаць, што ён скажа,— з дзвацццю дзевяццю картамі гуляць у скат не будзеш.
— Дык вось, што я вам скажу. Мне не хочацца падпяваць вашаму обер-вахмістру, які не вельмі добрае гаворыць пра вас. Вы атручваеце яму жыццё, вытвараючы сваімі матацыкламі такое, што чарцям моташна робіцца. Але гэта яго справа. Мяне толькі цікавіць крадзеж. Магчыма, вы не маеце да яго ніякага дачынення, але можа стацца і так, што вам захацелася паездзіць на аўтамашыне.
— Сказалі! — адазваўся хлопец, які крыху жмурыў вочы, ад чаго ён рабіўся падобны на саву.— Бесельман гэта ўсё на нас скідае! Любую гадасць. Ён аж скакаў бы ад радасці, каб усім людзям надзелі на ногі войлачныя шлёпанцы, а на галовы нахлабучылі начныя каўпакі. Але гэты раз яму не пашэнціла. Да клёйдэрэрскай машыны мы не маем ніякага дачынення. Можа, вы нам што-небудзь дакажаце?
Інспектар пакруціў галавой:
— Мы ўсё высветлім. Я проста думаў, што вы нам трохі паможаце.
— Няма чым? Давайце-тка лепш, хлопцы, вып'ем піўка,— сказаў цыбаты бамбіза з рабаценістым носам і пачаў церці дном куфля па стале. Адразу ж з'явіўся шынкар.
Калі ён выйшаў, Фаўльхубер загаварыў зноў:
— Сёе-тое мы знайшлі. Нічога асаблівага, я б сказаў, калі б мы цвёрда не ўстанавілі, што гэтай штукай быў узламаны гараж,— інспектар паволі выцягнуў з рукава манціроўку і паклаў на стол.— Вы ведаеце, каму яна належыць?
Як загіпнатызаваныя, пазіралі хлопцы на манціровачны ломік. Юнак з савінымі вачмі ўсклікнуў:
— А што гэта за жалязяка такая?
Усе паднеслі куфлі да рота і пачалі піць піва вялікімі глыткамі, як сапраўдныя мужчыны.



— На вашым месцы я не задаваў бы такіх дзіцячых пытанняў,— сказаў Фаўльхубер.— Гэта робіць на паліцыю не вельмі добрае ўражанне. Кожны, хто хоць крыху разбіраецца ў матацыклах, ведае, што гэта — манціроўка. Вы ж сёе-тое разумееце ў матацыклах, так?
— І што з таго?
— Я раблю вам прапанову. Вы паказваеце нам свой набор інструментаў, а я абяцаю вам, што, калі ў кожнага з вас будзе па дзве манціроўкі, справа на гэтым скончыцца. Мы праверым таксама і ўсіх астатніх жыхароў, у якіх ёсць матацыклы, каб вы не думалі, што мы толькі да вас прычапіліся. Але ж з кагосьці трэба пачынаць.
— Я сумняваюся, ці маеце вы права без усякіх цырымоній правяраць нашу ўласнасць. У вас, наогул, ёсць ордэр на вобыск?
— Ах ты чорт вазьмі, нават з галавы выпусціў! — інспектар разгублена павярнуўся да мяне: — Зноў мы з вамі забыліся, што сучасная моладзь ведае ўсе правілы гульні ў дэмакратыю. Што ж цяпер загадаеце рабіць, пан калега?
— Магчыма, нам паможа обер-вахмістр,— сказаў я.— Надоечы ён гаварыў, што да яго паступіла скарга на матацыклістаў, якія знялі з машын глушыцелі. Як прадстаўнік мясцовых паліцэйскіх улад ён, безумоўна, ва ўсім разбярэцца. Думаю, мы пачакаем яго і папросім неадкладна заняцца праверкай скаргі аб парушэнні грамадскага парадку. Пры гэтым, вядома, перш за ўсё трэба часова канфіскаваць матацыклы, каб агледзець іх да апошняга шрубка. Пры скрупулёзнасці пана Бесельмана гэта зацягнецца дні на тры-чатыры.
— Занадта доўга — сказаў Фаўльхубер.— Але, як я пагляджу, іншага выйсця няма. Значыць, мы ўсе разам пачакаем тут пана Бесельмана. Піва хопіць на ўсіх. Можаце спакойна зачыніць дзверы, пан калега.
Я выканаў загад і прыпёрся спіной да дзвярэй. Гэту бітву мы выйгралі. Юнакі адразу ж прыціхлі. Нарэшце адзін з іх, самы, здаецца, малады — хлопец гадоў семнаццаці — запытаў:
— А калі мы самі пакажам наш інструмент?
— Тады Бесельман, безумоўна, адтэрмінуе агляд матацыклаў,— сказаў я.
Першы ўстаў хлопец з вачыма, як у савы, і сказаў:
— Добра, выпусціце нас, і мы прынясём свае прылады.
Я не зварухнуўся з месца.
— Толькі па чарзе,— сказаў я.— Пачне нехта адзін. Астатнія пакуль што могуць сесці. Я буду суправаджаць вас, каб ніхто не ўцёк, а пан інспектар паклапоціцца, каб тут панаваў поўны парадак. Хто першы?
Хлопец памаргаў сваімі савінымі вачыма і накіраваўся да дзвярэй. Мы пайшлі міма скамянелага шынкара і па пяці-шасці прыступках спусціліся на рыначную плошчу. Маленькім ключыкам юнак адамкнуў інструментальную скрынку пакрытай чырвоным лакам «Хонды». Я выцягнуў свой блакнот, запытаў, як звацьхлопца, і насупраць аднаго з прозвішчаў, якія раней прадыктаваў мне Бесельман, напісаў нумар машыны. Потым мы пайшлі назад. Юнак размахваў парусінавым скруткам з інструментамі, як дзяўчынка-падростак сваёй новенькай сумачкай.
Спектакль гэты паўтараўся яшчэ шэсць разоў. Нарэшце ўсе зноў сядзелі за круглым сталом у «Зале нарад». Перад кожным юнаком ляжалі сумкі з інструментам. Настаў урачысты момант — як у калядную ноч, калі паслухмяныя дзеткі рыхтуюцца распакаваць свае падарункі. Мы з Фаўльхуберам пільным вокам, як Аргусы, сачылі за хлопцамі.
Адзін за адным яны раскрывалі свае сумкі. Манціровак было чатырнаццаць і ўсе новенькія, з іголачкі! Інспектар аж засоп ад злосці:
— Вы ж купілі іх толькі сёння, чорт пабяры! А ну гаварыце, а то я зраблю з вас фарш!
— Гэта нашы манціроўкі. Цяпер, спадзяёмся, вы задаволены? — Юнак з рабым носам усміхнуўся: — З вашага дазволу я вазьму карты, якія вы забралі ў нас. Дэтлеф, ход твой. Пан Пфаншміт, яшчэ па куфлю піва!
У гэты момант у залу ўварваўся Бесельман.
— Папаўся, паскуднік! — крыкнуў ён, ледзь пераводзячы дыханне, і шпурнуў на стол яшчэ адзін брэзентавы мяшочак.— Усе прылады брудныя і старыя, толькі манціроўкі новыя. Нэгерле толькі сёння купіў іх, гарантую! Пасля ўзлому гаража ён заўважыў, што адной не хапае, і хуценька купіў сабе парачку новенькіх. Гэта ён вінаваты, каб я не сышоў з гэтага месца. Трэба арыштаваць яго!
Фаўльхубер паволі пакруціў галавой. Ён адразу неяк асунуўся. Мусіць ад таго, што нейкія малакасосы паклалі яго на лапаткі.
— Ну пачакайце, гэта вам дарэмна не пройдзе! Мы яшчэ з вамі ўбачымся, панове, можаце паверыць майму слову.— Ён, як булавою, памахаў над галавой манціроўкай і шырокім крокам пайшоў да выхаду, не развітаўшыся з юнакамі і не зірнуўшы на шынкара, які ўсё стаяў ля стойкі.
Засунуўшы рукі ў кішэні, інспектар шпарка ішоў праз рынак. Мы беглі за ім, як паслушныя сабакі, і я расказаў Бесельману, што адбылося ў шынку. Той аж збялеў ад злосці. Калі мы дайшлі да сярэдзіны плошчы, я ўбачыў, што «мерседэса» ўжо не было.

На месцы аварыі нейкі ссохлы чалавечак у шырачэзных штанах і з бела-чырвонай павязкай на рукаве змятаў у адно месца асколкі шкла. Інспектар спыніўся каля яго і пачаў корпацца наском чаравіка ў кучы асколкаў.

— Наш падмятальшчык вуліц,— шапнуў мне Бесельман.— Тратуары падмятаюць самі жыхары, а для вуліц і рынка горад трымае спецыяльнага чалавека.

Раптам інспектар рэзка нахіліўся і пачаў алоўкам калупацца ў бітым шкле. Я здзіўлена ўтаропіўся на яго. Калі ён выпрастаўся, у яго на далоні ляжаў маленькі кавалачак шкла.

— Як па-вашаму, што гэта? — гучна запытаў ён у мяне.

— Мізэрныя рэшткі аўтамабільнай фары.

— Папалі пальцам у неба! Гэта шкло ад акуляраў. Як зваць таго малойчыка, у якога твар, як у савы, бо ён увесь час жмурыць вочы?

— Фолькер Пфаншміт,— адказаў я.

— Сын шынкара,— дадаў Бесельман.

— Ну, цяпер ты не выкруцішся, фокуснік! Каб здагадацца, што ты носіш акуляры, неабавязкова трэба быць царом Саламонам. Штука гэта зляцела у цябе з носа, калі ты грукнуўся машынай аб помнік. Запасных акуляраў у цябе няма, а новыя дастаць, на наша шчасце, не так лёгка, як манціровачны ломік. Якая майстэрня павезла машыну?

— «Кемпер і сын» з Ландау,—адказаў обер-вахмістр.

— Наперад! — крыкнуў Фаўльхубер.— Той, хто сядзеў за рулём, быў у акулярах і разбіў іх аб баранку. Калі і ў машыне мы знойдзем такія ж асколкі, злачынец у нас у руках!

Інспектар бегма кінуўся да нашай машыны, цягнучы мяне за сабой, і я нават не паспеў развітацца з мясцовай паліцыяй.

Праз тры чвэрці гадзіны машына наша спынілася перад варотамі рамонтнай майстэрні Кемпера ў Ландау.

Наступнай раніцай мы аж гарэлі на рабоце. Нібы ўзяліся высветліць, хто на самай справе забіў Джона Кенедзі. Я ніколі яшчэ не бачыў інспектара такім актыўным. Ён уручыў абодвум нашым лабарантам кавалачкі шкельцаў ад акуляраў, якія знайшоў на месцы аварыі і ў жалабках пластыкавага насцілу ў кабіне «мерседэса». Асколачкі былі маленечкія, некаторыя — з драбінку, аднак усё ж іх можна было скласці разам, як у задачы-галаваломцы.

Спярша лабаранты ўсяляк ухіляліся ад задання. Але Фаўльхубер не адступаўся, і ім, нарэшце, прыйшлося ўзяцца за справу. Перш-наперш трэба было ўстанавіць, што гэта былі за шкельцы — дваякавыпуклыя, увагнутыя, перыскапічныя, цыліндрычныя, прызматычныя альбо якія-небудзь там яшчэ, а потым вызначыць велічыню дыёптрый. Праз тры гадзіны лабаранты паклалі нам на стол вынікі сваіх намаганняў. У знак удзячнасці Фаўльхубер прапанаваў ім парачку бюхельбургскіх цыгар. Лабаранты адмовіліся, аднак прынялі запрашэнне папіць з намі кавы, калі надарыцца вольная хвіліна.

З тае прычыны, што мы не ведалі, у якога оптыка былі зроблены акуляры Фолькера Пфаншміта, мы выпісалі з тэлефоннага даведніка ўсе нумары, якія цікавілі нас. У Ландау было сем аптычных майстэрань, а ў суседнім гарадку яшчэ пяць. У якім з іх заказаў свае акуляры злачынец? Можа, ні ў якім, а дзе-небудзь у Штутгарце альбо ў Карлсруэ ці яшчэ дзе. Мы селі на тэлефон і абзванілі ўсіх оптыкаў. Размова была кароткая, а часам і доўгая — у залежнасці ад таго, як хутка гаспадары майстэрань арыентаваліся ў сваіх рэгістрацыйных картках. Двое з іх наогул адмовіліся даць нам якую-небудзь інфармацыю, спасылаючыся на тое, што ім забаронена разгалашэнне ўрачэбнай таямніцы. Мы прасілі, угаворвалі, загадвалі, але дарэмна. З перадапошнім мне, нарэшце, пашанцавала. Голас, як можна было меркаваць, належаў старому еўнуху. Праўда, бухгалтарскі ўлік ён вёў беззаганна і меў добрую памяць. Пасля таго, як я яго крышачку настрашыў, ён прачытаў мне ўслых запіс на рэгістрацыйнай картачцы Фолькера Пфаншміта. Усё кропля ў кроплю сыходзілася з тым, што выявілі нашы спецыялісты. Паслужлівы мафусаіл расказаў мне, што пан Фолькер Пфаншміт учора наведаў яго і заказаў новыя акуляры. Я тройчы падзякаваў яму і папрасіў берагчы дакументацыю, бо, магчыма, ёю зацікавіцца пракурор.

Потым я запытаўся ў інспектара, ці трэба падрыхтаваць ордэр на арышт. Фаўльхубер адказаў, што з гэтым можна пачакаць. Малойчыка трэба яшчэ крыху прашчупаць, таму што Фолькер Пфаншміт, бясспрэчна, дзейнічаў не адзін. Інспектар быў перакананы, што яму памаглі яго сябрукі.

Я падумаў, што Фаўльхубер з вялікай бы ахвотай пасадзіў пад замок усіх васмярых. Відаць, ён рады быў паказаць, што з ім жарты кепскія. Таму на допыт у Ландау Пфаншміта павязе не Бесельман, а сам інспектар.

Была ўжо шостая гадзіна дня. Калі паспяшацца, можна было яшчэ застаць усю шайку ў «Залатым анёле».

Я націснуў на тормаз ля самага ўваходу ў заезны дом. Зноў стаяла спёка. На бруку ад будынкаў ляжалі доўгія цені, дах царквы дыхаў яшчэ гарачынёй. Але нам здалося,



што гарадок неяк за дзень перамяніўся. Учора на нас амаль ніхто не звяртаў увагі, а цяпер людзі з цікавасцю глядзелі нам услед, не хаваючы сваіх позіркаў. Мы падняліся на ганак «Залатога анёла». Чырвонага плаката з белым кругам і трыма чорнымі літарамі на дзвярах не было.

Шынок быў поўны людзей. Столікі не пуставалі. Было цесна ля стойкі. У гаспадара цёк з ілба пот — ён бесперапынку падстаўляў пад кран куфлі, адначасова адкаркоўваючы вінныя бутэлькі з квяцістымі этыкеткамі. Я прыгадаў яго ўчарашнія словы — пасля таго, як рабочыя «Опеля» атрымаюць грошы, усе заваляцца сюды. Але пан Пфаншміт нават і не глянуў у наш бок — рабіў выгляд, быццам не бачыў, што мы зайшлі.

Нядоўга думаючы, інспектар праціснуўся да стойкі і запытаў гаспадара так гучна, што словы яго заглушылі гул галасоў:

— Мне неабходна пагаварыць з вашым сынам, пан Пфаншміт. Ён дзе-небудзь тут?

Шынкар адтапырыў вялікі палец у бок «Залы нарад» і пакруціў ім у густым тытунёвым дыме. Па яго твары было відаць, што ён намагаецца схаваць сваю трывогу.

Фаўльхубер задам выбраўся з таўкатні і накіраваўся да дзвярэй «залы нарад». У гэты момант нейкі чалавек заступіў яму дарогу. Гэта быў рабочы гадоў сарака пяці — вялікі, з доўгімі моцнымі рукамі. Пад шэрай палатнянай курткай на ім была белая сарочка з чырвоным гальштукам.

— Пачакайце хвіліначку,—сказаў рабочы.

— Няма калі.

— Справа ідзе аб гэтай гісторыі з помнікам. Хлопцы, па якіх вы прыйшлі, ад вас не ўцякуць. Даю слова.

Хоць чалавек паводзіў сябе далікатна і ні разу не павысіў голасу, ва ўсёй яго постаці было нешта пагрозлівае. Раптам шум у зале сціх. Усе пазіралі на Фаўльхубера.

Я пашкадаваў, што мы не ўзялі з сабой Бесельмана,— інспектар не хацеў, і цяпер я пачаў асцерагацца за нашу бяспеку.

— Прапусціце! — сярдзіта сказаў рабочаму Фаўльхубер.— Калі ў вас ёсць што паведаміць мне, прыходзьце крыху пазней у канцылярыю бургамістра.

Рабочы не зварухнуўся. Цішыня набрыняла трывогай. Я не спускаў вачэй з рук рабочага.

— Хачу вас толькі папярэдзіць,— сказаў ён.— Вы думаеце, што машыну з гаража ў Клейдэрэра ўкралі хлопцы. На самай справе не яны. Я ведаю, хто гэта зрабіў.

Фаўльхубер насцярожыўся: «Хто ж?» — гаварыў яго твар.

— Я.

У гэты міг за спіной інспектара апынуўся яшчэ адзін чалавек — вельмі падобны на таго, што засланіў дзверы. Наогул, у тое імгненне мне здалося, што ўсе рабочыя былі на адзін твар.

— Вы можаце спакойна яму верыць,— сказаў другі рабочы.— Зрэшты, як хочаце. У такім выпадку я скажу вам, што машыну ўкраў я, а потым наехаў на помнік. Адзін, без саўдзельнікаў.

Фаўльхубер павярнуўся да яго. Не паспеў ён і рота раскрыць, як падышоў яшчэ адзін рабочы з куфлем піва ў руцэ.

— Не слухайце іх, пан камісар. Яны вас абманваюць. Усё зрабіў я, магу прысягнуць. Хлопцы невінаватыя — гэта такая ж праўда, як і тое, што я стаю перад вамі.

— ...дзевяць, дзесяць, адзінаццаць,— ціха лічыў я. Гадзіну назад вінаватых было ўсяго толькі восем, а цяпер іх ужо адзінаццаць! Я з нецярплівасцю чакаў, што будзе далей.

Інспектар сказаў:

— Не лічыце мяне дурнем. Нам вядома, што гэта зрабілі вашы хлопцы. У нас ёсць доказы.

Чалавек, што стаяў ля дзвярэй, засунуў рукі ў кішэні.

— У вас ёсць доказы,— запярэчыў ён,— а ў нас тры прызнанні. Пабачым, хто выйдзе пераможцам.

У зале зноў узняўся шум. Усе загаварылі наперабой.

Шынкар выйшаў з-за стойкі. Выцер рукі аб белы фартук і спрытна прашыўся праз натоўп, што абступіў буфет.

— Прашу вас, пан інспектар,— сказаў ён,— пагаварыце з людзьмі. Калі вы арыштуеце майго Фолькера, ён вылеціць з гандлёвага вучылішча. Ён жа ж толькі хацеў... Прашу вас...

Фаўльхубер ніколі і выгляду не паказваў, што ён думае на самай справе. Але ён не быў закаранелы службіст-паліцэйскі, які ідзе напралом і крышыць на сваёй дарозе ўсё, што яму замінае. З ім можна было гаварыць. Ніхто гэтага не ведаў лепш, чым я, і мне цікава было, як ён будзе рэагаваць.

Нарэшце Фаўльхубер паволі падняў руку.

— Панове,— сказаў ён,— давайце толькі шчыра. Што, уласна кажучы, у вас тут адбылося?

— Сядзем за стол,— сказаў рабочы, які ўвесь час стаяў ля дзвярэй.— Не так і лёгка ўсё растлумачыць.

У кутку залы, пад галавой вепрука і тузінам аленевых рагоў, нам ахвотна ўступілі

столік. Перада мной і інспектарам гаспадар паставіў па шклянцы чырвонага віна, траім рабочым прынёс поўныя куфлі піва і для ўсіх — цыгары.

— Не ведаю, ці зразумееце вы,— пачаў першы рабочы.— Бюхельбург — правінцыяльны гарадок. Людзі жывуць тут, як у сне, любяць спакой і зусім не цікавяцца тым, што робіцца на свеце.— Ён памаўчаў. Засяроджана запаліў і раскурыў люльку.— А гэта якраз на руку такім фашыстам, як Клёйдэрэр. Яшчэ перад сорак пятым што яны тут вытваралі, а цяпер зноў расперазаліся. Клёйдэрэру вельмі хочацца стаць бургамістрам, і шансы ў яго не такія ўжо кепскія. Ён абяцаў залучыць у Бюхельбург замежных турыстаў і паставіў ужо на свае грошы помнік, каб ім было што фатаграфаваць. Але на самай справе ў галаве ў яго толькі палітыка. Ужо год як ён член НДП. Дзесяць працэнтаў галасоў на чарговых выбарах — вось, што ён хоча. А як сядзе у ландтаг, да ўрада ўжо рукой падаць.

Фаўльхубер узяў са стала цыгары і паднёс па чарзе кожнаму з нас.

— Якое ўсё гэта мае дачыненне да ўзлому? — запытаў ён.— У маю кампетэнцыю палітычныя пытанні не ўваходзяць.

— Нельга аддзяляць адно ад другога,— сказаў той, што сядзеў побач са мной.

— Калі Клёйдэрэр дамогся ў абшчыннай радзе дазволу паставіць помнік,— зноў загаварыў першы,—людзі страшэнна абурыліся, але на гэтым усё і скончылася. Тады за справу ўзяліся хлопцы, якіх вы збіраецеся арыштаваць. Яны проста вывелі з гаража ў Клёйдэрэра машыну і збілі ёю помнік.

— Які пастаўлен у гонар нейкага «дзеяча»? — запытаў Фаўльхубер.

— Правільна. Толькі слова «гонар» тут не да месца.

Інспектар прысвіснуў праз зубы.

— І таму вы не хочаце, каб я пасадзіў гэтых хлопцаў?

Рабочыя ўбачылі ўжо, што гаварыць з намі можна. Яны азірнуліся і падміргнулі сваім таварышам, што сядзелі за суседнімі столікамі. Пфаншміт падносіў людзям піва. Ён, відаць, павесялеў. Толькі я не зусім разумеў, пра што ішла гаворка, бо забыўся даведацца, што было высечана на абеліску.

— Ды што помнік! — сказаў першы рабочы.— Аднойчы хлопцы так пасадзілі Клёйдэрэра ў лужыну, што ўвесь гарадок за жываты браўся. Вось так. Але карысці ад усяго гэтага мала... Помнік зноў паставяць на месцы, і ўсё застанецца, як было.

Фаўльхубер паківаў галавой:

— Так, усё будзе, як і было...

— Можа, не зусім.— Твары ў рабочых былі засяроджаныя.— На наступным тыдні,— сказаў адзін з іх,— у «Залатым анёле» хацелі наладзіць сход членаў НДП. Вы, вядома, бачылі плакат — учора ён яшчэ вісеў на дзвярах. Таму і паехаў Клёйдэрэр у Нюрэнберг — арганізаваць ахову залы, запрасіць прамоўцаў. Мы сказалі гаспадару, што нагі нашай больш тут не будзе, калі ён пусціць фашыстаў. Але пан Пфаншміт не паслухаў нас. Можа, спадзяваўся, што яму нешта перападзе ад клёйдэрэрскіх турыстаў. «Залаты анёл» — адзіны пітны дом на пятнаццаць кіламетраў у акрузе. Калі сёння раніцай мы даведаліся, што сын яго трапіў у бяду, мы зноў населі на гаспадара, і ён узяў назад сваю згоду, а мы абяцалі вызваліць з бяды яго сына.

Фаўльхубер пабарабаніў пальцамі па стале. Потым падняў сваю шклянку і адпіў віна.

— А калі Клёйдэрэр настоіць на тым, каб мы перадалі справу ў суд? — запытаў ён.

— На гэта ён не адважыцца. Калі не хоча, каб усе ад яго адвярнуліся, яму прыйдзецца трымаць язык за зубамі. Гэта мы яму ўдзяўбём. Цяпер, перад выбарамі, ён не пойдзе на скандал.

Фаўльхубер пільна зірнуў у мой бок:

— Як вы мяркуеце, пан калега?

— Гм...— адказаў я.— Усё не так проста.

Твар у Фаўльхубера зрабіўся строгі. І інспектар сказаў пану Пфаншміту так гучна, каб чулі ўсе, хто быў у шынку: расследаванне па справе Клёйдэрэра яшчэ не скончана, і пакуль што няма дастатковых даных для арышту яго сына Фолькера. Па-другое, паказанні сведак супярэчлівыя, па-трэцяе, па-чацвёртае і па-пятае,— мы яшчэ дадзім аб сабе знаць, а сыночку ягонаму трэба будзе з'явіцца ў Ландаў на допыт. Але пра гэта яму ў свой час паведамяць.

Прамова Фаўльхубера была шэдэўрам. Ён так нашпігаваў кожны сказ словамі, што людзі пад канец забыліся, пра што ён гаварыў упачатку. Мы не хацелі, каб хто-небудзь падумаў, што мы перабеглі у стан дэмакратаў. Асцярожнасць — маці поспеху.

Мы выйшлі з «Залатога анёла». На плошчы ўжо ўцямнела. Чатыры ці пяць ліхтароў ледзь асвятлялі ўскраек рынку. Я сеў за руль, уключыў матор і запаліў фары. Калі я паволі націснуў на газ, святло ад фар вырвала з цемры тое месца, дзе яшчэ пазаўчора стаяў абеліск. Магутны аўтакран з надпісам «Акц. тав. «Опель», Русельхейм-Ландаў» якраз трымаў над зямлёй на двух сталёвых тросах абеліск і, пагойдваючы яго, апускаў на грузавік, які стаяў побач.

Я мог бы пайсці на заклад, што адміністрацыя завода «Опель» не ведала, дзе сёння быў яе аўтакран. Рабочыя заўсёды стаяць адзін за аднаго. Ніхто больш не ўбачыць гэты





абеліск, я быў упэўнены. За гарамі ёсць нямала сажалак, не вельмі глыбокіх, праўда, але зарослых чаротам. Ці знойдзеш там гэты помнік?

Я выключыў фары і ў святле падфарнікаў паехаў далей. Інспектар зрабіў выгляд, што нічога не заўважыў. Ён выцягнуў ногі і заплюшчыў вочы. Асфальт шашы, што вяла ў Ландау, быў светлы ад месяца. На фоне фіялетавага неба чарнелі горы. Іхнія вяршыні, як абручом, акаймоўвала вузенькая палоска серабрыстага святла.

— Прыгожы край,— сказаў я, убачыўшы, што інспектар расплюшчыў вочы і таксама глядзіць на пакрытыя вінаграднікам горы.— Швабію ні на што не прамяняю... Калі дазволіце, паеду крышачку цішэй. Такая дзівосная ноч рэдка калі бывае.

— Рабіце, як хочаце,— адказаў Фаўльхубер і потым дадаў: — Не толькі прырода дзівосная, але і людзі цудоўныя!

— І я так думаю. Толькі іншы раз уночы мне мроіцца нешта такое, што ніяк не выкінеш з галавы: ліпне да мяне, як густы сіроп.— Я ўключыў фары і пазіраў, як на святло ляцяць начныя матылі.— Калі я працаваў яшчэ ў аўтатранспартнай інспекцыі, мне даводзілася прымаць удзел у вызначэнні інтэнсіўнасці вулічнага руху. Я станавіўся з лісткам паперы на абочыне вуліцы і кожны раз, як паўз мяне праязджала машына, ставіў на ім рысачку. Такім чынам аўтаінспекцыя падлічвала інтэнсіўнасць вулічнага руху ў пэўны час сутак. Цяпер мне іншы раз мроіцца, нібы я стаю на Максіміліянштрасе ў Мюнхене альбо на Ёзефпляцы ў Нюрнбергу і назіраю за прахожымі, што ідуць па тратуары. Бясконцы паток людзей, якія кудысьці спяшаюцца альбо няспешна шпацыруюць, ідуць насустрач адзін аднаму, разыходзяцца... У час апошніх выбараў у баварскі ландтаг кожны дзесяты выбаршчык аддаў свой голас за НДП. І каб я вёў падлік пешаходаў, як тады падлічваў машыны, мне прыйшлося б кожны раз, як пройдзе дзесяць чалавек, гэта значыць, прыблізна праз кожныя чатыры секунды, ставіць на паперы свастыку. Праз якую гадзіну ў мяне гэтых крыжоў набралася б тысяча. Невясёлыя думкі, ці не праўда?

— Божа! Калі такія думкі зноў не будуць даваць вам спаць, пастарайцеся ўспомніць бюхельбургскіх рабочых з «Опеля».

Мы пасмяяліся, але раптам я падумаў, што не так лёгка будзе паставіць апошнюю кропку пад справай з машынай Клёйдэрэра.

— Што будзем рабіць са справаздачай? — спытаў я.— Усё ж такі два дні мы ездзілі па раёне і не можам так проста кінуць у кошык гэтую справу. Трэба застрахаваць сябе на выпадак, калі Клёйдэрэр альбо Бесельман раскрыюць рот.

Я не бачыў твару Фаўльхубера, але мне падумалася, што ён наморшчыў лоб. Інспектар маўчаў. Хвіліны праз тры ён падзяліўся сваімі думкамі:

— Мы павінны верыць рабочым — яны стрымаюць сваё абяцанне. Мне давядзецца так сфармуляваць справаздачу, каб з яе можна было вычытаць усё і нічога. Гэта даверце мне. Ці, можа, вы самі хочаце ўзяцца за яе?

— Дзякуй, але вы — шэф. Аднак я прапаную вам вось што: дагэтуль у нас было адзінаццаць вінаватых, але, можа, вам гэтага мала, тады дапішыце і мяне. Круглы тузін заўсёды справа добрая. А я ўжо вас выблытаю, калі дойдзе да горшага. Можаце не сумнявацца.

— Тады парадак,— сказаў Фаўльхубер. Мы якраз уехалі ў Ландау, і ён папрасіў: — Кіруйце налева, па Шылерштрасе. Хочацца дадому. Для такога пажылога чалавека, як я, на сёння ўсяго было зашмат.

Калі я спыніў машыну перад яго домам, ён падаў мне руку, чаго, здаецца, раней не рабіў. Потым, крэкчучы, вылез з кабіны і ляпнуў дзверцамі. І тут я раптам успомніў пра помнік. Апусціў правае акенца і крыкнуў услед інспектару:

— Ледзь не забыўся! У чый гонар быў пастаўлен помнік?

— Хіба гэта так важна? — адказаў Фаўльхубер пытаннем на пытанне.— Помніка ўжо і са свечкай не знойдзеш.— Ён доўга корпаўся па сваіх кішэнях, шукаючы ключ.— Але, калі вам так хочацца ведаць — нейкаму генералу, якога палякі ў сорак пятым павесілі як ваеннага злачынца. Толькі пры чым тут слова «гонар»? Правільна казалі бюхельбуржцы.

**Пераклаў з нямецкай мовы**
**Сямён ДОРСКІ.**

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

- Дзмітры КАЗАК
- Язэп ЗАЗЕКА
- Уладзімір ШАЙДАЎ
- Сямён БУКЧЫН
- Уладзімір ПЕТРЫЧЭНКА
- Міхаіл КАЦЮШЭНКА
- Генадзь БЯЛІЦКІ
- Яўгені ІВАНОЎ
- Мая ЯНІЦКАЯ
- Паўліна МЯДЗЁЛКА
- Галіна НУЖКОВА
- Міхась МОДЭЛЬ
- Леанід ЦАРАНКОЎ
- Іван МОЗЕР
- Надар ДУМБАДЗЕ



# ЛЕНІНСКІМ КУРСАМ

Снежань 1920 года. Халодны, слаба асветлены будынак Вялікага тэатра запоўнілі людзі ў шынялях, папахах і будзёнаўках. У глыбіні сцэны на сцяне — вялікая карта Расіі. На ёй часам запальваюцца маленькія, але вельмі яркія лямпачкі. І дэлегатам VIII Усерасійскага з'езда Саветаў становіцца ад іх нібы цяплей. Гэтымі лямпачкамі былі пазначаны на карце тыя месцы, дзе па ленінскім плане ГАЭЛРО намячалася будаўніцтва 30 электрастанцый агульнай магутнасцю ў 1,5 мільёна кілават. На VIII з'ездзе У. І. Ленін сказаў: «Камунізм — гэта ёсць Савецкая ўлада плюс электрыфікацыя ўсёй краіны». Пад электрыфікацыяй У. І. Ленін разумеў не толькі будаўніцтва пэўнай колькасці электрастанцый, але падвядзенне новай тэхнічнай базы пад усю народную гаспадарку. У гэтым ён бачыў асноўны рычаг павышэння прадукцыйнасці працы, дабрабыту народа.

Цікава, што разам з планам ГАЭЛРО ў той час быў распрацаваны і варыянт вялікага плана ГАЭЛРО, згодна якога намячалася будаўніцтва 100 раённых электрастанцый, у тым ліку і ў Сібіры, праект асваення Курскай магнітнай анамаліі, планы стварэння каскада электрастанцый на Ангары і будаўніцтва першай магутнай гідраэлектрастанцыі на Волзе, будаўніцтва гарадоў-спадарожнікаў і асваенне цалінных земляў, пракладка канала Волга — Дон і будаўніцтва метрапалітэна ў Маскве і Петраградзе. Іх рэалізацыю давялося адкласці на пазнейшы час.

Буржуазная прапаганда ўзняла шум вакол ленінскага плана тэхнічнага пераўзбраення краіны. За якія сродкі жабрацкая Расія будзе будаваць электрастанцыі, фабрыкі, заводы? — пыталіся буржуазныя пісакі. І адказвалі: — Хіба не зразумела, што ўсе вашы планы — чыстая фантазія.

Нават славуты пісьменнік Герберт Уэлс, які наведаў тады Расію, пісаў, вярнуўшыся ў Англію: «У якое б чароўнае люстэрка я не глядзеў, я не магу ўбачыць гэтую Расію будучага, але невысокі чалавек у Крамлі валодае такім талентам. Ён бачыць... як уздымаецца абноўленая і шчаслівая, індустрыялізаваная камуністычная дзяржава».

Гэты вялікі фантаст, які ўяўляў, як людзі будуць жыць праз сотні гадоў, які ўжо ў тыя часы верыў у магчымасць касмічных палётаў, не мог паверыць у будучыню Расіі.

А Уладзімір Ільіч Ленін верыў. Ён бачыў Расію развітую, індустрыяльную, адукаваную. Ленін меў здзіўляючую здольнасць не толькі глыбока разумець сучаснае, а і зазіраць у будучыню, бачыць перспектывы і рабіць усё для іх ажыццяўлення. Ён бачыў тое, дзякуючы чаму пераўтворыцца абліччa краіны, здзейсніцца цуд без цудаў. Гэта — навукова-тэхнічны прагрэс.

Умовы для яго інтэнсіўнага разгортвання — сацыялістычны лад.

Толькі пры сацыялізме, сцвярджаў У. І. Ленін, пачнецца «сапраўдны, сапраўды масавы, пры ўдзеле большасці насельніцтва, а затым усяго насельніцтва, рух уперад, які адбываецца ва ўсіх галінах грамадскага і асабістага жыцця».

Ленінскі план будаўніцтва сацыялізма меў на ўвазе шырокае выкарыстанне навукова-тэхнічных дасягненняў у вырашэнні трох асноўных задач — індустрыялізацыі, калектывізацыі сельскай гаспадаркі і ажыццяўлення культурнай рэвалюцыі. Асаблівую ўвагу У. І. Ленін надаваў развіццю цяжкай індустрыі.





Увесь далейшы ход гісторыі цалкам пацвердзіў вялікую справядлівасць ленінскіх ідэй. Расія стала краінай электрыфікаванай, індустрыяльнай, аснашчанай перадавой тэхнікай, краінай, якая ідзе ў авангардзе навукова-тэхнічнай рэвалюцыі свету. Дастаткова сказаць, што к канцу 1970 года магутнасць усіх электрастанцый краіны больш чым у сто разоў пераўзышла накіды плана ГАЭЛРО. Прычым энергетыка, як галіна, якая вызначае тэхнічны прагрэс, значна апярэджвае развіццё народнай гаспадаркі ў цэлым. Так, калі за 1940 — 68 гг. валавы грамадскі прадукт вырас у 7,1 раза, то выпрацоўка электраэнергіі — у 14,3 раза. У нашай краіне дзейнічаюць чатыры самыя буйныя ў свеце гідраэлектрастанцыі і чатыры самыя буйныя ў свеце цеплаэлектрастанцыі. СССР займае першае месца ў свеце па працягласці ліній электраперадач звышмагутнага напружання, па электрыфікацыі чыгуначнага транспарту. З 1917 па 1970 год выпрацоўка электраэнергіі вырасла ў нас у 340 разоў.

Сучасная навукова-тэхнічная рэвалюцыя ахоплівае ўсе галіны гаспадаркі і эканомікі. Тэмпы яе вызначаюцца развіццём электраэнергетыкі, узроўнем комплекснай механізацыі і аўтаматызацыі вытворчасці, развіццём радыёэлектронікі, выкарыстаннем у мірных мэтах атамнай энергіі, паляпшэннем прыродных і стварэннем новых матэрыялаў, асваеннем касмічнай прасторы.

Называючы комплексную механізацыю і аўтаматызацыю вытворчасці адным з галоўных напрамкаў тэхнічнага прагрэсу, У. І. Ленін адзначаў, што механізацыя і аўтаматызацыя абумоўліваецца пры сацыялізме шэрагам аб'ектыўных фактараў сацыяльнага, эканамічнага і тэхнічнага характару. Такімі фактарамі з'яўляюцца змена характару працы, неабходнасць павышэння прадукцыйнасці і паляпшэння ўмоў працы, павелічэнне маштабаў і павышэнне інтэнсіўнасці вытворчых працэсаў і г. д.

На зары капіталізму машына замяніла чалавека ў выкананні такіх аперацый, якія патрабавалі затрат мускульнай энергіі. Сучасная навукова-тэхнічная рэвалюцыя мае на мэце перадаць машынам і такія вытворчыя функцыі, якія звязаны з разумовай дзейнасцю: запамінанне, адбор і перапрацоўка інфармацыі, кантроль і кіраванне. Ажыццяўляецца пераход ад машынна-фабрычнай да комплексна-аўтаматызаванай вытворчасці, дзе ўсе ўчасткі дзейнічаюць аўтаматычна: і праектаванне, і самарэгуляванне па зададзенай праграме, і выбар найбольш аптымальных рэжымаў — усё, аж да выдачы гатовай прадукцыі.

Укараненне комплексна-механізаванай вытворчасці — працэс вельмі складаны і працяглы, аднак ужо сёння мы можам гаварыць пра першыя поспехі.

Ужо даўно амаль усе гідраэлектрастанцыі краіны маюць аўтаматычнае кіраванне. Пуск, спыненне, змена рэжыму работы — усё гэта ажыццяўляецца аўтаматычна. Калі да Вялікай Айчыннай вайны Дняпроўскую ГЭС абслугоўвала 290 чалавек у змену, дык цяпер — толькі некалькі чалавек.

40 працэнтаў чыгуну выплаўляецца ў печах, якія маюць цэлы шэраг аўтаматычных прыстасаванняў.

Бетонны завод-аўтамат можа выпускаць і грузіць у бетонавозы любую з 1500 бетонных сумесяў без удзелу рабочых.

У нашай краіне дзейнічаюць каля 50 тысяч механізаваных і паточных ліній, штогод іх уводзіцца ў строй каля шасці тысяч. Толькі за апошнія гады створана больш як 1300 камплектаў сучаснага аўтаматычнага і паўаўтаматычнага абсталявання. Выпуск прыбораў і сродкаў аўтаматызацыі павялічыўся за апошнія пяць гадоў у 1,8 раза, а іх удзельная вага ў агульным аб'ёме прыборабудавання складае звыш 50 працэнтаў.

Шырокая аўтаматызацыя вытворчасці стала магчымай дзякуючы ўкараненню радыёэлектронікі. Іменна яна дапамагае чалавеку заглянуць у атамны рэактар і палаючую доменную печ, убачыць, што робіцца на дне акіяна і на паверхні Месяца, рабіць дзесяткі і сотні складаных аперацый у секунду. Цяпер наша прамысловасць пераходзіць ад лямпавых і звычайных паўправадніковых схем да стварэння такіх электронна-вылічальных машын, якія будуць рабіць да 5 мільёнаў аперацый у секунду.

Укараненне электронна-вылічальнай тэхнікі прывяло да важных зру-

хаў і ў кіраванні вытворчасцю. На многіх прадпрыемствах краіны ствараюцца аўтаматычныя сістэмы кіравання. Такая сістэма ствараецца, напрыклад, на Мінскім заводзе аўтаматычных ліній. Першая чарга яе складаецца з тэхніка-эканамічнага планавання, тэхнічнай падрыхтоўкі вытворчасці, апаратыўнага кіравання асноўнымі вытворчымі працэсамі, а таксама матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, бухгалтарскага ўліку. Эканамічны эфект ад яе прымянення складае 435,6 тысячы рублёў. За тры з паловай гады ўсе капітальныя затраты на яе цалкам акупяцца.

Наша рэспубліка, з'яўляючыся адным з буйнейшых раёнаў краіны, якія выпускаюць сродкі аўтаматызацыі і новай тэхнікі, знаходзіцца на пярэднім краі барацьбы за тэхнічны прагрэс. Аўтаматычныя лініі, электронна-вылічальныя машыны, аўтаматычныя і паўаўтаматычныя станцыі, трактары і аўтамабілі, якія выпускаюць прадпрыемствы Беларусі, вядомы далёка за яе межамі. Няспынна пашыраецца і ўдасканальваецца наша вытворчая база. Толькі за гады восьмай пяцігодкі пушчана 1 400 паточна-механізаваных і аўтаматычных ліній, комплексна механізавана і аўтаматызавана 500 цэхаў, участкаў, прадпрыемстваў. Пасяхова выкананы пяцігадовы план. За пяцігоддзе аб'ём прадукцыі прамысловасці ўзрос у параўнанні з 1965 годам у 1,8 раза пры ўстаноўленым заданні ў 1,7 раза; аб'ём прадукцыі машынабудавання і металаапрацоўкі вырас у два разы, хімічнай і нафтахімічнай прамысловасці — у 3,2 раза. Асвоен выпуск больш як 400 новых вырабаў, у тым ліку — аўтамабілі «БелАЗ» грузападымальнасцю ў 27 і 40 тон, электронна-вылічальныя машыны «Мінск-32», капралактам, поліэтылен, новыя маркі тэлевізараў і радыёпрыёмнікаў і г. д.

У 1970 годзе ў рэспубліцы выпушчана 5,7 працэнта грузавых аўтамабіляў ад агульнага выпуску іх у краіне, 17 працэнтаў трактароў, 13 працэнтаў металарэзных станкоў, 4,8 працэнта аўтаматычных ліній, 18 працэнтаў матацыклаў, 100 працэнтаў сіласаўборачных камбайнаў.

У. І. Ленін лічыў, што асновай паспяховага развіцця эканомікі з'яўляецца развіццё навукі, яе цесная сувязь з практыкай, выкарыстанне яе дасягненняў у вытворчасці. Заняты іншымі важнымі дзяржаўнымі справамі, Уладзімір Ільіч знаходзіў час, каб уважліва сачыць за развіццём навукі і ажыццяўляць важныя практычныя мерапрыемствы. У красавіку 1918 года ён зрабіў «Накід плана навукова-тэхнічных работ», у якім перад навуковымі цэнтрамі пастаўлены канкрэтныя народнагаспадарчыя задачы: электрыфікацыя прамысловасці і транспарту, рацыянальнае размяшчэнне прадукцыйных сіл, забеспячэнне народнай гаспадаркі сыравінай, палівам і г. д. Толькі за тры гады — з 1918 па 1920, якія былі самымі цяжкімі ў гісторыі Савецкай дзяржавы, па ініцыятыве або пры асабістым удзеле У. І. Леніна было створана больш як 100 новых навуковых устаноў, у тым ліку інстытуты хімічны, гідраўлікі, плаціны і рэдкіх металаў, фізіка-тэхнічны, радыёаптычны і інш...

У. І. Ленін меў, паводле выказвання А. М. Горкага, цудоўную здольнасць глядзець на сучаснае з вышыні будучага. Садзейнічаючы развіццю навукі, ён прадбачыў, што яна будзе мець усё большае, а затым і рашаючае значэнне ў сацыяльна-эканамічным прагрэсе грамадства.

Гэтае навуковае прадбачанне правадыра цалкам пацвярджаецца ўсім ходам сучаснай навукова-тэхнічнай рэвалюцыі. Яе важнейшай асаблівасцю і з'яўляецца ператварэнне навукі ў непасрэдную прадукцыйную сілу. Ахопліваючы ўсе галіны вытворчасці, навука змяняе прылады і прадметы працы, тэхналогію і арганізацыю вытворчасці, абумоўлівае стварэнне новых напрамкаў і галін, выклікае пераварот ва ўсёй сістэме прадукцыйных сіл грамадства. Разам з тым адбываецца працэс індустрыялізацыі самой навукі на аснове прымянення электронна-вылічальных машын і іншых складаных тэхнічных сістэм.

Толькі на аснове навуковых дасягненняў стала магчыма выкарыстоўваць у мірных мэтах атамную энергію. Прайшло 15 гадоў, як у нашай краіне пачалі будаваць атамныя электрастанцыі. Атамная электрастанцыя на беразе Каспійскага мора (г. Шаўчэнка) будзе даваць не толькі электраэнергію, але і пáру для апраснення 150 тысяч тон вады





ў суткі. Адкрытыя чалавекам прамені паскораных часціц дазваляюць пранікаць у тоўшчу бетону і металу, перадаваць энергію на адлегласць, знаходзіць карысныя выкапні. З'яўляючыся ўвасабленнем розуму чалавека, электронныя машыны ўсюды становяцца яго незаменнымі памочнікамі.

Як паказалі разлікі акадэміка Трапезнікава, кожны рубель, укладзены ў навуку, дае 1,45 рубля прыросту нацыянальнага даходу. Гэта ў чатыры разы эфектыўней, чым усякія іншыя капітальныя затраты.

Наша краіна знаходзіцца ў авангардзе навуковага прагрэсу. Чацвёртая частка ад агульнай колькасці ўсіх навуковых работнікаў свету — савецкія вучоныя. У навуковых установах у нас працуе каля 930 тысяч чалавек. Толькі ў нашай рэспубліцы колькасць навуковых работнікаў у канцы 1970 года склала 22 тысячы чалавек, з іх 6 тысяч маюць вучоную ступень доктара або кандыдата навук.

Больш як паўвека прайшло з часу гістарычнай прамовы У. І. Леніна перад дэлегатамі III з'езда РКСМ. Многае змянілася за гэтыя гады. Аднак і сёння вельмі надзённа гучыць ленінскі заклік да моладзі: «Перад вамі задача будаўніцтва, і вы яе можаце вырашыць толькі авалодаўшы ўсімі сучаснымі ведамі...» Сучасная вытворчасць, задачы яе інтэнсіўнага развіцця патрабуюць такіх работнікаў, якія маюць шырокія веды. Партыя, у адпаведнасці з ленінскімі запаветамі, ставіць перад моладдзю задачу глыбока авалодваць навуковымі ведамі і сучаснай тэхнікай. На XVI з'ездзе ВЛКСМ Генеральны сакратар ЦК КПСС Л. І. Брэжнеў гаварыў аб тым, што наша моладзь павінна быць у авангардзе паходу за авалоданне сучаснымі вышынямі навукі і тэхнікі.

Рух маладых за авалоданне вышынямі навукі і тэхнікі набывае шырокі размах. У першых шэрагах яго ідуць маладыя вучоныя, інжынеры, тэхнікі.

«Ведаць новае, ствараць новае, укараняць новае», — такі дэвіз сучаснай моладзі. На заводах і фабрыках створаны саветы тэхнічнай творчасці, у камсамольскіх арганізацыях дзейнічаюць факультэты навукова-тэхнічнага прагрэсу. Іх лозунг: «Ад тэхмінімуму — да тэхмаксімуму», мэта — даць юнакам і дзяўчатам суму інжынерных ведаў.

ЦК ВЛКСМ адобрыў пачын мінскіх трактарабудаўнікоў па эканамічным ўсенавучы моладзі. Яго мэтай з'яўляецца мабілізацыя юнакоў і дзяўчат на паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу, выхаванне ў маладых рабочых творчых адносін да працы. Ён з'яўляецца састаўной часткай усесаюзнага Ленінскага заліку «Мы справе Леніна і партыі верныя». Формамі эканамічнага ўсенавуча з'яўляюцца і гурткі камсамольскай асветы, і школы эканамічнага навучання моладзі, і кансультацыйныя пункты, створаныя ў цэхах.

Неабходнасць пастаяннага павышэння кожным маладым рабочым прафесійнага майстэрства і агульнаадукацыйнага ўзроўню ў сувязі з навукова-тэхнічным прагрэсам падкрэсліў у сваім дакладзе на III пленуме ЦК ВЛКСМ (1971) першы сакратар ЦК ВЛКСМ Я. М. Цяжэльнікаў.

Здзяйсняючы ленінскія ідэі, КПСС распрацоўвае і ажыццяўляе шырокія планы стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма. На аснове разгортвання навукова-тэхнічнай рэвалюцыі паскараюцца тэмпы нашага руху наперад. Характэрна, што за гады восьмай пяцігодкі сярэднегадавы прырост нацыянальнага даходу склаў 7,2 працэнта супраць 6,5 працэнта ў сярэднім за 1961 — 1965 гады. План на 1970 год прадугледжваў прырост вытворчай прадукцыі на 6,3 працэнта, а фактычна прырост склаў 8,3 працэнта. Звыш плана выпушчана і рэалізавана прадукцыі больш як на 7 мільярдаў рублёў.

XXIV з'езд КПСС распрацаваў новую грандыёзную праграму далейшага руху Савецкай дзяржавы па вызначаным Леніным шляху да запаветнай мэты — камунізма.

**Дзмітры КАЗАК,**
**аспірант кафедры гісторыі СССР**
**Мінскага педінстытута імя А. М. Горкага.**



Калгасны брыгадзір. Фота В. Кашкана.



Мой дзядуля. Фота У. Мяжэвіча.

# У АБ'ЕКТЫВЕ—БЕЛАРУСЬ

**Напярэдадні XXVII з'езда Кампартыі Беларусі Беларускае аддзяленне Агенцтва друку Навіны арганізавала выстаўку мастацкай фатаграфіі. У ёй прыняло ўдзел 50 фотарэпарцёраў і аматараў, якія паказалі больш за 200 работ.**

**Глядач зноў сустрэўся з такімі імёнамі, як Міхаіл Ананьін, Уладзімір Дагаеў, Васіль Аркашоў, Уладзімір Лупейка, чые здымкі расказваюць пра гісторыю вайны, пра змаганне беларускага народа супроць фашызму.**

**Важкае слова на гэтай выстаўцы сказалі маладыя. Зянон Пазняк, Юры Іваноў, Віталі Бараноўскі, Уладзімір Мяжэвіч, Віктар Ганчарэнка, Генадзь Бяліцкі, Эдуард Трапачук у сваіх фатаграфічных творах услаўляюць родную зямлю і сучаснага чалавека. Гэтай ідэяй прасякнута ўся экспазіцыя.**

Дзяўчаты з Альшан. Фота В. Ждановіча.



Паводка. Фота В. Бараноўскага.





Мантаж турбіны на Лукомльскай ДРЭС. Фота **М. Мінковіча.**



**Новы дом.** Фота **У. Мяжэвіча.**





Зубры.



**Жалезныя карункі.** Фота **Ю. Іванова.**



# МУЖНАСЦЬ



С. Я. Янчанка. Фота 1945 г.

Гэта было ў пачатку мая 1942 года. Камсамольца Сцяпана Янчанку выклікалі ў Маскву. У кабінеце сакратара ЦК ЛКСМ Беларусі Міхаіла Васільевіча Зімяніна вісела вялікая, на ўсю сцяну, апаратыўная карта. Сцяпана запрасілі да гэтай карты. Напружана ўглядаючыся ў паметкі на карце, ён уяўляў родныя мясціны, дзе цяпер быў «глыбокі тыл ворага». У кабінеце перад адпраўкай на адказнае баявое заданне сабраліся такія ж, як і Сцяпан, камсамольцы.

— Гэтымі днямі, — пачаў Міхаіл Васільевіч,— вы пойдзеце за лінію фронту.— Ён падышоў да карты і ўторкнуў чырвоны сцяжок ля кропкі з надпісам «Горкі».— Вы, таварыш Янчанка, прызначаецеся ўпаўнаважаным ЦК камсамола ў Горацкі раён на Магілёўшчыне...

Пасля задавалі пытанні. Сцяпан пражыў на свеце ўсяго васемнаццаць, але ўжо ведаў, што такое вайна. У першае ваеннае лета ён вывеў у савецкі тыл шаснаццаць хлапчукоў і дзяўчынак з Ляднянскага дзетдома. Нагледзеўся ўсяго: і спаленых вёсак, і забітых людзей. Усё гэта вялікім цяжарам лягло на сэрца і поўніла яго гневам.

Праз тыдні два ўпаўнаважаныя ЦК ЛКСМБ былі ў прыфрантавой паласе. Сцяпан Янчанка, як і яго новыя сябры, добра сабраўся ў дарогу: пісталет, аўтамат, гранаты, рацыя, газеты, лістоўкі, сухі паёк на тры дні. Яны чакалі цемнаты ў пералеску, які рассякала шаша. Усё навокал было ўскапана бомбамі. Між абпаленых і абкураных агнём нямецкіх танкаў валяліся каскі, шапкі. «Відаць, нашы добра ўсыпалі немцам»,— падумаў ён, і на сэрцы неяк палягчэла.

Як толькі пачало змяркацца, прыйшоў наш праваднік, і група рушыла на захад. Ішлі моўчкі, нікому не хацелася гаварыць: кожны думаў пра сваё.

Хутка стала вядома, што яны пяройдуць фронт пад Суражам. Называлася гэта месца «Вароты праз фронт». І сапраўды, тут не было суцэльнай франтавой лініі. Участак кантралявалі танкі і пешыя патрулі.

Добра сцямнела. Ноч як бы прыкрыла ўсіх адным маскіровачным халатам. Старшы лейтэнант паглядзеў на наручны гадзіннік і сам сабе загадаў: «Пара!»

Пайшлі аблогамі, дробнымі кустамі, а калі выйшлі на поле, папаўзлі, прыслухоўваючыся да кожнага гуку. Раптам у неба ўзляцелі адна за другою ракеты, зусім блізка пачуліся аўтаматныя стрэлы. Улучыўшы момант, калі святло разарвала цемень, Сцяпан шпурнуў гранату туды, адкуль чулася страляніна.

Усё навокал заціхла. Недзе далёка гарматы высякалі ў высокім небе іскры, а тут, пад нагамі, уздрыгвала зямля...

Пад раніцу дабраліся да партызанскага атрада. Трэба было бачыць, з якой радасцю сустрэлі партызаны людзей з Вялікай зямлі. Недалёка ад вёскі Крынкі раніцою зрабілі прывал у лесе. Неспадзявана прыбег партызанскі сувязны і ўсхвалявана загаварыў:

— Гітлераўцы і паліцэйскія з учарашняга вечара рабуюць нашу вёску, хапаюць людзей. Дапамажыце!..

Вырашылі зрабіць засаду каля дарогі. Дзве гадзіны праседзелі ў чаканні. Нарэшце з вёскі пацягнулася калона. Наперадзе былі коннікі-паліцэйскія, а за імі брылі арыштаваныя вяскоўцы. Па баках канваіры-немцы са зброяй напагатове. За абозам гналі кароў. Ад вёскі да лесу дарога была роўная, бы струна, і добра праглядалася з засады. Калона ўвайшла ў лес, партызаны падпусцілі гітлераўцаў на блізкую дыстанцыю, і камандзір групы Віктар Парцянкін падаў сігнал. Адразу ж застракаталі аўтаматы...

Арыштаваныя разбегліся. Многія далучыліся да партызан.

Нарэшце дабраліся ў Белы Бор. Цёпла і ветла сустрэў хлопцаў Максім Баравы, камендант партызанскай базы. Размясціліся ў двух прасторных шалашах. Памыўшыся і пагаліўшыся, частаваліся разварыстай бульбай у мундзірах, адпачывалі на свежай саломе. Сонца ўжо было высока над лесам, калі ля шалаша сабраліся Віктар Парцянкін, Сцяпан Янчанка і Генадзь Базыленка, каб намеціць свой новы маршрут.

— Віктар Міхайлавіч,— звярнуўся Сцяпан Янчанка да кіраўніка групы,— заўтра махнём на «жалезку»?

— А чаму і не. Тол у нас ёсць. Шмыроўцы далі крыху. І Генадзь, мне думаецца, пойдзе з намі,— твар у Парцянкіна быў, як заўсёды, спакойны.

Генадзь не чуў, пра што гаварылі. Ён нешта ціха шаптаў, засяродзіўшыся. Сцяпан прыслухаўся. Павярнуўся да Генадзя і спытаў:

— Вершы складаеш?

— Ага.

— Прачытай нам.

— Можа не варта. Рэдактар нашай партызанскай газеты не надта каб хваліў...

— А ты ўсё ж пачытай,— настойліва прасіў Сцяпан.

Генадзь пачаў чытаць.

— Гэта ж вельмі добра! — сказаў Сцяпан Янчанка, калі хлопец скончыў.— Нам зараз патрэбны такія вершы!..

І ўпаўнаважаны ЦК ЛКСМБ моцна паціснуў руку паэту-партызану.

Той вечар, калі яны адпраўляліся ў дарогу, запомніўся ўсім. У вяршалінах дрэў шумеў вецер, на лес насоўвалася цемра, толькі на захадзе неба гарэла яркім полымем.

Падрыўнікоў на «жалезку» вёў знаёмай сцежкай Генадзь Базыленка. Кіраваліся на ўчастак Віцебск — Смаленск. Дабрацца туды было нялёгка. Праз кожны кіламетр стаялі вышкі, у іх днём і ноччу сядзела варта. Ящчэ вясною фашысты ўздоўж дарогі навысякалі кусты і дрэвы, засталося толькі сухое галлё: ступіш на галіну, і далёка чуецца трэск...

Падрыўнікі ішлі вобмацкам, каб не налучыць на міну. Прытрымліваючы рукою аўтамат, Сцяпан ступаў вельмі асцярожна, за ім — Віктар, Генадзь... Прычакаўшы зручны момант, калі вартавыя аддаліліся, зрабілі лаз у калючым дроце, залеглі. Сцяпан падаў рукою каманду. Ціха, па адным падрыўнікі папаўзлі да насыпу.

Далёка, з таго боку, дзе быў Віцебск, пачуўся гудок. Колы лёгка выстуквалі на рэйках. Сцяпан здагадаўся, што гэта паражняк—правярае дарогу. Праскочылі парожнія платформы. Гулкі і лёгкі перастук колаў аддаляўся. На змену яму пачуўся цяжкі грукат, аж дрыжэла зямля. Пачуліся крокі: варта! Чаго яны сёння так часта ходзяць?..

Цягнік набліжаўся.

— Буду мініраваць пры падыходзе. Сачыце за вартай. Калі што якое...— Сцяпан дастаў з кішэні запал.

Ён папоўз на насып. Міна лягла побач з рэйкай. Дэтанатар... Так... Вось так... У святле паравозных фар вартавым добра быў відзён партызан. Яны трымалі яго на прыцэле. Але і партызаны сачылі за вартай. Як толькі пачулася «хальт!» — загаварылі партызанскія аўтаматы. Гітлераўцаў бы ветрам здзьмула з дарогі.

Сцяпан спрытна саскочыў з насыпу і, трохі адбегшыся, залёг у лагчыне.

Бухматае полымя шуганула ў неба, здрыганулася зямля. На дыбкі пасталі сплюшчаныя вагоны і са скрыгатам паляцелі пад адхон.

Адстрэльваючыся, падрыўнікі адышлі ў лес.

А 21 ліпеня Сцяпан Янчанка напісаў Бацьку Мінаю ліст:

«Паважаны Мінай Піліпавіч!

Ваш тол скарысталі па прызначэнні. На ўчастку Віцебск—Смаленск мы пусцілі пад адхон варожы цягнік, які ішоў на фронт.

З павагай да Вас

Сцяпан Янчанка».

Праз тыдзень, 28 ліпеня, упаўнаважаны ЦК ЛКСМБ прыйшоў у Горацкі раён, на тое месца, якое тады на карце вызначыў сакратар ЦК ЛКСМБ М. В. Зімянін. Адразу ж паведаміў у Маскву па рацыі, што да работы прыступіў.

Сцяпан Янчанка з хлопцамі спачатку асталяваўся ў Баронавым лесе. Сюды, у стары і густы бор, пацягнуліся патаемныя сцежкі горацкіх падпольшчыкаў. За лета падпольшчыкі спалілі тры масты, перадалі партызанам 23 вінтоўкі, 40 гранат, больш чым 100 запалаў і некалькі тысяч патронаў. У партызанскі атрад з пасёлка пайшло чатырнаццаць узброеных камсамольцаў.

Пра камсамольцаў-падпольшчыкаў і іх кіраўніка Івана Дуцько з вёскі Туда-



Праз дваццаць гадоў. С. Г. Сідарэнка-Салдаценка — былы камандзір ваенна-апаратыўнай групы пры Магілёўскім падпольным абкоме КП(б) Беларусі і С. Я. Янчанка.

раўка ўжо грымела добрая слава. Сцяпан Янчанка часта сустракаўся з Іванам і яго сябрамі. Успамінаючы тыя сустрэчы сёння, праз многа гадоў, ён з хваляваннем расказвае, як хлопцы здабывалі ўзрыўчатку, перадавалі зброю і боепрыпасы, рабілі міны, ставілі іх на шашы, на дарогах...

Вясною 1943 года нямецкія карнікі ў час блакіроўкі схапілі Івана Дуцько і яго шаснаццаць баявых сяброў і расстралялі іх.

У вёсцы Міхайлавічы ў 1942 годзе была створана падпольная камсамольская арганізацыя. Кіраўніком яе быў Пятро Ганчароў, вясёлы хлопец-жартаўнік. У часе акупацыі ў Міхайлавічах размяшчалася партызанская майстэрня па рамонце зброі. Яе першымі арганізатарамі сталі вясковыя камсамольцы. Сцяпан ганарыўся сваёй «індустрыяй».

Падпольныя камсамольскія групы дзейнічалі ў вёсках Рэкатка, Клін, Палёнка, Сава, Альхоўка... З камсамольскага падполля выйшаў камандзір другога атрада 35-й партызанскай брыгады Апанас Захаравіч Васільеў, які потым праславіўся на ўсё Магілёўскае злучэнне.

Улетку 1943 года Магілёўскі падпольны абком партыі даручыў Сцяпану Янчанку арганізаваць папаўненне 35-й партызанскай брыгады. Падабраць сто ўзброеных байцоў — заданне нялёгкае. Часта даводзілася з вялікай рызыкай прабірацца ў вёскі, каб самому рыхтаваць людзей. У такі складаны момант ніхто ніколі не бачыў Сцяпана разгубленым: яго твар заўсёды свяціўся цеплынёю і спакоем.

Заданне было выканана. Восенню 1943 года з Горак падпольшчыкі накіравалі ў атрад Васільева 153 чалавекі, узброеныя вінтоўкамі, аўтаматамі і кулямётамі.

Пасля Сцяпан Янчанка працаваў сакратаром Бялыніцкага падпольнага райкома камсамола, а перад самым летнім наступленнем Савецкай Арміі ў 1944 годзе быў членам бюро Магілёўскага падпольнага абкома ЛКСМБ, узначальваючы агітацыйна-масавую работу ў атрадах, брыгадах, сярод насельніцтва Магілёўшчыны.

...Даўно ўжо адгрымела вайна. Хто быў юнаком, стаў дарослым. Пазарасталі партызанскія сцежкі, многае выветрылася з памяці. Але ёсць нешта такое, што помніцца заўсёды. Часам дастаткова аднаго слова, адной сустрэчы, каб усё стала зноў блізкім.

Сцяпан Яўхімавіч Янчанка — сёння дацэнт кафедры палітэканоміі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. За плячыма — вялікае жыццё, новыя клопаты, але не-не, ды і прыгадаюцца яму хвалюючыя старонкі суровага юнацтва.

Язэп ЗАЗЕКА.

# СЭРЦА ПАРТЫЗАНА

Камсамольцы і піянеры чатырнаццатай сярэдняй школы горада Оршы прайшлі шляхамі подзвігаў дваццаці пяці падпольшчыкаў-партызан. Адзін з іх — былы вучань нашай школы.

...Ваня Самусік працаваў у дэпо. Марыў паступіць у інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту. Але ўсе планы перабытала вайна.

У першыя ж дні ў дэпо быў мітынг. Чыгуначнікам сказалі: кожны застаецца на сваім месцы. І Ваня Самусік стаў салдатам тылу. Кожны дзень — ля станка. Дамоў прыходзіў стомлены і маўклівы.

Калі ў Оршы з'явіліся немцы, Ваня на работу не пайшоў, сказаў маці:

— Працаваць на захопнікаў не буду!..

Колькі часу праседзеў дома, а потым нечакана сказаў: «На чыгунцы працуюць ужо нашы хлопцы: браты Бляўскія, Раўгейша Міша. Пайду сёе-тое зараблю...»

У дэпо хлопцы знайшлі агульную мову. Наладзілі праслухоўванне паведамленняў Саўінфармбюро. Шкада толькі, што прыёмнік быў вельмі слабы і хутка зусім сапсаваўся.

Неўзабаве для хлопцаў знайшоўся больш важны занятак — іх уключылі ў падпольную групу дыверсантаў.

Пасля таго як кіраўнік дэпоўскага падполля Канстанцін Заслонаў і яго таварышы пайшлі ў партызанскі атрад, падпольную барацьбу дэпо ўзначаліў Васіль Прыгода.

Група пачала дзейнічаць.

— Аднойчы, — прыгадвае Міхаіл Раўгейша, — Вася Прыгода прынёс магнітную міну і расказаў, як ёю карыстацца. Мы рашылі ўзарваць вагон з бензінам.

Калі аб усім дамовіліся, Ваня Самусік сказаў: «Я пастаўлю міну». Мы з ім пайшлі да вагона. Калі вартавы адышоўся, Ваня падклаў міну пад вагон, і мы хуценька пабеглі дамоў. Крыху баяліся — гэта было наша першае заданне...

Страшэнны выбух страсянуў наваколле, і вогненны слуп узняўся ў паветра. Узрываліся бочкі з бензінам, агонь наступаў на суседнія вагоны. Успыхнуў пажар на ўсёй станцыі. З'явіліся немцы і пачалі тушыць пажар, расцягваць вагоны.

Немцы бегалі з аўтаматамі па вуліцах, заглядвалі ў дамы і кватэры. Ваня Самусік не разгубіўся. Ён узяў гітару і выйшаў на ганак. Бесклапотна перабіраў струны...

Дыверсіі працягваліся. Праўда, цяпер часцей вагоны падрываліся ў дарозе. Так загадала камандаванне падполля. І сапраўды, эфект ад дыверсій стаў большы. Калі на станцыі ўзрывалася некалькі вагонаў, то ў дарозе знішчаўся ўвесь эшалон. Ды і вінаўніка не так лёгка было выявіць. Звычайна пасля выбухаў — і ў дарозе, і на станцыі — фашысты наладжвалі аблавы. У час адной з іх быў схоплены і закатаваны Іван Бляўскі. Але барацьба не спынялася.

У кірмашовыя дні на плошчы з'яўляліся нямецкія агітмашыны. Яны расхвальвалі нямецкія парадкі, агітавалі моладзь ехаць у Германію.

Падпольшчыкі атрымалі заданне знішчыць здраднікаў і іх агітмашыну. За гэтую справу ўзяўся Іван Самусік. Ён папрасіў сваю сястру Алену, каб яна пайшла з ім на базар. Тая згадзілася.

— Калі мы прыйшлі на базар, — успамінае Алена Міхайлаўна, — Ваня адразу пачаў прабівацца да машыны з гучнагаварыцелем. І раптам людзі кінуліся хто куды. Пачалася аблава. Мяне схапілі, кінулі ў грузавік і павезлі за Днепро. Але я скочыла з машыны і так-сяк дабралася дамоў. Ваня ўжо быў у хаце, ён хадзіў па пакоі і са злосцю гаварыў: «Уцяклі, гады, але я да іх яшчэ дабяруся». Кінутая ім у мітусні граната не дасягнула мэты, але «агітатары» вельмі напалохаліся...



Іван Самусік.

Самая буйная дыверсія адбылася на станцыі Орша-Заходняя ў сярэдзіне жніўня 1943 года. І ў ёй прымаў удзел Іван Самусік.

На станцыі збіліся эшалоны. Большасць з іх былі з бензінам.

Падвечар сабралася ўся група. З тайніка прынеслі міну. Але каму ісці? Хлопцы працавалі ў дэпо і ўсе былі пад наглядам. Толькі Генадзь Антоненка меў асабісты пропуск, бо працаваў у канторы. Яму і даручылі падкласці міну пад цыстэрну. А Ваня, Міхась і Васіль наглядалі за гэтай аперацыяй, гатовыя ў любую хвіліну кінуцца на дапамогу.

Выбух павінен быў адбыцца праз сорак хвілін. Але мінула каля гадзіны, і нішто не парушыла цішу. Трывога па-

чала змяняцца крыўдай, што праца будзе марнай. На станцыю зноў прыйшоў цягнік, а выбуху ўсё не чутно.

— Чакаць не хапіла цярпення, — прыгадвае Міхась Раўгейша, — і мы пачалі разыходзіцца, папракаючы Івана Самусіка за тое, што ён зрабіў штосьці не так — Ваня рыхтаваў міну. Спачатку ён апраўдваўся, а пасля апусціў галаву і маўчаў. На дварэ ўжо змяркалася. Я зірнуў на гадзіннік. Была дзесятая гадзіна вечара. Праз колькі хвілін паветра скалануў выбух. Потым пачуліся выбухі яшчэ і яшчэ. Я налічыў іх каля пятнаццаці. З-за дыму не відаць было станцыі. Праз яго прабівалася полымя. Усё трашчала і гуло. Немцы, якія прыбылі на месца дыверсіі, мітусіліся, спрабавалі расцягваць вагоны, але ўсё дарэмна.

Падпольшчыкі нанеслі вялікую шкоду акупантам. Было знішчана дзесяць цыстэрнаў з бензінам і іншымі матэрыяламі. Зеўралі рамы абгарэлых вагонаў.

Цэлую ноч Орша не прымала паяздоў ні з фронту, ні з тылу. Гэта была апошняя буйная аперацыя маладзёжнай дыверсійнай групы. Потым пачаліся аблавы і арышты, і падпольшчыкі разам з сем'ямі пайшлі ў партызаны. Іван Самусік стаў разведчыкам атрада «Аршанец», які толькі што арганізаваўся ў брыгадзе Канстанціна Заслонава.

Пачалося партызанскае жыццё. Засады, дыверсіі, аперацыі па знішчэнні варожых гарнізонаў. І заўсёды Іван Самусік вяртаўся з поспехам. Яго не палохалі ні холад, ні шматкіламетровыя пераходы. Ён не развітваўся са сваім ручным кулямётам.

Люты 1944 года быў не вельмі снежны, але марозны. Неяк у сярэдзіне месяца камандзір атрада Кузьма Піліпавіч Дзямідаў выклікаў да сябе Івана Самусіка.

— Вось што, Ваня, — пачаў камандзір.— На перагоне Пагост—Коханава трэба ўзарваць чыгуначны мост. Пажадана разам з эшалонам.

— Заданне выканаю, таварыш камандзір, — адказаў Іван Самусік.

— Паедзеце заўтра. А сёння падбяры сабе хлопцаў. Колькі табе трэба чалавек?

— Тры, — адказаў Іван.

— Возьмеш двух, сам будзеш трэці і паедзеце раней. Праз суткі — быць у атрадзе...

— Дазвольце ісці?

— Ідзі. Будзь асцярожны, Ваня!..

Зімовы дзень кароткі, таму адразу пасля полудня хлопцы запрэглі каня, узялі боепрыпасы, апранулі маскхалаты і рушылі да месца. Вечарам яны былі на чыгунцы, заняліся прывычнай справай. Падклалі міну, але эшалона доўга не было. Хлопцы здарова прамерзлі, пакуль дачакаліся. Варожы поезд паляцеў пад адхон.

На зваротным шляху іх застала світанне. Днём ехаць было небяспечна, і хлопцы рашылі дачакацца вечара ў Парэччы. Тут і дазналіся, што напярэдадні тут былі немцы. Тут і дазналіся, што наперадзе абоз немцаў і паліцаяў. Прабыўшы дзень, увечары выправіліся ў дарогу. Амаль ля самай вёскі Бабрынічы наткнуліся на фашыстаў.

Марозную цішыню прашыла аўтаматная чарга. Іван упаў на сані і лейцамі сцебануў каня. Спачатку конь ірвануўся ўперад, але потым паваліўся. Ваня скаціўся з санак і падаў каманду:

— Адыходзьце загуменнем, я іх затрымаю, — і выпусціў доўгую чаргу па ворагах. Стрэлы сціхлі. Ваня агледзеўся. Адзін з яго таварышаў нерухома ляжаў на снезе, другі — на санях. Іван Самусік пачаў адыходзіць да вёскі. Вось ён ужо каля хаты, дзе жыве іх сувязны. У гэтай жа вёсцы затрымалася і другая група з атрада «Аршанец», якая ішла на заданне. Яе ўзначальваў Уладзімір Цішкоў, Іванаў сябар па падполлі і барацьбе.

Убачыўшы, што бяжыць чалавек, Уладзімір зняў з пляча аўтамат і гукнуў: «Пароль!» — У адказ пачулася:

— Валодзя, гэта я. Там параненых трэба забраць!

У гэты ж момант па іх ударылі з аўтаматаў. Партызаны скочылі ў хату. Тут яшчэ было трое. Пачалася перастрэлка. Ваня адразу лёг за кулямёт. Але ворагаў было больш, і яны неўзабаве акружылі дом, патрабуючы, каб партызаны здаліся. У адказ тыя кінулі гранаты.

Івана Самусіка параніла ў галаву. Дзве кулі навылёт прашылі грудзі Валодзю Цішкову, Барыс Савіцкі быў паранены ў нагу. Калі Ваня апрытомнеў, то адчуў, што задыхаецца ад дыму. У дзікай злосці ворагі падпалілі хату.

— Хлопцы, скачыце ў вокны! Я іх затрымаю. Мне ўжо не выйсці адсюль, — сказаў сябрам Іван Самусік.

Сабраўшы апошнія сілы, ён паставіў кулямёт на падаконнік і паласануў па фашыстах. Пачуліся крыкі і стогны. Валодзя і Барыс выскачылі на двор і пабеглі. А з другога акна праз агонь і дым страчыў з кулямёта па ворагах іх баявы сябар Іван Самусік... Страчыў, пакуль білася мужнае сэрца.

Ішоў люты 1944 года...

**Уладзімір ШАЙДАЎ,**
**дырэктар сярэдняй школы № 14**
**імя ЛКСМБ г. Оршы.**




# 1971

## МАЙ

**1**

**Дзень міжнароднай салідарнасці працоўных.**

70 гадоў з дня нараджэння (1901) Ц. Е. Гніларыбава, доктара медыцынскіх навук, прафесара Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута, заслужанага дзеяча навук УССР. Памёр у 1970 годзе.

**4**

60 гадоў з дня нараджэння (1911) П. М. Рунца, беларускага пісьменніка.

**7—12**

50 гадоў назад (1921) адбыўся I з'езд прафсаюзаў БССР.

**7**

60 гадоў з дня нараджэння (1911) К. М. Касмачова, мастака-жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

**9**

**Свята Перамогі.**

60 гадоў з дня нараджэння (1911) С. І. Ліхадзіеўскага, паэта, крытыка, літаратуразнаўца і перакладчыка, доктара філалагічных навук.

**16**

60 гадоў з дня нараджэння (1911) Васіля Віткі (Ц. В. Крысько), вядомага беларускага паэта і драматурга.

**30**

75 гадоў з дня нараджэння (1896) К. М. Саннікава, вядомага беларускага рэжысёра, акцёра і педагога, народнага артыста БССР. Памёр у 1965 годзе.



Ц. Е. Гніларыбаў.



П. М. Рунец.

К. М. Саннікаў.



С. І. Ліхадзіеўскі.



К. М. Касмачоў.



# МОРА Ў ЛЮТАСЦІ СТАГНАЛА

Гэтую песню паўстагоддзя назад можна было пачуць у самых розных портах свету. Але асабліва любілі яе рускія маракі. Трапіла яна і ў тоўсты том «Песні і рамансы рускіх паэтаў», выпушчаны ў вялікай серыі «Бібліятэкі паэта» ў 1965 годзе. Вось яе тэкст:

**Море в ярости стонало,**
**Волны бешено рвались...**
**Волны знали, море знало,**
**Что́ спускалось тихо вниз...**
**Там в мешках лежат, зашиты,**
**Трупы юных моряков,—**
**Были пред зарей убиты**
**Девятнадцать удальцов.**
**Море видело—косою**
**Шли спокойно моряки**
**С песней звучной, боевою...**
**Вкруг—солдатские штыки.**
**Братья братьев привязали**
**Крепко-накрепко к столбам.**
**Братья братьев расстреляли;**
**Ужас веял по волнам.**

. . . . . . . . .

**Вихрь промчался возмущенья,**
**Все народы гнев объял,**
**Смерть царю! Злодеям мщенье!**
**Час суда для них настал.**

Іра што гэтая песня? Якая трагедыя хаваецца за ёю? Хто напісаў яе? Кароткі рэдакцыйны каментарый паведамляе, што аўтар песні—удзельнік рэвалюцыйнага руху, адзін з арганізатараў Кранштацкага паўстання 1906 года Рыгор Абрамавіч Рыўкін...

Пачаліся пошукі. Архівы, кнігі, газетныя падшыўкі, мемуары старых барацьбітоў з самадзяржаўем... Першы і вельмі прыемны вынік пошукаў: Р. А. Рыўкін—наш зямляк, ён нарадзіўся 1 студзеня 1877 года ў мястэчку Лёзна, якое ўваходзіла тады ў склад Магілёўскай губерні.

Старонкі яго біяграфіі тыповыя для свайго часу. Страшэнная галеча і цемра яўрэйскага мястэчка. Спрадвечная мара бацькоў: даць сыну адукацыю. Апошняя капейка ідзе на плату за вучобу. А сын у сценах Смаленскага рэальнага вучылішча, пасняхова засвойваючы школьную навуку, адначасова знаёміцца з рэвалюцыйнымі ідэямі. У гэтага невысокага хударлявага хлопца моцны характар і свае прынцыпы. Ён нічога не бярэ на веру. Ён павінен усё паспрабаваць, праверыць сам. Ён павінен сам усё ўведаць! А для гэтага трэба вучыцца. Ён заканчвае дзве вышэйшыя навучальныя ўстановы—хімічны факультэт Парыжскага ўніверсітэта і электратэхнічны факультэт універсітэта ў Марселі. Атрыманыя веды трэба замацаваць на практыцы. І ён вяртаецца ў Парыж, каб працаваць у лабараторыі ў Сарбоне інжынерам-хімікам. Яго сястра ўспамінае пра гэты час: «Ніколі я не бачыла яго не занятым... Калі ж ён стамляўся, то пісаў вершы, перакладаў французскія рэвалюцыйныя песні і, «адпачыўшы» такім чынам, зноў браўся за навуку».

Так загартоўвалася сіла і вытрымка, якія спатрэбіліся яму ў далейшым.

З канца 1902 года (пасля вяртання ў Расію) яго ведаюць у рэвалюцыйным асяроддзі толькі як Мікалая Іванавіча. У хуткім часе гэтае імя трапляе і ў спісы дэпартамента паліцыі. Першы арышт — 5 кастрычніка 1903 года. Нічога падазронага пры вобыску не было знойдзена, і Мікалай Іванавіч быў выпушчаны на волю. Праз чатыры месяцы зноў пачаліся арышты—па даносе правакатара Азефа. На гэты раз у Мікалая Іванавіча былі знойдзены і нелегальная літаратура, і адрасы... Турма на Таганцы ў Маскве. Пакутлівыя дні ў чаканні прыгавору. Часам прыходзіць роспач. Але на судзе—выключнае валоданне сабой. Мала таго, ігнараванне суда! Гэта не суд, а камедыя! Падсудныя сядзелі на сваіх месцах, чыталі кнігі, перагаворваліся, не звяртаючы ўвагі на тое, што адбываецца. Яны не ўсталі нават тады, калі ім зачытвалі прыгавор. Вердыкт суддзяў—1 год і 3 месяцы зняволення ў крэпасці. Але маніфест 11 жніўня 1904 года адмяніў прыгавор. Зноў свабода. Зноў магчымасць помсціць самадзяржаўнаму дэспатызму. Мікалай Іванавіч верыў у тэрор. Пазней ён зразумеў бескарыснасць забойстваў і замахаў, а пакуль свае веды хіміка ён прымяняе, робячы бомбы для тэрарыстычных мэт. Ён прыязджае ў Пінск і там, у нелегальнай хімічнай лабараторыі, пачынае рабіць бомбы. І вось няшчасны выпадак: узарвалася падрыхтаваная для бомбы маса... Полымя восьвось кранецца гатовай бомбы, якая ляжыць побач... Мікалай Іванавіч, не задумваючыся, расчыніў акно, у якое пацягнула гарэлую масу, што абпальвала яму твар і рукі. Увесь паранены, ён неяк дабраўся да кватэры, дзе былі яго сябры. Яны ўпотай змясцілі яго ў бальніцу, у асобную палату. Паліцыя дазналася пра гэта, але перад нашэсцем паліцэйскіх таварышы перанеслі Мікалая Іванавіча ў надзейнае месца.

Рэвалюцыя 1905 года ўказала Мікалаю Іванавічу яго сапраўднае прызванне—быць сярод рэвалюцыйных рабочых, садзейнічаць іх арганізацыі для ўзброенага выступлення. Не адзін раз выступаў ён перад рабочымі Прахараўскай фабрыкі ў Маскве, даказваючы неабходнасць згуртаваных, сумесных дзеянняў. Калі ж пачалося ўзброенае паўстанне, Мікалай Іванавіч стаў на чале дружыны Прахараўскай фабрыкі. Пасля разгрому Прэсні ён быў схоплены і пасаджаны ў Бутырскую турму. Мікалаю Іванавічу прад'явілі абвінавачанне—удзел у Прахараўскім рэвалюцыйным камітэце і кіраўніцтва дружыннікамі на прэсненскіх барыкадах. Часовае вызваленне з-пад суда дало яму магчымасць пераехаць у Пецярбург, а потым у канцы мая—у Кранштат. Не, рэвалюцыя яшчэ не разгромлена! Паліцыя разбірае барыкады ў Маскве, але шумяць гарачыя матроскія сходы на Балтыцы. Бальшавікі вялі ў Кранштаце сур'ёзную падрыхтоўку да паўстання. У сярэдзіне ліпеня 1906 года абстаноўка тут была асабліва напружаная. Матросы рваліся ў бой, але падрыхтоўка да паўстання была яшчэ далёка не закончана.

18 ліпеня кранштатцы даведаліся з газет, што ў Свеабаргу пачалося паўстанне. Прыйшла ўмоўная тэлеграма: «Бацька хворы», што азначала—флот паўстаў і ідзе ў Кранштат. У газетах жа не было нічога пра выступленне флоту. У сваіх успамінах кіраўнік кранштацкіх бальшавікоў Д. З. Мануільскі расказвае: «Бальшавікі да самага апошняга моманту былі супраць паўстання. Толькі 19-га раніцой Пецярбургскі камітэт пры ўдзеле прадстаўніка ЦК, з прычыны... Свеабаргскага паўстання, якое адбылося перад тым, даў дырэктыву прыняць удзел у паўстанні... Дырэктыва Пецярбургскага камітэта была неадкладна перададзена воінскім часцям і была сустрэта вельмі спачувальна».

Паўстанне пачалося 19 ліпеня ў 23 гадзіны. Мікалай Іванавіч узначаліў мінёраў і салдат электрамінннай роты. Яны захапілі форт «Літке», абяззброіўшы пяхотную варту. Паўстаўшыя рушылі да форта «Канстанцін». Захапіўшы па дарозе цягнік, яны на ім уварваліся ў форт. Але авалодаць артылерыяй форта не ўдалося, бо афіцэры і частка салдат з гарнізона «Канстанцін» вывелі гарматы са строю. Не ўдалося развіць поспех і ў іншых раёнах. Каманды караблёў, якія стаялі ў гавані, былі ізаляваны і не змаглі падтрымаць паўстанне. У самім горадзе паўстаўшыя дзейнічалі разрознена. У 2 гадзіны ночы форт «Канстанцін» быў акружаны ўрадавымі войскамі. Пад раніцу 20 ліпеня слаба падрыхтаванае і недастаткова арганізаванае паўстанне пацярпела паражэнне. Пачалася расправа. Калі матросы капалі сабе магілы, камендант крэпасці генерал Адлерберг падышоў да іх і сказаў: «Капайце, хлопцы! Капайце, капайце! Вы хацелі зямлі, дык вось вам зямля, а волю знойдзеце на небе». Адсюль бярэ пачатак гісторыя вядомай рэвалюцыйнай песні «Мы самі капалі магілу сваю». Пасля расстрэлу па свежых магілах цырыманіяльным маршам былі праведзены войскі.

Але расстраляць адразу ўсіх удзельнікаў паўстання царскія ўлады не адважыліся. 30 ліпеня кранштацкая газета «Котлин» паведаміла: «У самым хуткім часе заканчваецца следства з прычыны апошніх беспарадкаў... У выніку адбудзецца працэс матросаў з 2000 абвінавачаных...» Судовы працэс над першай партыяй матросаў у 760 чалавек адбыўся ў першай палове верасня. 18 верасня быў аб'яўлены прыгавор: 19 матросаў прысуджаны да пакарання смерцю, 26—да катаргі, 617—у турмы, крэпасць і арыштанцкія аддзяленні. Ніхто на допытах не выдаў Мікалая Іванавіча як аднаго з кіраўнікоў паўстання, і яго часова змясцілі ў марской следчай турме ў Кранштаце.

...Ён хадзіў па камеры і спрабаваў сабе ўявіць, што адбываецца сёння раніцой, 21 верасня 1906 года, з яго дзевятнаццаццю таварышамі. У той жа дзень ён даведаўся пра ўсё.

...За паўтары гадзіны да пакарання ваенны карабель «Работник» даставіў іх на батарэю форта «Літке». Аднаго за другім іх прывязалі да каната, нацягнутага паміж двума слупамі ў палову чалавечага росту. Матросы стралковай роты стаялі, апусціўшы галовы. Ім страшна было сустрэць позіркі асуджаных на смерць таварышаў. Дарэчы, камандаванне мала спадзявалася на матросаў стралковай роты, ім выдалі толькі па два патроны і акружылі ротамі Егерскага, Фінляндскага і Енісейскага палкоў, якія стаялі з вінтоўкамі наперавес. За гэтымі ротамі па загадзе начальства былі ўстаноўлены кулямёты, ля якіх знаходзіліся афіцэры. Пачалося чытан-

не прыгавору, але хтосьці з асуджаных крыкнуў: «Досыць!» і заспяваў: «Вы жертвою пали в борьбе роковой». Песню падхапілі ўсе асуджаныя, і магутныя гукі рэвалюцыйнага пахавальнага марша разнёс над старым фортам перадсвітальны вецер. Стралкі завагаліся... Начальства спыніла чытанне прыгавору і паслала асуджаным свяшчэнніка. Матросы адмовіліся ад яго. Яны адмовіліся таксама надзець мяшкі і патрабавалі не завязваць ім вочы. Першым залпам было забіта тры-чатыры чалавекі, многія паранены. Раненыя спрабавалі падняцца, але канат цягнуў іх да зямлі. Тады Адлерберг загадаў забіваць асуджаных па адным...

Пакараных паклалі ў парусінавыя мяшкі і скінулі ў мора. Вось іх імёны: І. Карагодаў, І. Красненкаў, І. Маскаеў, М. Себасцьянаў, Р. Каротачкін, А. Кукарцаў, М. Вострыкаў, Ф. Кавальчук, Н. Камарніцкі, С. Юраў, Е. Ляшчук, Ф. Галаванаў, А. Кузняцоў, Е. Лісіцкі, Г. Глебка, П. Крашаніннікаў, С. Зендрыкаў, П. Наважылаў, Д. Нікіцін.

Перад пакараннем матрос-бальшавік Камарніцкі пісаў: «Таварышы! Застаецца некалькі гадзін да расстрэлу. Усе спакойныя, думка пра блізкі пераход у вечнасць не палохае нас. Ля акна стаіць вартавы і плача, служачыя са слязамі прыходзяць развітвацца і просяць на памяць стужкі, какарды. Усе разумеюць, што гэта не пагром кранштацкіх крам, усе зразумелі добра, што паўсталі за шчасце народа, жадаючы лепшай долі яму... Мы мала зрабілі, але зрабілі ўсё, што маглі, і аддаём апошняе—жыццё».

Ноччу, пасля пакарання маракоў, Мікалай Іванавіч у турме склаў песню пра сваіх загінуўшых таварышаў, песню, якой суджана было доўгае жыццё. Ён напісаў не толькі словы, але і музыку да іх: яна гэткая ж мужная і журботная, як і словы.

Праз некалькі дзён песню ведалі ўсе вязні кранштацкай турмы. Песня вырвалася на волю і праляцела па Расіі ад Балтыкі да Ціхага акіяна—па турмах, па месцах ссылкі рэвалюцыянераў... З рускімі маракамі песня зрабіла не адно кругасветнае падарожжа. Яе запомнілі ў Стамбуле і Рыо-дэ-Жанейра, на Канарскіх астравах і ў Сінгапуры. І крыху па-свойму змяніўшы словы, прыстасаваўшы мелодыю на свой лад, яе заспявалі англійскія і французскія, італьянскія і грэчаскія маракі.

Песня «Мора ў лютасці стагнала»—не адзіны шырока вядомы твор з творчай спадчыны Мікалая Іванавіча. З яго імем звязаны пераклад на рускую мову польскай рэвалюцыйнай песні «Хто корміць усіх і поіць?». Песня была распаўсюджана ў Расіі ў 1902 годзе. Гэта быў апошні год вучобы Мікалая Іванавіча ў Францыі, калі ён, як сведчыць сястра, у час адпачынку «перакладаў французскія рэвалюцыйныя песні». Калі чалавек перакладае французскія рэвалюцыйныя песні, то чаму б яму не перакласці і польскую рэвалюцыйную песню? Ва ўсякім разе, ва ўспамінах старых змагароў рэвалюцыі пераклад песні «Хто корміць усіх і поіць?» звязваецца з імем Мікалая Іванавіча.

Як жа склаўся яго лёс пасля паражэння Кранштацкага паўстання?

З Кранштата Мікалая Іванавіча этапам адправілі ў Пецярбург, а адтуль у Маскву, дзе павінны былі судзіць. Але 5 лютага 1907 года яму разам з таварышам удалося ўцячы з Мясніцкага паліцэйскага дома. Заставацца ў Расіі было небяспечна, і Мікалай Іванавіч паехаў у Парыж. У канцы 1910 года ён разам з жонкай і сынам пераехаў у Італію і пасяліўся ў мястэчку Каві, дзе пазнаёміўся з вядомымі рэвалюцыйнымі дзеячамі П. А. Крапоткіным і Германам Лапаціным. Толькі пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года Мікалай Іванавіч змог вярнуцца ў Расію. Кранштацкія маракі памяталі яго. Ён быў абраны ў выканком Кранштацкага Савета, узначальваў камісію па сувязях з Саветамі Петраграда, Масквы і іншых гарадоў. У дні карнілаўшчыны Мікалай Іванавіч—галоўны ваенны камісар кранштацкіх часцей, якія ішлі на дапамогу Петраграду. Як прадстаўнік Кранштата ён прымае ўдзел у рабоце гістарычнага II Усерасійскага з'езда Саветаў. 14 лістапада 1917 года газета «Известия ЦИК и Петроградского Совета Рабочих и Солдатских депутатов» паведаміла, што Мікалай Іванавіч, выступаючы 12 лістапада на II Надзвычайным з'ездзе сялянскіх дэпутатаў, прапанаваў з'езду «прыняць рэзалюцыю аб перадачы ўсёй улады Саветам, аб неабходнасці сялянскаму з'езду зліцца з II з'ездам Рабочых і Салдацкіх дэпутатаў». Матросы Кранштата паслалі Мікалая Іванавіча ў якасці дэлегата і на III Усерасійскі з'езд Саветаў, дзе ён выступіў двойчы. Стэнаграфічная справаздача з'езда, прасякнутая эмоцыямі эпохі, сведчыць: 14 студзеня Мікалай Іванавіч «сказаў поўную рэвалюцыйнага энтузіязму, багатую глыбінёй пачуццяў прамову». «Для поўнай перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі,—гаварыў прамоўца,—неабходна цеснае згуртаванне працоўных, прызнанне цвёрдай Савецкай улады і рашучасць ісці на ўсе найвялікшыя ахвяры. Бо ў выпадку гібелі рэвалюцыі мы не перанясём новага прыходу рабства і турмаў. Сацыялістычная рэвалюцыя ідзе да перамогі, але неабходна бязлітасная суровасць, энергія і рашучасць у смелай, бясстрашнай барацьбе за яе перамогу».

Ён меў права сказаць на з'ездзе менавіта так. Гэтыя словы былі дэвізам усяго яго жыцця і падкрэслівалі сутнасць яго асобы. Яго цвёрдасць, рашучасць, бясстрашнасць якраз і патрэбны былі там, куды накіроўвала яго Савецкая ўлада. Член Петраградскага Рэвалюцыйнага трыбунала. Арганізатар падпольнай барацьбы з Дзянікіным у Кіеве. Прадстаўнік Рэўваенсавета Рэспублікі па барацьбе з махноўшчынай.

У пачатку студзеня 1922 года ў Кіеве Мікалай Іванавіч заразіўся сыпным тыфам. Здароўе, надламанае шматгадовай барацьбой, не вытрымала. 29 студзеня Мікалая Іванавіча не стала. Яго пахавалі ў кіеўскім савецкім парку, там, дзе знаходзяцца магілы вядомых рэвалюцыйных змагароў. Так закончыўся жыццёвы шлях аднаго з рыцараў рэвалюцыі. Кіраўніка і сябра кранштацкіх матросаў. Паэта. Аўтара бессмяротнай песні-помніка дзевятнаццаці балтыйцам. Нашага земляка.

**Сямён БУКЧЫН.**

# ГАРАДЫ-ПАБРАЦІМЫ



Натынгем. Гарадская ратуша.

**Ужо больш за пятнаццаць гадоў, як Мінск парадніўся з англійскім горадам Натынгемам. За гэты час наш горад неаднаразова наведвалі прадстаўнікі розных арганізацый Натынгема: муніцыпалітэта, аддзялення Таварыства англа-савецкай дружбы, прафсаюзаў, турысцкія**

групы, некалькі маладзёжных груп. Нашым гасцям была прадастаўлена шырокая магчымасць для азнаямлення з рознымі бакамі жыцця мінчан. Яны наведвалі прамысловыя прадпрыемствы, культурныя, дзіцячыя ўстановы, сустракаліся з прадстаўнікамі моладзі розных грамадскіх арганізацый.

У сваю чаргу з беларускай сталіцы неаднаразова выязджалі ў Натынгем нашы дэлегацыі і турысты. Сярод іх — дэлегацыя Мінскага гарвыканкома, Мінскага абласнога савета прафсаюзаў, турысты. Пасланцам нашага горада ў Натынгеме быў таксама аказаны цёплы прыём, яны мелі шырокую магчымасць азнаёміцца з прамысловымі прадпрыемствамі, навучальнымі і іншымі ўстановамі.

У Натынгеме неаднаразова арганізоўваліся розныя мерапрыемствы, прысвечаныя нашай краіне і гораду Мінску. Выстаўкі, кінафільмы і літаратура пасылаліся Мінскім гарвыканкомам і гарадскім аддзяленнем Таварыства «СССР — Вялікабрытанія». Вялікую цікавасць у Натынгеме выклікала выстаўка беларускага жывапісу. З поспехам у нашым горадзе выступаў дырыжор сімфанічнага аркестра з Натынгема Невіл Дылкс, а ў Натынгеме выступаў галоўны дырыжор Дзяржаўнага сімфанічнага аркестра БССР Віталі Катаеў.

У Мінску арганізоўваюцца вечары дружбы, публікацыі ў друку, перадачы па радыё і тэлебачанні, прысвечаныя дружбе параднёных гарадоў.

У мінулым годзе горад Мінск удзельнічаў у гандлёва-прамысловай выстаўцы ў Натынгеме. Туды была паслана буйнафарматная фотавыстаўка, а таксама невялікая натурная экспазіцыя з узорамі тавараў лёгкай і харчовай прамысловасці, народных промыслаў, вырабаў мастацкага шкла, цацак і інш. Нашу выстаўку наведала вялікая колькасць жыхароў англійскага горада.

Добрыя сувязі ўстанавіў горад беларускіх аўтазаводцаў Жодзіна з горадам Венісье ў Францыі, афіцыйнае парадненне з якім адбылося ў 1967 годзе. Мэр гэтага горада ў сваім пісьме старшыні Жодзінскага гарвыканкома выказаў сваё асаблівае задавальненне тым, што годам устанаўлення дружбы двух гарадоў з'явіўся пяцідзесяты год Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі.

Гарады-пабрацімы абмяняліся дэлегацыямі, узаемна праводзяць вечары дружбы, пасылаюць адзін аднаму выстаўкі. Устанавілі сувязі паміж сабой і шэраг арганізацый абодвух гарадоў.

Усе абласныя цэнтры і вобласці рэспублікі ў цяперашні час ажыццяўляюць шырокія ўзаемакарысныя кантакты з адпаведнымі вобласцямі, ведамствамі і акругамі Польшчы, ГДР, Чэхаславакіі і Балгарыі. Яны абменьваюцца дэлегацыямі, праводзяць шматлікія мерапрыемствы, накіраваныя на паглыбленне абмену вопытам камуністычнага і сацыялістычнага будаўніцтва.

Адзначаючы Сусветны дзень параднёных гарадоў, працоўныя нашай рэспублікі ад усяго сэрца жадаюць жыхарам сваіх гарадоў-пабрацімаў поспехаў у імя міру і дружбы паміж народамі, сацыяльнай справядлівасці і прагрэсу.

Уладзімір ПЕТРЫЧЭНКА,
загадчык аддзела
Беларускага таварыства дружбы
і культурнай сувязі
з зарубежнымі краінамі.

**У хуткім часе на старонках часопіса з вершамі выступяць Юрась СВІРКА, Мікола КУСЯНКОЎ, Сяргей ПАНІЗНІК, Міхась КУШНЯРОЎ**



# ЧЫРВОНАЗМЕНАЎЦЫ

Як гэта няпроста: расказаць на некалькіх старонках пра самае патаемнае, пра тое, чым жывеш кожны дзень (а бывае, і па начах не спіш) — пра сваю газету, пра сяброў-газетчыкаў, з якімі разам штодзень у радасцях і гарачых спрэчках робіш газету, расказаць пра тых, што 50 гадоў назад, а больш дакладна — з 21 красавіка 1921 года назвалі сябе чырвоназменаўцамі, хто быў пасля іх і яшчэ пасля,— хто быў да нас... Пра ўсіх, каму незалежна ад узросту ў гэты дзень «стукнула пяцьдзесят».

Пачнём з падшывак. Самых-самых першых.

ЯНА БЫЛА зусім малая, усяго адзін лісток: пажоўкла ад часу папера, выцвілі літары. Пра што пісала «Чырвонка» ў свае першыя гады? Перш за ўсё яна дапамагала партыі і камсамолу накіроўваць усе сілы на аднаўленне разбуранай грамадзянскай вайной гаспадаркі. Заклікала юнакоў і дзяўчат Савецкай Беларусі на выкананне планаў першых пяцігодак, прапагандавала ідэі індустрыялізацыі, мабілізоўвала моладзь вучыцца і працаваць па-ўдарнаму. Газета не была ўбаку ні ад адной важнай справы, якая праводзілася ў рэспубліцы. Перш за ўсё яна была байцом. Байцом за ліквідацыю непісьменнасці, за новы сацыялістычны быт, новую мараль, за развіццё сацыялістычнай культуры, супраць забабонаў... На яе першых старонках — юнацкі неспакой, юнацкі запал...

У нас, у рэдакцыі, ёсць стэнд фатаграфій. На ім гісторыя газеты, яе людзі. На адной з фатаграфій — слаўная дачка беларускага народа Вера Харужая. Яна была адным з першых рэдактараў «Чырвонкі».

Побач фатаграфіі чырвоназменаўцаў — удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Іх многа. Нашы старэйшыя таварышы ў цяжкую для Айчыны часіну змянілі пяро на аўтаматы. Фатаграфіі, фатаграфіі... Міхаіл Барашка, рэдактар падпольнай «Чырвонкі» — загінуў. Мікола Сурначоў, паэт, супрацоўнік рэдакцыі — загінуў на фронце. Фёдар Галодка, рэдактар газеты — загінуў на фронце. Вера Грынкевіч, карэктар — загінула на фронце...

«Чырвонка» выходзіла і ў гады фашысцкай навалы. Першы нумар газеты выйшаў у глыбокім падполлі ў студзені 1943 года. Газета заклікала моладзь на смяротны бой, клікала на подзвіг. Газета выходзіла пастаянна, яна вучыла моладзь партызанскай тактыцы барацьбы з ворагам. Часта «Чырвонцы»-партызанцы даводзілася рабіць шматкіламетровыя пераходы. Яна выпускала спецыяльныя «баявыя лісткі», у якіх распаўсюджвала вопыт лепшых мінёраў-падрыўнікоў. Друкавала зводкі Саўінфармбюро. У ёй былі аддзелы «Весткі з Радзімы», «З Вялікай зямлі»...

Некалькі разоў «Чырвоную змену» падпольшчыкі вывешвалі нават на будынку Мінскага СД.

Моладзь любіла сваю газету і з нецярпеннем чакала кожны яе нумар, а яе супрацоўнікі мелі ў той час два віды зброі — пяро і вінтоўку.

Фатаграфіі на стэндзе... Многіх з удзельнікаў вайны няма сярод нас, іншыя і зараз трымаюць у руках пяро і лічаць сябе чырвоназменаўцамі, дзе б ні працавалі. Ды гэта і зразумела: нікому не хочацца расставацца са сваім юнацтвам.

Вось Фёдар Апанасавіч Бачыла, наш даўні фотакарэспандэнт. І яго



Фотакарэспандэнт газеты Ф. А. Бачыла (злева) прынёс свежыя здымкі.

**партрэт ёсць на стэндзе — малады партызан з аўтаматам на грудзях. Ён па-геройску ваяваў, падарваў шмат эшалонаў. Між многіх яго баявых узнагарод — ордэн Леніна. І сёння Фёдар Апанасавіч ні на мінуту не расстаецца са сваёй журналісцкай зброяй — фотаапаратам. Як і некалі, у самай сваёй маладосці.**

**А вось ён, наш сённяшні дзень. Дзень нашай газеты.**

У машынным бюро.







Рэдактар «Чырвонай змены» В. А. Хорсун.

«Вельмі тэрмінова!» — гаворыць выпускаючы газеты Іосіф Жульпа лінатыпістцы Соні Мікалайчык.





Ідзе вёрстка газеты. Намеснік рэдактара Анатоль Падбярозны і вярстальшчыца Любоў Голубева.

Удзельнік вайсковых манеўраў «Нёман» і «Дзвіна», загадчык аддзела камсамольскага жыцця Яўген Пушкін, побач з ім — супрацоўніца аддзела пісьмаў Маргарыта Старых. ▶

Ідзе тыраж «Чырвонай змены». ▶

У сакратарыяце. Адказны сакратар Уладзімір Кузьмянкоў і старшы літсупрацоўнік аддзела прапаганды і агітацыі Міва Калошка.





...Мы прыйшлі ў рэдакцыю рана і пачалі чакаць, хто прыйдзе на работу першы.

Чакаць доўга не прыйшлося. Першым быў загадчык ваенна-патрыятычнага аддзела Мікалай Зяньковіч. Зусім нядаўна Мікола вярнуўся ў рэдакцыю пасля гадавой разлукі з ёю. Ён служыў у арміі, і чытачы газеты сустракаліся не з артыкуламі спецыяльнага карэспандэнта «Чырвонай змены», а з карэспандэнцыямі радавога Савецкай Арміі М. Зяньковіча...

— Чаму так рана?

Ён, вядома, не западозрыў, што гэта інтэрв'ю, і кінуў:

— Адчапіцеся. Мне трэба ў нумар падборку здаваць... Ды яшчэ прачытаць з паўсотні пісьмаў...



«Радзіма» — ваенна-патрыятычны клуб «Чырвонай змены», адна з самых папулярных і масавых старонак ваенна-патрыятычнага аддзела. Членамі клуба з'яўляюцца дзесяткі тысяч следапытаў. Яны праводзяць вялікую работу, адшукваючы невядомых герояў, рыхтуюцца да службы ў Савецкай Арміі.

Мікола Зянькович прыйшоў у «Чырвоную змену» даўно, калі яму было дзевятнаццаць. А цяпер ён ужо ветэран. Пачаў з маленькіх заметак, а дакляруе аповесць.

Сёння ў рэдакцыі — «лятучка». Што гэта такое? А гэта нешта накшталт гарачай лазні. Тут можна чырванець ад крытыкі і ад пахвал. Тут могуць разнесці ўшчэнт... Мы вельмі сябруем паміж сабой, аднак на лятучцы ўсе — прыдзірлівыя калегі, якія зацікаўлены ў тым, каб газета была яшчэ лепшай.

Старшынствуе на лятучцы, як і заўсёды, наш рэдактар—Васіль Хорсун. Некалі ён таксама пачынаў у «Чырвонай змене» літсупрацоўнікам. Яму нярэдка прыходзіцца стрымліваць страсці, хоць зрабіць гэта няпроста.

У РЭДАКЦЫЮ прыйшоў адказны сакратар Уладзімір Кузьмянкоў (звычайна ён прыходзіць першы): трэба яшчэ раз прагледзець макеты, разабрацца са здымкамі і падрыхтавацца да планёркі. Там кожны аддзел будзе адстойваць свой матэрыял, лічачы, што ён самы неабходны і што без яго газета не газета. Адказнаму сакратару трэба ўмець быць дыпламатам.

А рэдактар... Ці тут ён? Мы ціха прачынілі дзверы — тут. Нешта піша. Можа, перадавы артыкул у нумар, можа — план, а можа, свой нарыс пра далёкае падарожжа. Ён жа бываў у многіх краінах свету, і пасля кожнага падарожжа на старонках газеты з'яўляліся яго дарожныя нарысы. Не так даўно ён пісаў пра паездку ў далёкі гераічны В'етнам.

Дзень пачаўся. У сакратарыяце, як і заўсёды, вельмі шумна. Робіць макет першай паласы Яўген Ляхаў; мастак газеты Уладзімір Табушаў паказвае адказнаму сакратару свае малюнкі з чарговай камандзіроўкі.

Заходзіць загадчык аддзела школьнай і студэнцкай моладзі Георгі Клябанаў. Зараз пойдзе атака — ён пачне «прабіваць» спецыяльную старонку для школьнікаў, будзе даказваць, што матэрыял заляжаўся, што без яго газета... і г. д.

...Фёдар Апанасавіч Бачыла прапаноўвае новыя здымкі. Ён аб'ездзіў усе, нават самыя далёкія, куткі Беларусі і ўсюды адчувае сябе, як свой чалавек.

Здымкі пайшлі ў нумар, а ў сакратарыяце задумаліся ўжо (разам з рэдактарам і яго намеснікам Анатолем Падбярозным) пра чарговы нумар.

Запланавана паласа аддзела літаратуры і мастацтва. Загадчык гэтага аддзела Валянцін Лукша здзівіў усіх: ён сам зрабіў макет паласы. Раней такога з ім не здаралася. Нечакана, але прыемна!

Дарэчы, амаль усе беларускія паэты і пісьменнікі пачыналі ў розныя гады друкавацца на старонках «Чырвонай змены». Вялікімі сябрамі «Чырвонкі» былі Янка Купала, Якуб Колас, Кузьма Чорны, Паўлюк Трус, Пятрусь Броўка, Максім Танк, Аркадзь Куляшоў, Павел Кавалёў, Алесь Асіпенка, Антон Бялевіч, Анатоль Вялюгін. У больш познія гады «Чырвоная змена» адкрыла такіх паэтаў і празаікаў, як Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Ніл Гілевіч, Уладзімір Паўлаў, Барыс Сачанка. У паласе, якую падрыхтаваў Валянцін Лукша, вершы Валерыя Шыханцова, Таццяны Дзмітрусёвай і іншых маладых паэтаў, творчая біяграфія якіх толькі яшчэ пачынаецца.

ЁСЦЬ ДОБРАЯ ТРАДЫЦЫЯ ў «Чырвонай змене» — урачыста праводзіць у «дарослыя» газеты сваіх супрацоўнікаў. Што ні кажы, гады ідуць... Здаецца, зусім нядаўна праводзілі мы ў «Звязду» Алеся Бяржынскага, Аляксандра Калесніка, Толю Астрэйку, уласным карэспандэнтам «Медыцинской газеты» стала Валянціна Кузняцова. Былыя чырвоназменаўцы становяцца вучонымі, пісьменнікамі, аднак заўсёды прыходзяць яны ў родную «Чырвонку», цікавяцца нашымі справамі, задумамі.

Калі пералічыць усіх нашых нештатных аўтараў, то атрымалася б цэлая армія — партыйныя і камсамольскія работнікі, вучоныя, рабочыя, калгаснікі, пісьменнікі, школьнікі, студэнты... Гэта нашы галоўныя аўтары, яны падказваюць тэмы, штодзённа інфармуюць аб тым, што робіцца ў нашай Беларусі. Ды і не толькі ў Беларусі.

...Тым часам у разгары работа над чарговым нумарам газеты. Мы прайшлі па аддзелах і пацікавіліся планамі работы, радуючыся, што «чужымі» рэпарцёрамі ў «Чырвонцы» сталі на адзін толькі дзень.

Яны расказалі:

УЛАДЗІМІР КАСЬКО (загадчык аддзела прапаганды і агітацыі): — Увесь свет знаходзіцца пад уражаннем Дырэктыў XXIV з'езда нашай партыі. Моладзь, камсамольцы, як і ўсе савецкія людзі, успрынялі Дырэктывы як праграму на новае пяцігоддзе. «Чырвонка» расказвае, як планы партыі знаходзяць водгук у маладых сэрцах.

ГЕОРГІ КЛЯБАНАЎ (загадчык аддзела школьнай і студэнцкай моладзі): — Праблемы выхавання гарманічна развітай асобы — вось што асабліва хвалюе наш аддзел. Аб гэтым мы вядзём шырокую размову ў спецыяльным выпуску для школьнікаў «Факел» і ў паласе для студэнтаў «Семестр». У бліжэйшы час плануем шэраг артыкулаў на тэмы выхавання.

СВЯТЛАНА ЗАХАРАВА (літсупрацоўнік аддзела камсамольскага жыцця): — Вось тэмы нашага аддзела на бліжэйшы час: «Пульс пярвічнай» (некалькі матэрыялаў з жыцця калгаснай пярвічнай арганізацыі), «Дзе выхоўваюць актывістаў».

МІКОЛА СІЛЬКЕВІЧ (загадчык аддзела пісьмаў і масавай работы): — «Чырвоная змена» атрымлівае больш як 16 тысяч пісьмаў у год. Цяжка ўявіць сабе хаця б адзін нумар газеты без пісьмаў чытачоў. Мяркуем разгарнуць цікавую размову аб высакароднасці, аб выбары прафесіі. Паранейшаму будзе з'яўляцца на старонках газеты рубрыка «Інтэрв'ю з пісьмом у руках».

ІГАР РЫЖКОЎ (загадчык аддзела рабочай моладзі): — Малады рабочы, кола яго інтарэсаў, перспектывы далейшага росту, яго вольны час — гэта тыя праблемы, над якімі працуе аддзел. На старонках газеты размову будуць весці журналісты, спецыялісты ў розных галінах і, вядома ж, самі рабочыя.

ІВАН БРАЛКА (загадчык аддзела сельскай моладзі): — Месца інтэлігента ў жыцці вёскі... Збіраюся напісаць на гэту тэму некалькі артыкулаў. Будзем змяшчаць матэрыялы пра далейшае развіццё сельскай гаспадаркі. Як і заўсёды, шмат радкоў будзе прысвечана руплівым сейбітам, шчырым гаспадарам зямлі.

ВАЛЯНЦІН ЛУКША (загадчык аддзела літаратуры і мастацтва): — Выступяць у нас вядомыя майстры нашага мастацтва аб выхаванні маладых акцёраў, мастакоў, музыкантаў. Як звычайна, будуць рэцэнзавацца спектаклі, кнігі. Наша «Крыніца» дасць слова маладым паэтам, празаікам, творчая біяграфія якіх толькі пачынаецца.

...ХУТКА ЛЯТУЧКА. Мы развітваемся, але ненадоўга. Да новых сустрэч на старонках «Чырвонкі»!

Міхаіл КАСЦЮШЭНКА.
Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.



# ДАРЫЦЕ ЎСМЕШКІ

У снежні 1970 года мінская прэса паведаміла, што на вуліцы Рэспубліканскай да паслуг бацькоў адкрылася фотаатэлье «Малыш». Да яго з усіх раёнаў горада на аўтобусах, трамваях, на таксі накіраваліся нецярплівыя бацькі.

...Светлы, прасторны хол. На сценах дзіцячыя фатаграфіі, смешныя малюнкі. На століках вясёлыя кніжкі, гульні. Не паспелі агледзецца, а ўжо з'явіўся аператар Кыпс: «Хто наступны! Сярожа? Заходзь!» І вось мы ў здымачным павільёне. Дзіцячая мэбля, забаўныя збудаванні, розныя цацкі.

— Сярожа, што табе падабаецца? Кот у ботах? Ну, ідзі пагуляй з ім...

Кот нечакана мяўкае, хлопчык здзіўлена ўсміхаецца і — здымак ёсць. Раптам замест мяўкання голас: «Ты слухаеш маму?» Хлопчык задумаўся. Яшчэ здымак. І так, без напружанасці і суму — цэлая серыя. Сервіс? Вядома.

Але прашу прабачэння, пакуль што гэта — у марах, нічога падобнага ў атэлье няма. А ёсць вось што: хол у 18 кв. м, ён жа гардэроб і стол заказаў. Вентыляцыі, як і ў здымачным павільёне, няма. Атэлье за месяц абслугоўвае 300—400 чалавек. У выхадныя дні сюды прыходзяць дзеці з татамі і мамамі і чакаюць чаргі па паўтары-дзве гадзіны. Малады фатограф спрабуе веласіпедным званком прыцягнуць увагу стомленага







Цікавая праца ў Міхаіла Марцінкевіча, фатографа фотаатэлье «Малыш».

хлопчыка. Усё гэта, зразумела, ужо не сервіс. А як мала засталося зрабіць для таго, каб гэтае атэлье стала лепшым у горадзе!

Зазірнём на другое прадпрыемства службы быту, яно размешчана непадалёк ад кінатэатра «Партызан».

Спачатку два маленькія інтэрв'ю.

Уладзімір і Надзежда Макейчыкі. Маладая сям'я. Рабочыя гадзіннікавага завода:

— Мы карыстаемся паслугамі пральні чатыры гады. Дзесяць кілаграмаў бялізны можна памыць за дзве з паловай гадзіны, заплаціўшы ўсяго толькі адзін рубель семдзесят капеек. Ручная работа зведзена да мінімуму — перавозка ад машыны да машыны ды ўкладка пад прас. Усё астатняе робяць аўтаматы. Мы вельмі задаволены нашай пральняй.

Дзве дзяўчыны-сяброўкі. Ніна Мянтуз, маляр, і Жана Мармузевіч, мантажніца:

— А ведаеце, неяк нязвыкла ўся гэтая аўтаматыка, рукі без справы... Так, талоны купляем загадзя. Чатыры дні назад паспелі купіць апошні.

Пральня самаабслугоўвання вытворчага аб'яднання «Беларусь», у якой адбывалася гэтая размова, адчынена чатыры гады назад. І вось вынік — калі раней трэба было гэтую паслугу рэкламаваць, то цяпер даводзіцца вышукваць магчымасці і рэзервы, каб абслужыць велізарную колькасць тых, хто жадае ёю карыстацца. І не дзіўна — за месяц пральня абслугоўвае ў сярэднім 1200 кліентаў.

У гэтым жа будынку знаходзіцца яшчэ адна служба аб'яднання «Беларусь» — тэрміновая хімчыстка. У яе памяшканнях чысціня, сучаснае абсталяванне. Да акна выдачы на плечыках канвеераў спускаюцца сукенкі, жакеты, світэры. Па жаданні работніцы канвееры паслухмяна даставяць да яе тыя рэчы, па якія прыйшоў заказчык. Адчуваецца, кіруе гэтым прадпрыемствам клапатлівая, вопытная рука.



**Абутковая майстэрня № 80. Аддзел тэрміновага рамонту.**

*За месяц хімчыстка выконвае заказы дзесяці-дванаццаці тысяч* чалавек. Выконвае якасна, хутка. У кнізе прапаноў шмат падзяк, пажаданняў. Сустракаюцца і скаргі.

Запомніўся кароткі запіс у цырульні «Мара»: «Дзякуй майстру Шпілеўскай. Гэта добры чалавек, які з Золушкі робіць прынцэсу».

Давайце адправімся туды, дзе з Золушак нараджаюцца прынцэсы.

Уявім, што Золушка у нас ужо ёсць. Трэба толькі апрануць яе, абуць і прычасаць. Задача, скажам адразу, па плячы. Да нашых паслуг звыш сарака швейных атэлье, фабрыка рамонту і індывідуальнага пашыву абутку, звыш дваццаці цырульняў. Рэкамендацыю аднаго са швейных атэлье нам дасць такі запіс: «Мы, старыя заказчыкі атэлье «Мінчанка», карыстаемся яго паслугамі з дня адкрыцця. Гатовы падзяліцца сваёй радасцю: ні адзін заказ не быў выкана081ны абыякава. Закройшчыкі ўмеюць прапанаваць менавіта тое, што больш за ўсё падыходзіць і па знешнім выглядзе, і па ўзросце кліенту. *Бабок, Дзяцел, Свірыдава*».



Закройшчыкі атэлье «Мінчанка» прынялі нас ветліва, прапанавалі альбом тканін, параілі выбраць фасон. Тым часам старшы майстар атэлье Аксана Дзмітрыеўна Волкава расказвала не толькі «пра лаўры», але і «пра церні».

— Каляровыя ніткі. У нас з імі бяда. Амаль усе колеры — дэфіцыт. Даводзіцца бегаць па магазінах, абменьвацца з іншымі атэлье. Бывае, і самі заказчыкі ўключаюцца ў гэтыя пошукі.

Такія ж «задачкі» даводзіцца рашаць і майстрам гадзіннікаў. З 10.000 запасных дэталяў для рамонту гадзіннікаў, якія павінны атрымаць мінскія майстэрні ў першым квартале 1971 года, у студзені і лютым не атрымана ніводнай.

Наша Золушка спяшаецца ў цырульню «Мара». Ускочыла ў аўтобус, а тут замок на адным з перламутравых боцікаў — трэсь... Вось табе і імпарт! Пасажыры спачувальна ківаюць галовамі, а нейкі малады чалавек прапануе Золушцы «Вячэрні Мінск».

— Вось прачытайце аб'яву. Вашу бяду можна выправіць.

Сапраўды, у газеце (10.II.71 г.) — аб'ява:

**«НОВЫЯ ВІДЫ РАМОНТУ АБУТКУ**
**Майстэрні фабрыкі рамонту і індывідуальнай пашыўкі абутку прымаюць у рамонт жаночыя боцікі. Калі вам трэба расшырыць ці завузіць галянішчы, уставіць у боцікі «маланку» — звяртайцеся ў нашы майстэрні. Вось іх адрасы».**

(Ніжэй надрукаваны адрасы дзевяці майстэрняў).

Едзем у майстэрню № 80. Разам з намі некалькі зацікаўленых, але





**У швейным атэлье «Мінчанка». Закройшчыца Святлана Ганжа.**

**Добра з няняй на вуліцы.**






У пральні з самаабслугоўваннем.

вельмі недаверлівых жанчын. Вось і майстэрня. Золушка здымае боцік і працягвае майстру:

— Мы па аб'яве, адрамантуйце, калі ласка.

— Па якой аб'яве?

— Ды вось газета, чытайце.

Майстар доўга штосьці ўзважвае, затым моўчкі выходзіць. Вяртаецца ён з другім майстрам. Пачынаецца звычайная працэдура выяўлення ісціны.

— Справа ў тым,— гаворыць другі майстар,— што ў нас ёсць замкі толькі даўжынёй у 15 і 20 сантыметраў. Другіх мы не атрымлівалі.

Звонім у іншыя майстэрні — тая ж гісторыя.

Жаночая цырульня «Мара» — адна з лепшых у горадзе. Мы завіталі сюды. Майстар Марына Зіноўева занялася Золушчынай прычоскай. На стале ў рабочым беспарадку красаваліся ўсялякія баначкі, бутэлечкі, шчоткі і яшчэ куча нейкіх хітрых прылад. Вядома, цырульнікі — народ



6—П6





Там, дзе «лечаць» гадзіннікі. Брыгада Юрыя Крылова.

гаваркі. Марына Зіноўева расказала дзіўную гісторыю: «Кожны спецыяльны інструмент каштуе ў сярэднім 1,5 рубля. Як вы думаеце, колькі рублёў затраціла цырульня на гэты інструмент? Ды ні капейкі. Усё купіла я сама. У цырульні інструментаў амаль няма. Мне пры паступленні на работу выдалі палачку для хімічнай завіўкі і бігудзі, ды і тыя не прыдатныя для работы з кароткімі прычоскамі».

Марына сапраўды вялікі майстар. Наша Золушка стала сапраўднай прынцэсай. Падзякаваўшы цырульнікам за выдатную работу, мы ідзём на вуліцу Урыцкага пазнаёміцца з «Бюро бытавых паслуг».

Дырэктар бюро Фёдар Апанасавіч Лалецін—гаваркі чалавек. Ён запрасіў нас сесці і пачаў расказваць:

— Мы аказваем жыхарам Мінска 26 розных паслуг. Людзі ахвотна імі карыстаюцца. За студзень было выканана звыш 1.200

Прычоска... Як гэта важна!



заказаў. Бюро ажыццяўляе ўсялякія гаспадарчыя работы, праводзіць індывідуальныя заняткі па агульнаадукацыйных прадметах, замежных мовах, музыцы. Мы ўручаем падарункі, займаемся перакладамі, накіроўваем для нагляду за дзецьмі нянек.

— Ці нельга больш падрабязна расказаць пра іх работу? — цікавімся мы.

— Калі ласка. Нашы нянькі пераважна жанчыны немаладога ўзросту. Іх у нас мала, усяго толькі шэсць.

— А ці нельга па прыкладзе магазінаў пракату ўстанавіць плату ў залежнасці ад тэрміну? Пагадзінна, напрыклад.

— Можна, вядома, — уступае ў размову адна з нянек. — Мне здаецца, што тады наш маленькі атрад мог бы адразу павялічыцца...

— Заказ на падарунак, — працягвае дырэктар, — кліент можа афарміць у бюро або поштай. Работнікі бюро ва ўказаны тэрмін купляюць усё неабходнае і ўручаюць адрасату.

— Якім чынам набываюцца тавары?

— О, гэта цэлая эпапея! Беганіна па магазінах, вечныя спрэчкі... Нам вельмі неабходны спецыялізаваны магазін падарункаў. Яго асартымент павінен улічваць попыт кліентуры.

— А як, напрыклад, з кветкамі? Гэта ж часам дэфіцыт.

— Не часам, а амаль заўсёды. У такіх выпадках бюро можа купляць кветкі па рыначнай цане, — тлумачыць дырэктар.

— Сёлета мы ўстанавілі своеасаблівы рэкорд па дастаўцы навагодніх падарункаў, — гаворыць намеснік дырэктара камбіната бытавых паслуг. — У Кіеве, з паўтарамільённым насельніцтвам, нашы калегі ўручылі дзве тысячы падарункаў, у Волгаградзе — усяго 520. Наша бюро выканала шэсць тысяч заказаў!

У розных службах быту было многа прапаноў палепшыць абслугоўванне, павысіць культуру працы, лепш арганізаваць «бытавую індустрыю». Спынімся на самых важных.

Многія майстэрні не маюць інтэрнатаў. Таму маладыя спецыялісты часта мяняюць месца работы.

Наведвальнікі цырульняў прапануюць па прыкладзе іншых гарадоў рэспублікі арганізаваць продаж абанементаў. Гэта значна зменшыць чэргі.

Бюро бытавых паслуг прапануе па прыкладзе гарадоў Кіева, Саратава, Тулы арганізаваць у розных раёнах Мінска, асабліва на ўскраінах, пункты па прыёме заказаў. Гэта палепшыць бытавое абслугоўванне мінчан.

**Генадзь БЯЛІЦКІ.**
Фота **аўтара.**



# МАТЭМАТЫКА ЎСІМ

У матэматыцы, як навуцы, адрозніваюць два цесна звязаныя паміж сабою напрамкі: адзін з іх прынята ўмоўна называць «прыкладным», другі — «тэарэтычным». Развіццё прыкладнога напрамку звязана з неабходнасцю рашаць матэматычнымі сродкамі розныя задачы, якія ставіць прыродазнаўства, тэхніка і народная гаспадарка. Таму пад словамі «прыкладная матэматыка» звычайна разумеюць яе тыя раздзелы, якія маюць непасрэднае прымяненне ў фізіцы, астраноміі, хіміі, эканоміцы, геадэзіі, у ваеннай, інжынернай справе і г. д.

Узнікненне ў апошнія гады новых навуковых праблем і цэлых навуковых напрамкаў, якія абумоўлены развіццём і ўкараненнем у розныя галіны народнай гаспадаркі навукі і тэхнікі электронных вылічальных машын (ЭВМ), прывяло да пашырэння прыкладной матэматыкі. Пра яе пачалі гаварыць, як пра раздзел матэматыкі, навуковы напрамак якога звязаны з распрацоўкай і стварэннем сродкаў, якія забяспечваюць эфектыўнае выкарыстанне ЭВМ, а таксама пашыраюць магчымасці саміх ЭВМ.

Няспынна расце народная гаспадарка, ускладняецца працэс кіравання ёю. Кіраванне становіцца аб'ектам механізацыі і аўтаматызацыі, шырокай сферай для рэалізацыі найноўшых ідэй, прымянення сучаснай тэхнікі і розных навукова-тэхнічных комплексаў. Але кіраванне можа быць эфектыўным толькі ў тым выпадку, калі з усіх магчымых рашэнняў будзе выбрана аптымальнае. Гэты выбар залежыць ад таго, наколькі навукова абгрунтаваныя прадпасылкі і матывы рашэнняў, наколькі адпавядаюць яны аб'ектыўным заканамернасцям.

З-за складанасці задач эканамічнага планавання вытворчасці, навукі і тэхнікі, размеркавання рэсурсаў, матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння і г. д., звязаных перш за ўсё з неабходнасцю збіраць, апрацоўваць і хутка аналізаваць велізарную колькасць усялякай інфармацыі, гэтая адпаведнасць не можа быць устаноўлена без правядзення дакладнага колькаснага аналізу. Таму ў вырашэнні праблемы кіравання вялікая роля належыць аўтаматызаваным сістэмам кіравання (АСК), якія заснаваны на выкарыстанні электроннай вылічальнай тэхнікі. Яны пачалі ўжо ствараецца ў нашай краіне.

Гісторыя ЭВМ налічвае ўсяго каля двух дзесяткаў гадоў. Аднак нягледзячы на гэта, вылічальная тэхніка зрабіла вялізны скачок, стаўшы ў адзін рад з выдатнымі адкрыццямі дваццатага стагоддзя. Са з'яўленнем ЭВМ карэнным чынам змяніліся нашы ўяўленні аб хуткасці вылічэнняў. Машыны здольны лічыць вельмі хутка, з вялікай дакладнасцю, запамінаць і апрацоўваць вялікія аб'ёмы ўсялякай інфармацыі, рабіць доўгія і складаныя ў сваёй паслядоўнасці вылічэнні без умяшання чалавека. Сучасныя ЭВМ выконваюць дзесяткі і сотні тысяч аперацый у секунду; створаны машыны, якія выконваюць мільёны аперацый у секунду. У сучасны момант распрацоўваюцца новыя тыпы вылічальных машын з яшчэ большай хуткасцю дзеяння.

Да нядаўняга часу ЭВМ выкарыстоўваліся ў асноўным толькі ў акадэміях навук, буйнейшых навукова-даследчых інстытутах і на буйнейшых прамысловых прадпрыемствах. Няспыннае павелічэнне выпуску ЭВМ

прывяло да павелічэння колькасці іх спажыўцоў. Цяпер ЭВМ ёсць у вылічальных цэнтрах (ВЦ) многіх прадпрыемстваў і галіновых органаў кіравання. Мяркуецца, што ў недалёкім будучым для збору, апрацоўкі і аналізу інфармацыі, якая патрэбна для стварэння аптымальнага рэжыму кіравання прадпрыемствамі, адміністрацыйнымі раёнамі і рознымі галінамі народнай гаспадаркі краіны, з пакуль што разрозненых ВЦ будзе створаны адзіны ланцуг.

Матэматычныя метады і ЭВМ цяпер шырока выкарыстоўваюцца для рашэння задач у галіне касмічных даследаванняў, у радыётэхніцы, радыёэлектроніцы, механіцы, фізіцы, для разліку вельмі складаных канструкцый у тэхніцы. З іх дапамогаю вызначаюць аптымальныя планы работы асобных прадпрыемстваў, галін і падгалін народнай гаспадаркі. ЭВМ выкарыстоўваюцца для кіравання тэхналагічнымі працэсамі на прадпрыемствах і з'яўляюцца неад'емнай часткай аўтаматызаванай сістэмы кіравання.

Зусім ясна, што простае павелічэнне колькасці ЭВМ не можа вырашыць праблему кіравання ў цэлым. Трэба яшчэ ўмець прадукцыйна прымяняць іх. Для гэтага патрэбны спецыялісты, якія маюць агульнаматэматычную падрыхтоўку, глыбокія веды ў спецыяльных матэматычных дысцыплінах і якія добра знаёмыя з магчымасцямі ЭВМ і методыкай іх выкарыстання.

Для таго каб забяспечыць кваліфікаваную эксплуатацыю электроннавылічальнай тэхнікі, па рашэнні партыі і ўрада ў некаторых вышэйшых навучальных установах краіны былі адкрыты факультэты прыкладной матэматыкі, закліканыя рыхтаваць матэматыкаў для работы ў галінах, дзе выкарыстоўваюцца ЭВМ.

У пярэдадзень святкавання 100-годдзя з дня нараджэння У. І. Леніна, у красавіку 1970 года, факультэт прыкладной матэматыкі створаны і ў Беларускім ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна. Ён арганізаваны на базе матэматычнага факультэта і нашага вылічальнага цэнтра. У сучасны момант на яго I—V курсах займаецца больш пяцісот студэнтаў, з якіх 175 прыняты на першы курс летась.

Упершыню ў Беларусі пачалася прафесійная падрыхтоўка высокакваліфікаваных спецыялістаў па прыкладной матэматыцы—матэматыкаў асобага профілю, здольных развіваць навуковыя напрамкі, звязаныя з эфектыўным выкарыстаннем ЭВМ і з развіццём саміх ЭВМ.

Факультэт ажыццяўляе спецыялізацыю студэнтаў у трох кірунках: матэматычнае забеспячэнне ЭВМ, матэматычнае забеспячэнне АСК, прымяненне сродкаў вылічальнай тэхнікі.

Адным з асноўных паняццяў, на якіх базіруецца прымяненне ЭВМ для рашэння розных задач, з'яўляецца паняцце алгарытма. Поўнае разуменне сутнасці задачы, якая вывучаецца, і веданне адпаведных галін матэматыкі дазваляе матэматычна апісаць (сфармуляваць) задачу. Аднак матэматычная фармуліроўка задачы можа аказацца непрыгоднай для непасрэднага перакладу яе на «мову» ЭВМ, бо вылічальныя машыны здольныя выконваць толькі прасцейшыя арыфметычныя дзеянні—складанне, адніманне, множанне, дзяленне—і прымаць самыя простыя колькасныя рашэнні. У сувязі з гэтым такія матэматычныя паняцці, як, напрыклад, трыганаметрычныя функцыі, лагарыфмы, квадратныя карані і інш., якія ўваходзяць у матэматычныя выражэнні, што вызначаюць рашэнне задачы, папярэдне павінны быць выражаны праз элементарныя арыфметычныя аперацыі. Таму спачатку неабходна распрацаваць так званы алгарытм лічбовага рашэння задачы, выражаны у выглядзе пэўнай паслядоўнасці аперацый вылічальнай машыны. Затым алгарытм патрэбна выкласці на «мове», зразумелай дадзенай машыне, г. зн. павінна быць складзена так званая машынная праграма, якая ўяўляе сабой запіс алгарытма рашэння задачы на «мове» ЭВМ у выглядзе паслядоўнасці каманд, якія ўспрымае машына. Пасля гэтага можна рабіць разлік на ЭВМ, г. зн. карыстацца ёй па складзенай праграме, атрымоўваючы канчатковыя вынікі на аснове зыходных дадзеных.

У цэлым рашэнне задачы на ЭВМ уяўляе сабою вельмі складаны і працаёмкі працэс. Кожны тып ЭВМ мае сваю «мову». Гэта прыводзіць да таго, што пры звычайным праграміраванні адзін і той жа алгарытм патрэбна занава запісваць для кожнага тыпу ЭВМ. Таму пры рабоце на розных тыпах вылічальных машын трэба ведаць «мову» кожнай з іх. Аднак працэс лічбовага рашэння задачы на ЭВМ можна істотна аблегчыць і паскорыць за кошт, напрыклад, прымянення стандартных праграм для рашэння тыповых задач, за кошт распрацоўкі і стварэння так званых алгарытмічных «моваў» (у цяперашні час з'явіліся спецыяльныя агульнапрынятыя алгарытмічныя мовы, якія не залежаць ад тыпу ЭВМ і якія фармальна апісваюць вылічальныя працэсы; так званыя транслятары пераводзяць праграму, складзеную на адной з алгарытмічных «моваў», на «мову» дадзенай машыны); за кошт стварэння апарацыйных сістэм і іншага праграмнага абсталявання. Усе гэтыя сродкі, што ўяўляюць сабою набор розных праграм, з дапамогай якіх павышаецца каэфіцыент карыснага дзеяння ЭВМ і якія садзейнічаюць арганізацыі аўтаматычнай работы ЭВМ, у сваім комплексе і складаюць аснову матэматычнага забеспячэння ЭВМ.

Распрацоўцы і стварэнню сістэмы матэматычнага забеспячэння ЭВМ удзяляецца выключна вялікая ўвага. Гэта і зразумела, калі ўлічыць, што яна каштуе больш, чым распрацоўка тэхнічных сродкаў новага тыпу ЭВМ.

Для стварэння аўтаматызаванай сістэмы кіравання (АСК) неабходна перш за ўсё матэматычна апісаць аб'ект кіравання, г. зн. стварыць матэматычную мадэль, якая адлюстроўвае пэўныя ўласцівасці рэальнага працэсу. Лагічны апарат матэматыкі дае далейшы сродак для пабудовы тэорыі АСК, звязанай з распрацоўкай пэўных сістэм алгарытмаў, на аснове якіх, у сваю чаргу, распрацоўваецца і ствараецца матэматычнае забеспячэнне АСК, якое адлюстроўвае спецыфіку вытворчасці.

У многім характар падрыхтоўкі спецыялістаў па матэматычным забеспячэнні ЭВМ і АСК аналагічны—у абодвух выпадках навуковая накіраванасць работы студэнтаў звязана з распрацоўкай і стварэннем праграмнага абсталявання для ЭВМ.

Трэцяя з вышэй названых спецыялізацый мае на ўвазе падрыхтоўку матэматыкаў, якія здольны прымяняць вылічальныя машыны для рашэння розных прыкладных задач.

У адпаведнасці з вучэбным планам студэнты нашага факультэта, незалежна ад спецыялізацыі, вывучаюць такія асноўныя матэматычныя дысцыпліны, як матэматычны аналіз, тэорыя функцый комплекснага пераменнага, функцыянальны аналіз і інтэгральныя ўраўненні, аналітычная геаметрыя і алгебра, дыферэнцыяльныя ўраўненні, ураўненні матэматычнай фізікі, метады вылічэнняў, а таксама такія спецыяльныя дысцыпліны, як даследаванне аперацый, тэорыя гульняў, метады аптымізацыі, тэорыя верагоднасцяў і матэматычная статыстыка; вывучаюць вялікі курс вылічальных машын і праграміравання і інш. Апрача таго студэнты павінны мець глыбокія веды ў галінах, звязаных з прыкладаннем матэматыкі і выкарыстаннем ЭВМ. Як і на іншых факультэтах, яны вывучаюць гісторыю КПСС, марксісцка-ленінскую філасофію, палітэканомію, асновы навуковага камунізма, замежную мову.

Навуковую і вучэбную работу на факультэце вядуць кафедры вылічальнай матэматыкі, прыкладной матэматыкі, матэматычнага забеспячэння



**Л. В. Вылягжаніна, студэнтка 6-га курса матфака, і Л. А. Рута, начальнік аддзела праграміравання вылічальнага цэнтра ўніверсітэта.**



ЭВМ, дыферэнцыяльных ураўненняў і ўраўненняў матэматычнай фізікі, дзе працуюць вядомыя ў краіне і за мяжою матэматыкі—Герой Сацыялістычнай Працы, заслужаны дзеяч навукі БССР, акадэмік АН БССР, прафесар Мікалай Паўлавіч Яругін, заслужаны дзеяч навукі БССР, акадэмік АН БССР, прафесар Уладзімір Іванавіч Крылоў, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар Фаіна Міхайлаўна Кірылава, доктары фізіка-матэматычных навук Рафаіл Фёдаравіч Габасаў, Іван Аляксеевіч Прусаў і іншыя.

Вучэбны працэс абуджае ў студэнтаў самастойную творчую ініцыятыву, дапамагае ім авалодваць метадамі даследавання, вучыць творча карыстацца набытымі ведамі. Побач з лекцыямі вучэбны план прадугледжвае вялікую колькасць лабараторных і практычных заняткаў.

У перыяд вучобы студэнты праходзяць вучэбную практыку ў вылічальным цэнтры факультэта, а на апошнім годзе навучання—вытворчую практыку з тым, каб замацаваць атрыманыя тэарэтычныя веды і азнаёміцца з канкрэтнай спецыфікай будучай вытворчай дзейнасці. Вытворчая практыка праводзіцца ў навукова-даследчых установах, дзяржаўных планавых і іншых арганізацыях Мінска.

Студэнтам даецца цыкл спецкурсаў і спецсемінараў; іх вядуць, апрача

выкладчыкаў, адказныя работнікі навукова-даследчых устаноў. Гэта дае магчымасць паглыбіць вывучэнне дысцыплін па спецыяльнасці, якую студэнт выбірае па сваёй схільнасці і асабістым гусце.

Студэнцкае навуковае таварыства, навуковыя гурткі, семінары, канферэнцыі, а таксама курсавыя і дыпломныя работы — усё гэта садзейнічае набыццю навыкаў для самастойнай навуковай дзейнасці.

У вучэбным плане ёсць таксама курс фізічнага выхавання і спорту. Студэнты ўдзельнічаюць у турысцкіх паходах, у спаборніцтвах па асобных відах спорту паміж факультэтамі універсітэта і г. д.

Тэрмін навучання на факультэце — пяць гадоў (існуе толькі дзённая форма навучання). У пяцікурснікаў апошні семестр прысвечаны галоўным чынам напісанню дыпломнай работы. Навучанне заканчваецца абаронай дыплома і здачай экзаменаў Дзяржаўнай экзаменацыйнай камісіі. Выпускніку прысвойваецца кваліфікацыя — матэматык. Нашы выпускнікі накіроўваюцца на працу ў розныя галіны прамысловасці, народнай гаспадаркі, у навукова-даследчыя інстытуты, вылічальныя цэнтры і іншыя ўстановы рэспублікі і краіны.

Прыём на факультэт вызначаны агульнымі правіламі прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы. Паступаючыя здаюць уступныя экзамены па матэматыцы (пісьмова і вусна), фізіцы (вусна), а таксама па рускай мове і літаратуры (сачыненне). Конкурсны адбор праводзіцца ў адпаведнасці з агульнай колькасцю балаў на аснове ацэнак, атрыманых на ўступных экзаменах па прафіліруючых дысцыплінах.

У гэтым годзе на першы курс мяркуецца прыняць 200 чалавек.

Запрашаем на факультэт выпускнікоў сярэдніх школ — выдатнікаў вучобы, здольную моладзь, якая жадае набыць спецыяльнасці па прыкладной матэматыцы.

**Яўгені ІВАНОЎ,**
**дэкан факультэта прыкладной матэматыкі БДУ імя У. І. Леніна, доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар.**

# НАШ ПРАКТЫКУМ

## ФІЗІКА

**З 1968 года ў Беларускім ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга політэхнічным інстытуце ўступныя экзамены па фізіцы праводзяцца ў пісьмовай форме. Трохгадовы вопыт паказвае, што такая форма экзамену больш мэтазгодная і дае лепшыя вынікі.**

**У часопісе «Маладосць» № 4 за 1969 год быў змешчаны артыкул старшага выкладчыка кафедры фізікі машынабудаўнічага профілю І. М. Рымкевіча «Перад экзаменамі па фізіцы», у якім падрабязна апісваўся прынцып праваздзення пісьмовага экзамену і былі дадзены варыянты пісьмовых заданняў. Кожны год гэтыя заданні перапрацоўваюцца, але агульны прынцып іх пабудовы захаваўся. Чацвёртым пытаннем варыянта з'яўляецца задача. Звычайна задача бярэцца з аднаго са шматлікіх задачнікаў для сярэдняй школы. Тут прыводзяцца чатыры задачы з тых, што даваліся для нашых абітурыентаў у 1970 годзе.**

**1. Вызначыць вугал адхілення промня шкляной прызмай, калі вядома, што вугал пераламлення прызмы роўны 3°, а прамень падае на грань прызмы пад вуглом, роўным нулю. Паказчык пераламлення шкла 1,5.**

**2. Электрычнае поле ўтворана дзвюма паралельнымі пласцінамі, якія знаходзяцца на адлегласці 2 см адна ад другой; рознасць патэнцыялаў паміж імі роўна 120 В. Якую хуткасць атрымае электрон пад уздзеяннем поля, прайшоўшы па сілавой лініі адлегласць у 3 мм?**





**3. На жалезную балванку масай 100 кг падае з вышыні 4 м паравы молат масай 6000 кг. Пасля 30 удараў молата балванка нагрэлася на 25° С. Якая частка кінетычнай энергіі молата ідзе на яго награванне?**

**4. У алюмініевай каструлі масай 0,7 кг знаходзіцца 1 л вады і 100 г лёду пры 0° С. Вада награваецца на электраплітцы магутнасцю 500 Вт на працягу 40 мінут. Колькі выкіпела вады, калі ККД пліткі 50 працэнтаў (цеплаёмкасць алюмінію 0,22 кал/г градусаў).**

---

**Рашэнні задач будуць змешчаны ў наступным нумары часопіса.**

**Леў КРАЎЦОЎ,**
**загадчык кафедры фізікі машынабудаўнічага профілю Беларускага політэхнічнага інстытута.**

## РАШЭННІ ЗАДАЧ ПА ХІМІІ *

1. З закона эквівалентаў вынікае, што незалежна ад прыроды рэагуючых рэчываў колькасці іх *г-экв*, уступіўшых у рэакцыю узаемадзеяння, роўныя.

Колькасць *г-экв* кіслаты, пайшоўшай у рэакцыю, вызначаецца з прапорцыі

1000 мл 2 н раствору ўтрымлівае 2 *г-экв*
30 » » » $x$ »

$x = 0,06$ *г-экв*.

Тады 1,74 *г* гідравокісу металу таксама складаюць 0,06 *г-экв*, што дазваляе разлічыць грам-эквівалент гідравокісу.

1,74 *г* складае 0,06 *г-экв*
$y$ » » 1 *г-экв*
$y = 29$ *г*.

Улічваючы, што ўзяты гідравокіс двухвалентнага металу, вызначым яго грам-малекулярную вагу

$$29 \cdot 2 = 58 \text{ (г)}$$

і грам-атамную вагу металу

$58 - 17 \cdot 2 = 24$ (г), дзе 17 — вага гідраксільнай групы, пазначанай у грамах.

Адсюль робім вывад, што формула гідравокісу — $Mg(OH)_2$.

2. Вызначыўшы колькасць моляў растворанага сернага ангідрыду —

$$1,6 : 80 = 0,02 \text{ (моля)},$$

знойдзем, згодна з ураўненнем рэакцыі



$$SO_3 + H_2O = H_2SO_4,$$

колькасць моляў сернай кіслаты, якая ўтвараецца — (0,02 моля). Канцэнтрацыя яе раствору роўная

$$0,02 : 2 = 0,01 \text{ (моль/л)}.$$

Серная кіслата, з'яўляючыся моцным электралітам, у разбаўленых растворах дысацыіруе поўнасцю па ўраўненні



$$H_2SO_4 \rightarrow 2H^{\cdot} + SO_4''$$

Значыць, канцэнтрацыя іонаў вадароду ў атрыманым растворы будзе ўдвая большая за канцэнтрацыю моляў $H_2SO_4$ і складзе 0,02 *г-іон/л*.

3. Ураўненне рэакцыі згарання прэдзельнага вуглевадароду (у разліку на 1 моль яго) можна запісаць як



$$C_nH_{2n+2} + \left(n + \frac{2n+2}{4}\right)O_2 = nCO_2 + \frac{2n+2}{2}H_2O.$$

Згодна з умовай задачы,

$$1 + \left(n + \frac{2n+2}{4}\right) = 2n,$$

адкуль $n = 3$. Значыць, формула вуглевадароду $C_3H_8$.

4. Пасля прагартоўвання В *г* карбанату кальцыю ў пасудзіне навялічылася ўтры-

---

* Умовы гл. «Маладосць» № 3.

манне газападобных рэчываў за кошт вуглекіслага газу, які выдзяляецца, згодна ўраўненню рэакцыі



$$CaCO_3 = CaO + CO_2.$$

З 100 *г* $CaCO_3$ утвараецца 22,4 *л* $CO_2$, вымеранага пры н. у.,
З В *г* » » » *x* —

$$x = 0,224\ B\ л\ CO_2.$$

Гэтая колькасць вуглекіслага газу ў пасудзіне аб'ёмам А *л* пры 0° С створыць дадатковы ціск *y*. Згодна

$$p_1V_1 = p_2V_2,$$

$$1 \cdot 0,224\ B = y \cdot A;\quad y = 0,224\,\frac{B}{A}\ (атм).$$

Такім чынам, агульны ціск у пасудзіне будзе

$$\left(1 + 0,224\,\frac{B}{A}\right)\ атм.$$

5. Пры электролізе воднага раствору едкага калію на катодзе выдзеліцца вадарод ($4H^{\cdot} + 4e = 2H_2$), на анодзе — кісларод ($4OH' - 4e = 2H_2O + O_2$), увогуле ж ідзе раскладанне вады, згодна з ураўненнем



$$2H_2O = 2H_2 + O_2.$$

Канцэнтрацыя раствору КОН пры гэтым узрастае.

Утрыманне ў растворы КОН можна вызначыць з прапорцыі:

у 100 *г* раствору ўтрымлівалася 6 *г* КОН
у 2100 *г* (1,05·2000) — — *x* — —

Значыць, $x = 126$ *г* КОН.

Колькасць раствору пасля заканчэння электролізу складзе:

126 *г* КОН складаюць 8%
*y* *г* раствору » 100%
$y = 1575$ *г* раствору.

Вады расклалася $2100 - 1575 = 525$ (*г*), альбо $525 : 18 = 29,17$ *моля* (18 — г-мал. вага $H_2O$).

Пры гэтым, згодна з ураўненнем электралітычнага раскладання вады, выдзяляецца 29,17 *моля*, альбо 58,34 ($2 \times 29,17$) *г* вадароду і 14,585 *моля*, альбо 466,72 ($32 \times 14,585$) *г* кіслароду.

Найбольш пашыраная пагрэшнасць, якую дапускаюць абітурыенты пры рашэнні падобных задач, — разлікі звычайна робяцца выключна на аснове вагі рэчыва. Магчымасці ж для разлікаў па колькасці г-моляў і г-эквівалентаў, як правіла, не выкарыстоўваюцца. Але ў такім выпадку цэлы шэраг задач (у тым ліку задачы 1 і 3) наогул нельга рашыць.

Сур'ёзныя цяжкасці ўзнікаюць у абітурыентаў пры рашэнні задач у агульным выглядзе, як, напрыклад, задача 4. Адсутнасць у яе ўмове канкрэтных лічбаў стварае нейкую псіхалагічную перашкоду, хаця рашэнне гэтай задачы ў агульным выглядзе садзейнічае развіццю лагічнага мыслення.

**Галіна ПАПКОВІЧ,**
**кандыдат хімічных навук.**





**Флакон (рэканструкцыя) сіняга шкла, распісанага белымі эмалямі і золатам. XII ст. Знойдзены ў Навагрудку.**

# ТАЯМНІЦА СІНЯГА ФЛАКОНА

Мастацкае шкло на Беларусі было вядома ў вельмі даўнія часы. Кара́лі, зробленыя са шкла, служылі найлепшым упрыгожаннем яшчэ ў мілаградскіх і зарубінецкіх плямёнаў, якія насялялі паўднёвы захад і поўдзень цяперашняй Беларусі ў раннім жалезным веку (IV ст. да нашай эры — III ст. нашай эры).

Мясцовая вытворчасць шкла таксама ўзыходзіць да глыбокай старажытнасці. Раскопкі селішча і магільніка каля в. Абідня Магілёўскай вобласці, зробленыя Л. Д. Побалем, далі нам доказ таго, што тут у III—IV стст. нашай эры вырабляліся ювелірныя ўпрыгожанні з бронзы, якія аздабляліся чырвонымі эмалямі, а таксама чырвоныя паставыя пацеркі. Эмалі ж і паставыя пацеркі, як вядома, уяўляюць сабой не што іншае, як глушанае шкло.

На працягу першага тысячагоддзя н. э. шкло паступова распаўсюджвалася па ўсёй тэрыторыі Беларусі. Пра гэта сведчаць археалагічныя знаходкі В. З. Завітневіча, К. П. Тышкевіча, Е. Р. Раманава, В. І. Сізова, К. М. Турбіна, Н. П. Авенарыуса, А. Н. Ляўданскага, Г. В. Штыхава і многіх іншых, якім трапіліся шкляныя пацеркі ў цэнтральных і паўночных раёнах Беларусі.

Як упрыгожанне шкляныя пацеркі прадаўжалі бытаваць на тэрыторыі Беларусі да сярэдзіны XIII ст. За гэты час шкло атрымала шырокае распаўсюджанне. Доказам гэтаму служаць не толькі пацеркі і бранзалеты, але і шкляны посуд самага рознага прызначэння, знойдзены ва ўсіх сярэдневяковых гарадах Беларусі.

Асабліва плённымі былі раскопкі сярэдневяковага Навагрудка, пачатыя Ф. Д. Гурэвіч у 1958 годзе. Археолагу пашанцавала: яна знайшла абломкі больш як сарака цудоўных па форме шкляных пасудзін, распісаных і багата аздобленых золатам і эмаллю, а таксама

больш шасцідзесяці пасудзін без роспісу. Узнікла пытанне: адкуль яны тут узяліся? Зрабілі іх і аздобілі навагрудскія майстры ці яны прывезены сюды купцамі і належаць другому народу, другой культуры? Адказаць на гэтае пытанне — значыць у нейкай меры праліць святло на той узровень матэрыяльнай культуры, які быў уласцівы сярэдневяковаму Навагрудку — нашаму старадаўняму беларускаму гораду.

Думку пра тое, што распісныя пасудзіны, знойдзеныя Ф. Д. Гурэвіч, магчыма, выраблены і распісаны тут, у Навагрудку, упершыню выказаў, вывучыўшы элементы дэкору на іх, савецкі мастацтвазнаўца Б. А. Шалкоўнікаў, але іншыя даследчыкі аспрэчвалі яго высновы. Самі аўтары кнігі «Усходняе шкло ў старажытнай Русі» Ф. Д. Гурэвіч, Р. М. Джанпаладзян і М. В. Малеўская лічаць, што дзве з пятнаццаці рэстаўрыраваных імі пасудзін падобныя па дэкоры да дзвюх ужо вядомых пасудзін—аднае, знойдзенай у Карынфе (датуецца XI ст.), і другой, знойдзенай у Дзвіне — былой сталіцы Арменіі, якія належаць візантыйскім майстрам.

Але ці падобныя навагрудскія знаходкі да карынфскай і дзвінскай — вось пытанне, на якое нам трэба будзе адказаць. Тым болей, што ў самім Карынфе, які лічаць цэнтрам вырабу такога посуду, знойдзена толькі адна пасудзіна, а ў далёкім ад яго і Дзвіна Навагрудку — сорак. Такая багатая калекцыя многіх відаў шкляных вырабаў (пярсцёнкі, пацеркі, бранзалеты, посуд з празрыстага і глушанага каляровага, бясколернага і малочнага, а таксама ваконнага шкла) на тэрыторыі сярэдневяковай Русі знойдзена ўпершыню. На думку Ф. Д. Гурэвіч, па багацці дэкору і разнастайнасці відаў шкла такіх знаходак не ведаюць археалагічныя раскопкі ў Еўропе.

Вядома, што тэхніку залачэння і роспісу па шкле каляровымі эмалямі еўрапейскія майстры перанялі ў Візантыі, дзе яна паспяхова развівалася дзякуючы візантыйскай схільнасці да золата, бляску і раскошы. Візантыйскае шкло па форме і дэкоры нагадвае вырабы з металу (срэбра, медзі, бронзы), аднак чысціня колеру выклікае вялікае захапленне — настолькі яно празрыстае і інтэнсіўнае па афарбоўцы.

Са шкляных вырабаў, пра якія пэўна вядома, што яны зроблены ў Візантыі, захавалася адна распісная чаша цёмнафіялетавага колеру, дэкарыраваная каляровымі эмалямі, распісанымі золатам арабескамі вакол двайных і адзіночных медальёнаў з адлюстраваннем у іх шматфігурных кампазіцый. Яна была вывезена крыжаносцамі з Канстанцінопаля ў 1214 годзе і захоўваецца ў саборы св. Марка ў Венецыі.

На думку югаслаўскага вучонага Гайча-Лончара Ружы, у XII ст. цэнтр шкляной вытворчасці перамясціўся з Візантыі ў Сірыю. Формы сірыйскага шклянога посуду таксама былі падобныя на металічны посуд, але дэкор быў іншы: стылізаваныя раслінныя арнаменты, надпісы на арабскай мове, малюнкі львоў, грыфонаў, сцэны разгулу і весялосці. Прыкладам сірыйскага шкла служыць лямпа ў форме вазы з шырокім горлам і ручкамі па баках. Па горле вазы размешчаны фрызам тэкст з карана.

Роспіс навагрудскага посуду ні па кампазіцыі, ні па сюжэце, ні па манеры выканання не мае нічога агульнага ні з візантыйскай чашай з Канстанцінопаля, ні з посудам з Карынфа і Дзвіна.

Першы кубак (вышыня каля 20 см) зроблены з тонкага празрыстага шкла чырвона-фіялетавага колеру. Ён распісаны золатам. Верх раздзелены перакрыжаванымі лініямі на ромбікі, унутры якіх — стылізаваныя елкі або яловыя галінкі. Пасярэдзіне кубка з абодвух бакоў у шырокай прамавугольнай раме — геральдычная фігура птушкі, якая нагадвае голуба з распасцёртымі крыламі, распушчаным хвастом і галавой, павернутай направа. Тулава, пер'е, хвост і крылы акрэслены гравіроўкай. Унутры прамавугольнай рамы прыкметны сляды як бы нядбайна кінутых яловых галінак: дзвюх адзінарных над галавой птушкі і двайной — ля яе ног. Ніжэй рамкі з птушкай — шырокая залатая паласа. Як бачым, тут няма ні традыцыйных візантыйскіх медальёнаў, ні львоў, ні стылізаваных раслінных арнаментаў. Манера роспісу — вольная, лёгкая, а не жорстка-ювелірная, як на візантыйскай чашы.



Лямпа са шкла, роспіс каляровымі эмалямі. XIV ст. Сірыя.



Другая рэканструяваная пасудзіна — гэта флакон з вузкім горлам (вышыня 17,5 см), зроблены з сіняватага празрыстага шкла. Яго паверхня ўпрыгожана роспісам золатам і белай эмаллю. Арнаментальны дэкор флакона складаецца з чатырох элементаў: рамбічнай сеткі, лінейна-хвалістых ліній, кружкоў і прамых ліній. У верхняй частцы флакона — шырокі арнаментальны пояс рамбічнай сеткі, напісаны не зусім правільна. Унутраная частка ромбаў запоўнена крыжыкамі з трайнымі залатымі адросткамі на канцах. Арнаментальны пояс па прапорцыях займае 1/5 частку ўсёй вышыні флакона. З тарцовых бакоў пояса — вертыкальныя лініі белай эмалі. Выходзіць, што рамбічная сетка ўзята з чатырох бакоў у белую рамку ў выглядзе эмалевай контурнай лініі. Ніжэй, да сюжэтнай кампазіцыі, ідуць яшчэ тры арнаментальныя паясы, таксама строга абмежаваныя белай эмалевай лініяй. Пад усім гэтым масіўным арнаментальным дэкорам размяшчаецца прамавугольнік, напісаны белай эмаллю, унутры якога знаходзіцца птушка, падобная на голуба. Хвост у гэтага голуба карацей, чым у таго, што на кубку, галава павернута ўлева. Над галавой голуба і над хвастом — яловыя галінкі. Птушка і галінкі распісаны золатам. Ніжэй сюжэтнай лініі — таксама арнаментальны пояс.

Другі бок роспісу флакона аднавіць не ўдалося. Захаваўся толькі невялікі кавалак з рэшткамі малюнка нейкай невядомай істоты — відаць, роспіс на абодвух баках быў несіметрычны. Вузкае горлачка флакона пакрыта золатам. Ніжэй яго, на пакатых плечыках напісаны чатыры залатыя пялёсткі.

Як бачым, кампазіцыйная і тэматычная пабудова кубка і флакона — вельмі блізкая. У кампазіцыях угадваюцца ўяўленні сярэдневяковых майстроў аб навакольным свеце, прыродзе. Елачкі на кубку могуць азначаць лес, а крыжыкі — неба, дзе жыве бог: уяўленне аб ім у першых славян-хрысціян асацыіравалася заўсёды з крыжам, крыжыкам. Унізе былі размешчаны галубы, якія жывуць на зямлі. А зямля паказвалася ў выглядзе шырокага арнаментальнага пояса або суцэльнай шырокай лініі, пакрытай золатам. Звяртае на сябе ўвагу тое, што малюнак елкі і яловых галінак нехарактэрны для дэкаратыўных матываў ні Візантыі, ні Сірыі — там зусім іншая флора. Калі ўжо шукаць падабенства ў дэкоры, то мы яго знойдзем на некаторых бытавых прадметах XII стагоддзя, знойдзеных у Мінску, Ваўкавыску, Полацку, Гродна. Разглядаючы арнамент на навагрудскіх кубку і флаконе ў выглядзе не зусім правільна напісаных ромбаў, што ўтвараюць сетку, дарэчы ўспомніць, што такія ромбы мы знаходзім у дэкоры драўляных пласцінак і жалезных ключоў з Навагрудка, на металічнай пласцінцы і тронку касцянога нажа, знойдзенага ў Полацку, на прасліцах, знойдзеных у Мінску і Ваўкавыску, і нават у вышываных арнаментах на ручніках і адзенні нашых дзён. Рамбічны арнамент быў таксама вельмі папулярны ў рамеснікаў-кастарэзаў і ліцейшчыкаў-ювеліраў сярэдневяковай Гародні.

Характэрныя малюнкі елачак, крыжыкаў і нават лінейна-хвалісты арнамент упрыгожвалі кераміку і праслiцы мілаградскіх, а потым і зарубінецкіх плямёнаў; яловыя галінкі—такія ж, як ля ног у голуба на шкляным кубку з Навагрудка,— мы бачым на праслiцы з Ваўкавыска (XII ст.), на гліняных гузіках з сяла Гарошкава (VI ст. да нашай эры — II ст. нашай эры), на некаторых кера-



Кубак (рэканструкцыя) чырвона-фіялетавага шкла, распісанага золатам. XII ст. Знойдзены ў Навагрудку.

мічных вырабах з Бродска і сяла Валоскага (Украіна). Елачкі ж і крыжыкі мы сустракаем і ў арнаментах вышывак і тканых вырабаў народных майстроў сучаснай Беларусі. Што ж да формы пасудзін, то сярод фрагментаў мясцовай керамікі з Полацка мы бачым такую ж канструкцыю горлачка, як у сіняга флакона.

Цяпер — пра голуба. Б. А. Шалкоўнікаў адзначае, што геральдычнае адлюстраванне голуба замест арла характэрна для многіх відаў дэкаратыўных вырабаў Русі XII ст. На срэбнай талерцы з Каменабродскага скарбу мы таксама знаходзім геральдычнага голуба. Можна дадаць, што арнамент па краі гэтай талеркі поўнасцю супадае з арнаментамі на касцяным футарале для грабеньчыка і на н. э. у арнаментальных кампазіцыях народных умельцаў і рамеснікаў Беларусі ў ткацтве, вышыўцы, металічных вырабах. Шырока выкарыстоўваецца гэты матыў і ў сучасных арнаментальных кампазіцыях беларускіх ткачых. Звычайна нявесты вышывалі галубоў на сваіх ручніках і посцілках. У гэтым сэнсе наваградскі кубак і флакон можна разглядаць як вясельны падарунак з пажаданнем шчасця маладым.

Доказам таго, што распісны посуд, знойдзены ў Навагрудку, рабілі і распісвалі мясцовыя майстры, можа служыць і такі факт. У Заходняй Еўропе ёсць каленцыя ўсходняга распіснога шкла (1500 штук), апублікаваная нямецкім даследчыкам К. Ламам. На тым посудзе намаляваны буслы, лебедзі, павы, арлы,



Крайняя злева — шыферная прасліца. (Мінск, XII ст.) Астатнія — гліняныя прасліцы. (Чаплінскае гарадзішча II—V стст. н. э.)

двух бранзалетах з Навагрудка, знойдзеных Ф. Д. Гурэвіч. Такога ж голуба Шалкоўнікаў убачыў на залатым кольцы, знойдзеным у 1861 г. на Княжацкай гары Канеўскага павета Кіеўскай губерні. На яго думку, такая трактоўка геральдычнага арла нідзе, акрамя Русі, не сустракаецца.

Стылізаванага голуба з шырока распушчаным хвастом мы знаходзім на пярсцёнку з пячаткай, зробленым рамеснікамі Полацка ў XII ст., у Гродна знойдзена ліцейная форма — на ёй таксама малюнак птушкі з распасцёртымі крыламі, як на распісным кубку з Навагрудка. Пярсцёнак з вельмі падобным малюнкам птушкі знойдзены пры раскопках каменных магіл XIV—XV ст. у г. Ліда. У дэталі сакоса мітрапаліта Аляксея (1364) з рызніцы былога Чудава манастыра мы бачым гэткага ж голуба, як на навагрудскім посудзе.

Савецкі мастацтвазнаўца А. С. Гушчын таксама лічыў, што малюнак птушак у старажытным рускім арнаменце не быў звязаны з уплывамі візантыйскай культуры, бо назіраецца ўжо з X стагоддзя, калі яе ўплывы яшчэ амаль не адчуваліся.

Матыў голуба шырока выкарыстоўваўся на працягу другога тысячагоддзя совы, але ні на адной з 1500 рэчаў няма голуба. Б. А. Шалкоўнікаў падкрэслівае ў сувязі з гэтым, што на рускіх перагародчатых эмалях іншых птушак, акрамя галубоў, мы не знаходзім, і прыводзіць важкія аргументы на карысць мясцовага паходжання Навагрудскага распіснога посуду. Як і Гаіч-Лончар, ён заўважае, што Сірыя і Егіпет, дзе ў XII ст. распіснае шкло дасягнула асаблівага росквіту, знаходзіліся на большай адлегласці ад Навагрудка, чым Візантыя. Такім чынам, везці шкло ў Навагрудак праз Візантыю, якая таксама мела распіснае шкло, было б эканамічна нявыгадна.

У каленцыі ўсходняга распіснога шкла, выдадзенай К. Ламам, увесь дэкор дзеліцца на дзве групы: першая — гэта густая раслінна-геаметрычная арнаментыка, якая сеткай пакрывае ўсю паверхню вырабу; другая — значная частка паверхні вырабу застаецца незанятай, а пасярэдзіне змяшчаюцца малюнкі людзей, звяроў і асабліва рыб. Надпісы сустракаюцца рэдка. Асаблівасцю роспісу з'яўляецца тонкі чырвоны контур вакол пісаных золатам ці эмаллю малюнкаў. Абодва гэтыя тыпы не маюць нічога агульнага з навагрудскім шклом.

Такім чынам, непадабенства навагрудскага распіснога шкла са шклом візантыйскім і сірыйскім відавочнае. Паўстае другое пытанне: на што ж яно падобнае, навагрудскае шкло, якія з іншых знаходак на тэрыторыі Беларусі могуць пацвердзіць яго мясцовае паходжанне?

Навагрудскі флакон, як мы ўжо гаварылі, распісаны белай эмаллю. Фрагмент пасудзіны сіняга колеру з роспісам белай эмаллю ў выглядзе палосак знойдзены Т. І. Пех пры раскопках сярэдневяковага Ваўкавыска. Гэта наводзіць на думку, што роспіс белай эмаллю быў, відаць, мясцовай асаблівасцю, таму што тут сустракаецца нават паліваная кераміка з белым падглазурным роспісам. У культурным пласце XII ст. у тым жа Навагрудку знойдзен фрагмент керамічнай пасудзіны з падглазурным роспісам у выглядзе шырокай паласы белага колеру і двюх вузкіх пурпурова-карычневых палос, выкананых у выглядзе свабоднага роспісу ў тэхніцы пасціляжу. Але хочацца звярнуць асаблівую ўвагу на знойдзеную ў Навагрудку плоскую шкляную чашу, распісаную карычневымі кругамі. Археолагі лічаць, што яна зроблена кіеўскімі майстрамі. Але ў нас няма звестак пра тое, што кіеўскія рамеснікі выраблялі шкляны распісны посуд. Ні ў адной з чатырох шкляных майстэрань Кіева не знойдзены сляды распіснога посуду. Паліваны керамічны посуд яны, праўда, рабілі, але яго адразу можна пазнаць па зялёным колеры. А паліва карычневага, жоўтага, белага і вішнёвага колераў, як падмеціла М. В. Малеўская, была мясцовай своеасаблівасцю майстроў старажытнага Навагрудка.

На карысць мясцовага паходжання распіснога навагрудскага шкла гаворыць і тое, што археолагі часта знаходзяць на Беларусі фрагменты шклянога празрыстага посуду бутэлечна-зялёнага колеру, распісанага гарызантальнымі светла-карычневымі палосамі, а гэта той колер, якім дэкарыравалася паліваная кераміка. Прастата дэкору і дакладнае супадзенне колеру фрагментаў шклянога посуду з колерам полацкіх шкляных бранзалетаў сведчаць на карысць іх мясцовага паходжання. Фрагменты такога шкла былі знойдзены Г. В. Штыхавым у Полацку, Оршы, Лукомлі і Лагойску.

Даследчыкам навагрудскага распіснога шкла варта ўлічыць і тую акалічнасць, што ў XII ст., дакладней — у 1161 годзе, у Полацку была развіта вытворчасць разнастайных па колеры эмаляў, якімі Лазар Богша ўпрыгожыў крыж Ефрасінні Полацкай. Элементы арнаментальных кампазіцый крыжа



Навагрудак. X—XIII стагоддзі. Ключы з жалеза.

часткова паўтараюць дэкоры на навагрудскім шкляным посудзе. Рамбічную сетку з трохпялёсткавымі заканчэннямі-крыжыкамі, як у верхняй частцы Навагрудскага флакона, мы бачым на другім баку славутага крыжа. Адна з пласцін пасярэдзіне крыжа цалкам складаецца з эмалевых крыжападобных малюнкаў, якія заканчваюцца трайным разгалінаваннем.

Разглядаючы арнаментальны дэкор навагрудскай керамікі, металу, вырабаў з рогу, косці, дрэва і распіснога шкла, мы заўважаем што яны ўпрыгожваліся пераважна дробнымі кружочкамі або ромбамі, якія стваралі ўражанне няправільна прачэрчанай сеткі і мелі пераважна гарызантальнае чляненне паверхні. І характэрна, што дакладна гэтакую ж арнаментыку мы сустракаем на металічных, керамічных, драўляных і касцяных вырабах, знойдзеных у бліз-



Ромбы і трохканцовыя заканчэнні бакоў крыжа ў хрысціянскім культавым мастацтве. Першы (злева) крыжык — з Віцяцкага кургана; другі — малюнак на абразе багамацеры з Толчскага манастыра (Яраслаўская работа канца XIII ст.); трэці — мазаіка цэнтральнай апсіды Сафійскага сабора ў Кіеве (XI ст.).

ніх да Навагрудка Ваўкавыску, Гродна, Мінску, а таксама Полацку.

В. Р. Тарасенка пра арнамент на мінскай ганчарнай кераміцы XI—XII стст. пісаў: «...па відах арнамента можна вызеліць арнамент у форме нарэзаных гарызантальных ліній, звычайна ў некальні радоў, як пераважны, а таксама палогай і крутой хвалі (так аўтар называе лінейна-хвалісты арнамент — М. Я.). Радзей абодва тыпы гэтых арнаментаў сумяшчаюцца на адной і той жа пасудзіне або дапаўняюцца касымі нарэзкамі па венчыку ці шыйцы пасудзіны, а ў адным выпадку — ромбападобнымі цісненнямі». Вельмі цікава! Фактычна тут апісаны арнаментальны дэкор сіняга флакона з Навагрудка.

На карысць думкі аб існаванні ў Навагрудку ў XII ст. мясцовага шкляного промыслу сведчыць таксама і тое, што ў час раскопак Ф. Д. Гурэвіч знайшла тут некалькі кавалкаў бясформеннай масы ружовага празрыстага шкла — такога ж колеру і якасці, як фрагменты двух рэканструяваных пасудзін, некалькі каменных печаў, не звязаных з якім-небудзь жыллём, некалькі тыглікаў і абломкаў ліцейнай формачкі; былі знойдзены таксама металічныя бляшкі, пакрытыя ліставым золатам і ўстаўкамі з зялёнага шкла, бронзавыя крыжыкі, пакрытыя жоўтай эмаллю, вялікая колькасць шкляных бранзалетаў (болей чым тысяча штук на параўнальна невялікай плошчы раскопак — 350 кв. м), рознага колеру пацеркі, устаўкі са шкла для металічных пярсцёнкаў, мноства фрагментаў посуду з малочнага, блакітнага, чорнага, жаўтаватага, зеленаватага шкла, аконнае шкло ў адкапаных жылых памяшканнях вакольнага горада. Гурэвіч падкрэслівае, што вакoннае шкло ў жылых памяшканнях XII—XIII стст. на тэрыторыі старажытнай Русі сустрэта ўпершыню.

На тэрыторыі вакольнага горада старажытнага Навагрудка знойдзена 180 фрагментаў сталовага паліванага керамічнага посуду. Даследаваннямі ўстаноўлена, што паліва рабілася па двух розных рэцэптах: свінцова-крэмнязёмная і натрыева-свінцова-крэмнязёмная. Супадзенне гатункаў гліны паліванай і ганчарнай керамікі дало падставу М. В. Малеўскай зрабіць вывад аб мясцовай вытворчасці чырвонагліняной і белагліняной паліванай керамікі. Характэрна, што сярод фрагментаў мясцовай белагліняной керамікі трапіўся адзін з падглазурным паліхромным роспісам у выглядзе шырокай белай паласы і дзвюх вузкіх пурпурова-карычневых палос. Відаць, навагрудскія рамеснікі былі знаёмыя з тэхнікай роспісу эмаллю.

Па тым, што навагрудскім майстрам былі вядомы два саставы палівы, можна меркаваць, што яны варылі свінцова-крэмнязёмнае шкло як па старажытнарускім спосабе, так і па антычнай рэцэптуры з прымяненнем натрыю. М. А. Безбародаў падкрэслівае, што для сярэдневяковых майстроў не існавала дзялення шкла на каліевае і натрыевае. Яны адрознівалі яго толькі па шыхце, г. зн. па гатунку попелу той ці іншай расліны, якія прымяняўся для вырабу шкла. Вядома, што попел жытняй саломы або травяністых раслін багаты солямі натрыю, а попел драўніны — каліем. Менавіта частым прымяненнем травянога попелу ў перыяд сярэдневякоўя тлумачыць Безбародаў каліева-натрыевы склад старажытнарускага шкла. Усходнія, паўднёвыя і заходнія славяне, лічыць Безбародаў, мелі ўласны выраб шкла і выраблялі яго як па антычным рэцэпце, так і сваё, якое было не вядома ў Заходняй Еўропе.

Існуе яшчэ адно тлумачэнне «антычнага» складу навагрудскага распіснога шкла. М. А. Безбародаў выказаў думку аб тым, што яшчэ ў дамангольскі перыяд пры вырабе шкляных пацерак выкарыстоўвалася бітае шкло. Даследчык польскага шкла А. Выробіж гаворыць аб выкарыстанні бітага шкла для вырабу шкляного посуду ў Польшчы ў XIV—XVII стст. Безумоўна, трапляючы ў шкламасу мясцовай вытворчасці, бітае шкло не магло не змяняць яе склад. А яшчэ ж трэба ўлічваць тое, як расPісваўся гэты посуд і што ён выраблўся, магчыма, не ў шклаpобчых майстэрнях, а ў ювелірных, таму што мы назіраем цесную сувязь гэтых двух рамёслаў у Абідні, Полацку, Навагрудку. Безбародаў так уяўляў сабе гэты працэс: «У гэтых «ювелірных» майстэрнях працавалі рамеснікі, якія мелі справу з вельмі тонкай і мастацкай апрацоўкай шкла, а магчыма яны былі адначасова і «золатакавалямі» — «залатых спраў майстрамі». Яны не займаліся варкай шкла, а карысталіся гатовым шклом і плавілі яго ў тыглях, як плавілі ў той жа майстэрні золата і срэбра, яны былі адмысловымі майстрамі менавіта па мастацкай апрацоўцы шкла і вырабе з яго пацерак і ўпрыгожвання іх золатам і срэбрам». Ведаючы пра магчымасці паўторнага выкарыстання бітага шкла для вырабу пацерак, старажытныя рамеснікі маглі прымяніць гэтую тэхналогію і для вырабу посуду.







Чаша сіне-фіялетавага шкла, распісанага эмалямі і золатам. Візантыя XI—XII стагоддзяў.

Такім чынам, на тэрыторыі Беларусі ў XII ст. меліся тэхналагічныя і тэхнічныя магчымасці для вырабу распіснога шкла. І, як падкрэслівае Б. А. Шалкоўнікаў, «цяжка сабе ўявіць, каб рускія ювеліры і шклаpобы, вырабляючы эмалевыя парашкі, прыгодныя не толькі для запаўнення ячэек перагародчатых эмаляў, але і для роспісу шкла, і маючы пад рукой патрэбныя для абпальвання распіснога шкла печы і шкляныя вырабы мясцовай вытворчасці, устрымаліся б ад іх роспісу».

Нарэшце, трэба прыняць пад увагу фактары гісторыка-эканамічныя. Вядома, што ў XII ст. гандаль з Усходам спыніўся ў сувязі з наступленнем туркаў-сельджукаў на арабскія краіны і панаваннем у паўднёвых стэпах полаўцаў, якія падарвалі актыўныя гандлёвыя зносіны Русі з Усходам, адкуль у X—XI стст. ішоў асноўны паток шкляных вырабаў. Таксама быў скарочаны міжабласны гандаль, развіццю якога перашкаджала феадальная раздробленасць старажытнарускіх зямель.

Матэрыяльная культура Навагрудка ў XII ст.— з'ява фенаменальная не толькі ў жыцці славян, але і ўсёй Заходняй Еўропы. Само сабою зразумела, што яна не з'яўляецца чымсьці выпадковым, гэта — вынік развіцця культуры папярэдніх пляменаў, якія насялялі сучасныя беларускія землі ў першым тысячагоддзі нашай эры.

Мая ЯНІЦКАЯ.

**Чытайце ў аддзеле публіцыстыкі:**

**Янка БРЫЛЬ, Уладзімір КАЛЕСНІК,**

**Алесь АДАМОВІЧ — «ПАМЯЦЬ»**



Іван ПУШКОУ. Вясна на Нёмане.



У. І. ЛЕНІН. Мал. М. Андрэева.



Уладзімір Мурахвер. Дэкаратыўны набор. (Каляровае шкло).

Керсці Ваакс. Дэкаратыўны набор «Змяркание». (Каляровае шкло).



Керсці Ваакс. Бакалы і падсвечнік. (Каляровае шкло).





Валянціна Дзівінская. Дэкаратыўнае шкло. (Каляровае ціхадзьмутае шкло).

РАБОТЫ НЁМАНСКІХ МАСТАКОЎ З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ, ПРЫСВЕЧАНАЙ XXIV З'ЕЗДУ КПСС І XXVII З'ЕЗДУ КПБ.

Людміла Мягкова. Дэкаратыўныя вазы. (Каляровае ціхадзьмутае шкло).





Паўліна МЯДЗЁЛКА

# ЖЫВЕ Ў МАЁЙ ПАМЯЦІ

У 1921 годзе ў Латгаліі было заснавана Беларускае культурна-асветнае таварыства «Бацькаўшчына». Стараннем «Бацькаўшчыны» ў ліпені 1921 года былі адкрыты ў Дзвінску першыя летнія шасцітыднёвыя курсы беларусазнаўства для падрыхтоўкі настаўнікаў, а з восені ў Пустынскай і Прыдруйскай валасцях адкрыліся першыя 16 беларускіх асноўных (пачатковых) школ. Рыхтаваліся адкрыць такія школы і ў іншых валасцях, заселеных беларусамі. Паўстала пытанне аб арганізацыі пры Міністэрстве асветы беларускага аддзела для кіраўніцтва беларускімі школамі. Такія аддзелы ўжо мелі іншыя нацыянальныя меншасці ў Латвіі. Аднак перашкодай у гэтай справе стаў закон буржуазнай Латвіі, паводле якога «кіраўнікі аддзелаў часова прадстаўляюцца на зацвярджэнне прадстаўнікамі партый меншасцяў Народнай Рады, пакуль не з'явіцца законнае прадстаўніцтва ад нацыянальных меншасцяў». А таму, што беларусы ў Латвіі ў той час не мелі ні сваіх палітычных партый, ні свайго прадстаўніцтва ў Народнай Радзе і ва Устаноўчым сейме, дык не было каму выставіць кандыдатуру на пасаду кіраўніка беларускага аддзела. У пошуках выйсця з такога становішча члены таварыства «Бацькаўшчына» звярнуліся за дапамогай да выдатнага латышскага паэта і грамадскага дзеяча Яна Райніса.

Ян Райніс у свае юнацкія гады жыў у Латгаліі сярод беларусаў, любіў беларускі народ і заўсёды сачыў за развіццём беларускай літаратуры і культуры. І цяпер, калі да яго звярнуліся за дапамогай, ён ахвотна згадзіўся ўзяць на сябе абарону беларускіх культурна-асветных спраў у Латвійскім Устаноўчым сейме. Яго стараннем Рада Міністраў у сваёй пастанове ад 13 верасня 1921 года вырашыла ўтварыць пры Міністэрстве асветы беларускі аддзел, кіраўніком якога быў зацверджаны С. Сахараў.

Я прыехала ў Дзвінск у ліпені 1922 г. Там ужо існавалі Беларускія аднагадовыя настаўніцкія курсы, вялася падрыхтоўка да адкрыцця Беларускай сельскагаспадарчай школы і Беларускай дзяржаўнай гімназіі ў Дзвінску і ў Люцыне. У Дзвінску ўжо знаходзіўся ў якасці дырэктара будучай гімназіі І. І. Краскоўскі і настаўніца нямецкай мовы. Яна пакуль што дапамагала дырэктару ў гаспадарчых справах.

Пад гімназію выдзелілі двухпавярховы мураваны будынак на Варшаўскай вуліцы № 16. Фактычна гэта былі толькі чатыры сцяны, якія засталіся пасля пажару. Ні даху, ні вокан, ні столі, ні ўнутраных перагародак. Усё трэба было будаваць нанава.

Пакуль ішла будова, мяне паслалі ў Люцын чытаць лекцыі беларускай мовы і літаратуры на месячных курсах перападрыхтоўкі настаўнікаў беларускіх пачатковых школ. Крыху боязна было выступаць перад настаўнікамі ў ролі лектара, тым больш што дапаможнікаў для падрыхтоўкі амаль зусім не было, калі не лічыць «Гісторыі беларускай літаратуры» Максіма Гарэцкага. Праграмы таксама не было — трэба было самой складаць, а раіцца не было з кім. Добра яшчэ, што я ў Берліне дарма часу не траціла і кожны дзень наведвала чытальную залу Каралеўскай бібліятэкі, вывучаючы там працы прафесара Карскага, Федароўскага, Шэйна, Раманава і інш. Сёе-тое адтуль можна было скарыстаць.

У той час у Люцыне існавалі абавязковыя для ўсіх настаўнікаў курсы латышскай мовы, літаратуры, гісторыі і геаграфіі Латвіі і, як філіял гэтых курсаў — лекцыі рускай мовы і літаратуры для настаўнікаў рускіх школ, а для беларускіх школ — лекцыі беларускай мовы і літаратуры. Кожны з гэтых філіялаў размяшчаўся ў асобным будынку.

На першым сваім спатканні са слухачамі я вырашыла толькі пазнаёміць іх з праграмай курсаў і ў гутарцы высветліць склад слухачоў, іх настрой, пажаданні.

На двары ля дома, прызначанага для нашых лекцый, пачалі збірацца настаўнікі. Прысланіўшыся да сцяны, я прыглядалася да іх і прыслухоўвалася да іх гутарак. Мяне тут ніхто не ведаў.

— А ты чаго сюды прыйшоў? — пытае пажылы настаўнік у маладога хлопца.— Ты ж не ў беларускай школе працуеш.

— Прыйшоў паглядзець на вашу лектаршу. Кажуць, нейкая маладая дзяўчына прыехала.

— Ды ну!.. Казалі ж, што Гарэцкі прыедзе.

— Не Гарэцкі, а Краскоўскі, дырэктар Дзвінскай беларускай гімназіі,— азваўся яшчэ адзін.— Бачыў я і Краскоўскага. Салідны мужчына, з барадой, у акулярах. Вучоны!..

Каля субяседнікаў сабралася ладная кучка мужчын.

— Дык, кажаш, маладая? А ці прыгожая хаця? — з заліхвацкай усмешкай спытаў нейкі бязвусы юнак.

— Магу задаволіць вашу цікаўнасць,— сказала я, адрываючыся ад сцяны.

Усе павярнуліся да мяне і з цікавасцю пачалі аглядаць. На тварах я убачыла здзіўленне і расчараванне. Хтосьці пырснуў стрыманым смехам.

— Яшчэ матчына малако на губах не абсохла, а яна мяне, старога, вучыць?! — з абурэннем загудзеў шыракаплечы дзядзька з густой сівой барадой. Мужчыны зарагаталі. Некаторыя бесцырымонна з іранічнай насмешкай заглядалі мне ў вочы. Маладыя настаўніцы ў модных сукенках крытычна аглядалі маю просценькую шавіётавую сукенку і, хаваючы ўсмешкі, шапталіся. Ніводнага ветлівага твару, ніводнага спачувальнага позірку! Я стаяла, бы пад варожымі стрэламі. Сцюдзёная змейка пачала абвіваць сэрца. Паледзянелі твар і рукі. Трымацца, трымацца ўсімі сіламі! Не падаць выгляду, што спалохалася іх!

Зазвінеў званок. Пачакаўшы, пакуль усе ўвойдуць у клас і зоймуць свае месцы, я цвёрдым крокам накіравалася да століка перад лаўкамі і моўчкі азірала ўсіх, чакаючы, пакуль угамоніцца шум. Нарэшце заціхлі.

— Няласкава вы мяне спаткалі, калегі, што і казаць. Я спадзявалася, што ў настаўнікаў павінна быць крыху больш культурнага абыходжання з незнаёмым чалавекам. Аднак гэта мяне не палохае. Пазнаёмімся бліжэй — можа зменяцца вашы адносіны да маёй сціплай асобы.

Я палічыла патрэбным расказаць пра сябе: хто я, адкуль, хто мае бацькі, як я сваімі сіламі і працай здабывала веды, дзе і кім працавала.

Як я ні старалася трымацца бадзёра, незалежна, упэўнена, аднак недавер, ясна выказаны адной часткай, і абыякавасць, пасіўнасць — другой, зрабілі сваё: я ўпала духам, і пахіснулася вера ў свае сілы і магчымасці. Што рабіць? Выклікаць на дапамогу каго-небудзь з Дзвінска? Гэта значыць, прызнаць сваё бяссілле і канчаткова страціць аўтарытэт у настаўнікаў. Адмовіцца? Уцячы? Што ж мне рабіць?

На шчасце, пасля першага спаткання са слухачамі выпала аж тры дні якогась свята. Я брала лодку, выязджала на сярэдзіну вялікага возера і цэлы дзень праводзіла на вадзе ў цяжкім роздуме. На трэці дзень рашыла:

— А ліха ж вас бяры! Калі вы такія, дык уцякайце ж вы ад мяне, а я ад вас не ўцяку! Што будзе, то будзе!

На першых трох-чатырох занятках яшчэ адбываліся спрэчкі, яшчэ даваліся мне загадзя падрыхтаваныя пытанні, каб збіць мяне з толку, падкінуць мне палкі пад ногі. Аднак гэта мяне не толькі не бянтэжыла, але нават паддавала жару. Пасля лекцыі, калі толькі дазваляў час, большасць настаўнікаў не пакідалі клас, а, згрудзіўшыся каля майго стала, гутарылі ў спакойным, прыязным тоне. Праз нейкі час я заўважыла, што прыбываюць усё новыя слухачы. Чаму так позна настаўнікі з'яўляюцца на курсы? Аказваецца, што гэта «вольныя слухачы» — настаўнікі рускіх школ і некаторыя жыхары Люцына праз цікавасць прыходзяць паслухаць мяне. Ну, што ж... Гэта добры знак. Хай як найбольш прыходзяць!

Скончыліся заняткі. Я збіраюся ў дарогу, у Дзвінск. Аж прыйшоў пасланец і кліча мяне на заключны сход настаўні-

каў усіх школ: латышскіх, рускіх, беларускіх. Просяць мяне выступіць з прамовай. Вось не было яшчэ бяды — дык на табе! Што я ім скажу? Аб чым гаварыць пры такой разнастайнай аўдыторыі? Сціснула рукамі галаву, хаджу з кута ў кут, а нічагусенькі не магу прыдумаць. Другі раз прыбягаюць.

— Хутчэй ідзіце. Усе ўжо сабраліся, толькі вас чакаюць, каб пачынаць.

Так, нічога не прыдумаўшы, іду.

Пакуль выступалі кіраўнікі іншых курсаў і начальства, я сядзела без адзінай думкі ў галаве. Нарэшце называюць маё прозвішча. Выходжу на трыбуну. Цішыня ў зале. Трэба ж нешта гаварыць! І я пачала гаварыць.

Не толькі цяпер, праз пяцьдзесят гадоў, але і на другі дзень пасля гэтага я не магла ўспомніць ніводнага слова з таго, што я гаварыла. Памятаю толькі, што ўзнімаліся белыя хустачкі да вачэй, схіляліся долу галовы... А як скончыла, пад буру воплескаў, расчыніліся дзверы сумежнага пакоя, адтуль выйшлі дзве настаўніцы з букетамі кветак, а пасярод дырэктар гімназіі Хруцкі з падносам у руках, на якім стаяў кафейны прыбор. Падышоўшы да мяне, Хруцкі сказаў цёплую прамову, падзякаваў за маю працу, і ўсе злажылі перада мной падарункі. Цяпер і я расплакалася.

На станцыю праводзілі мяне каля дваццаці настаўнікаў. Шэсць букетаў унеслі за мной у вагон.

— Вы артыстка? — спыталі ў мяне пасажыры, калі ўжо цягнік адышоў ад станцыі.

— Не, я настаўніца беларускіх школ,— адказала.

У Дзвінску, апрача беларускай мовы і літаратуры, я выкладала спевы. З першых жа дзён пачала падбіраць галасы для хору і рыхтаваць пастаноўку «Паўлінкі». На ўсе ролі падабрала больш-менш адпаведных выканаўцаў, а на ролю Паўлінкі ніяк не магла знайсці: з усіх, каго прабавала на рэпетыцыях, ніводная мяне не задавальняла. Вучань старэйшага класа Карнавухаў, які выконваў ролю Сцяпана, параіў мне паспрабаваць вучаніцу падрыхтоўчага класа Надзю Мікалаеву. Яна на кожнай рэпетыцыі ціхенька стаяла ў баку і назірала.

— Гэта ж дзіцё яшчэ,— кажу, глянуўшы на яе.— Ёй, мабыць, і 14 гадоў няма. Не, не падыходзіць яна да гэтай ролі.

— А вы паспрабуйце,— настойвае Карнавухаў.

— Ану, давай паспрабуем.

І што вы скажаце! З першай жа песні «Ой, пайду я лугам», з першых жа слоў Паўлінкі я аслупянела ад здзіўлення. Аб лепшай Паўлінцы і марыць нельга. Надзя іграла, як сапраўдная артыстка. Дармо, што замолада выглядае! Галоўнае, што так праўдзіва перадае лірычна-засмучоны настрой, гарачы парыў, рашучасць.

Закіпела жыццё ў гімназіі. Кожны дзень пасля ўрокаў то рэпетыцыі «Паўлінкі», то хор; хлопцы пад кіраўніцтвам старшакласніка Міркановіча, прыроднага мастака, малююць дэкарацыі.

На ўрачыстасць адкрыцця гімназіі былі запрошаны бацькі, настаўнікі ўсіх школ Дзвінска, прыехалі настаўнікі беларускіх школ і з вёсак. Пасля афіцыйнай часткі адбылася пастаноўка «Паўлінкі» і канцэрт чатырохгалоснага а-капэльнага хору, які выканаў некалькі беларускіх і латышскіх народных песень. Поспех быў велізарны!

З гэтага часу ні на адзін дзень не спынялася праца хору і драматычнага гуртка. Апрача вучняў гімназіі ў хоры прынялі ўдзел настаўнікі пачатковай школы; такім чынам, у хоры налічвалася звыш 50 чалавек. У рэпертуар хору ўваходзілі беларускія народныя песні, латышскія песні, з класікаў выконвалі песні Манюшкі і ўрыўкі з оперы Сметаны «Прададзеная нявеста» і інш. Шмат дапамагала нам выдатная піяністка Ольга Бароўская.

Вялікія цяжкасці ўзнікалі з рэпертуарам для драматычнага гуртка. Апрача «Паўлінкі» ставілі п'есы, якія маглі дастаць у Вільні: «Модны шляхцюк», «На вёсцы», «На Антокалі». Здабылі аперэтку чэшскага кампазітара Старага «У чырвоным млыне». Пры дапамозе слоўнікаў узяліся за пераклад тэксту. Нялёгкая гэта была работа, але неяк справіліся.

Пасля пастаноўкі аперэткі Старага слава аб нашай гімназіі даляцела аж да Рыгі. У зімовыя канікулы 1923/24 года нас запрасілі ў Рыгу. Выступалі мы на сцэне Латышскага нацыянальнага тэатра з пастаноўкай «Паўлінкі» і канцэртам, у рэпертуар якога ўваходзілі беларускія і латышскія народныя песні, танцы. Сярод публікі прысутнічаў Ян Райніс. Можна сабе ўявіць, як мы хваляваліся і стараліся добра іграць і спяваць.

У часе антракту і пасля канцэрта Ян Райніс заходзіў да нас на сцэну, каб пахваліць і падзякаваць за ўдалы спектакль і харавыя спевы. Тады я ўпершыню і пазнаёмілася з ім. Даволі высокі, з рэдкімі сівымі валасамі, такой жа беленькай невялічкай барадкай клінам і доўгімі, апушчанымі ўніз вусамі, са стомленым, хваравітым тварам, на якім свяціліся цёплай ласкай добрыя вочы, ён вельмі ветліва гутарыў і з намі, настаўнікамі, і з нашымі юнымі выканаўцамі роляў «Паўлінкі». Цікавіўся справамі гімназіі, а калі хтосьці сказаў яму, што я прымала ўдзел у першай пастаноўцы «Паўлінкі» яшчэ ў Пецярбурзе, пачаў распытваць у мяне пра Янку Купалу і пра іншых беларускіх паэтаў. Нарэшце на нашу просьбу ахвотна згадзіўся сфатаграфавацца разам з усім калектывам на сцэне тэатра.

З пачатку 1923/1924 навучальнага года ў гімназіі была ўведзена політэхнізацыя, хоць у той час не ўжывалі гэтага тэрміну. Былі арганізаваны тры майстэрні: дрэваапрацоўчая, слясарна-такарная і швейна-ткацкая. Набылі верстакі, розныя станкі, матory, інструменты, некалькі швейных машын, два ткацкія станкі. Кіраваў усім гэтым інжынер латыш Комісар. Кожны вучань павінен быў прайсці курс па адпаведнай праграме ў двух майстэрнях, а дзяўчаты ў швейна-ткацкай майстэрні. Апрача таго арганізаваўся агранамічны аддзел. Там ужо і хлопцы, і дзяўчаты мусілі прайсці практыку на прышкольным участку.

З ранку да позняга вечара кіпела жыццё ў будынку гімназіі. Пасля ўрокаў і абедзеннага перапынку ў гімназію зноў беглі вучні: хто у майстэрні, хто на рэпетыцыю. Унізе гул матораў, стук малаткоў па кавадлах, грукат швейных машын, ляск набіліц, а наверсе — песні, мастацкая гімнастыка або рэпетыцыя п'есы.

Пытання аб дысцыпліне школьнікаў не існавала. Не было ніводнага выпадку скаргаў настаўнікаў ці прыводу на расправу да дырэктара. Праўда, былі часам інцыдэнты на ўроках нямецкай мовы, але гэта больш па віне настаўніцы.

Мае адносіны з вучнямі выклікалі спрэчкі сярод настаўнікаў. Вучні да мяне адносіліся не толькі як да настаўніцы, але як да старэйшага таварыша. Гэта тлумачылася і нашай супольнай работай у гуртках самадзейнасці і, мабыць, маім маладым векам. Не было таго дня, каб цэлая група дзяўчат не прыходзіла да мяне на кватэру. Калі часам затрымаюся ў настаўніцкай, яны чакаюць мяне.

— Можна да вас зайсці? — часам пытаюць.

— Заходзьце, калі ласка! — запрашаю.

І ў малым пакойчыку, размясціўшыся дзе хто можа — на атамане, на крэслах, а то і на падлозе, пачынаюць мне расказваць пра падзеі ў класах, пра настаўнікаў, пра хатнія справы, і да таго давер'е іх даходзіла, што даўвяралі мне свае дзявочыя сакрэты, паказвалі запіскі, якія ім перакідвалі на ўроках хлопцы. Я заўсёды была ў курсе іх сардэчных спраў.

Вось такія адносіны паміж мной і вучнямі і не падабаліся некаторым настаўнікам. Асабліва нападаў на мяне за гэта Пігулеўскі. Ён даводзіў, што вучні павінны не толькі паважаць настаўніка, але і баяцца, што такое панібрацтва недапушчальна, што гэта падрывае аўтарытэт не толькі мой, але і іншых настаўнікаў і, урэшце, што ўжо зусім шкодна, бадай, і амаральна — весці з вучнямі гутаркі пра каханне, патураць ім у гэтым. Не пра каханне, а пра вучобу яны павінны думаць!

— Ніякага панібрацтва і ценю няма,— адказваю.

Дырэктар слухаў гэтыя спрэчкі, пагладжваючы бараду або круцячы ў пальцах бірульку ад гадзінніка, і не выказваў сваёй думкі, захоўваў нейтралітэт.

Аднаго разу я заўважыла на калідоры незнаёмую дзяўчыну з дзівотнай прычоскай, напудранаю, з падмаляванымі брывамі і вейкамі. Яна стаяла, прыслаціўшыся да сцяны, а нашы дзяўчаткі, праходзячы міма, з цікавасцю яе аглядалі. Відаць, нейкая новенькая прыбывае да нас. Ну і тып!

У настаўніцкай я пабачыла прыбітую горам жанчыну, якая прасіла прыняць у гімназію яе дачку.

— Што ж мне рабіць з ёю? — выціраючы слёзы, казала гэтая жанчына.— З дзвюх гімназій яе ўжо выключылі за паводзіны. Мяне не слухае, зневажае, бадзяецца да позняй ночы ліха ведае дзе і з кім, дома нічога не робіць. Дапамажыце мне яе выратаваць. Я чула шмат добрага аб вашай гімназіі, можа, яна ў вас выправіцца...

— Падайце заяву і дакументы,— кажа дырэктар,— а мы на педагагічнай нарадзе абмяркуем пытанне аб прыёме вашай дачкі, аднак не абяцаю, што задаволім вашу просьбу.

На педагагічнай нарадзе разгарнуліся спрэчкі. Пасля доўгіх ваганняў вырашылі прыняць яе ўмоўна на месяц-два. Паведамілі аб гэтым маці. Стася і на гэты раз прыйшла з размаляванымі вуснамі і вачыма. У клас я не пусціла яе і папрасіла гадзінку пачакаць, а як звольнілася з урока, павяла яе ў пусты клас і доўга з ёй гутарыла. Распытвалася аб прычынах звальнення з іншых гімназій (зразумела, усёй праўды яна мне не сказала), расказала ёй пра звычаі і парадкі ў нашай гімназіі.

З першага дня я ўключыла яе ў хор і дала ролю ў п'есе, якую рыхтавалі. Стася захапілася самадзейнасцю, ніводнай рэпетыцыі не прапускала, у класе трымала сябе зусім прыстойна, акуратна рыхтавала ўрокі. Умоўны тэрмін прайшоў гладка, і Стася ўжо была паўнапраўнай і сталай нашай вучаніцай. Аднак праз нейкі час я заўважыла, што не толькі Стася, але і дзве-тры іншыя дзяўчыны пачалі малявацца. Зноў прыйшлося з імі пагаварыць. Ад дзяўчатак я даведалася аб прычыне такога «зрыву». У нашым настаўніцкім калектыве паявіўся новы выкладчык матэматыкі, малады, энергічны і прыгожы мужчына. Першая ў яго закахалася Стася. Аднак чым больш яна старалася звярнуць увагу на сябе, тым больш ён «чапляўся» да яе і так яе ганяў, выклікаўшы да дошкі, што ў яе пот цуркам ліўся. І не раз ставіў ёй незаслужаную двойку. Плакала яна, але не здавалася і начамі грызла калісь ненавісную матэматыку.

— Скажыце ёй,— падказваю дзяўчатам,— што ён вельмі сур'ёзны чалавек і не любіць лёгкадумных какетак, таму і «чапляецца» да яе.

Дапамагло! І па матэматыцы, і па ін-

шых прадметах Стася да канца года мела ўжо не ніжэй «чацвёркі». Матка прыходзіла радасная і дзякавала нам, што выправілі яе дачку.

— Яе ж не пазнаць цяпер,— гаварыла з радасным хваляваннем.— Не толькі пачала добра вучыцца, але і нідзе не бадзяецца, дапамагае ў хатняй гаспадарцы. Якім цудам вы дабіліся гэтага?

Гады праз два пасля маёй высылкі з Латвіі з лістоў я даведалася, што Стася ў тое ж лета, як скончыла гімназію, выйшла замуж за гэтага нашага матэматыка. Аднак ён так сябе трымаў, што ніхто ні з настаўнікаў, ні з вучняў не здагадваўся, што яны кахаюць адно аднаго.

Іначкшы стаў і дырэктар гімназіі. Я хацела арганізаваць гурток моладзі накшталт таго нелегальнага гуртка ў Вільні, да якога сама калісь належала. Мэтай гэтага гуртка было вывучэнне палітэканоміі і іншых сацыяльных навук. Аднак калі я паказала Івану Ігнатавічу статут і план заняткаў гуртка, каб параіцца, ён катэгарычна забараніў праводзіць з моладдзю якую б там ні было работу, апрача мастацкай самадзейнасці. Зараз жа пасля гэтага ён арганізаваў футбольную каманду.

Хор вывучыў «Ваяцкі марш» Тэраўскага. Моладзі вельмі спадабалася бадзёрая, энергічная музыка гэтага марша. Дырэктар не дазволіў уключыць яго ў праграму выступленняў, хаця словы «наш знак працоўных — сцяг чырвоны» былі заменены на «наш сцяг культуры і прасветы».

— Музыка гэтага марша сама па сабе рэвалюцыйная, і я не магу дазволіць выконваць яе,— цвёрда заявіў дырэктар.

Аднойчы, калі пасля канцэрта нас шумна і настойліва выклікалі на «біс», мае харысты наперабой загаманілі:

— «Ваяцкі марш»! Давайце «Ваяцкі марш» праспяваем!

— Адкрывайце заслону! — скамандавала я.

І з вялікім уздымам грымнулі марш. Ад воплескаў і крыкаў «брава» дрыжэлі сцены. Не паспелі як след закрыць заслону, як уляцеў на сцэну раз'юшаны дырэктар.

— Што вы нарабілі! — трасучы мне пад носам кулаком, верашчэў ён.— Мяне з работы знімуць, пад суд аддадуць!

— Я бяру віну на сябе,— адказала спакойна,— хай мяне судзяць. Я пацверджу, што наперакор вашаму загаду праспявалі гэты марш. А кулакі свае хавайце ў кішэню і сваю «песню» вазьміце тонам ніжэй. Я не палахлівая.

З гэтага часу Краскоўскі пачаў перш угаворамі, а пасля прычэпкамі выцурваць мяне ў новаадкрытую беларускую гімназію ў Люцыне. Аднак бацькоўскі камітэт стаў на маю абарону, ды і я сама не скарылася і да канца заставалася на сваім месцы.

З Усходу ішлі да нас вельмі скупыя весткі. Савецкія газеты да нас не даходзілі, а ў рускіх газетах, асабліва ў Дзвінскай, змяшчаліся такія невераго дныя паклёпніцкія артыкулы пра жыццё ў Краіне Саветаў, што ніхто ім не верыў. Калі часам на чыгуначнай станцыі затрымліваўся вагон з Савецкай Беларусі і з надпісам на беларускай мове, нашы вучні ды і мы разам з імі беглі на станцыю хоць паглядзець на яго ў тайнай надзеі спаткаць якога-небудзь чыгуначніка ці пасажыра з Краіны Саветаў і пагутарыць з імі. Карабок запалак з этыкеткай савецкай фабрыкі пераходзіў з рук у рукі, і кожны радасна вітаў гэтага маленькага пасланца. А калі трапіў нейкім чынам у нашы рукі нумар часопіса «Полымя», дык мы ледзь не біліся за яго.

Канчаліся заняткі ў гімназіі. Ішла падрыхтоўка да экзаменаў. А ў паветры насілася нейкая няясная трывога. Даходзілі чуткі, што па вёсках у беларускіх пачатковых школах робяць рэвізію, вобыскі ў настаўнікаў, забіраюць падручнікі геаграфіі Беларусі, этнаграфічныя карты Беларусі і асабістую перапіску. Нарэшце дайшла чарга і да нас.

Пры вобыску ў маім пакоі агенты разведкі папрасілі перакласці ім на рускую мову ліст ад Уладзіміра Пігулеўскага.

—О, з прыемнасцю прачытаю вам гэты ліст,— адказала і пачала перакладаць:

«Павлинка! Пишу тебе красными чернилами. Если эти идиоты из разведки будут читать это письмо, то пусть им»,— запнулася — «трасца іх матары» не знаю, как перевести на русский язык — пусть им, трасца их матары, хотя кровь попортится от красного цвета...»

— Довольно, довольно,— замахалі рукамі.

Забралі ўсю маю асабістую перапіску і пайшлі.

Прайшло з таго часу тыдні са два. Аднаго дня я з групай вучняў выбралася на цэлы дзень у лес. Вяртаючыся надвячоркам дамоў, мы пабачылі нашу настаўніцу Элу Генрыхаўну, якая выйшла аж за горад насустрач нам.

— Паўліна Вінцэнтаўна, не хадзіце дамоў,— кажа усхваляваным голасам.

— Чаму?

— Арыштаваны Іван Ігнатавіч, Пігулеўскі, Якубецкі, і вас чакаюць на кватэры.

— А чым я горшая ад іх? І чаго мне хавацца? Няхай садзяць і мяне. Іду дамоў.

Прыйшоўшы дамоў, не застала ўжо «гасцей», не дачакаліся мяне, але ведала, што не пакінуць мяне ў спакоі, і пачала рыхтавацца да перасялення ў турму. А гадзіне 11-й вечара прыйшлі па мяне і былі здзіўлены, што ў мяне былі ўжо звязаны клункі з пасцеллю і прадуктамі.

На другі дзень, як пазней нам апавядалі, перад брамай турмы адбылася ледзь





не дэманстрацыя: вучні выпускнога класа з падручнікамі пад пахай прыйшлі, выклікалі начальства турмы і запатрабавалі або выпусціць усіх настаўнікаў, або пусціць іх у турму, бо ім трэба здаваць экзамены. Да іх групы далучыліся вучні іншых класаў, бацькі, пачалі спыняцца прахожыя, сабраўся вялікі натоўп. Разгублены начальнік турмы выклікаў паліцыю, і натоўп разагналі. Аднак праз нейкі тыдзень ці два запрапанавалі нас выпусціць пад залог. Арышты адбыліся і сярод настаўнікаў Люцынскай беларускай гімназіі. У хуткім часе нас выпусцілі на волю пад залог.

Пасля экзаменаў звольнілі з гімназіі Краскоўскага, Пігулеўскага, Якубецкага і мяне, як падсудных. Выконваючым абавязкі дырэктара назначылі Жэрдзія, хоць і ён лічыўся пад судом. Не ведаю, адкуль Іван Ігнатавіч выкапаў Жэрдзія і запрасіў яго ў гімназію ў якасці выкладчыка прыродазнаўства. Да гэтага часу яны паміж сабой былі найлепшымі прыяцелямі, а цяпер аказаліся лютымі ворагамі. Нас, звольненых, Жэрдзій не падпускаў да гімназіі, забараняў вучням наведваць нас, аднак кожны вечар па некалькі хлапцоў і дзяўчат прыбягалі да мяне.

Амаль год працягвалася судовае следства. Праз увесь гэты час звальнення настаўнікі жылі без працы і сродкаў да жыцця.

Нарэшце мы атрымалі акт абвінавачання, паводле якога восем настаўнікаў Дзвінскай і Лютынскай гімназій абвінавачваліся ў тым, што «прымалі ўдзел у злачынным таварыстве ў Латгаліі, якое ставіла сабе мэтай сілай адарваць ад Латвійскай дзяржавы тэрыторыю Дзвінскага, Рэжыцкага, Люцынскага і часткова Ілукштанскага паветаў і далучыць іх да Беларускай дзяржавы...» Такое абвінавачванне падмацоўвалася тым, што ў беларускіх школах былі знойдзены этнаграфічныя карты Беларусі, у гімназіях выкладаліся гісторыя і геаграфія Беларусі. Тры гады аб гэтым ведаў школьны інспектар Азолін, а вось цяпер толькі ўбачылі ў гэтым дзяржаўны злоўчынак. Ясна было, што працэс гэты быў сфабрыкаваны.

Краскоўскі спачатку намаўляў мяне перабрацца разам з ім у Прагу да мужа. Я адмовілася па той прычыне, што ў Чэхаславакіі не змагу знайсці сабе адпаведнай працы, а быць хатняй гаспадыняй пры мужу-студэнту я не здатна. Аднак галоўная прычына маёй адмовы была ў тым, што наспела за гэтыя гады ідэйнае разыходжанне з мужам.

На 2 красавіка 1925 года быў назначаны наш судовы працэс. Трэба было наняць прыватных адвакатаў для агульнай абароны, а на гэта патрэбны былі немалыя грошы. Усе абвінавачаныя неяк раздабылі сродкі і на абарону, а адкуль мне ўзяць? Напісала старым знаёмым у Вільню, прасіла пазычыць мне на аплату агульнай абароны. Адказалі мне, што яны самі апошнія нагавіцы і гальштукі прадаюць на рынку, каб з голаду не памерці. Праўда, разы два дапамаглі мне Юзэф Дамброва і Алесь Залескі, перасылаючы з Польшчы ўклееныя ў вокладку кнігі грашовыя паперкі. Аднак гэтага не хапала на абарону. Дамброва хацеў прыехаць у Латвію, каб узяць на сябе маю абарону, але Латгальскі суд не дапусціў яго, як грамадзяніна чужой дзяржавы. Прыйшлося абмежавацца казённым абаронцам.

Як на ліха, амаль напярэдадні суда я захварэла. Баючыся, каб праз маю хваробу не адклалі суд, сабрала апошнія сілы і паплялася.

Публікі ў зале было паўнюсенька. Тыя, якім не хапіла білетаў на ўваход, тоўпіліся ў калідорах, на лесвіцах, на вуліцы. Вучняў не дапускалі ў залу, аднак больш спрытныя прабіраліся і, скурчыўшыся, сядзелі пад лаўкамі, а жанчыны прыкрывалі іх. Час ад часу паліцэйскія хадзілі паміж лавак і вывуджвалі з-пад лавак хлапчукоў і дзяўчат.

Нарэшце суд распачаўся. Восем чалавек падсудных не прызналі сябе вінаватымі. Прыводзяць да прысягі сведак — іх каля 120. Пачынаецца допыт сведак. Адны нічога не ведаюць, ніколі не чулі, не бачылі; другія сведчаць, што мы з'яўляемся савецкімі агентамі, што я, напрыклад, была камісарам асветы ў Смаленску; трэція, у тым ліку і Асанаў, які назваў сябе генералам, называюць нас манархістамі; чацвёртыя — незалежнікамі. Словам, поўны разнабой у паказаннях сведкаў абвінавачання. Што і казаць, палітычнае ўпраўленне (разведка) не навучылася яшчэ фабрыкаваць штучныя працэсы.

Вялікае ўражанне на падсудных і на публіку робіць наша моладзь. У большасці гэта вучні Дзвінскай і Люцынскай гімназій. Ніхто з нас не вучыў іх, як яны павінны трымацца на судзе, што і як гаварыць. Мы рашылі, што іх паводзіны і паказанні павінны быць экзаменам іх грамадскай свядомасці і праверкай нашай выхаваўчай працы.

Кожны з іх пры ўваходзе перш за ўсё вітае нас, падсудных. Хоць у гімназіі не было старога звычая пры сустрэчы з настаўнікамі прысядаць у рэверансе або шчоўкаць нагой аб нагу, а тут — хто іх навучыў?! — хлопцы, шчоўкнуўшы нагой, ледзь не ў пояс кланяюцца нам, а дзяўчаты прысядаюць у глыбокім рэверансе, суддзям жа толькі злёгку ківаюць галавой. Судовы прыстаў са скуры вылузваецца, тлумачачы ім, што падсудным не трэба кланяцца, а толькі суддзям, выскаквае ў пакой сведак павучыць іх, як трэба трымацца перад судом, аднак сведкі робяць па-свойму. У многіх з іх слёзы на вачах і ад хвалявання якісь час яны не могуць гаварыць. Нам таксама

цяжка было стрымаць слёзы, гледзячы на іх. У зале, не хаваючыся, плачуць людзі. Кожнаму сведку задавалася пытанне:

— Што вы лічыце сваёй бацькаўшчынай? Як вас вучылі настаўнікі?

Адзін адказвае, што яго бацькаўшчынай з'яўляецца хата з гаспадарчымі будынкамі і агародамі, другі называе сваю вёску, дзе нарадзіўся. Вучань 10-га класа Карнавухаў кажа, што ён з'яўляецца беларусам, а таму яго бацькаўшчына — той край, дзе жывуць беларусы.

— Дык вы і Савецкую Беларусь лічыце сваёй бацькаўшчынай? — пытае старшыня суда.

— Так, і Савецкая Беларусь — мая бацькаўшчына.

— Гэта вам настаўнікі так казалі?

— Я сам даволі ўжо дарослы, каб без настаўнікаў мець свой погляд на бацькаўшчыну.

Уводзяць хлапчука гадоў 12 з вясковай пачатковай школы (сведкамі абвінавачання былі і дзеці гадоў па 10—14). На нагах лапцікі, праз плячо перакінута торбачка з хлебам. Ён нікому не кланяецца, толькі спужанымі вачанятамі азіраецца навокал.

— Казаў табе настаўнік, што тваёй бацькаўшчынай з'яўляецца не Латвія, а Беларусь? — пытае суддзя.

— Не чуў,— ціха адказвае хлапчук.

Суддзя, думаючы, што хлопец не дачуў пытання, паўтарае яго галасней.

— Не чуў,— галасней адказвае хлопец.

Суддзя аж прыўзняўся са свайго месца і амаль ужо крыкам трэці раз задае тое самае пытанне.

— Я ж табе кажу, што не чуў, каб настаўнік так гаварыў! — знецярплівіўся «сведка».

У зале пырснуў смех. Сканфужаны суддзя сеў на сваё месца.

Тры дні, з ранку да ночы, з перапынкамі на абед, працягваўся працэс. 4-га красавіка, у чацвер, перад вялікаднем, каля поўначы суд выйшаў на нараду. Тры гадзіны чакалі прыгавору. Адвакаты прарочылі Езавітаву і Краскоўскаму па восем гадоў, Пігулеўскаму, Якубецкаму і мне — па чатыры, іншым па два і менш гадоў турмы. У часе перапынку да мяне падышлі двое незнаёмых і параілі не начаваць дома: яны падслухалі гутарку чыноўнікаў разведкі, якія казалі, што ў выпадку, калі б нас апраўдалі, Краскоўскага і мяне, як іншаземцаў, трэба выслаць з Латвіі.

— Прашу ўстаць — суд ідзе! — агаласіў судовы прыстаў а другой гадзіне ночы.

Пачынаюць чытаць прыгавор, але так шпарка і невыразна, што нават тыя, якія ведалі латышскую мову, не маглі зразумець нічога.

— Апраўданы! — шапнуў адвакат, павярнуўшыся да нас.

— Хто, хто апраўданы? — запыталі падсудныя. Але адвакатам не было часу нам адказаць: пачаліся нейкія перагаворы паміж адвакатамі і суддзямі. Зноў суд выйшаў на нараду. Не паспелі зачыніцца за імі дзверы, як зноў усе ўвайшлі, нешта адказалі адвакатам і пасля гэтага, абвясціўшы, што суд закончаны, выйшлі. Падсудныя і публіка, нічога не разумеючы, захваляваліся.

— Апраўданы! Усе апраўданы! — галасна апавясціў адвакат.

Затрашчэла зламаная пад напорам публікі перагародка, усе кінуліся да нас абнімаць, цалаваць... Я пераходзіла з адных абдымкаў у другія. Гул даносіўся і з вуліцы. А калі мы выйшлі з будынка, нас аглушылі прывітальныя крыкі. «Ура!», «Слава!» — разлягалася па сонным горадзе. Уся вуліца ад будынка суда да галоўнай вуліцы была запруджана народам. Краскоўскага і мяне падхапілі на рукі і неслі аж да павароту на галоўную вуліцу. Паліцыя пачала разганяць незвычайную дэманстрацыю.

Брат тут жа пабег на пошту даць тэлеграму нашым бацькам у Шаркаўшчыну аб выніках суда. Цікава, што, як я пазней даведалася, бацькі раней атрымалі гэтую вестку з Глыбокага, чымся з нашай тэлеграмы (Глыбокае і Шаркаўшчына знаходзіліся пад польскай акупацыяй). Аказваецца, за нашым працэсам пільна сачылі, і ў глыбоцкую польскую паліцыю раней дайшла вестка аб маім апраўданні, чымся наша тэлеграма да бацькоў.

Цяпер трэба думаць, шта далей рабіць. Адказу ад Савецкага пасольства пакуль што няма. Знайсці якую-небудзь работу ў Латвіі немагчыма. А тут яшчэ непарадкі з маім дакументам. Я пражывала ў Берліне і прыехала ў Латвію па сертыфікату, выданым Літоўскім урадам. Праз тры месяцы сышоў тэрмін гэтага дакумента. Я звярнулася ў Літоўскае консульства з просьбай выдаць новы пашпарт або прадоўжыць тэрмін сертыфіката. І ў консульстве, і ў Літоўскім пасольстве мне адмовілі на той аснове, што я ўраджэнка Віленшчыны, якая ў даны момант знаходзіцца ў межах Польшчы, а таму мне павінны выдаць загранічны пашпарт польскія ўстановы. Аб гэтым нечага было і думаць. Бацькі мне пісалі, што на другі дзень пасля маіх уцёкаў з Глыбокага прыходзілі польскія жандары арыштаваць мяне. А калі сказалі ім, што я ўжо знаходжуся за граніцай, жандар са злосцю гаркнуў: «Мы яе і там знойдзем!»

У канцы красавіка Краскоўскага і мяне выклікалі ў Савецкае пасольства. 30 красавіка 1925 года мы выехалі ў Рыгу і пайшлі ў пасольства. Там сказалі, што калі мы хочам выехаць у Савецкі Саюз, то трэба падпісаць дэкларацыю аб нашых адносінах да савецкай улады. Першаму прапанавалі падпісаць Краскоўскаму. Ён шпарка завярцеў пальцамі сваю бірульку пры гадзінніку і пачаў ухіляцца ад подпісу, хітрыць, прыдумваючы розныя аргументы, якія цяпер не дазваляюць яму падпісаць гэты дакумент.

— Ну, а вы як? — звяртаецца да мяне супрацоўнік пасольства.

— Я згодна з кожным словам гэтага дакумента і з ахвотай падпішу.

Мне падалі пяро, і я падпісала. Пасля гэтага і Краскоўскаму не аставалася нічога іншага, як падпісаць. Але якога ж ён мне даў дыхту, як толькі выйшлі з пасольства!

— Як вы маглі раней за мяне падпісвацца! Вы мяне паставілі ў становішча дурня.

— А чаму гэта я павінна была аглядацца на вас? Я вам не падначалена ў такіх справах. Кожны з нас сам за сябе адказвае. Там ніводная фраза не пярэчыць маім поглядам, таму я з радасцю падпісала.

— Нам трэба было разам трымацца, а вам слухаць старэйшых і мудрэйшых.

— Для мяне гэта не абавязкова. Я раблю, што мне падказвае маё сумленне.

Праз некалькі дзён пасля гэтага, здаецца, 8 мая, Краскоўскі, Якубецкі і я атрымалі з Палітычнага ўпраўлення загад на працягу 12 дзён пакінуць межы Латвіі. На другі дзень Краскоўскі кудысьці знік. Як пазней я даведалася, ён памчаўся ў Прагу на нараду да сваіх сяброў. Якубецкі пачаў старацца атрымаць латвійскае грамадзянства, каб не быць высланым. А я зноў звярнулася ў Савецкае пасольства за парадай, што мне рабіць. Прызналася, што на руках у мяне ўжо пратэрмінаваны сертыфікат, і выказала трывогу, ці змагу я атрымаць візу з такім дакументам.

— Не бядуйце,— кажуць мне.— Вам напішуць паперу, каб на граніцы аказалі вам усякае садзейнічанне, тады пойдзеце ў консульства і атрымаеце візу. А грошы вы маеце на дарогу?

Я збянтэжылася і адразу не ведала, што адказаць.

— Ну, нічога. Нам вядома, у якіх умовах вы жывяце.

Праз некалькі хвілін мне выдалі паперу да савецкай пагранічнай улады, 12 тысяч савецкіх рублёў, а праз гадзіну я ўжо мела візу на ўезд у СССР.

Вярнуўшыся ў Дзвінск, я запакавала свой невялікі набытак і раніцой 19 мая адправілася з братам на вакзал. Якое ж было маё здзіўленне, калі на пероне пабачыла ўсіх сваіх вучняў. Усе класы пасля першага ўрока, не пытаючыся дазволу дырэктара, прыйшлі мяне праводзіць. Прыйшлі і некаторыя бацькі. Больш сотні чалавек на пероне. Усе мы былі так усхваляваны, што гаварыць не маглі, толькі паспявалі слёзы выціраць з вачэй.

— Мы яшчэ спаткаемся, Паўліна Вінцэнтаўна! Мы яшчэ будзем разам працаваць! — здушаным голасам гаварылі мае вучні.

Мы з братам сталі ужо ў тамбуры вагона. Дзяўчаткі плачуць наўзрыд, хлопцы хмурацца. Доўгі свісток кандуктара. Ляснулі буферы вагонаў. Цягнік крануўся. У гэты момант падняўся крык на пероне. Надзя Мікалаева, наша найлепшая артыстка гімназійнай сцэны, самлела. Яе непрытомную падхапілі на рукі. Гарачая хваля ўдарыла мне ў галаву. Я рванулася да іх і павісла на прыступках вагона: хтосьці ззаду схапіў мяне за каўнер і крысо жакета і ўтрымаў, каб я не сарвалася. Цягнік прыбаўляў ходу...

20 мая 1925 года я ўпершыню ступіла на савецкую зямлю. На пагранічны, чакаючы цягніка на Мінск, нам давялося пераначаваць у невялічкай гасцініцы. Надвячоркам выйшлі паглядзець на новае для нас жыццё. На шырокім лужку пабачылі шмат моладзі. Вось у адной групе чытаюць уголас газету, там нейкая дзяўчына з алоўкам у руках нешта чэрціць на паперы і тлумачыць хлопцам, далей гуляюць у валейбол... Дзе ж тая распушчанасць савецкай моладзі, аб якой трубяць у Латвіі? Сэрца радасна затрапятала.

«Здравствуй, племя молодое, незнакомое!»

● Галіна НУЖКОВА



# УСУРЫЙСКІ СЕМЕСТР

**У разгар лета, калі сонца высокае, а дзень самы доўгі, на вуліцах нашых гарадоў з'яўляюцца хлопцы і дзяўчаты ў форменках зелянковага колеру. Гэта студэнты будаўнічых атрадаў з інстытутаў і тэхнікумаў. Здаючы апошнія экзамены, яны ўжо збіраюцца ў дарогу. Часам дарога гэта не блізкая.**

**У студэнтаў дэвіз: чым далей, тым лепш. Студэнт — ён жа і турыст. І таму гэты кліч душы — убачыць новыя мясціны, больш уведаць пра сваю радзіму,— зусім заканамерны.**

**Студэнты атрада «Алмаз-2» Беларускага політэхнічнага інстытута мінулым летам працавалі на Далёкім Усходзе на будаўніцтве вадавода ў тайзе. У студэнцкім атрадзе працавала журналістка Галіна Нужкова. Падаём яе нататкі.**

## ВАДАВОД ПРОЙДЗЕ ПРАЗ ТАЙГУ

Зборы ў дарогу займаюць нямала часу. Пачынаюцца яны як не ад Новага года. Камандзіра цікавіць — хто паедзе. Каб гэта быў не шалапут які ці мамчын сынок, а хлопец, што хоча і ўмее працаваць. Каб ён, вядома, быў сваім чалавекам у калектыве, разумеў калектыўныя інтарэсы. І яшчэ немалаважна, каб быў вясёлы, умеў іграць на якім-небудзь інструменце ці спяваць...

Студэнта ж хвалюе — ці патрапіць ён у жаданы атрад. Прэтэндэнтаў шмат, конкурс вялікі, будзе выбар. Кемлівы разумее: трэба загадзя паклапаціцца пра сябе. Перш за ўсё — часцей трапляць на вочы камандзіру, пагаварыць з ім, тое-сёе пра сябе расказаць, асабліва не хваліцца але і не маўчаць, не шкодзіць таксама часцей заходзіць і ў камітэт камсамола.

Спартсмену, таму лягчэй — як і пры паступленні ў інстытут. Па-першае, ён дужы і працаваць здолее, па-другое,— за яго заўсёды знойдзецца каму замовіць слова. Лягчэй і ўдзельніку мастацкай самадзейнасці: атраду вельмі патрэбны «артысты».

Усё гэта ідзе ў адпаведнай графе камандзірскага сшытка пад рубрыкай «Хобі».

Горш таму, хто не мае сказаць чаго-небудзь такога, што можна было б запісаць у гэтую графу. Таму кемлівыя разумеюць — можна трохі сказаць і авансам. Там разбяруцца. А можа і сапраўды на людзях талент праклюнецца.

Камандзір «Алмаза-2» Віктар Сувораў акуратна запісаў у камандзірскім сшытку ўсе звесткі і характарыстыку кожнага, хто мае намер ехаць. Што ўмеюць рабіць хлопцы? Многія цесляры, муляры, бетоншчыкі, дзяўчаты — тынкоўшчыцы. Граюць на баяне, акардыёне. Шмат гітарыстаў. Шмат хто спявае. Як тут выбіраць?! З дзесятак чалавек ён ведае па мінулагодняй паездцы ў Якуцію ў атрадзе «Алмаз», дзе ён быў галоўным інжынерам. Тамара Залатар, Уладзімір Сакач, Аляксандр Валуеў, Барыс Волкаў, Ала Турбан, Тамара Конкіна. Іх абавязкова





трэба ўзяць. Не падвядуць. Ну а іншыя? Прыйдзецца выбіраць.

Няхай бы сабе ехалі ўсе. Але пуцёвак толькі шэсцьдзесят, а заяў сто дваццаць. Ды ўсё яшчэ нясуць і нясуць. Так што трэба кагосьці вылучаць, а астатнім пажадаць добрай дарогі ў якім-небудзь іншым атрадзе.

У той дзень, калі зачыталі спіс тых, хто не паедзе, у аўдыторыі ўсталявалася напружаная цішыня. Тыя, хто пачуў свае прозвішчы, нейкі час не маглі апамятацца. А тыя, хто не пачуў, задавалі самі сабе пытанне: а можа праслухалі? Потым цішыня саступіла месца воклічам, запытанням, і пачалася тая неразбярыха, якой хапіла б не на адзін дзень!..

Стала вядома, што атрад паедзе будаваць вадавод ва Усурыйскай тайзе. Давядзецца цягнуць трубы праз тайгу да мора, да бухты Ваніна. Гэта пакуль усё, што вядома. Вядома яшчэ, што дзесяць чалавек, так званыя кватар'еры, адправіліся ўжо туды. Падрыхтаваць усё да прыезду атрада.

Зборы ледзь не кожны дзень. Як абстаяць справы з білетамі? Набыць і атрымаць форму. Закупіць вітамінаў і спецый. Тайга, клімат суровы. Вітаміны — перш за ўсё. Тут, у Мінску, прылаўкі на рынку ломяцца ад клубніц, радысу, свежых агуркоў і цыбулі. А там — хто ведае, мо прабудзеш усё лета і нічога гэтага не паспытаеш...

Пяць чалавек адправіліся на Камароўку. Цыбулі ў галоўках у гэты час не так і шмат. Ну, а часнок бабулі цэняць даражэй, чым тыя гранаты ці апельсіны. Хочаш не хочаш — купляеш. Набралася некалькі скрынак: цыбуля, часнок, лаўровы ліст, перац, кансерваваныя таматы. Усяму гэтаму дабру трэба разам з намі адолець шлях у 11 тысяч кіламетраў.

...Атрад ляціць самалётам. Арганізацыя — будаўніча-мантажнае ўпраўленне № 2 у Ваніна — прыслала грошы на 60 білетаў, і шчаслівчыкі атрымалі блакітныя квіткі.

Калі ўжо ўсе ўселіся ў самалёце і ён падняўся, а там, у аэрапорце, засталіся праводзячыя,— вядома ж, не таты і не мамы: які студэнт дазволіць, каб яго праводзілі бацькі, каб увесь атрад бачыў, што ён усё яшчэ мамін сынок,..— дык вось, калі самалёт падняўся, усе тыя ланцужкі, якія нябачна звязвалі цябе з тваім горадам, з яго людзьмі, з клопатамі і інтарэсамі, нарэшце абарваліся. І ты сам-насам ужо са сваёй дарогай, і ўсе твае турботы звязаны цяпер толькі з ёю. Кожны разумее — пачынаецца новая паласа жыцця, доўгачаканая, нязведаная, шматабяцаючая. Ёсць усе падставы лічыць сябе шчаслівчыкам. Пабачыш Далёкі Усход, пабачыш Ціхі акіян і дзесьці там штосьці такое зробіш, што табе па сіле, і твая праца прынясе нейкае задавальненне.

Добра вось так сесці ў мяккае крэсла лайнера, сцішыцца і ні аб чым не думаць. Праз якія суткі будзеш на месцы, і пачнецца новае працоўнае жыццё.

Але самалёт — рэч такая: можа ляцець у Маскву, а напачатку трапіць у Ленінград. Мы ляцелі ў Хабараўск, амаль што падляцелі, ды на падлёце крута развярнуліся і ўзялі курс на Іркуцк — у Хабараўску туман, аэрапорт закрыты. Гэта так званыя дарожныя прыгоды. Такім чынам можна пабываць там, дзе не меркаваў і нават не разлічваў пабываць.

У Іркуцку такіх «шчаслівчыкаў» хоць гаць гаці. Не тое што сесці няма дзе, стаць належным чынам няма як. Такую бяссонную ды і галодную ноч,— у буфеце ж чарга бясконцая,— можа вытрываць толькі студэнт. Трохі гаворкі, трохі спеваў, а ў каго — пісьмы...

Світае тут улетку рана. Світанак з марозам. Ясны, яркі на ўсходзе. У кожнага думка — а як там, у Хабараўску? Ці рассейваецца туман, ці выпусцяць самалёт?

Перачакалі яшчэ дзве гадзіны. Стала вядома, што самалёт паляціць. Нарэшце вылецелі. Адразу за Іркуцкам убачылі Байкал. Вельмі ж прыгожы, са спакойнай бліскучай роўнядззю вады, з берагамі, паэтычна-павольнымі, блакітна-таежнымі.

А потым — сопкі, тайга, тайга без канца і краю.

Праз чатыры гадзіны — Хабараўск. Адразу як выйшлі, дык і абварыліся. Тэмпература плюс 30. І парнасць — паветра вельмі вільготнае. Хабараўск стаіць у такім месцы, дзе вады, мусіць, больш, чым зямлі. Амур мнагаводны, шырокі,— супрацьлеглага берага не бачна. Шмат азёр. Вось і туманы...

Чакаем колькі гадзін наступнага самалёта. Даймае машкара. Малыя, з макавае зярнятка, крывасмокі ўпіваюцца, і няма ад іх аніякага ратунку. Гэта тут, а што будзе там, у тайзе?...

За гэты час маглі б з'ездзіць у горад. Але ці ж разбярэшся з гэтым Аэрафлотам? Нічога дакладна яны ніколі не скажуць, апроч таго, што трэба чакаць. Вось і чакаем пяць гадзін. Хабараўск давялося паглядзець толькі на зваротным шляху.

Але раскажам пра яго цяпер.

Горад сучасны, прыгожы. З прамымі акуратнымі вуліцамі, з плошчамі і фантанамі. Вуліцы кіруюцца ў бок Амура, ракі вялікай і прыгожай. Сёмае месца ў свеце яна займае па велічыні і адна з першых у нашай краіне па запасах і разнастайнасці рыб — аж да ста відаў. Амурскі шчупак і самы, карась і таймень, вядомыя амурскія касаткі з дзіўнымі плаўнікамі... Ад вясны да позняй восені сюды ідуць з акіяна бясцэнныя чырвоныя рыбы нераставаць — гарбуша, кета, сіма...

Амур суднаходны. Ён звязвае Хабараўск з Ахоцкім морам у паўночнай

частцы Татарскага праліва. Нікалаеўска-Амуры — апошні вялікі порт у нізоўях Амура.

З Хабараўска нам у Савецкую гавань. А там — катэрам ці аўтобусам па марскім беразе крыху на поўнач да самага Ваніна. Да Саўгавані ляцець нейкую гадзіну. Потым селі ў аўтобус. Саўгавань — невялікі гарадок, з двух-трох- і чатырохпавярховымі цаглянымі дамамі, чысценькі, ціхі. На беразе бухты, якая носіць гэткае ж імя.

Ад Саўгавані да Ваніна 53 кіламетры. Дарога ідзе тайгой, перасякае невялікія рачулкі, коціцца цераз масточкі, пятляе, мае свае «цешчыны языкі». Цяжка сказаць, якая больш цікавая дарога, — гэта, таежная, ці па моры на катэры. Па моры трапляецца шмат бухтачак, надзвычай маляўнічых. У полі зроку ўвесь час бераг, то нізкі, то трохі гарысты, пасёлкі, маякі, лясы. Расказваюць, што калісьці тут прайшоў вялікі пажар, пры японцах яшчэ. Лес вынішчыўся. Таму ён тут малады, вельмі цяжка прыжываецца. У былой Канстанцінаўскай бухце на дне ляжыць сусветнавядомы фрэгат «Палада». На ім пісьменнік Іван Ганчароў зрабіў падарожжа вакол свету. Вось што ён пісаў, калі «Палада» ўвайшла ў Імператарскую гавань:

«Што за край і дзе мы? Сам не ведаю, ды і ніхто не ведае. Хто тут бываў і хто пойдзе ў гэта дзікае месца і глухамань?

Хто тут жыве?

Што за народ?..»

Фрэгат быў затоплены ў студзені 1856 года. Цяпер кажуць, што «Паладу» збіраюцца падняць... Вадалазы абследавалі яго, і на аснове іх звестак вучоныя прыйшлі да думкі, што фрэгат усё ж можна выцягнуць.

Ванінская бухта выдатная. Вельмі зацішная. З даўняга часу судны маюць сабе тут адпачынак і прытулак у часе штормаў.

Цяпер сюды заходзяць судны па шляху ў Находкінскі порт. Рэгулярнае суднаходства звязвае гэтую ўсходнюю частку Усурыйскага краю з Сахалінам і Уладзівастокам, а праз Сахалін — з Курыламі, Камчаткай і Чукоткай. Калі ўлетку адкрываецца Паўночна-Ледавіты шлях, навігацыя тут вельмі актыўная. Судны ідуць з Мурманска і Архангельска цераз Усходне-Сібірскае мора, Чукоцкае, Берынгава, Ахоцкае і сюды, у Ваніна. Ідуць і з Балтыйскага і Чорнага мораў паўднёвым марскім шляхам цераз Індыйскі акіян.

Грузы самыя разнастайныя. Сюды — усё, што трэба Далёкаму Усходу, ад трактара і плывучага дока да іголкі з ніткай. Адсюль — рыба, ікра, крабы, пушніна і асабліва ж лес, выдатны лес усурыйскай тайгі. Лесу шмат ідзе на экспарт, у Японію, В'етнам і іншыя краіны. Чыгунка штодзень дастаўляе мноства эшалонаў. Вязуць і вязуць яго стожыльныя машыны, у тым ліку і нашы «МАЗы». Ля прычалаў стаяць айчынныя судны-лесавозы. У іх трумы вялізныя краны грузяць бярвенне, дошкі.

Судны, якія адпраўляюцца з экспартным таварам у Японію і іншыя краіны, а таксама і тыя, што курсіруюць па мясцовых лініях і прыходзяць з далёкіх паўночных, заходніх і паўднёвых партоў, маюць патрэбу ў вадзе, у звычайнай прэснай вадзе. У бухце вада салёная, марская. Паблізу добрых рэчак няма. Таму для Ваніна вада — дэфіцыт. І далёка не ўсе судны маюць магчымасць забяспечыцца вадой на час плавання. Нярэдка яны бяруць ваду ў замежных портах і плацяць за гэта дорага.

Спецыяльнай урадавай пастановай вырашана пабудаваць у Ваніна вадавод. Яму належала ўзяць ваду ў бліжэйшай да пасёлка горнай рэчцы Чыставоднай і па трасе падаць яе гораду. Работа вялікая і даволі-такі адказная.

Кіраўнікі будаўніча-мантажнага ўпраўлення № 2 у Ваніна, даведаўшыся, што студэнты будаўнічага факультэта Беларускага політэхнічнага інстытута, будучыя водазабеспячэнцы, здолеюць улетку зрабіць асноўную і самую адказную работу, закідалі рэктарат і камітэт камсамола пісьмамі і тэлеграмамі.

### ВЕРАБЕЙ-ПТУШАЧКА...

У Ваніна прыехалі позна ўвечары. Убачыць што-небудзь добра не патрапілі. Гарадок асветлены не дужа добра. А пабачыць вунь як хацелася. Гэта ж порт. На любой карце абазначаны. Ваніна. Які ж ён, партовы гарадок?

Аўтобус спыніўся ля крайняга пад'езда пяціпавярховага дома. Тут — студэнцкі інтэрнат. Дом здаваць меліся недзе восенню. Не зроблены яшчэ тынковачныя работы. Кіраўнікі ўпраўлення вырашылі — няхай тут пажывуць студэнты.

У пакоях там-сям свецяцца лямпачкі. Насустрач выбегла некалькі чалавек. Пасыпаліся пытанні з аднаго, з другога боку — якія навіны ў Мінску, як ляцелі,— як тут уладкаваліся, як з прадуктамі, ці паспелі што зрабіць на трасе?

Дзяўчат восем. Нам адвялі асобную трохпакаёвую кватэру. Першае ўражанне ад кватэры, ад пакояў даволі складанае. Сцены цагляныя, не атынкаваныя, з добрымі дзіркамі, настылыя. Коўдраў няма, ды і лёгкія яны, інтэрнатаўскія. Але гэта ўсё дробязі, не вартыя ўвагі. Вунь Людачка Данілюк. Няспынна шчабеча, бы тая птушка: «Як тут цудоўна! Увечары весела, хоць і стамляемся. Хлопцы граюць на гітарах, спяваюць,— і ўжо з асаблівай таямнічасцю:— Прыедуць атрады з Варонежа і Адэсы. Многа маракоў, маладых, прыгожых».

Люда сыпала і сыпала. У дзяўчат аж дух пачало займаць. Улегліся позна. Назаўтра з раніцы ўсе адправіліся на кухню. Хлопцы паспелі абсталяваць пад кухню і сталоўку два вялікія пакоі на першым паверсе. Дзяўчаты будуць кухарыць. А то дагэтуль атрадаўцы харчаваліся ў портаўскай сталовай.




Усё разлічыць, прадумаць, абмеркаваць.



Апетыт у хлопцаў цудоўны. Папрацуюць добра, дык па дзве талеркі баршчу з'ядаюць і дабаўку просяць. Дзяўчаты завіхаюцца на кухні, ледзь паспяваюць.

Вярнуўшыся з трасы, хлопцы не скупяцца на расказы. Хочацца хоць адным вокам глянуць, якая там траса і што там робіцца. Але пакуль што — дзяўчаты на кухні. Яшчэ ўсё не асталявалася — клопатаў, работы многа, беганіны па магазінах ды на базар па прадукты.

Пагаворваюць — праз некалькі дзён на кухні пакінуць толькі траіх, і ў дапамогу ім — дзяжурныя з хлопцаў. Пяцёра дзяўчат пойдуць з усімі на трасу. Ці знойдзецца ім работа, пакуль што невядома. Хлопцы капаюць на схіле гары траншэю і пачалі фундамент пад помпавую станцыю. Брыгада Міхаіла Уціка чаканіць трубы. Усе яны амаль што ў адзін голас: «Вам няма чаго там рабіць, хіба каменне з намі будзеце варочаць ці ломам дзяўбці?..»

Якраз пад гэты час дзяўчатам аб'явілі, што ёсць для іх работа — бетаніраваць дах магазіна. Назаўтра з раніцы гарадскім аўтобусам едзем за сем вёрст у пасёлак Акцябрскі. Аўтобус ідзе праз тайгу: ліставіцы, піхты, бярозкі... Дарога то ўзнімаецца на схіл, то спускаецца, пятляе. Пасажыры расказваюць пра нядаўнюю аварыю на павароце. Ды вось і новая — лесавоз, нагружаны лесам, у адхоне. Напэўна, не вывернуўся...

У брыгадзе дахаўшчыкоў пяцёра дзяўчат і трое хлопцаў. Брыгадзір Віктар Шчаглоў. Апранулі спяцоўкі. На нагі — гумавыя боты. Разабралі рукавіцы, насілкі. Перш за ўсё трэба раскідаць і разраўнаваць шлак,— падсцілка пад бетонны пласт. Шлак раскідваем, перацягваем на насілках. Пакуль не так і цяжка, усе разумеюць — самая цяжкая работа наперадзе. Бетонамяшалка намяшае раствор — пясок, цэмент, вада ў адпаведных прапорцыях. Трэба будзе яго насілкамі перацягваць на даху.

Хлопцы зрабілі раствор. Кран падняў бадню і падаў яе ўгару. З краю паклалі вялізны ліст бляхі і на яго выкінулі раствор. Цяпер трэба шуфлямі кідаць яго ў насілкі і насілкамі разносіць хутчэй, таму што ён адразу ж застывае.

Да абеду даволі-такі многа залілі. І натаміліся ж! Рук і ног не чуеш. А яшчэ ж пасля абеду пяць гадзін трэба працаваць. Пра сябе кожны думае: толькі б вытрымаць, не здацца. Сорамна будзе. У Тамары Конкінай рукі маленькія, зграбныя, пальцы тонкія, доўгія. Яна сама прызнаецца, што рукі ў яе слабыя. А тут уся нагрузка на рукі. Тамара трымаецца, не здаецца!

Тамары Залатар лягчэй. Сярэдняга росту, яна выглядае дужай, моцнай. Мускулы ў яе, бы налітыя, рукі дужыя. Адчуваецца, што Тамара з дзяцінства ўцягнулася ў работу. Сама яна прызнаецца, што цяпер ніякая работа ёй не страшна. На шуфель яна бярэ раствору больш за ўсіх, кідае шпарчэй і ямчэй за ўсіх. Угнацца за ёю цяжкавата.

Паабедалі — і зноў на дах. І зноў з насілкамі — хутчэй, хутчэй. Да вечара, да васьмі гадзін, уклалі добры кавалак. Хлопец у сінім світэры, муляр, узлез на дах, паглядзеў і нават здзівіўся:

— Нічога сабе! Заўтра пры такім тэмпе скончыце!..

Назаўтра рашылі не рабіць перапынку на абед, а купіць тое-сёе ў магазіне, перакусіць хуценька і за працу. Смажаная рыба, камса, кефір, квас — зусім няблага, студэнцкі абед. Спачатку ўсе накіну-

ліся на квас, а калі напіліся, прыняліся за хлеб ды рыбу. Выявілася, што не разлічылі і хлеба купілі мала...

— У мяне такія вострыя зубкі,— гаворыць Ільля Дзятлаў, бялявы хлопец з барodкай, ні то пад паэта, ні то пад мастака,— не тое што батон, уласны язык адкусяць.

— Глядзі, каб зубы не пакрышыў...

— Нічога, у мяне яны моцныя, ніколі не балелі...

Пасля абеду зноў стараліся, шчыравалі. Было дзве падзеі, якія зацікавілі ўсіх. Адна — верабей, які прыляцеў і пачаў бегаць па бетоннай пляцоўцы.

— Глядзіце, дзяўчаты,— зашаптала Тамара Залатар,— яшчэ адна птушачка ў нашу брыгаду. Ёсць у нас Шчаглоў, Сычоў і Дзятлаў. Цяпер вось «Вераб'ёў» уласнай персонай. Ну што ж, родненькі, можа за насілкі возьмешся?!

«Вераб'ёў» пабегаў, паскакаў, пачырыкаў, выказаў нешта на сваёй вераб'інай мове, але да насілак нават не наблізіўся. Паляцеў...

І другая. Па лесвіцы паднімаўся чалавек у балоневым плашчы і блiскучых чаравіках, галоўны інжынер. З ім быў знаёмы нам хлопец — муляр. Усе ўмомант паставілі насілкі, выцерлі лбы, сцішыліся: што скажа начальства. А начальства пахадзіла, пахадзіла, паглядзела і сказала: «Во як трэба працаваць! Што азначае адукацыя. І кантроль не патрэбен — усё зробяць і хутка, і акуратна!»

Дзяўчаты заўсміхаліся, пачалі расказваць пра вераб'я, які хацеў дапамагчы, а потым раздумаў. Запрасілі галоўнага інжынера ў інтэрнат увечары — фільм будзе цікавы.

Забетанавалі дах. Цяпер можа на трасу? Колькі гаворкі пра трасу. Хлопцы дык толькі і расказваюць, як выварочваюць валуны, ды вялікія такія, што калі б хацеў абняць, дык не абдымеш. Вунь Валеры Трацяк, той возьме, як крэкне, як штурхане, дык валун і падаецца, выпаўзае з траншэі...

Траса ад рэчкі падымаецца на схіл гары. Узбярэшся на самую вяршыню, і бачыш тайгу, неаглядную, неабдымную, на схілах сопак у мяккай сіняватай смузе. У каньёне рачулка бяжыць. На многіямногія сотні вёрст туды ўглыб,— расказваюць тутэйшыя,— паселішчаў няма, глухамань.

Успамінаецца Арсеньеў, які тут, па гэтай тайзе, хадзіў, блукаў, а потым напісаў цудоўныя, сардэчныя кніжкі пра тайгу, пра мясцовых людзей,— арачаў ды ўдэгейцаў.

Хлопцы ў самым канцы траншэі, ці, дакладней, на пачатку яе, там, дзе ўстане помпавая станцыя, закладваюць фундамент. Знялі верхні пласт, не больш як на рыдлёўку,— вада паказалася, трохі паглыбіліся — хлынула адусюль. Валыніліся колькі, пакуль помпу прыладзілі. Ды помпа не паспявае. І корпаюцца хлопцы там як не па пояс у халоднай жыжцы.

Потым выскачыць каторы, а за ім другі, трэці ды пад струмень ледзяной, крынічнай вады. Крынічка тут з гары б'е. Яе зачынілі ў калонку. Добры струмень! Калі кінуць пад яго бялізну,— адбеліць без мыла. А калі на каго машкара дужа насядзе, таксама адгоніць. Пра машкару, ці гэты таежны гнюс, вунь колькі размоў. Ды яшчэ пра кляшчоў. Алу Турбан укусіла мошка ля брыва. Вока запухла зусім, а ўсім неяк смешна стала, усе хіхікаюць, хаця і спачуваюць. Але ж не лягчэй! Атраднага доктара Мікалая Аржаніка патрапіла ўхапіць за губу. Яе так разнесла, што брыгадзір Іосіф Рыжыкаў на поўным сур'ёзе зазначыў:

— Адыдзі, Аржанік, а то незнарок за губу зачаплюся!..

Усе пакладіся ад рогату. Затое не да смеху, калі клешч уп'ецца. Тут ужо не да жартаў. Па-першае, хто яго ведае, які ён, можа і энцэфалітны, па-другое,— паспрабуй яго выцягнуць, калі ён з галавой сядзіць у целе. Звычайна, ля таго, хто ўхапіў кляшча, збіраюцца натоўпам.

— Хлопцы, у каго брытвачка ёсць?

— Не, лепш ножычак, ды каб востры!

— Адну хвілінку, падточым яго крыху!...

А ахвяра сцішана ляжыць, чакае. Зараз эскулап пачне. З усіх бакоў чуюцца парады, перасцярога: «Ды ты, таго... Асабліва не рэж... Думай, што маглі б і цябе гэтак... Трэба там, дзе галоўка, памалу, а потым падчапіць»...

Хтосьці прапануе шпільку, каб ёю дастаць галоўку. Эскулап пацее, усе хвалююцца. Нарэшце, пашанцавала, на кончыку шпількі галава крывапіўца. Рану забінтоўваюць. Усе разыходзяцца.

## РЫЖЫКАЎ, ІЛЮЗІІ І БАРАДА

Увечары, на нарадзе брыгадзіраў, дамовіліся, што ў брыгадзе Рыжыкава на помпавай будуць працаваць і дзяўчаты. Фундамент амаль што гатовы, муляры бяруцца за сцены. Эдуарду Шпакоўскаму, Васілю Лазоўскаму і Георгію Пякарскаму спатрэбяцца памочніцы. Падносіць і падаваць цэглу, раствор.

...Ехалі вёрст сем. Спачатку цераз пасёлак, потым берагам бухты, лясной дарогай. Трасе, падкідвае. Увесь час чуецца: «Ой, мамачка!» Раптам аглушальна трэснула дошка, і ўсе, хто сядзеў на ёй, пападалі ў кузаве. Лямант, смех. Забарабанілі ў кабіну. Шафёр, наш Аляксей Закасоўскі, спыніў машыну, высунуўся:

— Што здарылася?! А-а! Хіба ж гэта я?! Дарога такая!...

Рыжыкаў жартуе, выдумляе рознае. Усе смяюцца. Нарэшце з-за хмызняку паказаўся дашчанік. За ім — навалам цэгла, белая і чырвоная, блокі. Адным словам — помпавая. Павыскаквалі з ма-



На двару туман і вецер, а — не холадна.

шыны. Дзяўчаты кінуліся аглядаць фундамент. Рыжыкаў паспяшаўся за імі: якніяк, хлопцы тут столькі гнулі спіны, боўталіся ў багне. Цяпер прыйшлі дзяўчаты, каб працягваць разам з імі работу — ды не будуць ведаць, што тут рабілася, чаго ім каштаваў гэты фундамент. Грунт балоцісты на беразе ля самай рэчкі, адкапалі трохі, хлынулі падземныя воды. А траншэю трэба паглыбляць. Чым глыбей, тым цяжэй, больш прыток вады. Але ж блокі ўжо ўкладзены, фундамент амаль што гатовы.

У двух месцах пачалі ўкладваць па паўблока. Правальніліся паўдня. Пакладуць адным канцом — не гэтак, няроўна. Потым пераверпуць другім — таксама дрэнна, горбіцца. А калі — зноў тым канцом? Крáну: «Ну, малютка, раз, два, узялі, яшчэ раз крутанём».

Блокі прывезлі з завода. Пра якасць гаварыць не даводзіцца. Напэўна, некаторыя палічылі, што для фундамента недзе там у тайзе і такія падыдуць.

Пасля абеду на помпавую завітаў майстар з упраўлення Мікалай Іванавіч Аўчарэнкаў. Ён ведаў, што фундамент заканчваецца, і прыйшоў агледзець і прыняць яго. Майстар паволі абышоў усё, крытычна агледзеў з розных бакоў, пакратаў стыкі.

— Ну, яно можна было б і лепш. Алеале... Вядома, цяжкавата ў такіх умовах.— І да Рыжыкава: — А ты, Есіп, закапаў тут што-небудзь для патомкаў?

— Я ведаю адно,— сказаў Рыжыкаў,— што закапаў тут свае ілюзіі. Меў рацыю наш Харытановіч. Я яму даводзіў, як па тэорыі належыць, а ён мне — як у жыцці бывае.

Зноў смех. Гаворка перакінулася на тое, як вучаць у інстытуце і з чым сутыкаецца выпускнік на будаўнічай пляцоўцы. Прыехаў камандзір і падключыўся да размовы. Пагадзіліся на адным — нялёгка маладому спецыялісту пасля інстытута. Ён яшчэ, нібы тое кацяня. Добра што ёсць вось такія летнія працоўныя семестры. Студэнты тут працуюць самастойна, вырашаюць многія пытанні за інжынера, праекціроўшчыка, начальніка. І да таго ж загартоўваюцца фізічна. На будаўніцтве ўзнікае мноства пытанняў, якія не ставяцца ні ў адным спецыяльным падручніку і адказы на якія можа даць толькі практыка. Нехта прызнаецца, што да работы ў атрадзе не ведаў толкам, што гэта «віра», а што «майна».

Пад'ехала машына. Самазвал прывёз зямлю, каб прысыпаць фундамент ды зрабіць пляцоўку пад падлогу. Самазвал скінуў груз — гліна ўперамешку з каменнем. Дружна ўхапілі рыдлёўкі: і камандзір, і майстар. Кідаюць у тэмпе. Ніхто нават пот з ілба не змахвае. Нарэшце раскідалі, выпрасталіся. Абапёрліся на рыдлёўкі. Выціраюцца — хто рукавом, хто хусцінкай. Нічога сабе размінка, нават машкара разляцелася...

Перад самым вечарам дзяўчаты адпрасіліся ў Рыжыкава паглядзець траншэю на трасе,— са схілу гары. Траншэя пачынаецца тут адразу ж за дарогай ля помпавай і крута падымаецца ўверх на схіл. Роўная, стромкая нітка, жаўтлява-аранжавая ў зеляніне. Па баках ляжыць выкінутая гліна, пясок, каменне. Па пяску пракладзена сцяжынка. Ідзеш сцяжынкаю, часам заглянеш у траншэю, і страшнавата робіцца. Глыбіня! Там, унізе, агромністыя валуны. Такія нашы хлопцы ніяк не маглі выкаціць!..

Якіх некалькі тыдняў назад яшчэ тут быў лес, звычайная тайга. Хлопцы расказваюць, што калі прыйшлі і пабачылі гэты некрануты лес ды буралом, то не паверылі, што праз гэую гусцечу можна неяк прадзерціся. Спусціліся па схіле да рэчкі. Адтуль кожны паасобку падымаўся наверх, і ніхто не патрапіў да адзначанага дрэва. Унізе на дрэве, ля будучай помпавай, павесілі цяльняшку. Барыс Волкаў узлез на самае высокае дрэва і пачаў, нібы той дырыжор, накіроўваць хлопцаў:

— Валіце гэтае дрэва... Не, не, гэтую лістоўніцу не чапайце... Цяпер трымайцеся па прамой, па прамой. Не адхіляйцеся!..

Праз тры гадзіны прасека ўжо намеці-

лася. Выверылі — усё добра. Пачалі яе расчышчаць, пашыраць.

Чым далей угору, тым болей каменняў на абочыне, і дробных, і вялікіх. А ля вяршыні дык наогул адны валуны. Каменныя горы! Скалу хлопцы дзяўблі. Вось жа, пэўна, намучыліся. Тады яны расказвалі, як камяні бралі «на пупок». Ляжыць валун трыста там, а то нават пяцьсот-шэсцьсот кілаграмаў. Вялізны такі, не абхопіш рукамі. Раскапаюць дол вакол яго. Круцяцца і так і гэтак. А ён сашчапіўся з зямлёй — не адарваць. Падбіраюцца кіркамі, ламамі. Натужваюцца самыя дужыя, з усіх сіл штурхаюць. Расштурхаюць, выцягнуць нарэшце!..

Вось і грэбень схілу. Узышлі, сталі, павярнуліся, каб паглядзець уніз і ўдалячынь. Ляжыць тайга, дрэмле на схілах сопак. Над імі сіняе-сіняе неба. А ўнізе маленькія фігуркі хлопцаў на помпавай. Яны махаюць рукамі і нешта крычаць. Але не чуваць. Няблізка.

Адышліся, пашукалі ягад. Трохі касцяніцы трапляецца, ды брусніцы, маленькія, зялёненькія яшчэ. Брусніц будзе многа. Лес, хоць ужо і канец ліпеня, выглядае, як вясною, маладым. Пяшчотныя, бы нашы ў пачатку мая, бярозкі, рабіны. Што ні кажы — поўнач, ды яшчэ ўзбярэжжа акіяна...

Амаль увесь месяц стаялі халады, туманы, дзьмуў пранізлівы вецер. Сырасць. Пад канец крыху выпагадзілася. З'явілася сонца. Але тутэйшыя кажуць, што калі і пацяплее ўлетку, то ненадоўга. Звычайна лета тут дажджлівае і халоднае, з туманамі, з вятрамі. Назаўтра церусіў дождж, але ўсе працавалі, не зважаючы на яго. Рыжыкаў нават распрануўся. Скінуў кашулю. Ці то ад дажджу, ці то ад гарачай работы спіна яго заільснілася.

Рыжыкаў, трэба аддаць яму належнае, любіць працу і ўмее працаваць. Ён і прыдумае нешта, якое-небудзь прыстасаванне ці нейкую хітрынку, каб зрабіць хутчэй і ямчэй. Той, хто ведае Іосіфа, мае ўсе падставы захапляцца. А хлопец ён гарадскі, здавалася б, дзе яму ўсё гэта ведаць. Сам Іосіф гаворыць, што многае ўведаў, калі служыў у арміі. І наогул філасофія ў яго такая, што мужчына павінен усё ўмець, усё зрабіць сваімі рукамі. Вазьміце, да прыкладу, такога чалавека, як Рокуэл Кент. Што ўмее ён і чым займаўся ў жыцці: мастак, пісьменнік, даследчык, ілюстратар, фермер, мараплавец, архітэктар, цясляр, літограф, гравёр па дрэве, публіцыст і палітычны дзеяч. Гэты чалавек умеў намаляваць цудоўную карціну, напісаць цікавую кніжку, пабудаваць дом, а то нават і бот для мараплавання.

Хлопцы паважаюць Іосіфа. Дзяўчаты ім захапляюцца. Эрудыт і весяльчак, працаўнік і прыроджаны акцёр. Пазней, калі рыхтаваліся да канцэрта, высветлілася, што ён з бляскам можа танцаваць «танец маленькіх лебедзяў». А барада? Усім вядомая барада Рыжыкава. Калі камандзір на лінейцы зачытаў загад збрыць усім бароды, было агаворана, што брыгадзіру Рыжыкаву, аспіранту інстытута, дазволена насіць бараду. Гэта не выклікала ніякіх пярэчанняў. Усе разумелі, што без барады няма Рыжыкава, не будзе таго Рыжыкава, да якога ўсе прывыклі. Потым жа, усе ведалі, што ў Іосіфа ёсць каханая, як ён сцвярджаў, незвычайная жанчына. Пасля вяртання ён мае намер ажаніцца з ёю. Як жа яна яго сустрэне без барады?

— Іосіф, а трэскі ў бараду часам не трапляюць, калі ты сячэш? — пытае Тамара Залатар.

— А ты пацікуй, убачыш...

— Ну а мошкі не запаўзаюць? Ім жа там ёсць дзе схавацца.

— Ох і наіўнае ж дзяўчо. Можа толькі дзеці на такое і здатныя!..

Іосіф пачынае экскурс у даўнія часы, што датычыць гісторыі барады і наогул барод, якія насілі вялікія людзі. Спрачацца з ім цяжка. Дасведчанасць — гэта не абы-што. Гэта — аргументы і факты.

— Факт, Ося, факт,— мармычуць дзяўчаты.

Працаваць з Рыжыкавым весела і цікава. Наслухаешся ўсяго і насмяешся ўдосталь.

Асабліва калі сядзіш у кузаве машыны. Рыжыкаў чамусьці заўсёды ля задняга борта. То стаіць, то часам прысядзе. Калі на дарозе пачынае падкідваць так, што часам хто-ніхто нават зробіць сальта, Рыжыкаў моцна трымаецца рукамі за борт і выкрыквае: «Мама! Ой, мама!»

Іосіф любіць расказваць пра службу ў арміі і пра свой любімы занятак у час адпачынку на поўдні — падводнае плаванне.

— Там, пад вадой, забываешся, што ў цябе лёгкія. Здаецца, і ў цябе жабры... А каб вы бачылі, як блакітныя рыбы гу-



Траншэя глыбее. У рабоце — адбойныя малаткі.





Прыйшла тэхніка.

ляюць, як валтузяцца. Ці марскога акуня падпільноўваеш, ці страляеш з ружжа... А то неяк з дэльфінам купаўся. Храбрыўся, але страшнавата, падаўся хутчэй да берага. А дэльфін праводзіў мяне...

## ЭХ, БЛАКІТНАЯ ТЫ МАЯ ТАЙГА!

Неяк увечары Аляксей-шафёр павёз нас не звычайнай дарогай паўз рэчку Чыставодную, а лясным прасёлкам на сопку. Як высветлілася — трэба было забраць брыгаду чаканшчыкаў. Трохі ўз'ехалі, машына занатурылася, заслізгала коламі — нядаўна прайшоў дождж. Усе і штурхалі, і голле падкідвалі — ні з месца. Давялося аб'язджаць. Праехалі амаль як не ўсю трасу. У траншэях ужо ляжаць зачаканеныя трубы. Доўгая такая нітка. У канцы яе завіхаюцца хлопцы. Змяркаецца, а яны працуюць. Просяць нас яшчэ пачакаць, мо гадзіну якую. Што такое? Хочуць скончыць. Усё падрыхтавана. Згаджаемся. Чакаем. Прыглядаемся. Усім цікава. Пра чаканшчыкаў у атрадзе ледзь не легенды ходзяць. Цяпер можна на свае вочы пабачыць, што яны вырабляюць з трубамі.

Вось Іосіф Левітан так прыціснуўся да трубы ды абедзвюма рукамі яе адбымае, што нельга не заўсміхацца.

— Калі прыеду ў Мінск,— гаворыць Ося,— наўрад ці ўпадабаю дзяўчыну, якая будзе танчэйшая за гэтую трубу.

Уся брыгада Міхаіла Уціка завіхаецца ля гэтых труб. Адзін сядзіць вярхом на трубе, другі абдымае, трэці паўзе пад яе. У руках — долата і вялікі малаток. Побач прасмоленая вяроўка. На мове чаканшчыкаў — кабалка.

Па трубах пойдзе вада пад вялікім ціскам. Кожная труба чатыры метры ў даўжыню. На канцы яна злучаецца з другой, дакладней, уваходзіць у другую. Дык вось гэтае месца — стык трэба апрацаваць так, каб, як гавораць, камар носа не падторкнуў.

Прасмоленая вяроўка забіваецца ў шчыліну ўкругавую, потым паверсе, таксама долатам, утрамбоўваецца цэмент. Загортваецца мокрай анучай. Вось і трэба ўвесь час круціцца вакол стыку, асабліва нязручна ўнізе. У траншэі выкопваецца ямка — на мове чаканшчыкаў — прыямак. Гэта, каб апрацаваць стык унізе.

Брыгада ў Міхася Уціка — хлопцы як на падбор. Працавалі на чаканцы многія. Міхась пакінуў нямногіх. Згодна з яго словамі, незаменных, здатных. Камандзір і наогул усё атраднае начальства пайшло яму насустрач. Усе ведалі, якая гэта адказная работа. Ад стыкаў залежыць лёс вадавода. Усе ведалі, і ў якіх умовах хлопцы працуюць. Часта — пад дажджом. Тады вада зацякае ў прыямкі. А балоцістыя мясціны — там таксама поўна вады. Асабліва ўчастак ля гарадской бальніцы: крыніцы, вада. Вёдрамі выграбалі жыжку, бо помпы не паспявалі. А калі яшчэ лье і зверху? Бывалі дні, ніткі сухой не знойдзеш. І нішто: чаканшчыкі — хлопцы загартаваныя.

Міхаіл, брыгадзір, ганарыцца ўсімі і ўсіх хваліць. Саша Халецкі, бы тая пчолка. Валодзя Матвеенка — сам не сядзіць, другім не дае. Валодзя Сакач — працаўнік, такога яшчэ пашукаць: сваю справу ведае і робіць яе спраўна, увесь час з песняй, і ўсім лягчэй працаваць. Юзік Янушэвіч — «Я яму кажу — не лезь у калодзеж, а ён палез. Вось гэта работнік, хоць наогул па шыі атрымае ў наступны раз... Захварэў — паляжы. Не, не ляжыцца, ідзе і працуе. Узялі былі яго на бетанаванне рэзервуараў. Вярнуўся да нас, радасны, нават чаканку пацалаваў».

Міхаіл Уцік на пятым курсе — па спецыяльнасці водазабеспячэнне. У студэнц-



Іосіф Рыжыкаў — брыгадзір на будаўніцтве помпавай станцыі...

кім атрадзе ўпершыню. Летась быў на практыцы ў Брацку, будаваў цеплатрасу. Трэба сказаць, чалавек ён каларытны. Адразу ж вылучыўся — прызначылі брыгадзірам. Сярэдняга росту, каржакаваты. У акулярах з чорнай рагавой аправай. Ходзіць спакойна, шырокім крокам. Погляд прамы, уважлівы. Часцей за ўсё ўсміхаецца. Выдае чалавекам не без жыццёвага вопыту і з добрым такі ўнутраным багажом. Любіць пагаварыць з хлопцамі, выкласці свае прынцыпы. Многае ў яго прадумана, душэўна вынашана.

У размове на машыне, калі вярталіся позна ўначы з Саўгавані пасля свята будаўніка, ён казаў:

«Калі чалавек стаіць і думае, ці кінуць лішнюю рыдлёўку зямлі,— гэта ўжо не работнік. А вось калі як Юзік Янушэвіч... Я яму гавару — не лезь у калодзеж, а ён палез. Гэта працаўнік! Такія людзі, як Янушэвіч, Матвеенка, Халецкі, усяго сябе аддаюць рабоце.

Як гэта не зрабіць, калі ўзяўся і душа гарыць! Не хочацца рабіць — лепш і не брацца. Ідзі дадому і лепш паляжы.

Ніхто не ўмеў чаканіць. Я трошкі. Навучыліся. Што тут умець, бяры і рабі. Галава ёсць на плячах, галоўнае — сумленнасць.

У балоце сядзім, прыямкі робім, вельмі цяжка. Стык зрабіць, рублёвая справа, здаецца, а з-за гэтага стыку мільён можа паляцець. Усё можа стык перакрэсліць, калі яго зрабіць абы-як.

Пачынае чалавек працаваць, і адразу бачна, хто ён. Ніякай рэкламы не трэба, усё адразу відаць.

Як карысна папрацаваць у атрадзе, хаця б некаторы час, сярод такіх вось людзей, як карысна выпрабаваць сябе, зразумець, праверыць тое-сёе, што здаецца табе ў тваёй біяграфіі ўжо непарушным, і пытанне,— а ці так гэта? — ужо не паўстае. Тут яно з'явіцца само сабой».

Камандзір амаль штодзённа размаўляе з Міхаілам. Усе разумеюць, што гаворка ідзе пра стыкі, і заканчваецца звычайна яна поціскам рукі брыгадзіру. Ніводзін нумар атраднай газеты і «баявы лісток» не абыходзяцца без Уціка. Часцей за ўсё фігурыруюць яго вытворчыя і бытавыя афарызмы. Вось адзін з іх: «Дым мае ўласцівасць падымацца ўверх, таму кладзіцеся ўсе на падлогу».

## ПЕСНЯ, НАША ПАМОЧНІЦА...

На помпавай сцены падымаюцца ўвачавідкі. Муляры Эдуард Шпакоўскі, Васіль Лазоўскі, Георгі Пякарскі, Віктар Кім заўзята спаборнічаюць між сабою. Больш за ўсіх кладкі дае Эдуард Шпакоўскі. За ім проста не ўгнацца.

З гары спусціўся Валеры Трацяк і сказаў, што зараз пачнуць падрыў валуноў. Трэба ўсім хавацца. Ала Турбан і Тамара Залатар пайшлі па дарозе ў бок пасёлка, каб папярэдзіць, хто будзе ісці насустрач. А Валеры і Тамара Конкіна накіраваліся ў супрацьлеглы бок з такім жа заданнем. Астатнія схаваліся ў канторцы. Пазіраем у акенца. Цікава ўбачыць выбух. Напружаныя секунды. І раптам мы падаем на падлогу. І чуем: па даху загрукаталі камяні. Потым усё сціхла. Падняліся і рассмяяліся. Калі б хто сказаў, што мы так адрэагуем на выбух, мы б таго чалавека паднялі б на смех...

Над лесам паплылі бела-ружовыя воблакі дыму і пылу.

Ідзём да месца выбуху. Там, дзе яшчэ нядаўна, бы вялізныя жабы, ляжалі валуны, цяпер горбяцца кучы каменняў... Нехта пажартаваў: «Была матэрыя, а застаўся дух».

Перад вечарам дзяўчаты адправіліся па кветкі. Яны тут цудоўныя. На высокіх крамяных ножках, бы цюльпаны. Аранжава-жоўтыя і аранжава-крэмавыя. Бутон—званочкам. Шэсць пялёсткаў, шэсць тычынак з карычневымі галоўкамі. На пялёстках узор карычневых кропак, тычынкі пасеялі на іх пылок. Пахнуць, як лілії, такі тонкі вадзяны пах.

Растуць кветкі на схілах сопак. Цэлыя плантацыі. Быццам хто панасеяў. Адна ўцеха іх збіраць. Тутэйшыя людзі часта ходзяць з кветкамі. Едзе чалавек на веласіпедзе, а да руля прывязаны букет. Пыталіся, як называюцца кветкі, ніхто не сказаў. Таежныя кветкі — і ўсё.

Букет цудоўных кветак сёння везлі ў машыне дзяўчаты. Кветкі прызначаліся камандзіру. У Віктара Васільевіча дзень нараджэння.

Урачыста прагучэў горн на вячэру. У сталоўцы вісіць віншавальны плакат: «Дарагі Віктар Васільевіч! Байцы атрада «Алмаз-2» шлюць вам палымянае прывітанне ў дзень вашага нараджэння! Жадаем вам — няхай ваша жыццё іскрыцца, як маладое віно, сто гадоў і больш!»

Калі ўсе сабраліся, віншаванне сказаў камісар атрада Сяргей Асаевіч. У беласнежных касцюмчыках Ніна Сулімава і Валя Цяслюк прынеслі вялікі торт з надпісам: «Віктару Васільевічу ў дзень нараджэння!»

Віктар Васільевіч падзякаваў за віншаванні і пачаў разразаць торт. Згодна з атраднай традыцыяй торт дзеліцца на 61 частку.

Хлопцы прынеслі гітары. Заспявалі. Віктар Васільевіч узяў гітару — ён добра спявае, прачула, душэўна. Дзяўчаты шэптам: «Віктар Васільевіч! «Белы туфлік». Плыве мелодыя, палоніць сэрцы. Хтосьці ўздыхнуў. Віктар Васільевіч папрасіў Іосіфа Левітана пачытаць вершы. Ён згаджаецца, толькі прапануе выключыць святло. Шчоўкнуў выключальнік. З дзвярэй на кухню падае паласа святла. Трашчаць дровы ў печы, сквірчыць вада на гарачай пліце. І словы. Словы, якія ідуць ад сэрца і праходзяць праз сэрцы...

Потым заспяваў Саша Брушкоў. Сваю каронную. Пра каханне. За ім Валодзя Матвеенка. У таго рамансы. Гітара пераходзіць з рук у рукі. Без апладысментаў. І ў гэтым ёсць добры сяброўскі такт.

Калі людзі збіраюцца разам, калі яны жывуць і працуюць разам, дзеляць нягоды і радасці, то вельмі ж важна, каб вось так блізка, душэўна яны адчулі адзін аднаго. Потым усё гэта, няхай няўлоўна, нават незаўважна, але скажацца, абавязкова скажацца на ўчынках, адносінах, узаемаразуменні.

...У той дзень усё было як звычайна. Нават лепш, чым звычайна. І дождж сціх, і туман рассеяўся. Сонейка час ад часу выглядвае з-за воблакаў. Выгляне, прыгрэе пяшчотна і схаваецца, потым зноў выгляне. Бухта іскрыцца, пераліваецца ў сонечных промнях. На душы сцішанасць. Мы капаем траншэю ля самай бухты. Дайшлі да таго месца, дзе яна крута падае ўніз. Тут адхон трэба зрэзаць і павесці плаўна траншэю ўніз. На адхоне грунт мяккі — скрозь пясок.

Ужо колькі часу заўзята выкідваем гэты пясок — раптам крык. Хваля пяску пакацілася ўніз. Той, хто быў вышэй, адбегся. А Валодзю Матвеенку ўсяго засыпала. Толькі галава відаць. Твар збялеў. Крычыць: «Ногі, ногі!» Кінуліся да яго. Ад нечаканасці, ад спалоху замітусіліся ўсе вакол — што рабіць? Валодзя Сакач першы даўмеўся — схапіў рыдлёўку і давай грэбці. Тады і ўсе пахапаліся за рыдлёўкі. Вось і ногі! Што з імі? Баліць. Але быццам небяспека мінула — ні пералому, ні вывіху.

Як усё гэта магло здарыцца? Пачалі ўспамінаць, абмяркоўваць. Не трэба быць інжынерам, каб зразумець, што калі пясок у нейкім адным месцы абсунуўся, то ён шусне адразу... Так і здарылася. Не падумалі пра гэта. Сказалася яшчэ і інерцыя. Дагэтуль ішоў участак са скалістым грунтам. Каменныя пласты шчапалі адбойнымі малаткамі.

...Дрыжаць натужна малаткі ў руках Сані Валуева і Сашы Жывуцкага. Працуюць яны ад аднаго кампрэсара. Часам сыходзяцца і двума малаткамі ўгрызаюцца ў камень.

Цяжэй стала, калі траншэя паглыбілася больш як на паўтара метра. Пыл вісіць воблакам. Няма чым дыхаць. Пот залівае твар.

Праз кожныя дзве гадзіны робім дзесяцімінутны перакур. Кампрэсар спыняецца. Усе вылазяць з траншэі і ўкладваюцца на драўляным памосце. Добра выцягнуць ногі, пакласці вольна рукі. Страшэнна баляць яны, асабліва ныюць плечы. Валодзя Сакач расказвае, што ўначы ён не чуе рукі. Возьме яе другою, перакладзе. Так і спіць. А ўдзень ныє. Але нічога. Працаваць усё роўна трэба.



Добра, калі дораць кветкі. Людачка Данілюк.



**У выхадны дзень у тайзе. Ала Турбан і Людміла Цімохіна.**

Валодзя Матвеенка таксама скардзіцца на руку. Саша Жывуцкі, наадварот, храбрыцца. Больш за ўсё падабаецца яму працаваць з адбойным малатком. Можа таму тут асабліва добра і працуецца. Саша просіць Валодзю Сакача спець. Усе, хто працуе з Валодзем, ведаюць, як любіць ён спяваць і як добра спявае. Вядома, што яго бацька і маці і наогул у сям'і ўсе спяваюць, вельмі любяць песню.

Саша Жывуцкі зноў:

— Валодзя, ну заспявай! Такое надвор'е..

— Ды не хочацца.

— Заспявай. Ну што табе!..

— Рука баліць...

— А ты не думай, што баліць. Вось жа працуеш. І не думаеш, што рука баліць.

І Валодзя ціхенька пачынае...

...Трымцяць, гудуць, бы рой раззлаваных пчол, адбіўныя малаткі. Угрызаюцца ў базальт, аж пыл ідзе. Рыдлёўкі — уверх, уніз. Глыбіня расце! Цяжка ўжо выкідваць. Пахаваліся ўсе ў траншэі — два метры.

Калі выберашся на паверхню — аж закружыцца галава. Колькі хвілін стаіш, абапёршыся на рыдлёўку, і глядзіш удалячыць на марскую прастору: вада і вада... То блакітна-свінцовая, то глыбока сталёвая — яе колер залежыць ад колеру неба. Ні канца вадзе, ні краю. Часам з'явіцца якое судна, паволі ўвойдзе ў бухту, паважна праплыве і адчаліцца ў порт...

Асабліва цікава глядзець, калі судна ідзе з порта, паволі-паволі, бы той лебедзь плыве, час ад часу глухавата гудзе, развітваецца. Звычайна ўсе праводзяць яго задуменнымі позіркамі. Хто-небудзь спытае:

— У Японію?

— А можа і далей.

— Бачыш, з лесам. Напэўна, у Японію.

Саня Валуеў запытаў:

— А вось калі туман густы, судны стаяць ці ідуць?

— Ідуць. Але ўвесь час сігналяць, папярэджваюць. Потым лакатары ж. Але ўсё роўна цяжка. Хуткасць падае. І вельмі асцярожна трэба весці, каб не сутыкнуцца з другім суднам...

Часам праплываюць лодкі з рыбакамі ці паруснік які... Але больш за ўсё праходзяць судны грузавыя, марксія працаўнікі.

### «БАЧУ САХАЛІН»

Кожнай раніцай на лінейцы зачытваецца нарад-накіраванне на работу. Прынцып для ўсіх адзін — куды пашлюць. Пасля таго, як выкапалі траншэю ля бухты, нас раскідалі. Хлопцаў — на чаканку, некалькі чалавек паслалі на бетанаванне рэзервуараў.

Калі мы ездзілі капаць траншэю на мыс, праязджалі гэтыя тры дзіўныя пабудовы недалёка ад дарогі. Усе пыталіся, што за будынкі. Рабочыя гаварылі, што тут будзе нафтабаза. А гэта — рэзервуары-прыёмнікі гаручага і мазуты для суднаў.

Мы лічым — нам пашанцавала, што трапілі сюды. Цікава папрацаваць, а не проста паглядзець здалёк, палюбавацца. Рэзервуары састаўлены з высокіх жалезабетонных пліт. Ідуць яны ўкругавую, адна за другой, але ўшчыльную не прылягаюць. Паміж імі пустая прастора, у адным выпадку шырэйшая, у другім вузейшая. Пліты адна з другой злучаюцца жалезнымі прэнтамі. Усё астатняе трэба запаўняць бетонам. Гэта і называецца бетанаваць стыкі.

Хлопцы размеркаваліся так. Барыс Макеўнін працуе ў пары з Іосіфам Левітанам, Юзік Янушэвіч — з Ігарам Атрышкай. Робіцца апалубка, дошкі моцна прыкручваюцца і закрываюць адтуліны паміж плітамі.

Падымальнікі, малы і высокі, падымаюць хлопцаў разам з бетонам і ўсімі неабходнымі прыладамі — яны і заліваюць у апалубку бетон. Марудна, калі стык шырокі і трэба многа бетону туды заліць, і вельмі ж няёмка, калі вузкі. Бетон падае, вібратар дрэнна праходзіць...

Дзень-два бетон застывае, потым дошкі адрываюцца, і стык як на далоні. Гэта самы напружаны момант. Якія атрымаліся тыя стыкі, ці не засталася дзе якая дзірка? Майстар Леанід Скоблін задаволены, хаця правярае ўважліва, прыдзірліва.

У работу ўжо ўцягнуліся. Час бяжыць хутка. Працуем без перадыху, без перакураў. Калі не здарыцца якая вымушаная затрымка: электраэнергію выключаць ці яшчэ што-небудзь... Тут ужо хочаш не хочаш — сядзі, куры.

Аднойчы ў час такой «вымушанай пасадкі» Юзік Янушэвіч па лесвіцы ўзабраўся на рэзервуар, і да нас данёсся яго працяглы, густы крык: «Гэ-эй-э-й! Бачу Сахалін!» Мы пахапаліся з месца ды таксама — на дах. Там, за марскім берагам, за бліскучай роўнядззю, дзе вада сходзіцца з гарызонтам, з марской пучыны выплылі тры сопкі, як конусы. І такія яны лёгкія і прыгожыя пад крыламі белых



**Канцэрт ванінцам.**

перыстых аблачын, і такія зіхатлівыя ў сіняватай смузе, што нашым вачам адкрылася сапраўдная казачная здань. Доўга ўглядаліся ўсе, прыкрыўшы далонямі вочы. Потым загаварылі: «Сахалін... Трэба ж... ! як гэта раней мы ніколі не бачылі?!»

Не бачылі раней?! На гэта няцяжка адказаць. Надвор'е ўвесь час стаяла дрэннае, неба пастаянна зацягнутае хмарамі, далягляд закрыты. А сённяшні дзень, як на дзіва,— ні хмар, ні туману. Сонца. Паветра празрыстае, сіняватае. І як завяршэнне, як вянок усёй прыгажосці — сахалінскія сопкі.

Па моры да Сахаліна цераз Татарскі праліў — 70 міляў. Параходам — ноч плывеш, а раніцой на месцы. Адным словам, як рукой падаць. Але пакуль што Сахалін для нас у марах.

Увечары колькі размоў было пра Сахалін! Тыя, хто пабачыў, расказвалі тым, хто быў у тайзе. Умомант Сахалін набыў зіхатлівы арэол, які прыцягваў, распальваў фантазію. Загаварылі сур'ёзна пра экскурсію на Сахалін, хоць кожны разумеў, што на гэта патрэбен час. А да ад'езду яго застаецца ўжо не так і многа.

Усе чакаюць лістоў. Як абедзенны перапынак, спяшаюцца на пошту. Адтуль ужо крочаць паволі і на хаду чытаюць пісьмы. Па выразе твару бачна, якое пісьмо — запаветнае, доўгачаканае, ці проста — у якім ёсць цікавыя навіны.

Юзік Янушэвіч часта гаварыў: «Ну, сёння я атрымаю сапраўднае пісьмо».

— А што значыць сапраўднае?

— Ну такое, якога я вельмі чакаю.

— А-а-а!..

Дзіўная рэч — пісьмы. Чаму іх так чакаюць у моры на караблях, у экспедыцыях, на станцыях і вось тут, у тайзе? Адным словам, усюды, дзе людзі далёка ад дому? І тут усім нам стала зразумела. Нельга вось так узяць і паехаць і каб усё тваё з табою паехала. Нешта ж вельмі важнае застаецца там, дзе ты жывеш, і клопаты, і сум па ім робіцца ўнутраным станам тваёй душы.

Калі ад'язджалі і аўтобус выходзіў за паваротку, усе былі нейкія сцішаныя. Кожны разумеў, што развітваецца з тым, што стала блізкім, дарагім. Развітальны позірк на інтэрнат, на марскі маяк, на вуліцы, якія бягуць да бухты, на судны ў бухце і на ўзгорак, за якім тайга з вадаводам і тая рэчка Чыставодная, якая ў хуткім часе аддасць сваю ваду трубам, і вада тая пабяжыць таежнай дарогай да порта і напоіць судны. І гэтыя бухты на ўзбярэжжы Ціхага акіяна. Бывайце! Бывайце!

Кажуць, гара з гарой не сыходзяцца, а чалавек... вяртаецца туды, дзе ён бываў, жыў, дзе пакінуў часцінку свайго сэрца і плён рук сваіх.

Фота **В. Старыкава** і **І. Лабчэўскага.**



**ВОБРАЗ У. І. ЛЕНІНА Ў БЕЛАРУСКІМ МАСТАЦТВЕ.**
**Зборнік артыкулаў.**
**Выдавецтва «Навука і тэхніка», Мінск, 1970.**

# НЕЎМІРУЧЫ ВОБРАЗ

У мастацтва нашых дзён ёсць невычэрпная тэма, да якой яно звяртаецца зноў і зноў,— гэта ленінская тэма. Звяртаючыся да вобраза Леніна, кожны народ як бы нанава асэнсоўвае сваю гісторыю, свой сённяшні дзень, імкнецца зазірнуць у дзень заўтрашні.

Беларуская Лeнініяна надзвычай багатая. Жывапіс, скульптура, тэатр, музыка — кожная з гэтых галін мастацтва мае свае здабыткі ў распрацоўцы ленінскай тэмы. Агледзець гэтыя здабыткі і паставілі сваёй мэтай аўтары зборніка «Вобраз У. І. Леніна ў беларускім мастацтве».

Аўтар артыкула пра беларускую тэатральную Ленініяну А. Сабалеўскі ва ўласцівай яму белетрыстычнай манеры аналізуе працэс стварэння інтэлектуальна-псіхалагічнага партрэта Леніна. Мы дазнаёмся пра розныя шляхі стварэння вобраза Ільіча ў П. Малчанава і Б. Платонава, А. Труса і Ф. Шмакава.

П. Малчанаў імкнуўся спалучыць дакладнасць вонкавых рысаў Ільіча з багаццем унутранага святла. Ленін у яго выкананні — высока эрудзіраваны філосаф і тэмпераментны публіцыст з велізарнай энергіяй дапытлівай, неспакойнай думкі.

Б. Платонаў найперш падкрэсліваў хвалюючую чалавечнасць, глыбокую сардэчнасць Леніна, яго выключную чуласць да людзей, разуменне іх радасцяў і трывог. Хоць партрэтнае падабенства ў Платонава вельмі прыблізнае, вобраз, створаны ім,— паэтычны, натхнёны, эмацыянальны.

Крытык параўноўвае вобраз, створаны Б. Платонавым, з працай артыста МХАТа Б. Смірнова над роляй Леніна і паказвае агульнае і рознае ў іх сцэнічных партрэтах правадыра. З гэтай нагоды часопіс «Театр» (№ 4, 1960) пісаў: «Самастойнасць мастацкага падыходу, памножаная на талент, майстэрства і на жывое адчуванне сённяшняй рэчаіснасці, падымае работу Платонава да вышыні лепшых дасягненняў савецкай акцёрскай Ленініяны».

Цеплыню ленінскага сэрца, яго дабрату да людзей і нянавісць да ворагаў данёс да гледача А. Трус у спектаклях «Вечная крыніца» Д. Зорына і «Святло з Усходу» П. Глебкі (тэатр імя Якуба Коласа).

А. Сабалеўскі ўважліва разглядае ўдалыя творчыя пошукі Ф. Шмакава ў вобразе Уладзіміра Ільіча, асабліва ў спектаклі «Шостае ліпеня» па п'есе М. Шатрова, і спыняецца на тых рысах Леніна, якія яшчэ не знайшлі сцэнічнага ўвасаблення. Шкада, што крытык нічога не сказаў пра таленавітае выкананне ролі Леніна Д. Арловым у рускім тэатры БССР, С. Бульчыкам у Магілёўскім драматычным тэатры,— гэтыя артысты ўнеслі свой каштоўны ўклад у беларускую Ленініяну. Не зусім ясна даведзена думка пра нацыянальныя нюансы, якія былі ўнесены акцёрамі ў вобраз.

Б. Смольскі ў артыкуле «Народ пяе пра Леніна» дае шырокую інфармацыю пра напісанае прафесійнымі і самадзейнымі кампазітарамі, пра іх уклад у Ленініяну. Станоўча ацэньвае музыказнаўца кантату М. Аладава «Сціплы і просты», яе публіцыстычны запал, гераіка-драматычны змест. У творы выкарыстаны рэалістычныя традыцыі нашай вакальна-сімфанічнай музыкі і масавага рэвалюцыйнага меласу. М. Аладаў напісаў таксама кантату «Сорак гадоў» і сімфанічную паэму «Мацней за смерць».

Над старонкамі музычнай Ленініяны працавалі Я. Цікоцкі, М. Чуркін, Ю. Семяняка, У. Кузняцоў, І. Лучанок, Л. Абеліёвіч. Яркія песні належаць У. Алоўнікаву («Песня аб партыі»), Д. Смольскаму («Лічыце мяне камуністам» і «Абелліскі»), М. Шнэйдэрману («Партыі слава ў вяках»).

Вобразу Ільіча ў выяўленчым мастацтве прысвечаны артыкулы Л. Дробава «Жывапісныя палотны пра Леніна», І. Ялатамцавай «З бронзы, мармуру і граніту», В. Шматава «Моваю графікі», М. Кацара «У. І. Ленін у творчасці народных умельцаў».

Адзін з найбольш значных кампазіцыйных партрэтаў Леніна, адзначае Л. Дробаў, належыць натхненню і пэндзлю народнага мастака БССР В. Волкава. У партрэце мы адчуваем інтэлект і глыбіню думкі правадыра.

З вядомым малюнкам Я. Кібрыка пераклікаецца манументальнае палатно А. Шыбнёва «Ёсць такая партыя». Творча, па-свойму асэнсаваў вобраз Леніна К. Касмачоў у серыі карцін на ленінскую тэму.

Заслугоўваюць увагі пошукі ўвасаблення вобраза правадыра ў творах Я. Харытоненкі, А. Гугеля, І. Давідовіча, Р. Кудрэвіч, А. Заборава. І ўсё ж, зазначае даследчык, жывапісцы яшчэ не здолелі ўзняцца да значных мастацкіх абагульненняў.

Большыя поспехі мае беларуская скульптура. Некаторыя творы З. Азгура («Ленін з дзяўчынкай»), А. Бембеля («У. І. Ленін»), А. Глебава («Сустрэча У. І. Леніна на Фінляндскім вакзале»), трохфігурная кампазіцыя В. Папсуева («У. І. Ленін у кастрычніку»), помнік Леніну А. Анікейчыка і іншыя творы — глыбокія па змесце і пластычна дасканалыя.

У артыкуле В. Шматава «Моваю графікі» ёсць цікавыя ўспаміны пра творы П. М. Лепяшынскага на ленінскую тэму. Лепяшынскі, гаворыць крытык, многа разоў маляваў Леніна. Часцей за ўсё гэта былі цёплыя і добразычлівыя сяброўскія шаржы, у якіх Уладзімір Ільіч паказаны сярод сваіх таварышаў і саратнікаў па барацьбе. Асабліва запамінаецца акварэльны партрэт Леніна, створаны старым бальшавіком.

Нямала цікавага знойдзе чытач у нарысе М. Кацара аб працы самадзейных мастакоў над вобразам Леніна, ва ўступным артыкуле акадэміка Пятра Глебкі.

Чаго нестае гэтай увогуле добрай кнізе?

Ёй нестае (у меншай ступені гэта датычыцца нарыса А. Сабалеўскага) глыбокіх тэарэтычных абагульненняў, грунтоўнага аналізу праблем, якія паўстаюць сёння перад стваральнікамі Ленініяны. Некаторыя артыкулы больш нагадваюць рэцэнзіі-агляды, чым дасканалыя даследаванні стылю, почырку, індывідуальнай манеры таго ці іншага мастака.

Мы ведаем, што З. Азгур і А. Бембель, В. Волкаў і К. Касмачоў, М. Аладаў і Я. Цікоцкі — таленавітыя майстры. А ў чым прынцыповыя адрозненні кожнага з іх — гэта ў зборніку асветлена недастаткова. Абавязак крытыкі не толькі сказаць пра дасягнутае, але і нацэліць творцаў на тое, чаго ім яшчэ трэба дамагчыся.

**Міхась МОДЭЛЬ.**




**П. І. ТКАЧОЎ. ВЕЧНЫ БОЙ.**
**На рускай мове.**
**Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна, Мінск, 1970.**

# КНІГА ПРА САТЫРЫКА-ПАМФЛЕТЫСТА

24 кастрычніка 1949 года трагічна абарвалася жыццё ўкраінскага савецкага пісьменніка Ярослава Галана — ён загінуў ад рукі ватыканскага агента.

Чаму была такой страшнай для Ватыкана творчасць савецкага пісьменніка? Адказу на гэтае пытанне прысвечана кніга П. Ткачова «Вечный бой».

Яраслаў Галан — відны ўкраінскі драматург і празаік. Сёння ён найбольш вядомы як буйнейшы савецкі публіцыст, аўтар вострасатырычных памфлетаў, накіраваных супраць рэакцыі ва ўсіх яе самых агідных праявах — такіх, як фашызм, нацыяналізм, рэлігійнае цемрашальства.

У сваім даследаванні П. Ткачоў дэталёва разглядае і ацэньвае грамадскае значэнне памфлетнай спадчыны пісьменніка, паказвае, як, ідучы ўслед за горкаўскай публіцыстычнай традыцыяй, Яраслаў Галан стварыў неўміручыя ўзоры савецкай палітычнай сатыры.

Літаратурная і публіцыстычная дзейнасць Яраслава Галана пачалася ў сярэдзіне 20-х гадоў, у перыяд жорсткіх класавых баёў паміж пралетарыятам і буржуазіяй у краінах Заходняй Еўропы. Першыя яго творы — сатырычна завостраныя камедыі, але ў хуткім часе пісьменнік-камуніст у сваёй літаратурнай працы галоўную ўвагу пачынае аддаваць аднаму з самых вострых і баявых жанраў публіцыстыкі — памфлету.

Яраслаў Галан быў папулярным пралетарскім пісьменнікам Заходняй Украіны. У верасні 1939 года разам з іншымі прагрэсіўнымі літаратарамі вызваленай зямлі ён увайшоў у сям'ю савецкіх пісьменнікаў. Даследчык раскрывае дзейнасць Яраслава Галана, расказвае пра тое, як таленавіты сатырык у гады Вялікай Айчыннай вайны выступаў з палымяным і вострым сатырычным словам па радыё, выкрываў звярыную сутнасць фашызму, заклікаў народ да барацьбы супраць чалавеканенавісцікаў. Паслядоўна разглядзеўшы творы, змешчаныя ў кнізе «Фронт у эфіры» (1943), П. Ткачоў прыходзіць да вываду, што Яраслаў Галан выдатна разумеў, што фашызм і нямецкі *народ* — *зусім розныя паняцці*, і бязлітасна выкрываў звярынае аблічча фашысцкага «новага парадку». Важнае месца ў творчай спадчыне Яраслава Галана,— зазначае крытык,— займае нюрнбергскі цыкл памфлетаў (кніга «Іх аблічча», 1948 г.), створаных пісьменнікам у часе судовага працэсу над фашысцкімі завадатарамі; на гэтым працэсе Яраслаў Галан прысутнічаў у якасці прадстаўніка ўкраінскага савецкага друку.

Творы пісьменніка, накіраваныя супраць Ватыкана, даследчык падзяляе на антыўніяцкія і антыпапскія. Яраслаў Галан выкрывае ўніяцкую царкву, якая *заўсёды была носьбітам самай крайняй* рэакцыі. Яе «галава» ў Заходняй Украіне мітрапаліт А. Шаптыцкі ўсё жыццё выношваў авантурыстычную мару — з дапамогай нямецкіх фашыстаў пашырыць уплыў Ватыкана на ўвесь Савецкі Саюз і стаць патрыярхам так званай «грэка-каталіцкай» царквы.

Выключнай выкрывальнай сілай вызначаюцца і *антыпапскія памфлеты* Яраслава Галана.

Даследчык падкрэслівае, што памфлеты Яраслава Галана з'яўляюцца выдатным узорам партыйнай публіцыстыкі, дзе высокую ідэйнасць нельга аддзяліць ад вялікага мастацкага майстэрства. Большасць з іх «можна без перабольшвання назваць шэдэўрамі сусветнай антыклерыкальнай літаратуры». З гэтым вывадам нельга не пагадзіцца.

Важнейшую частку творчай спадчыны Я. Галана складаюць памфлеты, накіраваныя супраць нацыяналізму, і ў першую чаргу ўкраінскага. Шэраг сваіх твораў палымяны інтэрнацыяналіст-ленінец прысвячае выкрыццю «бацькі» ўкраінскага нацыяналізму рэакцыйнага гісторыка М. Грушэўскага і яго антынароднай праграмы, якая зводзілася да аддзялення Украіны ад Расіі, адмаўлення брацкага адзінства рускага, украінскага і беларускага народаў. Яраслаў Галан выкрывае сувязь верхаводаў нацыяналізму з самай чорнай рэакцыяй, з фашыстамі і іх нашчадкамі пасля перамогі савецкага народа ў Айчыннай вайне. І сёння памфлеты Я. Галана з'яўляюцца найвастрэйшай зброяй у непрымірымай ідэалагічнай барацьбе савецкага народа супраць украінскага нацыяналізму і яго ахвосця, якое знайшло прытулак у *капіталістычных краінах Еўропы і за акіянам*.

П. Ткачоў здолеў на канкрэтным матэрыяле спадчыны пісьменніка-байца (той, якая апублікавана, і той, якая па розных прычынах у свой час не пабачыла свету і захоўваецца ў архівах) прасачыць гісторыю станаўлення жанру памфлета ў творчасці Я. Галана, пераканаўча паказаць палітычную дзейнасць яго сатыры, яе сувязь з выдатнымі горкаўскімі традыцыямі ў публіцыстыцы. З даследавання яскрава відаць, што многае ў літаратурнай спадчыне Я. Галана, асабліва ў яго памфлетах, і цяпер, больш як праз дваццаць гадоў пасля трагічнай смерці пісьменніка, можа быць выкарыстана *ў якасці вострай зброі* савецкай публіцыстыкі ў выкрыцці сучасных носьбітаў імперыялістычнай рэакцыі і іх ідэйнай дыверсіі супраць Краіны Саветаў.

**Леанід ЦАРАНКОЎ.**

# коратка пра рознае

*сур'ёзнае і кур'ёзнае*

## ВАДАРОДНЫ «ДАМКРАТ»

**Венгерскія спецыялісты распрацавалі новы спосаб пад'ёму суднаў з дна мора.**

**Пад корпус карабля падводзяцца пантоны, напоўненыя вадою. Рэзервуары маюць апараты, якія раскладаюць ваду на вадарод і кісларод. Па меры накаплення вадарод, які ў 14,5 раза лягчэйшы за ваду, выціскае яе з рэзервуара, пантоны паступова падымаюцца на паверхню і разам з сабою падымаюць карабель.**

**Кісларод, які атрымліваецца пры раскладанні вады, збіраюць і скарыстоўваюць для розных тэхнічных патрэб.**

**Вадародны «дамкрат» быў выпрабаваны на мадэлі. Ён падняў яе за восем мінут.**





## САПЕРНІК ДРЭВА

**На мэблевых фабрыках Грузіі з'явіўся новы матэрыял, які паспяхова сапернічае з любым дрэвам. Яго атрымліваюць з лушпін сланечніка.**

**Лушпіны змешваюць з сінтэтычнай смалою і прасуюць у формах пад невялікім ціскам. Атрымліваюцца трывалыя пліты, якія не гараць, не псуюцца ад вільгаці, не гніюць у вадзе. Іх не трэба ні шліфаваць, ні паліраваць. З іх робяць трэльяжы, столікі, паліцы і стэлажы для кніг.**

## З АДХОДАЎ ДРАЎНІНЫ

**На гідролізных заводах з адходаў драўніны атрымліваюць, апрача спірту, каштоўныя прадукты: вадкую вуглекіслату, фурфурол, кармавыя дрожджы, лігнін.**

**Цвёрдая вуглекіслата пад назвай «сухі лёд» ужываецца для вырабу марожанага, пры перавозках прадуктаў у вагонах-халадзільніках і суднах-рэфрыжэратарах.**

**Фурфурол — масляністая вадкасць з пахам печанага хлеба — ужываецца ў нафтавай прамысловасці для ачысткі змазачных масла́ў, у харчовай — для ачысткі тлушчаў. Фурфурол патрэбен таксама і для вырабу нейлонавых блузак, прэпаратаў для знішчэння шкоднікаў раслін і пры вырабе многіх каштоўных лекаў для барацьбы з дызентэрыяй і іншымі інфекцыйнымі захворваннямі.**

***Калі вы абпечаце сабе палец ці парэжаце руку, успомніце пра фурфурол: фурацэлінавыя мазі, прыгатаваныя на аснове фурфуролу, хутка зажыўляюць раны і апёкі.***

**Ужываецца фурфурол і ў сельскай гаспадарцы для пратручвання насення цукровых буракоў і збожжа.**



## НОВЫЯ БАТАРЭЙКІ

Нядаўна ў Эйндховене (Галандыя) створана «папяровая» электрычная батарэйка. Запас энергіі яе ў пяць разоў большы, чым у звычайнай батарэйцы з сухіх гальванічных элементаў. Аснова батарэйкі — сухі аркуш паперы, насычаны сумессю персульфату калію з парашкападобным вугалем.



За рубяжом з'явіліся і невялікія атамныя батарэйкі для жыўлення невялікіх радыёпрыёмнікаў. Сэрца батарэйкі — маленькі крышталік паўправадніка, германію ці крэмнію, на паверхню якога нанесена тонкая плеўка радыеактыўнага рэчыва. Такой батарэйкай можна карыстацца дзесяткі гадоў.

## ПІЛУЕ... ВАДА



Калі распілоўваюць бярвенні на дошкі, амаль адна дзесятая драўніны ідзе ў пілавінне.

Савецкія вучоныя распрацавалі такі спосаб апрацоўкі дрэва, які не дае адходаў. Вострыя, крывыя, бы турэцкая шабля, нажы ўразаюцца ў драўніну. Электрычны ток прымушае іх вібрываць некалькі тысяч разоў у секунду. Такі нож парушае сувязь паміж клеткамі драўніны, і дошкі атрымліваюцца гладкія, як паліраванае шкло, габляваць іх не трэба. Звычайная піла праразае ў дрэве шчыліну, а вібрыруючы нож толькі рассоўвае валокны. Таму і няма пілавіння.

З дапамогаю такіх нажоў можна выразаць фігурныя дэталі, рабіць адтуліны любой формы і нават паліраваць паверхню дошак да люстранога бляску.

Распілоўваць бярвенні і рэзаць драўніну можна без пілы і нажа. Гэта зробіць струмень вады, сціснутай у некалькі тысяч атмасфер. У Мічыганскім універсітэце (ЗША) выпрабоўвалася такая ўстаноўка. З сапла дыяметрам да 0,25 мм выкідаўся струмень вады, сціснуты ціскам да 3.500 атмасфер з хуткасцю 915 метраў у секунду. Струмень імгненна распілоўваў драўляныя брускі таўшчынёю ў пяць сантыметраў. Ніякага пілавіння не было.

Канструктары гэтай устаноўкі лічаць, што калі павялічыць дыяметр сапла да аднаго міліметра, нават пад ціскам у 2.100 атмасфер можна распілаваць дрэва таўшчынёю ў сорак сантыметраў.

Аднак прыярытэт у выкарыстанні вады для апрацоўкі і распілоўвання драўніны належыць савецкім вучоным. Яшчэ некалькі гадоў таму назад навуковыя супрацоўнікі Цэнтральнага навукова-даследчага інстытута механічнай апрацоўкі дрэва і Інстытут фізікі высокіх ціскаў Акадэміі навук СССР зрабілі пасляховыя выпрабаванні па распілоўцы драўніны з дапамогай вадзянога струменя.

## ПРАМЕНЬ АЧЫШЧАЕ ВАДУ

Каб пазбавіць сцёкавыя воды ад шкодных соляў, кіслот, шчолачаў, трэба мець дарагія рэактывы, будаваць спецыяльныя збудаванні. Выдаткі значна паменшацца, калі выкарыстаць для ачысткі сцёкавых вод лазер. Светлавыя прамені, якія валодаюць вялікай энергіяй, пры абпраменьванні сцёкавай вады раздрабняюць малекулы лігніну на невялікія «блокі». Абпрамененую ваду накіроўваюць на ўстаноўку, дзе яна з дапамогаю мікраарганізмаў ператвараецца ў бялковую масу — каштоўны корм для жывёлы. Адна тона бялковай масы па спажыўнасці роўная двум тонам аўса, пяці тонам сена ці пяцідзесяці тонам саломы.








**Іван МОЗЕР,**
**майстар спорту,**
**старшы трэнер каманды**

# «ДЫНАМА-71»

Летась запар дваццаць дзён спартыўны свет жыў адной загадкай — хто самы моцны ў футболе? Бразільцы, зламаўшы абарону англічан, уругвайцаў, перуанцаў і італьянцаў, сказалі: мы! Перамог тэхнічны, імправізаваны футбол. Бразільцаў дома прынялі, як герояў, другім зрабілі менш пышныя ўрачыстасці, трэціх — абсвісталі. Як гаворыцца, кожнаму сваё.

Савецкія балельшчыкі былі расчараваны ігрой нашай зборнай. А тым часам у чэмпіянаце СССР складвалася некалькі цікавых сітуацый. Калі ў першай палавіне першынства яшчэ па інерцыі лідзіравалі лаўрэаты 1969 года — спартакаўцы і кіяўляне, то ў другім крузе ім на змену прыйшлі маскоўскія дынамаўцы, якія разам «прыхапілі» і Кубак СССР. А потым рушылі па золата армейцы. Патрэбен быў дадатковы матч. І ён адбыўся. Цягнуўся гэты паядынак незвычайна доўга — 210 мінут. Спачатку здавалася, што дынамічная, камбінацыйная гульня «Дынама» апярэдзіць некалькі цяжкаваговы, малаэфектыўны, але настойлівы націск армейцаў. Фізічнай магутнасці, а галоўнае — жадання ў футбалістаў ЦСКА было крыху больш, і яны, абдымаючыся, пераможцамі пакідалі ташкенцкі стадыён. Дынамаўцы крочылі, апусціўшы галовы. Відавочна, серабро іх не задаволіла. Так закончыўся XXXII чэмпіянат краіны па футболе, чэмпіянат, які прынёс шмат роздуму, удач і расчараванняў.

Мяркуючы па колькасці ачкоў, набраных мінскімі дынамаўцамі (32 з 64), горыч і радасць іх прыхільнікаў аказаліся роўнымі. Праўда, у канцы сезона футбалісты больш прыносілі радасцяў, а разам з імі і ўсё большыя надзеі на прыемнае будучае. З гэтымі надзеямі і пайшлі на «зімовы адпачынак» прыхільнікі беларускага футбола.

Яшчэ раз вернемся да мінулагодняга чэмпіяната.

Многім балельшчыкам словы «мінскае «Дынама» яшчэ і цяпер нагадваюць хуткі дынамічны футбол. Сем гадоў каманду ведалі іменна такой.

Але ўжо ў мінулым сезоне малюнак дынамаўскай гульні змяніўся. Чаму? Гэтае пытанне мне цяпер даводзіцца чуць даволі часта. Так, калісьці наша каманда імкнулася гуляць на высокіх, нават гранічных хуткасцях. Дынамаўцы праводзілі абодва таймы ў максімальна высокім тэмпе. Мінчане пераўзыходзілі многіх сваіх сапернікаў у скарасной вынослівасці, і нярэдка больш класныя каманды трацілі сваю перавагу ў тэхніцы. Адсюль быў поспех. Цяпер мы не можам іграць у «той» футбол. Адна з прычын — адсутнасць у камандзе патрэбных для такой гульні выканаўцаў. І час цяпер іншы. Весці такую гульню, як «хто каго перабегае», цяпер мы не можам. І нават не маем права. Ва ўсялякай справе павінен быць рост, прагрэс. У футболе таксама. А дзеля гэтага неабходна творчасць. Вось наша галоўнае футбольнае крэда. Хачу гэта растлумачыць. На мой погляд, творчы футбол пачынаецца ў тылах каманды. Мы, трэнеры, катэгарычна патрабуем ад абаронцаў адмовы ад адбойнай гульні. Адбор мяча ў саперніка важны не толькі як спыненне яго атакі, але і як зыходны пункт для контратакі. А вось якой яна павінна быць — вострай і хуткай або крыху зацягненай, але правільна падрыхтаванай,— залежыць ад абаронцаў. Цяпер нашы абаронцы імкнуцца гуляць у пас як мага дакладней. Праўда, з гэтай прычыны яны ператрымліваюць мяч на сваёй палавіне поля, але затое, калі мяч трапляе ў лінію паўабароны, патрэбна востра працягваць атаку. Маючы такіх



А. Дзенісенка ставіць задачу футбалістам

тэхнічных і таленавітых ігракоў сярэдняй лініі, як Курнеў і Сахараў, мы стараемся заблытаць абарону саперніка, а затым дыяганальнымі або прадольнымі перадачамі вывесці на ўдарную пазіцыю нашых нападаючых.

У гэтай завяршальнай стадыі скорасць гранічна ўзрастае. Інакш абаронцы-супернікі не дадуць зрабіць галоўнага — нанесці ўдар па варотах. Такія былі канцэпцыі новай гульні «Дынама». Але вядома, што ўсё новае даецца нялёгка. Былі і няўдачы ў нас. На старце чэмпіяната адбілася нязладжанасць звенняў. (Амаль на 40 працэнтаў састаў каманды абнавіўся). Пошук аптымальнага варыянта «адзінаццаці» (у першым крузе за каманду выступала 20 футбалістаў). Усё гэта і адбілася на выніках. Праўда, да канца першага круга састаў крыху стабілізаваўся, гульня стала часцей адпавядаць задуме. У другім крузе «Дынама» выступіла больш роўна. Футбалісты пачалі дзейнічаць больш самастойна, умацаваліся ўзаемасувязі ігракоў у лініях, добра наладзілася падстрахоўка. Каманда навучылася доўга валодаць мячом, што стварала добрыя перадумовы для нечаканых атак, а таксама для змены іх напрамкаў. Упэўнена пачалі гуляць маладыя футбалісты. Спакойна дзейнічалі варатар і абарона. Тады больш упэўнена адчулі сябе нападаючыя, дзе зноў праявіў сваё майстэрства Эдуард Малафееў. Паказаў добрую гульню Анатоль Васільеў — лепшы снайпер каманды.

Калі прааналізаваць наша выступленне па турах, то атрымаецца наступная карціна: першыя шэсць матчаў — 2 ачкі; наступныя туры (па шэсць матчаў): у другім — 6 ачкоў, у трэцім — 8, у чацвёртым — 7, у пятым — 7 і наступныя дзве гульні — 2 ачкі. З гэтага бачна, што за выключэннем старту, «Дынама» затым выступала адносна стабільна, набіраючы 50 і больш працэнтаў ачкоў. Праўда, ёсць яшчэ адно але... У гасцях мінчане адчуваюць сябе не так упэўнена, як дома. Гэта тлумачыцца ў першую чаргу маладосцю большасці ігракоў, а дакладней — адсутнасцю вопыту. Пра тое, што мы згуляць у гасцях можам лепш, гавораць нашы выступленні ў Маскве. З васьмі ачкоў дынамаўцы атрымалі там пяць. Такога плёну не дамаглася ні адна другая каманда вышэйшай лігі.

Сучасны футбол. На старонках газет і часопісаў сёння спрачаюцца на гэтую тэму журналісты і трэнеры, балельшчыкі і футбалісты. Думкі тут самыя розныя, але ўсе згодны ў адным — сучасны футбол стаў больш інтэнсіўным. Раней спецыялісты падлічвалі, што нападаючыя ў матчы прабягалі адлегласць амаль у два разы большую за абаронцаў. Вялікую нагрузку неслі паўабаронцы. Цяпер не той час. Сталі прывычнымі рэйды абаронцаў на варатарскую пляцоўку саперніка, а нападаючыя нярэдка вяртаюцца на сваю штрафную, каб узяць мяч і пачаць атаку. У апошні час мы бачым па 8—9 футбалістаў у атацы і столькі ж у абароне. Добра гэта ці дрэнна? Давайце разбярэмся. Нагрузкі ў матчах цяпер значна ўзраслі. Вялікае скапленне футбалістаў на асобных участках поля патрабуе ад іграка няспыннага ўдасканалення майстэрства. Футбол робіцца больш тэхнічным. Праўда, быць футбалістам-універсалам дадзена не ўсім. Але дзесьці развіваць увесь час свае лепшыя якасці — гэта абавязак кожнага.

На чэмпіянаце свету ў Мехіка мне запомніўся «аднаногі» бразілец Рывеліна. Сваімі ўдарамі левай ён нагнаў страху на варатароў. Яўную перавагу левай назе аддавалі Герсон і Чарльтон. У зборнай СССР іграе «ляўша» Папаеў. Я ўсё гэта гавару для таго, што, калі ўдаецца той або іншы прыём, гэта добра. Але калі сапернік разгадвае яго тут жа — відавочна, балельшчык робіць папрок: аднастайнасць. І ўсё ж часцей добры тэхнічны прыём садзейнічае поспеху. Трэба толькі ўдасканаленне яго даводзіць да аўтаматызму. Я за гэты шлях. Калісьці адзін ігрок сказаў: «Лепш буду я дасканала валодаць адной левай, чым пасрэдна абедзвюма».

Некалькі слоў пра каманду. На старце мінулага сезона няроўна выступілі нашы варатары, але затым усё больш упэўнена пачаў абараняць вароты Міша Скокаў. У другім крузе мы ўжо былі спакойныя за нашага варатара. У мінулым годзе амаль поўнасцю змянілася наша абарона. З былой гвардыі застаўся адзін толькі Жэня Кузняцоў, Грэбнеў, Гірко, Шпілеўскі і Сямёнаў — імёны ў футболе не новыя, але гуляць яны пачалі ў асноўным саставе толькі ў мінулым годзе. У нас добра быў прыжыўся Аляксандр Грэбнеў (раней ён гуляў у маскоўскім «Спартаку»). Ён шмат зрабіў для каманды. Бясспрэчна, гэта здольны абаронца, і нам з некаторым жалем давялося з ім развітацца. У гэтым сезоне Грэбнеў будзе выступаць за маскоўскае «Дынама». Праўда, яму на змену з яраслаўскага «Шынніка» да нас прыйшоў Мікалай Смірноў. Яшчэ больш трывалую гульню павінны паказаць Гірко, Шпілеўскі і наш Валеры Сямёнаў — вельмі ўчэпісты і надзейны абаронца.

У сярэдзіне поля засталіся знаёмыя вам футбалісты — Сахараў, Курнеў, Талейка, Варонін. Праўда, тут ёсць у нас і страты. Пайшоў у ленінградскі «Зеніт» Міхаіл Фокін. Але добрую гульню дэманструюць дублёры Гурыновіч і Гуржэеў. Думаю, што хтосьці з іх ужо заявіць пра сябе ў гэтым сезоне. Калі браць паасобку кожнага з паўабаронцаў, то тут вылучаецца Уладзімір Сахараў. Мінулы сезон у яго пачаўся няўдала, але да сярэдзіны сезона Сахараў дасягнуў добрай формы і быў, бясспрэчна, адным з лепшых у камандзе. Яму мы абавязаны многімі нашымі перамогамі.

У лініі атакі вылучаецца Анатоль Васільеў. Сезон 1970 года быў для яго найбольш удалым. Другую палавіну чэмпіяната бліскуча правёў Эдуард Малафееў. На месцы правага крайняга ў нас выступалі Адамаў, Прыбылоў і Волах. Апошні значна ўзмацніў лінію атакі. Волаху доўга перашкаджалі траўмы, але яго вяртанне на поле надало камандзе больш дынамічнасці.

У мінулым годзе мінчане перажылі як бы другое нараджэнне. Амаладжэнне каманды, добрая гульня пад заслону чэмпіяната. Балельшчыкам яна надала пэўныя надзеі, але я разумею, што радавацца поспехам пакуль рана. Да канца мінулага сезона, на мой погляд, былі акрэслены толькі новыя контуры каманды. Іх удасканальванне — асноўная наша задача ў новым сезоне. Гэта якраз па нашай сіле. Касцяк жа каманды захаваўся. Значыць, усё рабятам знаёмае. Мы пастараемся яшчэ больш удасканальваць нашы моцныя бакі, праўда, не забываючы пры гэтым «падцягваць» і нашы слабыя месцы.



«Дынама» на трэніроўцы... і баскетбол.

Сучасны футбол, як паказаў чэмпіянат свету, патрабуе складанай гармоніі: спалучэння яркіх індывідуальнасцяў з прадуманай калектыўнай гульнёй, імправізацыі і ініцыятывы футбаліста побач з дакладным ажыццяўленнем тактычнага плана, шырокага ўніверсалізму з майстэрскім выкананнем сваіх абавязкаў у рамках ігравога амплуа, сілы і атлетызму з бездакорнай тэхнікай. Такое наша крэда, новае крэда «Дынама». Мы ўжо маем пэўны плён. І аб гэтым гаворыць той факт, што вялікая група беларускіх футбалістаў уваходзіць у зборныя СССР: Матвяйчук і Гурыновіч — у юнацкую; Курнеў, Сахараў, Гуржэеў і Сямёнаў — у маладзёжную; Сахараў і Васільеў — у алімпійскую. Гэта, бадай, лепшая атэстацыя беларускага футбола.

У красавіку — старт XXXIII чэмпіяната СССР. Спадзяёмся, што беларускія майстры скуранога мяча скажуць сваё важкае слова на футбольных палях краіны.

# ПЕРШАЯ ГУТАРКА З БОГАМ

● Надар ДУМБАДЗЕ

Спачатку я пачуў страшэнны грукат, потым — міліцэйскі свісток і, нарэшце, нечы крык: «Аух! Вось гэта дык аварыя!» І ўсё. Калі мяне палажылі на аперацыйны стол, я ўжо меў непасрэдную сувязь з богам.

«Той свет» амаль нічым не адрозніваўся ад гэтага. Хіба толькі тым, што транспарту там ніякага няма, калі не лічыць адзіны экіпаж, у якім днём і ноччу раскатваецца Ілья-прарок і нікога да сябе не бярэ.

— Садзіся! — сказаў мне бог.

Я сеў і глыбока ўздыхнуў.



— Ну як прыняць такую душу, га! Чуеш, як ад яго нясе «Зуброўкай»! — абярнуўся бог да анёла няпэўнага ўзросту і з прыемным тварам. Потым узяўся за анкету:

— Прозвішча!

— Думбава.

— Імя!

— Джвебе.

— Пол!

Я ўсміхнуўся.

— Зімі з яго штаны! — павярнуўся бог да анёла.

— Мужчына, батона,— спалохаўся я.

— Чорт вас разбярэ. Адзін мяне ўжо надуў. Знімай з яго штаны, кажу! — раззлаваўся бог на анёла.

— Пабойся бога! — завішчаў я,— я сам зніму.

«Пол: мужчынскі»,— счакаўшы хвіліну, напісаў у адпаведнай графе бог.

— Нацыянальнасць!

— Грузін.

Бог падняў галаву і пільна глянуў на мяне.

— Нешта не падобны,— нарэшце сказаў ён.

— А што я магу зрабіць! — збедніўся я.

— За граніцай быў!

— А як жа.

— Дзе!

— Амаль усюды.

— Якія мовы ведаеш!

— Ніякіх, батона!

— Няшчасныя твае бацькі!.. Але дзе я бачыў гэтага чалавека!..— павярнуўся бог да анёла, які ў гэты час вывучаў нечую анкету.

— Нябесны ойча, гэта той самы, каму зрабілі аперацыю сляпой кішкі і забыліся ў жываце нажніцы,— адказаў анёл, нават не глянуўшы на мяне.

— А-а, дык гэта ты адной нагой ужо ў нас быў! — пазнаў мяне бог і ветліва ўсміхнуўся.

— Ваша праўда, батона, гэта я,— крыва ўхмыльнуўся я, але бог раптам нахмурыў бровы.

— Многа п'еш і хутка ходзіш, грамадзянін.

— На футбольны матч спазняўся!

— Ух, што ты гаворыш!! Не мог адразу сказаць, дзівак! Прымусіў мяне дарма мянціць языком,— стукнуў сябе па лбе бог. Вочы ў яго заблішчэлі, і ён падсунуўся разам з крэслам бліжэй да мяне.

— Ну, раскажы, дружа, што робіць «Дынама»! Зусім не сачу апошні час. Сапсаваў мне тэлевізар гэты дэгенерат, на дзвесце дваццаць уключыў,— скоса глянуў бог на збянтэжанага анёла.

— Наша «Дынама», ойча нябесны...

— Кінь, прашу цябе, гэтую афіцыйнасць: называй мяне проста Георгіем,— бог далікатна пагладзіў мяне па плячы.

— Наша «Дынама», дарагі Георгі, сёлета ў добрай форме, так што можа першае месца адхопім...

— Эх, прашляпілі вы, а то і летась маглі б заняць першае месца!

— Сам ты вінаваты, якраз у апошнія хвіліны пакінуў нас.

— Я ж не быў на тым матчы,— бог апусціў вочы.

— Відаць, не быў, бо мы ледзь не прайгралі. Дай бог здароўя бацькам Катрыкадзе, ён вырataваў нас.

— Што ты кажаш!! — закалаціўся нябесны ойча.

— Дальбог!





— Я сам вінаваты. І трэба ж было зрабіць круглы мячык,— ціха прамармытаў бог.

— Падумаеш! Нібы толькі адзін мячык ты стварыў не так як трэба.

Бог зірнуў на мяне ўмольна: не злуй, маўляў, на мяне пры маім памочніку і не гавары са мной на «ты», а то ён мне зусім на галаву сядзе.

Я зараз жа перайшоў на вы.

— А як жывуць мае дарагія хлопцы!—спытаўся бог.

— Каго вы маеце на ўвазе, батона!

— Месхі, Баркая, Яманідзе, Катрыкадзе, Калаеў — усіх не пералічыш...

— Дзякуй, добра жывуць. Прывітанне вам перадавалі. Вельмі б хацелі вас пабачыць, але...

— Перадай ім ад мяне: хай меней п'юць і не ездзяць хутчэй чым дваццаць кіламетраў у гадзіну, а то... крык вулічных хлапчукоў на стадыёне ім ужо не паможа,— нахмурыў бровы бог.

— Як ты думаеш — каб аўтамабіль быў харошай штукай, ці я не купіў бы яго раней за ўсіх! Бачыш, у маіх гадах ды і то пеша хаджу. І віно я люблю не горш, чым вы, але бачыш! — бог дастаў з халадзільніка бутэльку з парашковым малаком і крышку адпіў.

— Вось так, сынку! А цяпер ідзі і перадай хлопцам тое, што я сказаў.

— Перадам, батона, але вы таксама хоць калі-нікалі павінны ім паспагадаць. Я ж таксама маю ласку папрасіць вас. Не адмоўце, божа міласэрны! — бухнуўся я на калені.

— Ну прасі, прасі! — падбадзёрыў мяне бог.

— Ты ж бог, праўда! — спытаўся я.

— Цяпер я бог, калі спатрэбіўся. Што я яшчэ магу зрабіць, дарагі... Якушына вы ў мяне прасілі! Прывёз яго вам. Прасілі Метравелі! Калі ласка. Прасілі харошых хлопцаў! Гэтых Січынава і Хурцылаву хто вам паслаў, як ты думаеш! Ну вось. Але ж і вы самі варушыце нагамі, во-о!.. Не было клопату яшчэ мне, старому, выскачыць у адных споднiках на поле і гуляць замест вас,— разнерваваўся бог.

— Што вы, батона! Гэта ж грэх, каб на поле ды выйшаў ойча нябесны! Вы толькі нам сёлета першае месца падаруйце, і мы вам у Кашэцкай царкве свечку паставім, з мяне велічынёю. Дальбог!

— Калі ласка, пакінь мяне ў спакоі! А то я ведаю вас: просіце, а потым збераецеся на трыбунах і пачынаеце ўспамінаць... і ў бога і ў душу...

— Злітуйся над намі, божа! Няўжо табе не шкода нас, калі мы, як быкі на бойні, равём на стадыёне!

— Цярплівасць. «Цярпі душа — прыйдзе збавенне!» — напісана ў евангеллі. Евангелле чытаеш! — спытаўся ў мяне бог.

— Не, батона.

— А што ж ты чытаеш, недавярак! — здзівіўся ойча нябесны.

— Нашто мне чытаць, я сам пішу,— ганарліва глянуў я на бога.

— Ну дык сам пішы і сам чытай,— пагардліва сказаў бог і адвярнуўся.

— Яшчэ адна просьба...— прамармытаў я.

— Ну, кажы хутчэй, а то я спаць хачу,— сказаў бог і пазяхнуў.

— Дазвольце мне расказаць там, куды я вярнуся, што я бачыў вас.

— Гавары дзе хочаш, усё роўна табе ніхто не паверыць.

— Ну што вы! Хто мне можа не паверыць...

— Ладна,— досыць балбатаць, ідзі! — сказаў бог і, зручней умасціўшыся ў крэсле, задрамаў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Я адкрыў вочы. Нада мною стаяў хірург у белым халаце і ў масцы.

— Дзень добры,— ледзьве вымавіў я.

— Ага, уваскрэс, вярнуўся з таго свету,— памахаў мне рукою доктар.

— Вы жартуеце, доктар, а я і праўда толькі што гаварыў з богам пра футбол...— пачаў я.

— Усё зразумела: цяжкая форма страсення мазгоў,— доктар з жальбою зірнуў на мяне і, паківаўшы галавой, выйшаў з палаты.

Пераклад з грузінскай.



Мал. **А. Волкава.**

# наши аўтары

●

**ЛАСКОЎ Іван** нарадзіўся ў Гомелі ў 1941 годзе.

Скончыў хімічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Працаваў у рэдакцыі газеты «Зорька».

Цяпер вучыцца ў літаратурным інстытуце імя Горкага ў Маскве.

Аўтар зборнікаў «Стыхія», «Белае неба».

●

**АСІПЕНКА Алесь** нарадзіўся ў 1919 годзе ў вёсцы Пушкары на Віцебшчыне.

Скончыў гістарычны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага. Удзельнік Айчыннай вайны. Камсамольскі работнік. Працаваў рэдактарам газеты «Чырвоная змена». Цяпер — галоўны рэдактар часопіса «Маладосць».

Аўтар кніг «Лёд растае», «Подых кветак і працы», «Абжыты кут», «Жыта», «Вогненны азімут».

●

**ГРАЧАНІКАЎ Анатоль** нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Шарпілаўка на Гомельшчыне.

Скончыў Беларускі інстытут інжынераў чыгуначнага транспарту і Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве.

Працаваў на чыгунцы і на камсамольскай рабоце. Цяпер загадчык аддзела літаратуры газеты «Літаратура і мастацтва».

Аўтар зборніка вершаў «Магістраль».

●

**ЧАРНЯЎСКІ Мікола** нарадзіўся ў 1943 годзе ў Буда-Кашалёўскім раёне.

Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

Працуе ў рэдакцыі часопіса «Бярозка».

Аўтар зборнікаў «Сонца ў хованкі гуляе», «Дзе лета канчаецца», «Апошні бой», «Бегунок пачынае думаць».

●

**ГРАХОЎСКІ Сяргей** нарадзіўся ў 1913 годзе ў мястэчку Нобель на Піншчыне. Скончыў літаратурны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута імя М. Горкага.

Працаваў у рэдакцыі газеты «Чырвоная змена» і на радыё. Настаўнічаў. Цяпер працуе ў рэдакцыі часопіса «Вясёлка».

Аўтар кніг «Дзень нараджэння», «Чаканне», «Табе зайздросціць сонца», «Памяць», «Тры вымярэнні», «Які вялікі дзень», «Рудабельская рэспубліка».

●

**ГОЛУБ ЮРКА** нарадзіўся ў 1947 годзе ў Зельвенскім раёне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

Працуе рэдактарам на Гродзенскай студыі тэлебачання.

Аўтар зборніка вершаў «Гром на зялёнае голле».

●

**МІНЧАНКА Мікола** нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Кавалёўка на Клімаўшчыне.

Служыў у арміі. Скончыў Жытомірскі педагагічны інстытут. Працуе ў Клімавіцкай раённай газеце.

●

**НУЖКОВА Галіна** нарадзілася ў 1938 годзе на Быхаўшчыне. Скончыла аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працавала ў рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», на Беларускім тэлебачанні. Цяпер — рэдактар мастацкай літаратуры ў выдавецтве «Беларусь».



Уладзімір ПАШЧАСЦЕЎ. Нафтавікі.


**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 4**

Мастацкі рэдактар **Янка РАМАНОУСКІ.** Тэхнічны рэдактар **Пятро ЛЫСЕНКА.** Карэктары **Пятро ЛІПАЙ і Марыя ВАСІЛЕУСКАЯ.**

Рукапісы аб'ёмам да аркуша не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, ГСП, вул. К. Маркса, 40.
Тэлефоны: 2-93-854 — сакратарыят і аддзел крытыкі, 2-93-592 — аддзелы паэзіі і прозы, 2-93-892 — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, 2-93-775—аддзел інфармацыі.

АТ 02614. Здадзена ў набор 1/III-71 г. Падпісана да друку 25/III-71 г.
Тыраж 15920 экз. Зак. 100. Цана 40 кап. Папера 70×108 1/16. Фіз. друк. арк. 10.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі. Мінск, Ленінскі прасп., 79.**